ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:



12 2004



# ПОЛЫМЯ

**12**

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(902)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

**2004**
**снежань**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2004

ЗМЕСТ



ЗАСНАВАЛЬНІК — **Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



**НІНА ІВАНОВА,**
**старшыня прэзідыума**
**Беларускага таварыства дружбы**

# БЕЛАРУСЬ У ШМАТГАЛОССІ СВЕТУ

Дом на вул. Захарава, 28 прыцягваў маю ўвагу нават тады, калі я слаба ўяўляла сабе, што там адбываецца. Прысадзіста-ўтульны, з шыльдай на замежнай мове, з высачэзнымі ліпамі ў дворыку, ён заўсёды ажываў пад вечар.

Гэта ўжо я потым даведалася, што тут месціцца Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі — адна са старэйшых грамадскіх арганізацый Беларусі. Пазней адбылося і знаёмства з гісторыяй гэтай арганізацыі: яна была створана 7 красавіка 1926 года па ініцыятыве народных пісьменнікаў Беларусі Янкі Купалы, Якуба Коласа, а таксама Цішкі Гартнага, Міхася Чарота і іншых вядомых не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі дзеячаў навукі і культуры. 13 красавіка 1926 года газета «Савецкая Беларусь» паведамляла: «7-га бягучага красавіка ў Менску заснавалася «Беларускае таварыства культурнае сувязі з заграніцай». Адгукнуўся на гэту падзею часопіс «Полымя». Ён паведамляў, што «Таварыства ставіць мэтай азнаямленне заграніцы з дзяржаўнымі, сацыяльна-эканамічнымі і нацыянальна-культурнымі дасягненнямі Савецкай Беларусі».

У першыя ж гады дзейнасці Беларускае таварыства культурнай сувязі запрашае наведаць нашу краіну вядомых дзеячаў сусветнай культуры: індыйскага паэта і філосафа Рабіндраната Тагора, японскага паэта Кудзула-Тава, амерыканскіх кінаакцёраў Мэры Пікфард і Дугласа Фэрбенкса, дэлегацыі Бельгіі, Галандыі, Чэхіі, Фінляндыі.

Адначасова робяцца намаганні прыадкрыць і для беларусаў агромністы пласт сусветнай культуры. Найперш былі ўстаноўлены кантакты з замежнымі культурнымі цэнтрамі — Венскай нацыянальнай, Нью-Йорскай публічнай бібліятэкамі, Парыжскім інстытутам славяназнаўства, Рымскім інстытутам вывучэння Усходняй Еўропы.

Такім чынам Таварыства адкрывала «акно ў Еўропу», ды і не толькі туды — для прадстаўнікоў беларускай грамадскасці, але гэтае «акно» глядзела з «маскоўскага дома», бо яно тады было структурай Саюза савецкіх таварystваў дружбы і было падпарадкавана менавіта яму.

І зараз часта думаю: хто былі яны — нашы папярэднікі? Да нас, сённяшніх, дайшлі традыцыі Дома, яго аўтарытэт, але імёны...

Ведаем, што інтарэсы БелТД і ўвогуле беларускай культуры прадстаўлялі ў свой час такія постаці, як Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч, Васіль Купрэвіч, Ларыса Александроўская, Анатоль Анікейчык, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Васіль Быкаў.

Звыш 40 гадоў плённымі руплівцамі на ніве беларуска-польскіх культурных стасункаў былі майстры слова — народны паэт Максім Танк і народны пісьменнік Янка Брыль. Прадстаўляючы Таварыства беларуска-польскай дружбы, яны ўвасаблялі інтэлектуальную эліту Беларусі і творчасцю, і адказнасцю, і сваёй грамадзянскай пазіцыяй.

Але шмат імён тых, хто быў, як мы кажам, у актыве, нам невядомыя. Гэта настаўнікі і паэты, музыканты і спевакі, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы. Але ўжо тое, што іх справа працягваецца, з'яўляецца памяццю аб іх дзейнасці. Нават не ведаючы іх прозвішч, мы адчуваем і сваю ўдзячнасць, і сваю маральную адказнасць перад імі. І калі ў 2002 годзе паўстала пытанне «быць ці не быць» БелТД, сённяшнія супрацоўнікі і актывісты вырашылі: трэба змагацца за «быць», бо не мы пачыналі гэтую важную справу — развіццё і ўмацаванне міжнародных кантактаў.

Нам засталася нядрэнная спадчына: Дом дружбы і 12 нацыянальных таварыстваў дружбы з рознымі краінамі: Кітаем, В'етнамам, ЗША, Англіяй, Японіяй і г.д. А яшчэ былі спецыялісты, якія ведалі і любілі сваю справу, быў актыў, які яе падтрымліваў, былі замежныя партнёры, якія жадалі працягваць кантакты з нашай грамадскай арганізацыяй.

Наша краіна прайшла за апошнія дзесяцігоддзі столькі складанага ў сваім развіцці, што расказваць пра цяжкасці арганізацыі работы ў новых умовах будзе справай няўдзячнай. Таму скажу адразу, што выкарыстоўваючы ўсе магчымасці, апіраючыся на падтрымку сяброў і арганізацый, якія цанілі наша справу, мы вытрымалі выпрабаванне часам.

Напрыканцы XX стагоддзя народны пісьменнік Васіль Быкаў пісаў: «Сяброўства шчасліва доўжыцца пад гасцінным дахам на вуліцы Захарава ў Мінску. Менавіта тут, таксама як і ў іншых кутках Беларусі, ідзе жыватворнае пераўтварэнне ворагаў у сяброў, супернікаў у партнёраў».

І яшчэ адна цытата: «Дом дружбы і сёння не бывае пустым, заўжды ён багаты на добрых людзей. І справа ладзіцца талакой, бо ёсць тут еднасць і атмасфера сяброўства. Тут сходзяцца розныя плыні, скрыжоўваюцца розныя думкі, у той жа час падтрымліваецца і сцвярджаецца адзіны накірунак народнай дыпламатыі на карысць незалежнай Беларусі, пленнага супрацоўніцтва паміж народамі», — так напярэдадні 75-годдзя Таварыства пісаў заслужаны работнік культуры Беларусі Арсень Ваніцкі, чалавек, які не толькі ўзначальваў прэзідыум БелТД на працягу апошніх 15 гадоў, але і ўнёс вялікі асабісты ўклад ва ўмацаванне прэстыжу роднай краіны ў міжнародным супольніцтве, у наладжванне шчырых сяброўскіх стасункаў паміж людзьмі свету.

Сёння Беларускае таварыства дружбы — гэта 36 нацыянальных таварыстваў і 6 абласных аддзяленняў, партнёры ў амаль 30 краінах свету і такія маштабныя праграмы, як Дні культуры розных краін

у Беларусі і адпаведна беларускай — у розных краінах, а таксама маладзёжныя і гуманітарныя праграмы, праграма парадненне беларускіх і замежных гарадоў.

Мы ганарымся тым, што і сёння з Таварыствам супрацоўнічаюць лепшыя з лепшых — у гэтым мы перакананы — паэты, пісьменнікі, музыканты, кампазітары, навукоўцы і студэнты.

Невыпадкова паэт Сяргей Панізнік і кампазітар Эдуард Зарыцкі прысвяцілі нам песню, у якой ёсць і такія словы:

Мы ў Доме дружбы — сваякі:
між сейбітаў планеты —
вучоныя і мастакі,
музыкі і паэты.

Мы і сёння актыўна выкарыстоўваем традыцыйную форму папулярызацыі беларускай і замежнай культурнай спадчыны — Дні культуры. Кітай, Іспанія, Францыя, Данія, Германія, Швейцарыя — вось далёка не поўны пералік краін, святы культуры ў якіх дапамагалі нам адчуць сябе важным звяном уваходжання ў міжнародную супольнасць.

Шмат увагі надаём мы маладзёжным праграмам. Далучэнне моладзі да скарбаў беларускай і сусветнай культуры праз удзел у дзейнасці нацыянальных таварыстваў, міжнародных, адукацыйных, гуманітарных і спартыўных праектах, у валанцёрскім руху дае магчымасць пашырыць кола нашых сяброў. Студэнты Беларускага Дзяржаўнага і Лінгвістычнага універсітэтаў, Беларускай акадэміі музыкі, Універсітэта культуры, Педуніверсітэта імя М. Танка, выхаванцы педкаледжаў і школ не толькі прысутнічаюць на нашых мерапрыемствах, але і ўдзельнічаюць у іх арганізацыі.

За апошнія гады нам удалося пашырыць кола замежных партнёраў: з'явіліся таварыствы «Кыргызстан—Беларусь», «Фінляндыя—Беларусь», «Беларусы ў Фінляндыі», «Рэспубліка Карэя — Рэспубліка Беларусь» і «Літва—Беларусь». 9 арганізацый прыбавілася ў Аўстрыі, Германіі, Галандыі і Францыі.

Прыраслі мы і ў сваіх структурах: за апошнія гады былі ўтвораны таварыствы «Беларусь—Ірландыя», якое ўзначаліў Міхаіл Канстанцінавіч Міцкевіч — сын Якуба Коласа, а таксама таварыствы «Беларусь—Непал», «Беларусь—Турцыя».

Створанае не так даўно таварыства «Беларусь—Арменія» (старшыня М. В. Падгайны) парадавала беларускую аўдыторыю сваімі праектамі: літаратурна-музычны вечар «Любоў і боль у творчасці і лёсе армянскай паэткі Сільвы Капутцікян», выстаўка армянскага мастака Спартака Аруцюняна, вечар да нацыянальнага свята Арменіі — Дня Незалежнасці.

Значнымі былі першыя крокі і таварыства «Беларусь—Кыргызстан» (старшыня М. І. Чаргінец). Удалымі можна назваць вечар да 10-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Кыргызстанам, вечар-прэзентацыю кнігі Аскара Акаева «Кыргызская дзяржаўнасць і народны эпас «Манас» на беларускай мове, вечар да 75-годдзя з дня нараджэння Чынгіза Айтматава. Дарэчы, шырокі рэзананс атрымаў гэты вечар у СМІ Кыргызстана.

Нацыянальныя структуры БелТД узначальваюць у большасці сваёй аўтарытэтныя ў Беларусі і вядомыя ў свеце грамадскія дзеячы,

дзеячы культуры і навукі, якія робяць гонар не толькі нашай арганізацыі, але і ўсёй краіне.

Шырокай падтрымкай вызначаюцца праграмы таварыства «Беларусь—Швейцарыя», якое ўзначальвае народны мастак РБ, акадэмік Георгій Георгіевіч Паплаўскі — чалавек на гэтай пасадзе не выпадковы. У яго жыцці даўно і трывала зніталіся культуры розных краін. Грамадская і творчая дзейнасць гэтага таленавітага мастака бліскуча пацвярджае тую заканамернасць, што далучэнне да духоўных багаццяў свету дапамагае сапраўдным патрыётам яшчэ больш любіць сваю Бацькаўшчыну, яшчэ мацней даражыць духоўнымі набыткамі сваёй зямлі.

Звыш дзесяці гадоў супрацоўнічае таварыства «Беларусь—Швейцарыя» з Дэпартаментам адукацыі, культуры і спорту кантона Ааргаў. У актыве таварыства — выстаўкі і канцэрты, майстар-класы з удзелам беларускіх і швейцарскіх дзеячаў культуры, Дні Швейцарыі, творчая акцыя «Дыялог», фотавыстаўка швейцарскіх майстроў «Мінскія праспекты», якая паспяхова прайшла і ў Швейцарыі, і ў Беларусі, гастролі Мінскага струннага квартэта, стажыроўкі творчых работнікаў і многае іншае.

Пашанцавала са старшынёй і таварыству «Беларусь—Балгарыя». Генадзь Апанасавіч Цыхун — прафесар Нацыянальнай Акадэміі навук — чалавек паважаны не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім славянскім свеце. Яго абвостранае пачуццё адказнасці адчуваецца і ў грамадскай рабоце. Генадзь Апанасавіч выхаваў за апошнія гады цэлую каманду паслядоўнікаў, і сёння духоўны мост паміж Беларуссю і Балгарыяй з поспехам мацуюць Таццяна Злобіна — намеснік старшыні Камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкама, Аксана Данільчык — малады паэт і перакладчык, Марына Абрагімовіч — малады навуковец і іншыя сябры Рады.

Самых добрых слоў заслугоўвае і партнёр таварыства ў Балгарыі. Сябры Беларусі на чале з вядомым пісьменнікам Стэфанам Паптоневым вядуць паслядоўную работу па садзейнічанні балгарска-беларускаму супрацоўніцтву і, у першую чаргу, літаратурнаму.

Здаецца, зусім нядаўна на балгарскай і беларускай мовах выйшла анталогія беларускай паэзіі, у якую ўвайшлі творы 59 беларускіх паэтаў — ад сусветна вядомых класікаў да маладых. Лепшыя балгарскія паэты працавалі над перакладам і гэтай анталогіі. Ды скажам шчыра: пабачыла яна свет не толькі дзякуючы ім, але і Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Рэспублікі Беларусь Аляксандру Герасіменку.

Традыцыя была працягнута і яго пераемнікам Аляксандрам Пятровым. Ужо ў лютым 2002 года пры яго актыўнай падтрымцы выйшла кніга Сяргея Законнікава «Шлях душы» на балгарскай мове. А крыху пазней адбылася прэзентацыя кнігі Вольгі Іпатавай «Пятнаццаць вершаў і адна аповесць» у перакладзе на балгарскую мову Найдана Вылчава. У лістападзе гэтага ж года выдаецца яшчэ адна кніга — «Магутны трыпціх» — зборнік твораў трох легендарных беларускіх класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча ў перакладзе вядомых балгарскіх паэтаў Андрэя Германава, Івана Давідкава, Найдана Вылчава, Янкі Дзімава, Пырвана Стаянава, Зоі Васільевай, Хрыста Попава.

Вынікам сумеснай працы таварыства «Балгарыя—Беларусь» і Пасольства Рэспублікі Беларусь стаў таксама зборнік балгарскай паэзіі, прысвечаны Беларусі, які ўбачыў свет у 2003 годзе. Назва яго — «Званы сумлення. Балгарскія паэты пра Беларусь». Гэтае выданне — даніна ўдзячнасці балгар беларусам і прымеркавана яно было да 125-годдзя вызвалення Балгарыі ад асманскага ярма.

У зборнік увайшлі творы больш як 30 аўтараў. Вершы аб'яднаны адной вялікай тэмай — любоўю да нашай краіны, болем за наш складаны і часамі шматпакутны лёс. Ключавая тэма — трагедыя Хатыні. Аўтар прадмовы Стэфан Паптонеў падкрэслівае, што хатынская трагедыя блізкая балгарам, бо вельмі нагадвае іх уласную падобную трагедыю часоў асманскай няволі — Батак.

Паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», кнігі вершаў Яўгеніі Янішчыц на балгарскай мове — спадзяёмся, усяму гэтаму будзе працяг, таму што і таварыства «Беларусь—Балгарыя», і таварыства «Балгарыя—Беларусь» лічаць сваёй асноўнай мэтай дзейнасці працяг літаратурных узаемадачыненняў.

Нельга не адзначыць плённую, творчую дзейнасць у складзе БелТД старшыні таварыства «Беларусь—Латвія» беларускага паэта Сяргея Панізніка. Прыхільнасць да нашага таварыства дружбы выяўляецца ў яго самаадданай рабоце не толькі па ўмацаванні сяброўскіх адносін з латышамі. Ён выпраменьвае і паэтычную, і чалавечую энергію на цэлае «сузор'е роднасных сусветаў» — чэхаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў. Сяргея Панізніка можна часта бачыць на сустрэчах з моладдзю — і не толькі ў Доме дружбы. Ён ахвотна наведвае школы, каледжы. Ну, а ў нашым Доме дружбы ён проста свой сем'янін.

Нельга абмінуць увагай і дзейнасць таварыства «Беларусь—Кітай». Традыцыйнымі сталі Тыдні беларуска-кітайскай дружбы, прагляды відэафільмаў пра старажытны і сучасны Кітай, фотавыстаўкі, «круглыя сталы», віктарыны. Удзел у рабоце таварыства і яго мерапрыемствах ахвотна прымае беларуская і кітайская моладзь. Зрэшты, усё гэта заканамерна, бо ўзровень работы адпавядае інтэлекту і вялікім арганізатарскім здольнасцям кіраўнікоў таварыства, у тым ліку ганаровага старшыні, паэта Анатоля Вярцінскага. У ім, на наш погляд, шчасліва спалучаюцца любоў да сусветнай культуры з любоўю да культуры свайго народа.

Хочацца засведчыць нашу ўдзячнасць і павагу Аляксандру Шабаліну, Раісе Баравіковай, Уладзіміру Скарынкіну за цікавую і змястоўную работу як на замежжа, так і ў родных сценах Дома дружбы.

Мы ганарымся тым, што плённым міжнародным сувязям нашы актывісты спрыяюць не толькі сваёй грамадскай, але і прафесійнай дзейнасцю, што яны годна прадстаўляюць беларускую культуру не толькі праз канкрэтныя мерапрыемствы, але і праз сваю творчасць. Дарэчы, гэта — яшчэ адна традыцыя БелТД — аб'ядноўваць таленавітых, духоўна адметных, па-грамадзянску адказных людзей.

Практыка апошніх гадоў з усёй відавочнасцю выявіла шэраг заканамернасцей, якія так ці інакш уплываюць на выніковасць нашай работы. Адна з іх — узаемадзеянне нацыянальных таварыстваў з дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі. Там, дзе мы знаходзім паразуменне і падтрымку, праграмы набываюць вагу і значнасць на карысць абодвум бакам.

Мы ўдзячны за супрацоўніцтва Пасольствам Кітая, Германіі, Японіі, Італіі, Францыі, Балгарыі, Кубы, Украіны, Расіі, Літвы, Малдовы, а таксама Польскаму Інстытуту і Інстытуту Гётэ, разам з якімі праводзім шмат мерапрыемстваў.

Відавочна, што спасцігнуць багаты духоўны набытак культур, замацаваць кантакты і традыцыі, з поспехам вырашаць праблемы міжкультурнага ўзаемадзеяння можна толькі супольнымі намаганнямі арганізацый і ўстаноў, якія займаюцца гэтай справай.

Безумоўна, вялікая роля ў развіцці нашых міжнародных кантактаў залежыць ад плённага ўзаемадзеяння БелТД з Міністэрствамі замежных спраў, культуры, аховы здароўя, Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Саюзамі мастакоў, кампазітараў, Дэпартаментам па гуманітарнай дзейнасці, Чырвоным Крыжам, Мінскім гарвыканкамам, Саюзам жанчын.

Асобна хацелася б адзначыць плённасць супрацоўніцтва з Мінскай абласной бібліятэкай імя А. Пушкіна, якую ўзначальвае Наталля Станіславаўна Чуева. Да таго ж, яна з'яўляецца адказным сакратаром Мінскага абласнога аддзялення БелТД. Мы ў таварыстве вельмі часта апіраемся на магчымасці бібліятэкі ў падрыхтоўцы вечароў, асабліва літаратурных, а таксама на асабістыя творчыя якасці Наталлі Станіславаўны.

Як і чалавечае жыццё, жыццё грамадскай арганізацыі можа мець не толькі свае здабыткі, часам яе падсцерагаюць і страты.

Галоўнай з іх для нас сталася страта дзяржаўнай падтрымкі. Умовы самафінансавання зробяць, канешне ж, свой негатыўны адбітак на нашай дзейнасці. Пакуль што ўдаецца выжыць пры дапамозе дабрадзеяў. Але на перспектыву нам неабходна будзе развіваць новыя формы работы, якія прыносілі б грашовыя сродкі на ўтрыманне будынка і невялікага штата супрацоўнікаў. Будзем спадзявацца, што ў недалёкім будучым мы ўсе пабагацеем.

На жаль, не ўсе нашы кантакты з арганізацыямі і фондамі замежных краін аднолькавыя па інтэнсіўнасці і выніковасці. І ў гэтым — нашы далёка не выкарыстаныя магчымасці.

Зыходзячы з неабходнасці жыць у новых умовах і разам з тым выконваць абумоўленыя Статутам задачы, Беларускае таварыства дружбы мае намер унесці змены ў сваю структуру, у формы работы і працягваць свае праграмы далей, у тым ліку і тыя, што ўжо абумоўлены з замежнымі партнёрамі.

Істотным і прынцыповым лічым для сябе знайсці фінансавыя магчымасці для працягу нашых комплексных мерапрыемстваў — Дзён культуры Беларусі ў замежных краінах і краін-партнёраў у Беларусі. Ужо ў наступным годзе мы плануем правесці Дні культуры В'етнама, Турцыі, Балгарыі, Германіі, Францыі — у Беларусі і дні Беларусі — у Францыі, Швейцарыі, Германіі, Польшчы.

Будзем працягваць садзейнічанне парадненню гарадоў. Разам з Беларускай асацыяцыяй пародненых гарадоў мяркуем правесці сустрэчу пабрацімаў Беларусі і Расіі, Беларусі і Польшчы, Беларусі і Балгарыі.

Вельмі хочацца ажыццявіць яшчэ адну сустрэчу: запрасіць у Беларусь кіраўнікоў усіх замежных партнёрскіх структур з 31 краіны свету з тым, каб, па-першае пазнаёміць іх паміж сабой, па-другое — абмеркаваць наша ўзаемадзеянне па рэалізацыі сумесных праграм.

Паспрабуем пашырыць практыку выкарыстання магчымасцей гуманітарных фондаў у замежных краінах па папулярызацыі беларускай культуры па прыкладзе супрацоўніцтва з французскім гуманітарным фондам «Аліса», які на працягу апошніх гадоў актыўна працуе не толькі па аказанні дапамогі медустановам і дзіцячым дамам Беларусі, але і садзейнічае папулярызацыі беларускай культуры праз арганізацыю ў Францыі канцэртаў нашых творчых калектываў.

Наступным крокам у гэтай справе можа быць аб'яднанне намаганняў такіх жа арганізацый у іншых краінах. У прыватнасці, мы маем падставы спадзявацца на такія акцыі з фондамі Аўстрыі, Германіі і Францыі.

Кожны народ, кожная дзяржава імкнуцца як мага больш шырока інфармаваць грамадскасць, у тым ліку і замежную, пра свае дасягненні і набыткі. На жаль, нам у гэтым сэнсе працаваць і працаваць. Нястачу пісьмовай, і асабліва фотаінфармацыі, пра Беларусь адчуваюць нашы партнёры і суайчыннікі ў замежных краінах. На жаль, і ў БелТд няма на сённяшні дзень магчымасці запоўніць гэты вакуум.

Віртуальную рэчаіснасць у свеце называюць зараз трэцяй цывілізацыяй. Відавочна, што і яна павінна стаць часткай нашага жыцця. Хочацца знайсці магчымасць заснаваць асобную праграму па распаўсюджванні інфармацыі БелТД праз Інтэрнет.

Беларусь наведвае шмат замежных гасцей. Толькі наша Таварыства штогод прымае звыш 70 дэлегацый з розных краін. Мы ажыццяўляем праграму сямейнага абмену з партнёрамі ЗША, Германіі, Аўстрыі, Францыі. Канешне ж, хацелася б пашырыць геаграфію і такога абмену.

Сёння грамадскія арганізацыі і канкрэтныя людзі з розных краін шукаюць магчымасці па пашырэнні кантактаў, узаемасувязей, узаемасупрацоўніцтва, у тым ліку і з беларусамі. Мы рады таму, што нашай культурай, нашай краінай, нашымі традыцыямі цікавяцца за межамі нашай Беларусі. І мы рады таму, што ў пэўным сэнсе мы з'яўляемся ўдзельнікамі ў вельмі няпростым, але цікавым і неабходным працэсе, назва якому народная дыпламатыя.





## КАЗІМІР КАМЕЙША

### АКНО

У ім пабачыў з даўнасці партрэт,
Зарамлены самой зімой у часе.
Акно на два бакі дзяліла свет.
Мой ясны свет з акна майго пачаўся.

Яго мароз зімою мураваў.
Так замуруе — ледзь вясной адтае.
Ён берагі такія маляваў,
Якіх і ў казках нават не бывае.

Смяялася і плакала акно,
І клікала, калі блудзіў пушчанец.
А па начах малілася яно,
І цёк праз пальцы ручаём ружанец.

Пад ім то вечар капялюш здымаў,
То раніца спяшалася з вядзеркам.
І пушча пракаветная сама
Глядзелася ў яго, як у люстэрка.

Раздвоена я ў гэтым свеце жыў.
Хацеў святла, а сам кідаўся ў цемру.
Сам час такое нам наваражыў,
Што нас дзяліў, нібы душу і цела.

Я вырас.
Я пакінуў родны дом,
Да берагоў тых казачных падаўся.
А свет другі глядзеў услед акном,
І твар мой у акне навек застаўся.

Яно здалёку цераз тоўшчу год
Часамі так наіўна прыўсміхнецца.
Баюся, калі ў шыбіну яго
З нядобрай весткай птушанё прыб'ецца.

Калі ў шпалеры пушчы векавой
Маркотны змрок ладкуецца марудна,
Відаць здалёк і цень прыгнуты мой,
Што каля ганку топчацца аблудна.

Сцвярджаюць мне, што горкі пыл дарог,
А ён жа да краёў душу запоўніў.
Забыўся пра мяне даўно парог,
Ну а маё акно мяне ўсё помніць.

## ТРЫВОЖНАЕ

У родных калёрах зямлі маёй мапа,
А колер трывогі ўсё той жа,
чужы.
І цёмная пляма, як воўчая лапа,
На сэрцы на самым
трывожна ляжыць.

Свой твар вырываючы з лапаў адчаю,
Іду,
не мінаю гушчарнік бяды.
Яна да ствалоў прыкіпае, як чага,
І страшыць мяне цераз сны і гады.

Як быццам заведзены злою рукою,
Гадзіннік жыцця майго збоі дае.
Я хату сваю будаваў талакою,
Цяпер талакою хаваю яе.

Хаваю надзею,
хаваю здагадкі,
Усё, што ў жыцці мне жыцця не дае.
Хаваю ад сэрца і вока нашчадка,
А разам і вочы хаваю свае.

Шумі, маё поле!
Бунтуй, мая воля,
Змагайся крывінкаю самай малой!
Калі я такое аднойчы дазволіў,
Дык першаю кара хай будзе маёй.

* * *

Пранясуцца вёсны, як вагоны,
У адзіным воддыху гарачым.
Толькі глянеш сумна наўздагонак —
І знаёмых твараў не пабачыш.

Сыдзеш ты на станцыі далёкай,
Сам сабе чужы і незнаёмы.
Не пужайся, гэта ўсё — не ўцёкі,
Не хвалюйся — ты яшчэ не дома.

Хай табе варожыць на далоні
Восень, аўдавелая цыганка.
Даўняе цябе яшчэ дагоніць
І напоўніць успамінам шклянку.

Той глыток, што сэрца апякае,
Што шалёнай рэўнасцю дурманіць,
Выплыве самотнымі радкамі,
Растрывожыць і душу, і памяць.

Ведаю я часу ўсе заломы,
У хаўрусе я даўно з вятрамі.
І агонь бушуйства мне знаёмы.
Ён успыхваў часта паміж намі.

Я і ў тым, і ў гэтым быў вагоне,
Не пужаўся мулкае плацкарты.
А і той, які гайдае сёння,
Анічога звабнага не варты.

Не апошні твой вагон апошні.
Воспай ліўняў дах яму пасекла.
Гэты шлях адолець мусіць кожны, —
Рай яго чакае там ці пекла.

Зноў цярплю.
Не паддаюся скрусе
І папрок чужы прымаю годна.
Зноў праз далеч, як той ліст, нясуся
І свайго пільнуюся вагона.

* * *

У жніўня вусы жоўтыя,
У мёдзе жніўны блін.
Пытлюе,
круціць жорнамі
Стары, як даўнасць, млын.

Мяхоў завезла раніца
Па самую страху.
Аж вузел пасміхаецца
У зморaным мяху.

Была чарга бурклівая,
Паскрыпваў дзень, як воз.
Даўно да сонца грываю
Пушчанскі конь прырос.

Хоць сівізна і мудрая,
Ды часам — як мана.
Падпіты і прыпудраны
Брыдзе дамоў млынар.

Кладуцца цені сінія
На млеўны шлях стары.
А ён увесь як з інею,
Хоць жнівень на двары.

Ідзе ён сцежкай блізкаю,
Прыпознена ідзе.
Цыгарка зоркай бліскае
У белай барадзе.

## НА ВУЧЭННЯХ ПА ГРАМАДЗЯНСКАЙ АБАРОНЕ

А зараз мы з вамі схаваемся
Пад назіркам строгай гульні.
А потым мы з вамі пакаемся.
Ты, сховішча, нас барані!

Ну, што ж, пагуляем у хованкі,
Схаваемся ад сябе.
Ад думкі халоднай аж холадна,
І страх пад рабрынай скрабе.

І процівагазы і каскі
Вы схопіце ў спеху нямым.
Якія мы ўсе хоць у масках,
От зараз пабачым мы.

Вучыцеся жыць у сховах,
Без сонца, вясны і травы.
Вучыцеся жыць без мовы,
Хоць гэта і ўмееце вы.

Умееце жыць пры хлебе
І нават жылі без яго.
Вучыцеся жыць у склепе,
Як доля папросіць таго.

Хоць цесна, вы тут абаронены
Ад голаду, пранцаў, хлусні.
Усе вы аднолькава роўныя
У гэтай дарослай гульні.

Значэла і зноў задзяннíла,
У шчыліне промень звініць.
О, як мяне, грамадзяніна,
Проста зусім бараніць.

І лежбішча тут і ратовішча.
Дык беражы нас Бог.
А дзе ж ты, маё болесховішча?
А крыху глыбей, чым мой боль.

## ШВЭДАР

*Памяці сябра*

Мне прысніўся Чэрня Хведар.
Маладым прысніўся ён.
А на ім — знаёмы швэдар
І ў руках — акардэон.

Хай зайздросцяць аднагодкі,
Не прымервалі яны
Швэдар той, увесь зіхоткі,
З нітак колеру вясны.

Нітка сіняя з чырвонай...
Аж успыхваў швэдар той,
Як мяхі акардэона,
Што расцягваў сябра мой.

Чорны чуб пярэчыў ветру,
І спякотнела ў вачах.
У адным і тым жа швэдры
Мы хадзілі да дзяўчат.

Мы вярталіся на золку
Праз заспаныя двары,
Рыфму ловячы — назолку —
У валожынскім бары.

Нітка сіняя з чырвонай...
Прамільгнула ўсё, як сон,
Сыпанулі лісцем кроны,
І замоўк акардэон.

Ты прысніся мне і заўтра,
Нагадай той даўні спеў.
«Добрай раніцы!» сказаў ты,
А «Дабранач» — не паспеў.

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Зноўку выпала сустрэцца.
Бераг той не падзічэў.
Праз акенца і праз сэрца
Рэчка Вілія цячэ.

Так паруе на выгодзе
Пахкі вечара кацёл!
І плыве, як параходзік,
Недзе з вечнасці касцёл.

Вострай белаю сцяною
Ён рассоўвае туман.
Паміж ім і паміж мною
Нават даўнасці няма.

І адлегласці ніякай,
Што чужыніць часам нас.
Крыж трымае, а не якар,
У руках сваіх вясна.

Крыж разгойдвае аблокі
І люструецца ў вадзе.
Ясны, як сляза прарока,
На спачын ступае дзень.

Тут, на беразе высокім,
У лясістасці густой,
Зноў згадаю пра вытокі,
Пра адчаю вір глыбокі,
Пра быцця зямныя ўрокі
І апошні бераг той.

І галля ў агонь падкіну,
Лёгка хвалі падмігну.
Памалюся за Айчыну,
Толькі за яе адну.

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

*М. М.*

Бераг ззяў пярсцёнкам яркім
У аправе баравой.
Бераг быў з цяпельцам,
з чаркай,
З маладой яшчэ травой.

Ані клёву, ані ўлову,
Сон прылёг на паплаўку.
Ды было паэта слова
Зразумела лесніку.

Ён піхаў у запісоўку
Нейкі мой пушчанскі жарт.
Млела божая кароўка
На лязе яго нажа.

Паласкалі ціха хвалі
Пер'е змораных аблок.
Мы спявалі, шчыравалі
І ў размовах незнарок
Так далёка заплывалі.
Мы й прыехалі здалёк.

Дый душа лясная тая ж,
Пэўна, ў кожнага была.
У размову залятала
То іскрынка, то пчала.

Развядзе размову нашу
Бераг зморany другі,
Бо ў жыцці й бяседа нават
Мець павінна берагі.

Я знайду яшчэ хвіліну
Прыблукаць сюды вясной.
І запалкай прыпаміну
Распалю цяпельца зноў.

Хай плыве і сэрца лашчыць
Развярэджаны дымок.
Хай яго глыне і прашчур —
І ўсміхнецца нам здалёк.

## ВІР

Баюся я чорнага вока,
Што прагма мне ў сэрца глядзіць.
І згадка нямая глыбока,
Бы ў студню вядзерца, ляціць.

...Як твар прыгажуні, пагодны
Займаўся над берагам дзень.
І вір той здаваўся лагодным —
Ні следу трывогі нідзе.

Святлісты, змялелы нібыта,
Ён вольхам смактаў карані.
Хапала святла і блакіту
У зманнай яго глыбіні.

Я плыў, яго ціхасцю п'яны,
І ледзь не жыццём заплаціў,
Калі ён мяне нечакана
Вяроўкай гарачай скруціў.

Кружыў ён мяне, як пярынку,
Глыбіннаю сілай крутой.
Я ведаў: з ягоных абдымкаў
Яшчэ не вяртаўся ніхто.

І раптам, як з нейкага лазу,
Святла паласнула лязо.
І чорнае вока адразу
Успыхнула сіняй слязой.

Я згледзеў, як чорная выдма
Аззялася ў дзіўным агні.
І выдых магутны, як выбух,
Мяне адштурхнуў з глыбіні.

Так збаўца і кат нечакана
Аблічча адно набылі.
А хвалі вяроўкай парванай
Па сіняй паверхні плылі.

## АСТРАВЫ НА СУШЫ

Такім я гэты кут спаткаў:
За ельнікам сахатым
Цякла вузенькая рака,
Як вока азіята.

Балота... Дрыжыкі дрыгвы
У жары журавінным...
За рэчкай — вёска Астравы
І ў пушчу дзве сцяжыны.

Адна дзярэцца паўз ажын,
Другая — паўз крыніцы.
Адна ў грыбы штодня бяжыць,
Другая — у брусніцы.

Стаяць тут дрэвы, як ільвы,
На сонцы грывы сушаць.
Прыдумаў, трэба ж, астравы
Мой прадзед тут, на сушы.

Свой астравок ёсць і ў цябе,
Ён казачны як быццам.
Там дзед, як дзяцел той, дзяўбе
З бярэзіны карытца.

Пасля салодзенькі прамень
З бяросты выбівае.
І кажуць мне, што дзедаў дзень
Даўжэй за век бывае.

За лесам дзесь бяжыць шаша,
Фурманкамі ляскоча,
Ды так, што юная душа
Наўцёк пусціцца хоча.

І падрасту я.
І ўцяку
Аднойчы, як значэе.
А дзед на ціхім астраўку,
Як рабінзон, здзічэе.

* * *

Зноў дахі ў туман заплылі
І вымерла вёска, як востраў,
Настоямі цёплай зямлі
Запахла і родна, і востра.

Бары цішыня абняла.
І бачыш пры выбліску зоркі,
Як спіць у дрымотні дупла
На цёплым арэху вавёрка.





▸ МІХАСЬ ЮЖЫК

# МАРЫЯНЕТКІ І ЛЯЛЬКАВОДЫ

*Раман**

## 14

Марозным студзеньскім ранкам па яловай алеі, што цягнулася ад дачнага пасёлка да лесу, рушылі дзве постаці: Леанід Нілавіч Пугач і яго сяброўка Марына Паспелава. Яны ўжо адышліся ад жылой зоны на паўкіламетра і былі ў алеі адны, калі не лічыць лыжніка ў жоўтым, што маячыў далёка наперадзе. Леанід Нілавіч і Марына аб чымсьці ажыўлена гаманілі: мастак ускідваў рукі, жэстыкуляваў; жанчына раз-пораз запавольвала крок, спынялася, хапала спадарожніка за рукаво кажуха і нешта горача яму даказвала. Час ад часу яны перапынялі гаворку, ішлі моўчкі, і тады пад кашлатымі аснежанымі ялінамі раздавалася адно мернае рыпенне крокаў.

Марыне было трыццаць восем гадоў, чатыры з якіх яна знаходзілася ў грамадзянскім шлюбе з Леанідам Пугачом, які быў на пятнаццаць гадоў за яе старэйшы. Але не трэба думаць, што Паспелава купілася на яго славу і грошы і з'яўлялася банальнай утрыманкай. Не. Яна была жанчына дастаткова незалежная як матэрыяльна, гэтак і ў поглядах на жыццё, свабодзе меркаванняў і мыслення. Марына працавала галоўным дызайнерам буйнога выдавецкага дома, мела кватэру і аўтамабіль «Volvo». Яе дачцэ Вікторыі ішоў дванаццаты год. Што тычыцца ўзаемаадносін Паспелавай з Леанідам Пугачом, то яны былі досыць неардынарныя хаця б таму, што жылі палюбоўнікі паасобку і сустракаліся адно час ад часу. І гэта пры тым, што Марына была ў разводзе ўжо шосты год і нішто як быццам не перашкаджала ім з'ехацца.

Марына Паспелава, апрача ўсяго, была яшчэ і высокая, відная, прыгожая жанчына. Але першае замужжа, нягледзячы на магчымасць выбіраць і перабіраць кавалераў, атрымалася ў яе такім няўдалым, што назаўжды адбіла ахвоту рэгістраваць шлюбы і жыць пад адным дахам з асобамі мужчынскага полу.

---

* Часопісны варыянт. Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2004.

Марына ў дзявоцтве не імкнулася як найхутчэй выскачыць замуж. У атачэнні нястомных залётнікаў яна скончыла архітэктурны факультэт, паступіла ў праектнае бюро і прарабіла там аж тры гады, перш чым зразумела, што прыроду не падманеш і становішча замужняй жанчыны, як ні круці, найбольш трывалае і паважанае ў нашым грамадстве. Да таго ж увага кавалераў розных масцей рабілася ўсё больш невыноснай. Каб адкараскацца ад назойлівых заляцанняў, хацелася пачапіць на сваю руку абярэг у выглядзе заручальнага пярсцёнка і нарэшце, упершыню за апошнія дзесяць гадоў, зажыць спакойна. Але неабходна было зрабіць правільны выбар, не прагадаць і выйсці за чалавека, так бы мовіць, на чалавека падобнага. Бо за дзесяць гадоў, што праміналі з пары палавога выспявання, ведала дзяўчына, што насамрэч патрэбна ад яе шматлікім залётнікам. За словамі пра высокія і чыстыя пачуцці, якія адрасавалі Марыне прыгожыя высокія хлопцы (а пераважна такія і дамагаліся яе прыхільнасці), навучылася яна бачыць адно: дапатопнае жаданне зверам кінуцца на яе, сарваць адзенне, паваліць на ложак, падлогу, стол і цiскаць, тузаць яе пяшчотнае цела.

Таму і выйшла Паспелава ў рэшце рэшт за чалавека не вельмі прыгожага, нават ростам крыху ад яе ніжэйшага, але спакойнага, паважнага, добрапрыстойнага. Іван Іванавіч Скубач быў старэйшы за яе на сем гадоў і на той час займаў дастаткова ўплывовую і перспектыўную пасаду ў міністэрстве. Ён быў з сям'і патомных «наменклатуршчыкаў», а таму меў асобную трохпакаёўку ў цэнтры горада, службовую машыну. У бацькоў жа яго, апрача чатырохпакаёўкі, былі яшчэ і дзве дачы: адна каля горада, другая на возеры Нарач. А калі сказаць, што Іван Іванавіч быў іх адзіным нашчадкам, то зразумела, што перспектывы для маладой сям'і Скубачоў вымалёўваліся досыць прывабныя.

Адразу пасля замужжа Марына адчула і ацаніла, што значыць не жыць на сторублёвую зарплату, не таўчыся ў грамадскім транспарце, не стаяць у даўжэзных чэргах па несамавітыя макароны, а лётаць на чорнай «Волзе», атаварвацца ў спецбуфетах разнастайнымі далікатэсамі ды раскашавацца ў выгоднай прасторнай кватэры з краявідам на чысты сквер ля ракі. Усё гэта было нязвыкла, дзівосна і радасна. Тым больш, што ў хуткім часе з'явілася на свет здаровенькая дзяўчынка, названая бацькамі Вікторыяй, жыццё якой, як было заведзена ў родзе Скубачоў, абяцала быць беспакутным і сытым.

Каб нехта сказаў тады Марыне, што праз сем гадоў яна ўзненавідзіць і мужа свайго, і ўсе гэтыя выгоды да такой ступені, што зноўку перабярэцца да састарэлых хворых бацькоў, яна б проста весела рассмяялася.

Аднак не прайшло і года сытага і лагоднага існавання, як пачала Паспелава раздражняцца. Гэта выяўлялася ў перыядычным зніжэнні працаздольнасці, прыступах абыякавасці і, наадварот, у празмернай жыццёвай актыўнасці, што часам даходзіла да істэрычнасці. І прычынай таму сталіся Іван Іванавіч, яго добранадзейныя бацькі і ўвогуле ўвесь лад іх жыцця, куды няўхільна ўцягвалася сама Марына.

У сям'і Скубачоў былі свае трывалыя правілы, якім тыя безагаворачна падпарадкоўваліся і дзякуючы якім заўсёды знаходзіліся на вяр-

шыні грамадскай лесвіцы. Яны, правілы, моцна адрозніваліся ад таго побыту, да якога прывыкла Марына Паспелава з дзяцінства, які панаваў у іхняй сціплай сям'і; яны выклікалі міжвольны пратэст, раздражнялі. Скубачы сталі ўяўляцца Марыне нейкай кастай завоблачных людзей, якая не толькі не падпарадкоўваецца звычайным людскім законам.

На двары найжвавейшым чынам ішла гарбачоўская перабудова, тэлевізар дэманстраваў руйнаванне закасцянелых догмаў і норм, заклікаў да свабоды і дэмакратыі. Потым распалася цэлая імперыя, а ў іхняй сям'і, як і ў іншых «наменклатурных» сем'ях, царавалі спакой і непахіснасць. Іван Іванавіч па-ранейшаму ездзіў на работу на чорнай «Волзе», вырашаў лёсапаваротныя для краіны задачы, па-ранейшаму поўніўся іхні халадзільнік далікатэсамі, па-ранейшаму адпачывалі яны па льготных пуцёўках на Поўдні былой імперыі. І гэта ў той час, калі пуставалі прылаўкі ў крамах, а шараговы абывацель не атрымліваў зарплаты па два, тры, чатыры месяцы…

Праўда, змянілася шыльда на міністэрстве, дзе працаваў Іван Іванавіч, змянілася і адно слова ў назве ягонай пасады.

Яшчэ да развалу Савецкага Саюза, адразу пасля выхаду Марыны з дэкрэтнага адпачынку, уладкаваў яе муж у гарвыканкам. Яна не хацела, супраціўлялася, казала, што архітэктар і не можа быць простым сакратаром пры самадурным чыноўніку. Угаварыў, пераканаў, прымусіў. А праз тры месяцы даведалася Марына, што зачынілася тое праектнае бюро, дзе яна з цікавасцю прарабіла тры гады, — зачынілася і ліквідавалася як бесперспектыўнае. Містычны страх перад Іванам Іванавічам пасяліўся ў ёй з таго часу. Уяўлялася, што і не з чалавекам яна жыве, а з нейкай да Бога набліжанай, усёмагутнай і ва ўсім дасведчанай істотаю.

Яна спакваля стала аддаляцца ад мужа, боязь і трапятанне перад яго аўтарытэтам паступова перараслі ва ўстойлівую непрыязнасць. Злавалі Іванавы самаўпэўненыя меркаванні, якія ён выказваў усім і ўсюды безапеляцыйным, абрыдлым ёй тонам. Дома муж быў педант і зануда. Ніколі не павышаючы на Марыну голасу, ён прыдзіраўся да кожнай дробязі ў хатняй гаспадарцы і настойваў на сваім: будзь то мыццё падлогі ці гатаванне супу. Ён бурчаў і пілаваў яе да таго часу, пакуль не было ўсё зроблена правільна, бездакорна, як трэба. Ён ведаў, якія прадукты карысныя для здароўя, а якія не, і цаніў у ежы не смак, а колькасць калорый і вітамінаў. У вопратцы — не прыгажосць, а трываласць, практычнасць і адпаведнасць прынятым нормам. Усё гэта ён навязваў і дачцэ, і жонцы. Калі ж яго не слухаліся, папярэджваў, што можа адбыцца нешта нядобрае, і гэта нядобрае не прымушала сябе чакаць. Аднойчы ўзімку ён параіў Марыне не абуваць боты на высокіх абцасах, бо цяпер галалёд, можна пакаўзнуцца і пакалечыцца. Яны доўга спрачаліся ў калідоры, жонка не паслухалася. Наўздагон ён гукнуў: «Зломіш нагу, будзеш сама вінаватая!» У гэты дзень яна сапраўды пакаўзнулася, зламала ступню і два месяцы прамучылася на мыліцах. Чорная, нямая злосць на Івана затаілася ў Марынінай душы. Увесь праведзены на мыліцах час ёй здавалася, што муж, нягледзячы на вонкавую спагаду і чуласць, унутрана задаволены гэтым няшчасным выпадкам: маўляў, будзе табе, бесталковай, навука.

А колькі разоў ён бурчаў на дачку, каб тая не ела марожанага, ад якога можна падхапіць ангіну, або папракаў за прамоклыя ногі і недастаткова цёплую для сезона вопратку! І літаральна праз дзень у Вікі ўздымалася тэмпература, з'яўляліся насмарк і кашаль. Нібы псоту наводзіў на яе бацька сваімі запалохваннямі!

На пяты год сумеснага жыцця Марына ўздрыгвала ад аднаго Іванавага голасу, бо ён устойліва асацыіраваўся з павучаннямі, настаўленнямі, папрокамі ды ўгаворамі. Невыносны стаў і яго выгляд. Ад празмернага апетыту муж растаўсцеў і нагадваў самазадаволенага крамніка. У будныя дні ён з'яўляўся ў шэсць вечара і доўга, грунтоўна і з насалодаю вячэраў на кухні. Марына праглынала сваю ежу за колькі хвілін і потым з гадзіну мусіла назіраць, як наталяецца гэтая прорва каўбасамі, сырамі, чырвонай рыбай, як рухаюцца пры жаванні яго румяныя шчокі, як паблісквае ўспацелая лысіна. Ды каб толькі гэта! За ядой несупынна, занудліва і павучальна гучаў яго сухі, мёртвы голас. Пры канцы вячэры Марыне здавалася, што гэта не голас, а доўбня, што мерна і няўхільна б'е па яе патыліцы.

«Гіне жыццё! Ён мяне засушыць, замарынуе! Трэба штосьці рабіць», — такія думкі ўсё часцей забрыдалі Паспелавай у галаву.

Нават шлюбныя абавязкі гэты сухар выконваў бяздушна, нібы па правілах: у пэўны час, тры разы на тыдзень, не болей, не меней. Быццам не каханнем ён займаўся, а ажыццяўляў чарговы прыём ежы ці спраўляў натуральную патрэбу ў туалеце. На пятым годзе замужжа з гэтай прычыны ў Паспелавай развіўся стойкі неўроз: пры набліжэнні часу інтыму яе пачынала біць дрыготка, халадзела скура, абручом сціскаліся скроні.

Міжволі маляваўся ёй вобраз маладога, статнага, гарачага палюбоўніка...

«Гіне жыццё! Гіне жыццё!» — днём і ноччу стукала ў галаве Паспелавай гнятлівая думка.

А яшчэ Марына баялася за дачку: каб не расла яна гэткім міні-Скубачом; і для тае трывогі былі падставы. Неяк суха і прагматычна, *па правілах* намагаўся выхоўваць яе бацька. З чатырох гадоў усчаў мучыць Віку рознымі настаўнікамі, што спрабавалі адшукаць у яе якія-небудзь мастацкія здольнасці. Дачку сілком саджалі за піяніна ці мальберт, якія тая неўзабаве ўзненавідзела. Нават немузыкальнай Марыне было ясна, што ў дачкі зусім адсутнічае слых і вельмі пасрэдныя здольнасці да малявання. Але жулікаватыя настаўнікі, якім Іван Іванавіч шчодра плаціў за ўрокі, запэўнівалі, што ў дзяўчынкі ёсць несумненныя мастацкія здольнасці і, калі рупліва і ўседліва з ёю займацца, то ў перспектыве, праз колькі гадоў, гэтыя здольнасці раскрыюцца і расквітнеюць. Аднак і ў шэсць з паловай гадоў Віка гэтак жа негарманічна лупцавала па клавішах ды стварала на аркушах і палотнах убогія аляпаватыя фігуркі, як і ў чатыры. Прычым было відавочна, што дзяўчынцы гэта дужа не падабаецца, што яна адбывае агорклую павіннасць, а карціць ёй як найхутчэй выскачыць на двор да сяброўак і гуляць у звычайныя лялькі ці корпацца ў пясочніцы.

Але ўпарты бацька не суніімаўся і, падбухтораны настаўнікамі, строга сачыў за выкананнем дамашніх заданняў, змушаў дачку гадзінамі карпець над нотнымі сшыткамі, піяніна, малюнкамі. За праяўленую на занятках нядбайнасць, за дрэнныя адзнакі Іван Іванавіч строга караў

малую Віку. Не, ён ніколі не ўжываў фізічную сілу. Пакаранне заключалася ў тым, што бацька пазбаўляў дачку прагляду чарговай серыі мульцікаў, гульні з сяброўкамі, піражнага за абедам, — словам, усяго таго, што прыносіла ёй асалоду. Прычым не забываў ніводнай правіны і бязлітасна, не зважаючы на плач і слёзы, спраўджваў прысуд.

Марына з трывогай заўважала, што ў Вікі ад празмерных заняткаў бляднее твар, пагаршаецца апетыт і з'яўляецца ненармальная для гэтага ўзросту апатыя. Некалькі разоў яна спрабавала пераканаць Івана Іванавіча пазбавіць дачку ад непатрэбных ёй малявання і музыкі. Але той заводзіў сваю заўсёдную буркатню, ад якой пухлі вушы і хацелася ўцякаць з дому.

«Уцякаць з дому!» — з'явіўшыся раз, гэтая думка трывала засела ў Марынінай галаве, цвяліла свядомасць і падсвядомасць і нарэшце перарасла ва ўпэўненасць, што іншага выйсця няма, як толькі забраць Віку і перасяліцца да сваіх бацькоў.

Так яна і зрабіла ў адзін памятны летні дзень. Дачцэ тады не споўнілася і сямі.

Дапамаглі добрыя людзі. У прыватнасці, інстытуцкая прыяцелька, муж якой узначальваў адно выдавецтва, уладкавала яе туды на пасаду дызайнера. Марына асвоіла камп'ютэрныя праграмы, кнігі, аформленыя ёй, карысталіся попытам і хутка разыходзіліся. За пяць гадоў выдавецтва зрабіла прарыў на кніжным рынку, называлася ўжо выдавецкім домам, а Марына з шараговага дызайнера вырасла да галоўнага.

## 15

— Чуеш, Марыся, — гаварыў Леанід Нілавіч, — як мне сын аддзячыў за дабрыню. Заяўляе нядаўна, што зрабіў мне вялікую ласку, калі на асобную кватэру з'ехаў. А што я тое жытло аплачваю, то гэта, па яго словах, я ад адкупляюся. Во як завярнуў нашчадак!

Паспелава ішла, апусціўшы галаву, і слухала.

— Для мяне тая кватэра — капейкі, — абураўся мастак, — справа ж не ў грашах. Я яму дзесяць такіх кватэр здыму, каб ён толькі чалавекам зрабіўся, каб не гаварыў роднаму бацьку такія крыўдныя словы… Гэх, ды што там казаць! Не складваюцца ў нас з сынам адносіны.

— Ды нармальныя ў вас адносіны, — зірнула на яго Марына, — звычайны канфлікт пакаленняў.

— Не канфлікт пакаленняў, а непаразуменне паміж нармальным чалавекам і інфантыльным, паміж працавітым мастаком (прабач за нясціпласць) і гультаяватым, з няўстойлівай псіхікай акцёрчыкам. Ух, як ненавіджу я гэтае племя! — Нілавіч са злосці ўзняў нагой фантан снегу.

— Што так сурова? — усміхнулася спадарожніца.

— А таму, што гэта не людзі, а паразіты. Не ўсе, вядома, але большая частка — дакладна. Яны ж і гадзіны не пражывуць, каб які фартэль не выкінуць. Паразітуюць на нашых эмоцыях, жываглоты. Дарэчы, па сынку маім з пяці гадоў было відаць, што стане артыстам. Так і мерыўся заўсёды схлусіць, разыграць, абхітрыць. Прычым натуральна лгаў, не чырванеючы. А ў школу пайшоў — зусім праўды ад яго не дазнаешся. У чацвёртым класе ў яго двайны дзённік быў, дакладней — два дзённікі: адзін для настаўнікаў, другі для мяне. І галоўнае ж, так

удала, шэльма, подпісы падрабляў, што я, мастак, не заўважыў. Толькі праз тры месяцы на бацькоўскім сходзе адкрылася, што мой сын — двоечнік і хуліган, а не ўзорны вучань, як вынікала з фальшывага дзённіка. — Леанід Нілавіч ціха рассмяяўся.

— Напэўна ж, сам вінаваты, — таксама рассмяялася Паспелава, — навучыў яго маляваць на сваю галаву, вось ён і вырашыў прымяніць, так бы мовіць, сваё ўмельства на практыцы.

— Ох, Марынка, — уздыхнуў мастак, — ды каб ён меў да малявання ахвоту, я б толькі ўсцешаны быў. Колькі намаганняў да таго мной прыкладалася. З пяці гадоў з ім біўся. І здольнасці ж былі ў чалавека! Усё марна. Не было ў Сяргея асноўнага — уседлівасці і зацікаўленасці. Сядзіць, малюе, пакуль я над ім стаю, а ледзь адышоўся — шусь і пабег па кватэры. Або выводзіць алоўкам гожую форму, аж любата глядзець, і раптам, чортведама ад чаго, як заверне нейкую крывую недарэчную лінію. У мяне аж валасы ўздыбяцца. «Што ж ты творыш!?! — крычу. — Хіба так можна!» Апусціць вочы, памаўчыць, паслухае мае ўшчуванні — нібы ўсё зразумеў. А заўтра тое ж самае выкіне. Гэх… Як цяпер разумею, гэтае заганнае артыстычнае зерне ў ім ад нараджэння спела. І нічога тут не паробіш.

— Ды за што ж ты артыстаў не любіш? Што яны табе такога зрабілі?

Нілавіч зморшчыўся. Не мог жа ён сказаць Марыне пра тую актрысачку, што дваццаць пяць гадоў назад закруціла яму галаву, ачмурыла, змусіўшы духоўна і фізічна здрадзіць любімай жонцы, яго Ірыне, светлую памяць якой мастак шануе беззапаветна. Не мог.

— А таму, што нібы не людзі гэта, а фантомы нейкія, — адказаў Пугач пасля невялікай замінкі. — Ніколі не ведаеш, чаго ад іх чакаць. Ніколі не знаеш, з чалавекам ты размаўляеш у дадзеную хвіліну ці з чарговым яго персанажам. Няма ў іх стрыжня, за які б можна было ўхапіцца ды сказаць: вось гэта добры чалавек, а вось гэта нягоднік. Расплывістыя яны нейкія, як медузы.

— Не ведала я, Нілавіч, — гарэзна зірнула на яго Паспелава, — што ты такі артыстаненавіснік. Гэта нешта для мяне новенькае…

— Не новенькае, а старэнькае… — прабурчаў мастак у бараду. — Проста ў кожнага чалавека павінна быць нейкая аснова, нейкі светапогляд і маральныя прынцыпы, якімі ён кіруецца. Няхай сабе дрэнная, няправільная, злачынная аснова! Тады выбіраеш: сябраваць з гэтым чалавекам ці не; кахаць яго ці не, мець дзелавыя стасункі ці трымацца ад яго падалей. Вось мы з табой ужо пяты год калі не ўсё, то многае адно пра аднаго ведаем. Ці не так?

— Так, так, Нілавіч. Не гарачыся.

— Ды не гарачуся я. — Пугач засунуў рукі ў кішэні кажуха. — А проста хачу быць у чалавеку ўпэўнены. І калі шпацырую з табой, то ведаю, што ты не адмочыш нейкага штукарства, не скажаш недарэчнасці, не абразіш мяне з-за дробязі. І ўжо адно гэта для мяне радасна. Не тое з артыстамі! Бо яны чамусьці лічаць, што крыўляцца ды скамарошнічаць — гэта самая вартая справа.

— Ты так гаворыш, нібы ўсё жыццё сам быў артыстам. Ёсць жа розныя людзі. І розныя акцёры — таксама. Добрыя, дрэнныя, удачлівыя, апальныя, шчаслівыя і гаротныя… Навошта агулам на ўсіх нападаць?

— А таму, мілая, што гэта самы небяспечны народ. Ніхто так, як акцёр, не здольны завалодаць нашымі душамі. Асабліва цяпер, у век татальнага наступу тэлевізара на чалавека. І калі дадзена яму такая здольнасць, то і адказнасць на яго ўскладаецца агромністая. Адна справа, калі пануюць над мільёнамі людскіх псіхік барадатыя мысляры, а другая — калі нейкія архараўцы, малакасосы, недаробленыя акцёрчыкі, карыстаючыся магчымасцямі сродкаў масавай інфармацыі, прапагандуюць у народзе антымараль.

— Што такое антымараль і дзе яе крытэрыі?

— Крытэрыі ўсе ў Бібліі, даражэнькая. А паколькі яе мала хто чытае, то і крытэрыяў дабра і зла ў народа няма шака. Таму і замбіруецца ён усялякімі злаподлымі серыяламі, дзе ўсё круціцца вакол таго, хто з кім пераспаў і хто ад каго зацяжараў.

— А гэта немалаважна, — усміхнулася Паспелава.

— Табе ўсё жарцікі! А я сур'ёзна хачу гаварыць. — Нілавіч дастаў рукі з кішэняў і стаў імі размахваць. — І сцвярджаю, што амаральны, разбэшчаны артыст значна больш небяспечны для грамады, чым нават таленавіты падлюга пісьменнік. Каб таго прачытаць, трэба прынамсі кніжку купіць ды патраціць на яе колькі гадзін запар. Кнігі не так замбіруюць, як тэлевізар і кінафільмы, бо на экране ўсё разжавана — адно развальвайся ў крэсле і атрымоўвай асалоду ад голых ног, ад гвалту, ад бесперапынных боек і страляніны.

— Нешта ты разышоўся, Лёня. Прыехаў адпачыць і сам сябе заводзіш. — Марына любоўна страсянула з яго шапкі снег, што пастаянна церусіўся з ялін.

Раптам мастак знерухомеў і здзіўлена ўтаропіўся наперад.

— Глядзі, — дакрануўся ён да Марынінага пляча і ўзмахнуў рукой перад сабою.

Спадарожніца падняла вочы і ўбачыла метраў за сто пяцьдзесят лыжніка ў пунсовым спартыўным касцюме. Ён аддаляўся ад іх, але ішоў неяк дзіўнавата: раз-пораз мяняў лыжню, пераскокваючы з уезджанай, што пралягала па цэнтры алеі, на старую разбітую, якая тулілася бліжэй да правых прысадаў і па якой зараз крочылі Леанід Нілавіч з Марынаю. На галаве ў лыжніка была белая шапачка з пунсовым кутасікам, што гарэзна матляўся.

— Табе ён нікога не нагадвае? — спытаўся Пугач.

— Хто яго ведае... — задумалася Паспелава. — Можа, і нагадвае... Пэўна ж нехта з пасёлка.

— А табе не здаецца, што гэта сын мой, Сяргей? — зірнуў на яе Леанід Нілавіч так, нібы сам не верыў у сказанае.

— Ды што за глупства! З якой радасці яму тут быць... — Марына пільней прыгледзелася да лыжніка, што, гэтак жа мяняючы лыжні, усё больш аддаляўся ад іх. — У яго што, ёсць такі спартыўны касцюм?

— Няма, здаецца... — мастак глядзеў наперад. — І на лыжах я яго ўжо гадоў пяць не бачыў... І тым не менш — гэта мой сын. Лухта нейкая... Сярге-ей!!! — крыкнуў мастак і паскорыў крок, быццам намагаўся дагнаць імклівага лыжніка.

А той зусім не зрэагаваў на гэта, узнімаючы снежны пыл, гнаў і гнаў наперад.

— У цябе ўжо трызненні пачынаюцца, — Марына трывожна зірнула на сябра. — Ды адкуль яму тут быць?

— Можа, сапраўды з глузду з'язджаю... — Пугач запусціў руку ў бараду і задумаўся.

— Гэта ўсё ад перанапругі. Працуеш замнога... — Марына ўзяла яго пад локаць.

— Слухай, але нас жа ніхто не абганяў? Ці мы не заўважылі за размовай?

— Здаецца, не абганяў.

— Дык як ён тады з'явіўся перад намі? — Леанід Нілавіч абярнуўся назад, абярнулася і Паспелава.

Доўгая прамая алея звужалася, і пачатак яе хаваўся за навіслымі яловымі лапамі. Ззаду не было ні душы.

Калі яны зноў павярнуліся, таямнічы лыжнік знік, хаця да лесу, куды ўпіралася алея, было яшчэ метраў трыста.

— Нейкая чартаўшчына, — прашаптаў мастак і ў раздражненні збіў з бліжэйшай яловай галіны снежнае воблака.

— Ды што ты нервуешся з-за драбязы! — супакойвала яго Марына. — Ну выскачыў нейкі лыжнік з бакавой сцяжынкі, а потым на бакавую ж сцяжынку завярнуў...

— А ты бачыла, як шчыльна пасаджаны тут дрэвы? Праз іх не праціснешся...

— Слухай, ты, відаць, дэтэктываў начытаўся. — Марына паспрабавала перавесці размову ў жартаўлівае рэчышча, хоць саму яе таксама здзівіла нечаканае з'яўленне і потым знікненне пунсовага лыжніка.

— Ладна, халера з ім. — Леанід Нілавіч узяў сябе ў рукі. — Дык на чым мы спыніліся?

— Калі?

— Ну, пра што гаварылі, пакуль лыжніка не ўбачылі?

— А... Ды артыстаў ты чамусь бэсціў за амаральнасць...

— Ну з гэтым досыць: не вартыя яны таго, каб з-за іх спрачацца. Я вось што хацеў сказаць. Неяк быў у мяне кепскі настрой (сынок чарговы раз нахаміў па тэлефоне) і, каб адцягнуць увагу, уключыў я тэлевізар. Ішоў там хакей, а я да яго з дзяцінства неабыякавы. Але нават хакей, мо ўпершыню за жыццё, мяне не развесяліў, а ўразіў сваёй бязглуздасцю. Гляджу: бегаюць нейкія мужыкі, немаведама чаму апранутыя ў даспехі, каскі ды яшчэ і на каньках; штурхаюць адзін аднаго, стукаюць клюшкамі па лёдзе, ганяюцца за чорнай кропкаю; прытым робяць гэта сур'ёзна, захоплена, страсна; і натоўп, што на трыбунах, раве-надрываецца. А я гляджу і думаю: навошта, для чаго ўсё гэта? І страшна зрабілася мне, Марына! Ад таго страшна, што адкрылася бессэнсоўнасць не хакея толькі, а ўсяго, наскрозь усяго жыцця — з яго здабываннем і спажываннем ежы, з яго гульнямі і палітыкай, з яго пачуццямі, паэзіяй, мастацтвам. І падступіў адчай... Потым, калі прайшла мая часовая дэпрэсія, я, канешне, зразумеў, што гэта з-за майго прыгнечанага стану было, што не хакей, не жыццё бязглуздыя, а толькі мой мозг няправільна іх успрымаў. Але камень, нейкі гнятлівы камень залёг у маім сэрцы з таго часу. І не дае спакою мне думка, што рэчаіснасць — гэта зман, падладжаны пад нашу свядомасць... Разумееш?

— Туманна, — прызналася Паспелава.

— Ну, як бы табе сказаць, Марыся... — Мастак наморшчыў лоб і пагладзіў рукой бараду. — Гэта, у прынцыпе, адвечнае пытанне: на-

вошта? Без яго і чалавек — не чалавек. Увесь прагрэс на ім грунтуецца, на гэтым «навошта». І прыходзіць яно да нас, стукаецца ў нашы сэрцы неаднойчы. Але мы яго або не чуем, або баімся пачуць. Таму што жыць, існаваць як біялагічны арганізм значна прасцей, калі такое пытанне цябе не мучыць. Аднак назваўся чалавекам — адказвай. Я, можа, сябе і памятаю акурат з таго часу, калі пачаў задумвацца пра сэнс светабудовы... Але ніколі так востра не паўставала перада мной гэтае «навошта», як ва ўзгаданым выпадку, калі глядзеў хакей.

— Ну цяпер зразумела, куды ты хіліш, Леанід Нілавіч, — усміхнулася Марына. — Я такое пытанне сабе тысячу разоў задавала, але не для таго, каб усумніцца ў значнасці сусвету, а з прычыны сваёй нямоглáсці перад яго таямніцамі... А калі ўсё ж узнікае зброддлівая думка пра бязглуздасць светабудовы, то яе трэба гнаць у тры шыі. Яна ад нячысціка.

— Гэта так... — ён задумліва глядзеў перад сабой. — Але рэч у тым, што чалавек гатовы абазваць бессэнсоўным усё навокал, апроч самога сябе. Ва ўсім расчаруецца: у каханні і сяброўстве, у дзяржаўнай і прыроднай велічы; усё гатовы праклясці і знішчыць, — толькі пашкадуе сваё «я». Бо гэта для яго — цэнтр сусвету, праз яго ён той сусвет бачыць, праз яго дазнаецца пра рэчы і душы. Сваё «я» — гэта святое для чалавека. Без «я» няма для яго нічога. І тут парадокс: абвяргаючы значнасць жыцця, чалавек непазбежна ўтыркаецца ў сябе, у сваё найдаражэйшае «я», аспрэчыць значнасць якога ён аніяк не асмеліцца. Разумееш?

— Ты хочаш сказаць, што, не аспрэчыўшы сваё «я», чалавек не можа канчаткова расчаравацца ў рэчаіснасці?

— Прыкладна так. У гэтым парадоксе палягае і сэнс існавання. Гэта ахоўны механізм светабудовы. Таму што кожны беззапаветна любіць сябе, а паколькі ён ёсць цаглінка светабудовы, то ёй нічога не пагражае, і адвечнае пытанне «навошта» ў рэшце рэшт прыводзіць нас не да адчаю, а спараджае творчую энергію. Кожны ж з нас крыху бог або маленькі бог, прынамсі, так пра сябе думае. А Бог ёсць усёабдымная, бясконцая, несупынная творчасць.

— Хвацка сказана, — жартаўліва зірнула на мастака Марына. — Яшчэ так пашпацыруем колькі разоў, і філасофскі трактат атрымаецца.

— А вось цяпер жарты ўбок, Марына, — апалым голасам прамовіў Леанід Нілавіч і паказаў рукой на лыжню: ад яе аддзяляўся новы лыжны след, збочваў у сумёты і хаваўся пад навіслым яловым веццем. — Акурат тут ён павярнуў.

— Ну і Бог з ім, — Паспелава ўбачыла, як хваравіта збялеў твар яе спадарожніка. — Што ты на ім зацыкліўся!

— А табе не здаецца дзіўным, што чалавек кідае ўезджаны шлях, збочвае на цалік і прэцца на калючыя елкі? — утаропіўся на яе мастак. — Давай сходзім паглядзім.

— Яшчэ чаго! Каб набраць поўныя чаравікі снегу?

— Ну тады пачакай, — ён рашуча ступіў на свежы лыжны след і ўгруз па калені.

— Во ненармальны! Як дзіцё, дый годзе...

Але мастак ужо прабраўся скрозь гурбы да елак.

— Дзіўна, — крычаў ён Марыне, — тут у адным месцы снег на метр не даходзіць да голля, і след акурат у гэтай арцы губляецца. — Нілавіч нагнуўся, запыхкаў і папёрся пад елкі.

Паспелава разгублена назірала за ім.

Леанід Пугач вярнуўся толькі хвілін праз дзесяць. Быў ён расчырванелы, задыханы і раздражнёны; на ўскалмачанай барадзе ляжаў снежны пыл, штаны і кажух убялелыя.

— Нічога не разумею, — развёў ён рукамі, падыходзячы да Марыны. — Метраў пяцьдзесят правалокся па следзе... там куп'ё адно, шчыльны падлесак, у некаторых месцах гурбы па грудзі, а след па іх — хоць бы хны... Нейкая д'ябальшчына.

— Як дзіцё, далібог, — дакорліва глядзела на яго Паспелава.

— Ат, хай... — матлянуў галавой мастак і пачаў абабіваць з вопраткі снежны бісер, Марына яму памагала.

Неўзабаве яны зноў рушылі наперад. Лес віднеўся ў канцы алеі.

Спачатку ішлі моўчкі, потым Леанід Нілавіч загаварыў:

— Дык вось, Марына, я не сказаў галоўнага. Пасля таго выпадку з хакеем, калі адкрылася мне бессэнсоўнасць жыцця, упёрся я ў сваю бясцэнную асобу і, як заўсёды бывае, пачаў яе ўсяляк апраўдваць. Маўляў, усё лухта, акрамя майго любімага занятку — малявання. Бо мастак, разважаў я, спасцігае таямніцы прыроды і дзеліцца гэтым з людзьмі, ён ідзе наперадзе чалавецтва... Словам, панёс і панёс я падобную несусвецiцу. І тут нібы па галаве мяне шчоўкнулі: я *толькі адкрываю* ўжо існыя таямніцы, якіх, магчыма, незлічоная колькасць. А хто іх стварыў?! Хто стварыў гэтае неба, гэты цудоўны лес, — ён паказаў на бор, да якога заставалася метраў сто пяцьдзесят, — гэты снег, які чамусьці халодны?.. Не кажучы ўжо пра тое, што мы з табой, Марына, больш складаныя за самыя сучасныя камп'ютэры і механізмы! Стоп, сказаў тады я сабе! Ты што, гэтага не ведаў? Ведаў, адказваю, але за ачмурэннем ад навуковага прагрэсу, ад захаплення сваёй творчасцю, ад эгаізму самаўзвелічэння забыўся я, небарака, што сам створаны з праху, што ў любую секунду магу зноў у той прах перайсці. І я, гэты ходзячы прах і разам з тым найскладанейшая істота сусвету, асмельваюся сумнявацца ў сэнсе быцця! Хіба можа зраўняцца мая вартая жалю «мазня» на палотнах з гэтымі ялінамі, што вырастаюць з маленькіх зярнятаў, або з небам і сонцам, дзякуючы якім я жыву? Як ніколі праяснілася тады мне мая нікчэмнасць, Марына, і не толькі мая, а ўсёй плоймы вучоных, філосафаў, паэтаў і раманістаў, што ўяўляюць сябе выкшталцонымі творцамі, уладарамі над прыродай і чалавечымі душамі. Мы ж, слепакі, толькі карыстаемся маленькай долькай прыродных сілаў, а думаем, што з'яўляемся вялікімі творцамі! А колькі ад нас прыхавана, колькі мы не спазналі і, можа, ніколі не спазнаем з прычыны нашага непамернага гонару...

— Але пачакай, — уступіла ў размову Паспелава. — Творчасць, як я разумею, гэта заўсёды захапленне перад Усявышнім. Калі яна нармальная творчасць... Большасць карцін Рафаэля, Мікеланджэла — на евангельскія сюжэты. Творчасць Дастаеўскага...

— Э-э-э, — зморшчыўся Пугач. — А колькі бязбожнікаў было паміж Мікеланджэла і Дастаеўскім! Колькі пастаўлена пахабных драм і камедый, колькі напісана раманаў і паэм, дзе апяваюцца адно міжпалавыя стасункі, а чалавек падаецца гэткім пыхлівым героем, расчара-

ваным у жыцці эгаістам, якому нудна жыць без вайны, кахання, гульні ў карты. Праклятьі байранізм! Ледзьве не на паўтысячы гадоў творцы на Бога забыліся. Успомнілі пры канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў Расеі, ды позна — камунізм наваліўся, усё спляжыў. Толькі цяпер нейкія праблёскі пабожнасці з'яўляюцца. І тое — асцярожненькія такія, кволыя. Бо нямодна зараз інтэлігентнаму чалавеку ў Бога верыць, прынамсі, выказваць гэта ў сваёй творчасці. Гэтыя вашывыя інтэлігенты крычаць, што рэлігія абмяжоўвае свабоду самавыяўлення. Самавыявіцца ім дай ды падай! Бачылі мы такіх самавыразнікаў... — сярдзіта бурчаў мастак. — Толькі яны забываюцца, што сусвету на іх самавыяўленне начхаць, ён і без іх пражыве. А не пражыве ён без хрысціянскай маралі, без якой гэтыя супертворцы патрапяць у чарговы ГУЛаг і там жыўцом пазгніваюць...

— Дарэмна ты так распаляешся, Лёня. — Яны не заўважылі, як дайшлі да канца алеі, павярнулі і рухаліся назад. — Калі ўявіць, што Космас мае разумны пачатак, то чалавецтва ёсць увасабленне гэтага розуму ў плоці. Я дык мяркую, што чалавек творчы надзвычай каштоўны хаця б таму, што ён з'яўляецца носьбітам ведаў пра веліч светабудовы і перадае свой досвед нашчадкам... Птушкі ж і дрэвы далей за сябе не глядзяць, а Космасу важна, каб хтосьці разумна яго ацэньваў. Ці не так?

— Прыгожая казка, — хмыкнуў мастак. — Але рэальнасць паказвае, што празмерны розум, калі ён не грунтуецца на рэлігійнай маралі, як правіла, спараджае празмерныя беды... Творцы, а артысты найперш, уявілі сабе, што ім усё дазволена, раз яны такія адораныя. Заўваж: *адораныя*! Нехта ж іх адарыў! Але яны нават гэтага не заўважаюць і галосяць са сваіх сцэн, карцін і кніжак: маўляў, я вялікі, любуйцеся мной і цаніце! Я геній, я першапраходца, я вас павяду!.. Як абрыдла мне гэтыя «я» слухаць... Цяпер ужо лічыцца за благі тон публічна сказаць, што я захапляюся творчасцю Талстога ці Салжаніцына — засмяюць, гідліва скрывяцца твае крытыкі. Цяпер модна ўсхваляць Маркеса, Борхеса, якія, па адной прыродзе сваёй, не могуць быць блізкія беларусу ці рускаму. Бо гэта людзі іншай культуры, іншага менталітэту, іншых задач, калі хочаш. Як незразумелы славяніну бразільскі карнавал, гэтак незразумелая яму і творчасць паўднёвых пісьменнікаў. І гэта нармальна. Трэба спярша сябе спазнаваць навучыцца, сябе палюбіць, тады мо і другія народы палюбіш...

Пугач замоўк і сярдзіта мясіў нагамі снег.

— Іншы раз, — зноў загаварыў ён раздражнёным голасам, — проста свярбіць выцягнуць нейкага фанабэрлівага прамоўцу з трыбуны за каўнер ды колькі разоў цюкнуць галавой аб сцяну, каб выбіць з яго самалюбнае ачмурэнне, каб прымусіць цвяроза сябе ацаніць. А то развялося настаўнікаў чалавецтва! — Змрочна памаўчаўшы, ён дадаў: — Сапраўдная творчасць, ды наогул стваральная дзейнасць, Марына, не могуць пачынацца інакш як з усведамлення ўласнай мізэрнасці, з пакаяння. І яшчэ важна, надзвычай важна ведаць наступнае: мастацкая творчасць нікольк не вышэйшая за любую іншую ў прыродзе. Цякуць вясной раўчукі, змываюць снег, наталяюць глебу, арэ селянін зямлю, робіць цясляр хату — усё гэта патрэбная, неабходная, жыццёва важная творчасць!

…Перад дачным пасёлкам Леанід Нілавіч як бы выдыхнууся, замоўк, і па вуліцы яны ішлі ў казачнай марознай бязмоўнасці. Было гадзін дзесяць раніцы. Засмужанае сонца палівала мяккай барвай аснежаныя і ад таго нязграбныя домікі, вялізныя сумёты ўздоўж агароджаў, чэзла бліскала на ўзорыстых шыбах і заінелых дрэвах. Пасёлак, такі жывы ўлетку, цяпер амаль не падаваў прыкмет жыцця, толькі над трыма комінамі віўся слабы дымок.

Калі праміналі адзін з дамоў, мастак спыніўся, агледзеў двор і сумна сказаў:

— Дзіўная ўсё-ткі штука — жыццё… Вось ужо другі раз прыязджаю сюды, бачу, што гэты дом пустуе, і мне ніякавата… Тут жа стары скульптар зімой і летам жыве. Дзівак, сышоў з сям'і, самотнічае. Я з ім амаль незнаёмы: прывітаемся кіўкамі, і ўсё. Адно ведаю — Генам яго завуць…

— Я памятаю яго. Такі хударлявы, з сівой барадой… Яшчэ заўжды ў целагрэйцы заношанай ходзіць.

— Во-во. Калі ні прыедзеш — у мароз, завею, хлюпоту, — ведаеш, што Генка тут, і цяплей робіцца на душы… не адзін ты, значыць, пасярод лесу. А зараз пусты яго двор, нячышчаны, і непакоюся я за яго, як за блізкага чалавека. Як жа ўсё звязана на зямлі…

Яны яшчэ крыху пастаялі перад безжыццёвай хацінай скульптара, памеркавалі ды рушылі да свайго доміка, да якога цяпер было зусім недалёка.

## 16

Панядзелак выдаўся для Аркадзя Рыгоравіча Бабаеўскага днём турботным. Праўда, ранішняя рэпетыцыя прайшла без асаблівых збояў. Былі невялічкія хібы ў ігры некаторых акцёраў, але іх можна прызнаць неістотнымі.

Аркадзь Рыгоравіч зайшоў у свой кабінет з думкамі пра вячэрні спектакль. Гэтая пастаноўка была яго козырам, ішла яна толькі чатыры разы і заўсёды з вялікім поспехам. Хваліў і міністр культуры, які быў на прэм'еры. Адно азмрочвала сённяшні добры настрой: на пятнічнай рэпетыцыі гэтага спектакля адбыўся непрыемны эксцэс, і віноўнікам яго быў усё той жа Сяргей Пугач.

Ізноў заеўся з ім Аркадзь Рыгоравіч, не стрываў. Здалося галоўнаму рэжысёру, што адцягвае Пугач увагу патэнцыяльных гледачоў сваёй малазначнай роляй і што робіць гэта наўмысна. Неяк гублялася ў адным эпізодзе Таня Зарэмба: хоць стаяла на пярэднім плане і гаварыла пераважна яна, але падалося Бабаеўскаму, што не вельмі пераканаўча, не так, як ён задумаў, гэта рабіла. А віной таму — ненавісны Пугач, які занадта кідка дзейнічаў на заднім плане.

З гарачкі, толкам не разабраўшыся, Бабаеўскі выскачыў на сцэну з крыкам «Не так! Ну не так жа!», стаў махаць рукамі, бязладна тлумачыць, збіўся і ў рэшце рэшт проста аблаяў Сяргея Пугача, прыгразіў зняць з ролі за самавольства. І тут, што самае прыкрае, падляцела да яго гэтая ганарліўка Дробаш, уступілася за Пугача і нагаварыла Аркадзю Рыгоравічу многа дзёрзкіх і крыўдных слоў. А ён, нечакана для сябе, адчуў, што не толькі не можа яе паставіць на месца, але і ўсур'ёз запярэчыць баіцца. Бо пакрыёма баіцца, што пакіне Людка Дробаш яго тэатр, а на ёй усе паспяховыя пастаноўкі сезона

трымаюцца. Гэта трэба прызнаць. Даўно падазрае Бабаеўскі, што Дробаш адно зачэпку шукае, каб з ім развітацца і перайсці на больш выгоднае, грашавітае месца.

Змаўчаў тады Рыгоравіч, утаймаваў свой нораў. Але крыўда і неспатоленая злосць на Людку тачылі яго ў выхадныя дні, і вырашыў дырэктар, паколькі не можа цяпер нічога зрабіць з Людкай, адыграцца на Сяргею. А іменна прыдзірліва сачыць у панядзелак за памянёным эпізодам спектакля і, калі зноў згледзіць якое самавольства з Пугачовага боку, даць яму прачуханца на ўсю поўніцу, афіцыйным загадам зняць з ролі.

Бабаеўскі якраз разважаў над пятнічным выпадкам, калі ў яго кабінеце з'явіўся народны артыст Алесь Дамаронак і, як аказалася, не па справе, а з мэтай пажаліцца на свае сямейныя нягоды. Па-старэчы плаксівым, занудлівым голасам ён цалюткую гадзіну скардзіўся, што замучыла яго шалапутная дачка са сваім гуляшчым, запойным палюбоўнікам, што няма яму, Дамаронку, жыцця і хоць з дому ад гэтых людажэраў збягай… Дваццаціпяцігадовая дачка яго, аказваецца, бяспамятна закахаўшыся ў нейкага прыгажуна, кінула мужа, з якім нядаўна пражыла пяць гадоў у яго кватэры, і прывяла новага сябрука да састарэлых бацькоў. Што паробіш, давялося сяліць іх у адным з трох пакояў і, як неўзабаве высветлілася, карміць ды абслугоўваць. Бо новаяўлены палюбоўнік — тыповы альфонс, што жывіцца каханнем палкіх і бязмозглых паненак, а такой і была дачка Алеся Яўхімавіча Дамаронка. Кавалер не зарабляў ні капейкі, а тым не менш хадзіў па іх кватэры гогалем, спаў да паўдня, жор ад пуза ды яшчэ ўхітраўся вечарамі дзесьці прападаць і з'яўляцца п'яным. Ад чаго ў іхняй кватэры праз дзень адбываліся скандалы, якія наладжвала свайму сужыцелю раўнівая сяброўка — дачка Алеся Яўхімавіча…

Усё гэта, раз-пораз смаркаючыся ў нячыстую насоўку, надрыўна расказваў Бабаеўскаму няшчасны бацька. Аркадзь Рыгоравіч хмура падтакваў, гаварыў няскладныя спачувальныя словы і з яўным нецярпеннем пазіраў на гадзіннік. Нарэшце дырэктар змогся цярпець слязлівыя нараканні старога і, папрасіўшы прабачэння, сказаў, што яму трэба схадзіць да дэкаратараў. З кабінета яны выйшлі разам. Да дэкаратараў Бабаеўскі не пайшоў, а счакаўшы, пакуль дакучлівы Дамаронак збочыць на лесвіцу, подбегам вярнуўся назад і зачыніўся на ключ.

Аднак не паспеў Бабаеўскі сабрацца з думкамі, як знізу патэлефанавалі і далажылі, што яго прыёму дамагаецца Генадзь Халапук — драматург, які з незапомных часоў супрацоўнічае з тэатрам. Прыйшлося прыняць, выслухаць.

Сямідзесяцігадовы Генадзь Пятровіч прыйшоў даведацца, ці чытаў галоўны рэжысёр яго п'есу, пачуць канчатковы вердыкт. Калісьці, гадоў дваццаць таму, п'есы Генадзя Пятровіча з поспехам ішлі на сцэнах рэспублікі. Халапук быў тады дужа папулярны. Але з цягам часу, як пабляк і зблажэў колісь высокі прыгажун Генадзь Пятровіч, гэтак жа пабляклі і паступовa страцілі мастацкія вартасці яго творы. Усё цяжэй станавілася прабіваць іх на сцэну Халапуку, усё больш супраціўляліся і крывіліся рэжысёры, часцей прасілі дарабіць ці наогул перайначыць некаторыя эпізоды. Дапамагала слыннае імя драматурга. Але і яно не выратоўвала гаротнага Генадзя Пятровіча апошнія пяць гадоў, цягам якіх ён здолеў прапіхнуць у сталіцы толькі адну

п'есу, дый тая пратрымалася на сцэне нядоўга. Халапук, які прызвычаіўся жыць раскошна і прывучыў да таго дзве свае сям'і са шматлікімі дзецьмі і ўнукамі, балюча перажываў гэты факт. З зайздросным юначым імпэтам ён працягваў асаджваць тэатры сталіцы ў спадзеве быць зразуметым, пастаўленым і зноў праслаўленым, як ён прывык. Ён даводзіў сабе, што гэта часовыя няўдачы, што ён перажыве творчы крызіс, і тады... Нібы забываўся Генадзь Пятровіч, што не трыццаць, не сорак і нават не пяцьдзесят яму гадоў, а ўсе семдзесят, і што гэта не творчы крызіс зусім, а неадхільная, балесная і бурклівая старасць. Ён безнадзейна адстаў ад сучаснасці, жыў застарэлымі хімерамі і догмамі і не толькі не хацеў, а папросту не мог успрымаць цяперашняе феерычнае жыццё такім, якое яно ёсць. А публіка, што прагнула новага і незвычайнага, не магла ўспрымаць яго п'есы, нават калі б яны былі паспяхова пастаўлены. Але п'есы, можа, на карысць састарэламу драматургу, ніхто не ставіў, тым самым міжволі захоўваючы яму добрае імя. Чаго ніяк не хацеў зразумець Генадзь Пятровіч, які з надыходам творчага старэння не страціў ахвоты пісаць і, што самае прыкрае, прапаноўваць свае творы ў тэатры.

Вось і зараз ён ставіў у няёмкае становішча Бабаеўскага сваім прыходам, змушаў таго крывадушнічаць і падбіраць гладзенькія, някрыўдныя фразы, каб пераканаць упартага драматурга прапанаваць сваю п'есу ў іншы тэатр. Хаця ведаў Аркадзь Рыгоравіч, што калі і возьмуць гэты твор для пастаноўкі, то ніяк не ў сталіцы, а ў нейкім правінцыйным тэатрыку. Ганарары ж там такія, што Халапуку не тое што на шматлікіх сыноў, дачок і ўнукаў — сабе на кефір не хопіць.

Яшчэ два тыдні таму, калі Генадзь Пятровіч урачыста і адначасова з ліслівым выразам твару ўручыў Бабаеўскаму рукапіс, той, мякка кажучы, не ўзрадаваўся. Калі ж прачытаў першыя пяць старонак, то ўжо быў адназначна ўпэўнены, што п'еса не пойдзе ні ў якім разе. Але, зважаючы на слыннае імя драматурга, ён мусіў прагледзець п'есу ўсю, хоць у кожным абзацы так і карцела закрычаць станіслаўскае «не веру!»

Гэта быў зацёрты, заезджаны сюжэт сямідзесятых гадоў, гэта была ненатуральная, прыгладжаная і прылагоджаная мёртвая мова. Каротка: у добрапрыстойнай сям'і расце сын, які насміхаецца з бацькоўскай старамоднасці, адстойвае свабоду мыслення, паводзінаў і кахання; у выніку ён знюхваецца з дрэннай кампаніяй, прызвычайваецца да алкаголю і гідкіх дзевак і трапляе ў турму за рабунак; кульмінацыяй аўтар лічыць сцэну ў судзе, дзе бацька бярэ слова, чытае мараль свайму сыну і ледзьве не адракаецца ад яго. Бацька ў прамове не па-хрысціянску злосны і непрыхільны, настолькі не адпавядае свайму ж, выведзенаму папярэдне, характару, што збянтэжыў бы нават цяперашнюю, звыклую да любых паваротаў публіку і дакладна б праваліў п'есу... каб яна і была пастаўлена. Але ставіць яе Аркадзь Рыгоравіч не збіраўся і не менш гадзіны пераконваў Халапука паспрабаваць яе аднесці... і называў шэраг сталічных рэжысёраў, якім, ён упэўнены, п'еса спадабаецца. На пытанне засмучанага і пакрыўджанага Генадзя Пятровіча, чаму не бярэцца за пастаноўку сам Бабаеўскі, Рыгоравіч пачынаў расплывістыя разважанні пра загрузку матэрыялам, пра дзікунскія густы сучаснай публікі, пра кепскі продаж білетаў.

Але і адправіўшы Халапука, не займеў дырэктар тэатра «Кіцеж» спакою. Літаральна праз дзесяць хвілін раздаўся тэлефонны званок ад

Барыса Дымшыца, прадзюсера серыяла, у якім збіралася здымацца Таня Зарэмба. Звесткі ад Дымшыца былі сумныя: адзін вераломны спонсар у апошні момант адмовіўся ад свайго саўдзелу ў здымках, і яны пераносяцца з канца студзеня на няпэўны тэрмін. Прычым аб'явіў пра гэты зрыў Барыс нейкім несур'ёзным, гуллівым тонам, што асабліва раззлавала Бабаеўскага.

Аркадзь Рыгоравіч доўга думаў, як мякчэй паведаміць Тані непрыемную навіну, аднак не прыдумаў нічога лепшага, як заявіцца ў яе грымёрку перад спектаклем. Раз'юшаная зрывам здымак палюбоўніца нагаварыла яму процьму несправядлівых і абразлівых слоў. Выгнала вон.

Засмучаны Бабаеўскі наважыўся выйсці ў блізкі сквер, каб супакоіцца на свежым паветры.

Але ў скверы Бабаеўскі напаткаў знаёмага крытыка, які захлёбваючыся, назойліва стаў распавядаць пра новую пастаноўку ў суседнім драмтэатры, на якой ён учора быў. Крытык занадта хваліў галоўнага рэжысёра спектакля, не ведаючы, што Аркадзь Рыгоравіч яго недалюблівае і крыху раўнуе да славы і паспяховасці.

Аднак у свой кабінет Аркадзь Рыгоравіч вярнуўся расчырванелы ад студзеньскага марозіку, з нармалізаваным дыханнем і пульсам.

## 17

З прычыны слабага слыху Яніна Пятроўна не пачула, як адчыняліся ўваходныя дзверы. Пазнала яна ўжо крокі па калідоры: у пакой увайшоў Кастусь, малады чалавек дваццаці сямі гадоў, прыходу якога састарэлая гаспадыня даўно чакала.

— Добры дзень, паважаная Яніна Пятроўна. — Госць падышоў да бабулькі, галантна ўзяў яе руку і, нахіліўшыся, пацалаваў.

— Холадна? — гаспадыня сядзела на канапе і пазірала на маладога чалавека знізу ўверх.

— Не холадна, Яніна Пятроўна, — звонкім, жыццярадасным голасам прамовіў Кастусь. — Самы лёгкі марозік. Затое які снег, які снег!

— І я вось сяджу ды ў акно дзіўлюся. Такога снегападу яшчэ не было гэтай зімою...

— Так, не было... Гэта вам. — Госць дастаў са скуранай сумкі, што трымаў у руках, кіпу газет і працягнуў бабульцы. — І гэта таксама вам. — Ён выняў празрысты пакет з мандарынамі.

— Ой, Косця, я ж вас прасіла не бянтэжыць мяне падарункамі, — з дакорлівай удзячнасцю паглядзела на хлопца Яніна Пятроўна. — Зусім вам не трэба на мяне трацішча...

— А я, можа, не на вас, а на сябе трачуся. — З гэтымі словамі хлопец вывудзіў з дна сумкі бутэльку сухога віна і паставіў на часопісны столік. — У мяне сёння добры настрой, вось і хачу яго з вамі раздзяліць.

— Ой... — старая разгублена пазірала на прынесеныя пачастункі. — Ну, ва ўсялякім разе ўсцешна за ваш добры настрой.

— Вось так, Яніна Пятроўна, — Кастусь выпрастаўся і дабрадушна глядзеў на гаспадыню, — сёння гуляем. Але перш папрацуй, а тады і танцуй. Я там на кухню прадукты перанёс. Пайду што-небудзь згатую, прыбяруся...

— Думаю, прыбірацца сёння не варта. Я, як магла, прыбралася, пыл выцерла.

— Ну, паглядзім, Яніна Пятроўна, паглядзім... — Малады чалавек паклаў сумку на крэсла і накіраваўся на кухню, у калідорчыку прыпыніўся і гукнуў: — Можа, вам тэлевізар уключыць, каб не нудзіліся?

— Не, Косцік, я павяжу пакуль.

Пятроўна, між іншым, другі тыдзень вязала свайму памочніку шкарпэткі. Але ён пра тое не ведаў.

Праз хвіліну хлопец ужо гаспадарыў на кухні: бразгаў пасудай, ляпаў дзвярыма халадзільніка, уключаў і выключаў вадаправодны кран.

Старая ж дастала з нішы паміж канапай і падаконнем вязанне і занурылася ў яго.

Яніне Пятроўне Мачульскай ішоў восемдзесят другі год. Яна была чалавекам хворым і адзінокім, але пражыла сумленнае, праведнае жыццё і таму магла смела глядзець у твар ужо недалёкай смерці.

Адзінота яе не пужала, таму што была спадарожніцай Мачульскай, як мінімум, палову жыцця. Жанчына да яе прывыкла. Страшна падумаць, яна ўдава шэсцьдзесят гадоў, з лета сорак першага, калі вайна разлучыла іх з мужам — маладым афіцэрам, лейтэнантам Максімам Ягоравічам Тарасенкам.

Калі ў Гродна, дзе яны жылі да вайны, уварваліся нямецкія войскі, Максім знаходзіўся ў часці, на баявым дзяжурстве. Так, яны не бачыліся з першага ж дня вайны. І ніколі больш не бачыліся... Хаця потым, за гады нямецкай акупацыі, пакрысе даведалася Яніна, што некаторыя савецкія часці здолелі адступіць, не былі дарэшты разбітыя.

Усю вайну Мачульская цешыла сябе надзеяй, што ўратаваўся яе Максім, што ваюе і б'е ворага, толькі не можа перадаць вестку праз лінію фронту. Так лягчэй было выжываць...

Аднак закончылася Вялікая Айчынная, як след запрацавалі пошта і адрасны стол, а пра мужаў лёс па-ранейшаму было ані гуку. Не аб'яўляўся ён, не шукаў сваю Яніну і, што самае страшнае, не напісаў і ў Львоў да свайго бацькі і сястры, якія ацалелі ў вайну і жылі на старым месцы...

Прайшло яшчэ пяць гадоў, і было зразумела, што Максіма няма сярод жывых. Але зразумела розуму, а не сэрцу. Сэрца па-ранейшаму было з ім, каханым маладым афіцэрам, з якім пажыла Яніна ўсяго год да вайны. Затое як пажыла! Кахалі яны адно аднаго нейкай рамантычнай, адданай, ненармальнай любоўю. Так не кахаюць цяпер.

І таму вырашыла Яніна чакаць. Чакаць свайго любага. Чакаць калі не для жывога чалавека, то хаця б дзеля яго светлай памяці. Пакуль не прыйдзе дакументальнага пацвярджэння Максімавай гібелі.

Пацвярджэнне не прыходзіла. І жыла Мачульская адна, заміраючы ад кожнага нечаканага званка ў дзверы, ад кожнага пісьма з незнаёмым адрасам, ад новага голасу па тэлефоне.

Міналі гады. Яніна пераехала ў Мінск, пасялілася на кватэры ў незамужняй цёткі, паступіла на завод. Бацькі ж яе, адно за адным, памерлі яшчэ ў сорак чацвёртым у Гродне. Цётка Ксеня засталася, па

сутнасці, адзінай яе раднёй. Пасля скону цёткі, у 1961 годзе, кватэра перайшла да Яніны, а разам з ёй — і непазбежная адзінота. У сорак два гады не выпадала знайсці сабе спадарожніка жыцця, ды Яніна і не хацела — прывыкла да ўдовінай долі, сцярпелася. Старалася гнаць ад сябе думкі пра самотную хворую старасць, занурвалася ў работу. Дарэчы, яна скончыла завочна інстытут, стала інжынерам.

Але старасць прыйшла. Прыйшла, не зважаючы на тое, што ажно дзесяць гадоў прарабіла пасля пенсіі Яніна Пятроўна. Як ні цанілі яе, а сама адчула, што ўсё — вычарпала свае магчымасці, не паспявае за часам. І сышла.

Да сямідзесяці чатырох яна трымалася малайчынаю: не губляла аптымізму, перазваньвалася і сустракалася з былымі саслужыўцамі, сяброўкамі, хлебасольна прымала гасцей. Але паступова звужалася гэтае кола. Па той простай прычыне звужалася, што сталі паміраць аднагодкі, а з імі сплывалі ў нябыт кавалкі Янінінага жыцця. Цяпер толькі ў памяці можна было іх уваскрашаць — балюча, надрыўна і шчымліва.

Асабліва ашаламіла Пятроўну, калі перастала адказваць на лісты гарадзенская сяброўка юнацтва — Тамара Хоміч. Яны цэлых паўвеку не бачыліся: хутка пасля вайны выйшла сяброўка замуж і з'ехала ў далёкі Іркуцк, там і асела; працавала, нарадзіла траіх дзяцей, мела семярых унукаў і двух праўнукаў. Пра ўсё гэта, у падрабязнасцях, ведала Яніна, бо не менш як два разы на месяц ліставалася з Тамарай. А тут — ураз абарвалася перапіска, і навалілася гнятлівая думка: няма больш Тамары. Страшна стала тады Яніне. Не ад таго страшна, што хутка самой паміраць, смерці яна не баялася, бо выхоўвалася ў сям'і строгіх каталікоў, — страшна было пачуць словы бязлітаснай праўды ад яе мужа, сыноў ці дачок. Не змагла Яніна набраць нумар іркуцкага тэлефона сяброўкі...

І стала прыхворваць Мачульская з таго часу. Не тое, каб пэўнымі хваробамі, а проста слабела, кволілася, губляла цікавасць да жыцця. Бывала, прымецца з імпэтам прыбірацца ў кватэры, а праз дзесяць хвілін замрэ з анучкай недзе перад акном і бяздумна глядзіць на вуліцу. А то кашаварыць на кухні, залетуценіцца, і перакіпіць, перасмажыцца ежа.

Раней штогод прыбірала Яніна Пятроўна навагоднюю ёлку, падзіцячаму радавалася яе прыгажосці, хоць заўсёды на адзіноце сустракала Новы год. А пасля страты сяброўкі юнацтва ўпершыню не захацелася ёй важдацца з шарамі ды гірляндамі. Проста падабрала каля крамы пару пабэрсаных яловых галінак, прынесла дамоў, паставіла ў вазу на тэлевізар і ўпрыгожыла іх ватаю. А некалькі шароў пачапіла на кніжную секцыю. Дык вось тыя шары ажно да наступнага Новага года віселі... І віселі яны адны, у апусцелай цёмнай кватэры, таму што патрапіла гаспадыня ў бальніцу.

На пачатку студзеня разбіў Яніну Пятроўну паралюш. Надарыўся ён на досвітку, у пасцелі. Адняўся язык, занямела цела — і ні крыкнуць, ні дапаўзці да тэлефона яна не магла. Толькі малітвы чытала нерухомая бабулька. Не жыцця прасіла, а лёгкае смертухны. Пачуў Яніну Бог, аднак вызначыў жыць і пакутаваць. Апоўдні пазваніла ў дзверы суседка па нейкай патрэбе, насцярожылася, што адказу няма. Вярнулася праз некаторы час, яшчэ пазваніла-пастукала. А праз

гадзіну ўжо ламалі дзверы сантэхнік з міліцыянтам... Яшчэ б трошкі, казалі потым у клініцы, — ляжаць бы Яніне Пятроўне не на бальнічным ложку.

Хоць дыягназ быў несуцяшальны, і пераваліла хворай за семдзесят пяць, аднак пачала яна папраўляцца. Марудна, але аджывалі левая рука і нага, цалкам вярнуўся голас. Сем месяцаў пралежала ў розных месцах старая. Толькі суседка Ларыса — вонкава грубы, але надзвычай сардэчны чалавек — наведвалася. Яна ж і кошку Люсю ў сябе прытуліла. Шкада, не дачакалася састарэлая кошка гаспадыні, праз паўгода памерла. А яшчэ Ларыса адвадзіла нейкіх дзялкоў ад бабульчынай кватэры: пачалі былі шастаць па іх пад'ездзе і выпытваць пра Мачульскую быстравокія ўвішныя дзядзькі, яўна хацелі адцяпаць жылплошчу. Добра пужанула іх Ларыса міліцыяй — далі драпака.

Так што ў сярэдзіне лета вярнулася акрыялая Яніна Пятроўна ў сваю двухпакаёўку. Адчыніла акно... Бэзавыя кусты калыхаліся ад подыхаў цёплага ветру, дзірван пярэсціў летнімі кветкамі, па нябеснай сінечы паважна плавалі бела-ружовыя аблачынкі. У грудзі лілося жыццё.

Але разам з тым разумела Мачульская, што цяпер давядзецца глядзець на гэтую раскошу пераважна праз аконныя шыбы. Не спусціцца ёй ужо са свайго трэцяга паверха па стромкіх сходах. І тым больш — не падняцца.

Летам яна пакутавала ад спёкі і духаты. Канец верасня і кастрычнік, пакуль не ўключаць ацяпленне, мерзла, прастуджвалася, хварэла. Кароткімі зімовымі днямі старая ўладкоўвалася ў крэсле перад акном, захутвала ногі шалем і падоўгу назірала, як гарэзуе дзятва на лыжах, санках, вае ў хакей, снежкі, будуе крэпасці. Снежныя зімы былі для Пятроўны любімай парою. Тады яна цэлымі днямі не ўключала тэлевізар, не слухала радыё, не чытала газет і кніг, а проста любавалася дзецьмі, радавалася іх непасрэднасці і жыццялюбству.

Восень і лета, наадварот, былі для Яніны Пятроўны сумнай парой. Таму што ў восеньскую непагадзь дзеці гулялі менш і не так захаплявльна, як узімку, — пераважна бухалі мячамі па сценах ці ганяліся адно за адным з цацачнымі аўтаматамі і пісталетамі... Пятроўна не выносіла вайны, нават несапраўднай.

Летам, асабліва ў ліпені і жніўні, двор пусцеў, цішэў, зарастаў травою — дзеці раз'язджаліся па лецішчах, і толькі птушкі несупынна шчабяталі пад вокнамі. Гэтыя памысныя трэлі зрэдчас перарываліся зыкамі якой-небудзь маладой п'янай кампаніі; часам маладзёны бушавалі да ранку, перашкаджаючы спаць. Назаўтра балела галава і нядужылася.

У кватэры было мала кніг. Да пенсіі не прызвычаілася Яніна чытаць — усё работа, грамадская нагрузка, дачыненні з жывымі людзьмі, якія нашмат цікавейшыя за кніжных герояў.

Аднак, апынуўшыся ў вакууме адзіноты, яшчэ да хваробы, прагна схапілася Пятроўна за нешматлікія томікі на паліцах, перачытала ўсё за некалькі месяцаў. Купляць новыя кнігі не дазваляла пенсія, запісацца ж у бібліятэку яна пасаромелася: зайшла і пабаялася, што будуць з яе кпіць маладыя адукаваныя бібліятэкаркі; так і выйшла ні з чым.

Выпісала газету. Чытала і не разумела, што здарылася з чалавецтвам. Рэчы, пра якія раней было не толькі недапушчальна, а і сорамна расказваць нават законнаму мужу, цяпер сталі выстаўляцца напаказ мільёнам людзей. Каб тыя радаваліся, напрыклад, што нейкая знакамітая багатая асоба купіла сабе мужа, маладзейшага за яе на пятнаццаць гадоў ці набыла чарговую сядзібу ў экзатычнай краіне.

Тэлевізар дык проста пужаў бедную бабульку. Канешне ж, — не сам тэлевізар, не гэты дапатопны чорна-белы «Гарызонт» з барабанным пераключальнікам, а тое, што ў ім жыло і віхурыла. Усе да адной праграмы запоўніліся крымінальнымі зводкамі, дзе паказвалася, як лютуе «братва» ў дзяльбе савецкай маёмасці; крыклівымі сенсацыйнымі навінамі; фільмамі, дзе з асалодай секлі людзей на кавалкі, дзе праліваліся мора крыві, дзе галоўныя героі шалёна кахалі адно аднаго (каханне яны разумелі як бессаромны, цынічны секс). На змену глыбокім савецкім фільмам прыйшлі лацінаамерыканскія серыялы, што ўражвалі колькасцю пазашлюбных сувязей і любоўных трохкутнікаў; акцёры там ігралі, нібы ў заняпалым правінцыйным тэатры, — манерна, з напышлівым фальшам.

Толькі зрэдчас удавалася Яніне Пятроўне знайсці ў праграме любімыя фільмы 50—70-х гадоў, дзе ўслаўляліся дружба, рамантычнае каханне і самаахвярнасць, дзе на чалавека глядзелі не як на матэрыял, груду касцей, а як на духоўную існасць. Але нават гэтыя карціны нельга было спакойна глядзець, бо праз кожныя дзесяць хвілін яны перарываліся рэкламай трусоў, пракладак, тампонаў, шампуняў і зубных шчотак. Пры гэтым пародзістыя дзеўкі круцілі задамі, трэслі грудзьмі і валасамі, а мужыкі-атлеты дэманстравалі свае біцэпсы і здаровыя зубы.

За пяць хвілін такой рэкламы Мачульская забывалася, на якім кадры спыніўся фільм, і потым не адразу ўлучалася ў яго канву. Бо мозг пасля перанесенага інсульту працаваў замаруджана. І ледзь толькі яна засяроджвалася на любімых героях, як чарговы рэкламны блок урываўся ў яе свядомасць прарэзлівымі дэманічнымі выгукамі.

Цяжка было старой пасля хваробы перад тэлевізарам, але яшчэ цяжэй зрабілася, калі ён сапсаваўся. Выклікала майстра з атэлье. Той прыйшоў, пакалупаўся хвіліны тры і заявіў, што не зможа нічым дапамагчы. Згарэлі лямпы, якія ўжо колькі год прамысловасцю не выпускаюцца. «А што ж рабіць?» — спыталася засмучаная Пятроўна. «Сухары сушыць! — здасціпнічаў малады прыгажун і, змякчыўшыся, параіў: — Выкіньце вы, паважаная, гэтую дамавіну на сметнік. Трэцяе тысячагоддзе на носе: цяперака ўся апаратура на мікрасхемах». Задаволены сабой, выйшаў, не забыўшыся, праўда, узяць па тарыфе за выклік.

Спрабавала Яніна Пятроўна званіць у прыватныя атэлье. Там пацвердзілі, што такія дэталі не выпускаюцца, аднак гэта не значыць, што іх немагчыма дастаць. Трэба пахадзіць па радыёрынку, пашукаць. І зычліва назвалі яго месцазнаходжанне — у раёне на другім канцы горада.

Словам, пакінула старая спробы адрамантаваць свой «Гарызонт», змірылася з лёсам. Толькі пыл тры гады з яго выцірала. Слухала ж радыё — таксама старадаўняе, прыштукаванае да кухоннай сцяны яшчэ ў шасцідзесятыя гады. Уключыўшы яго на поўную гучнасць, за ры-

памі і трэскам усё ж можна было расчуць і голас дыктара, і мелодыю, і нават прагноз надвор'я.

Запомнілася Мачульскай сустрэча Новага года, калі сядзела аднаадзінюткая на кухні, піла гарбату з куском пірага (прынесла суседка) і некалькі гадзін запар слухала навагодні сімфанічны канцэрт у пярхлівым дынаміку. Нуднавата было. За апошнія гады ўсё ж прывыкла Пятроўна глядзець у гэты вечар па тэлевізары «Блакітны агеньчык» або «Карнавальную ноч» Э. Разанава... Але ж перажыла яна і вайну, і разруху і ведала, што адсутнасць тэлевізара — не самае страшнае выпрабаванне.

Па гаспадарцы дапамагалі работнікі з аддзела сацабароны. Яны ж і прадукты прыносілі з крамы. Чула Яніна Пятроўна, што бываюць сярод іх сардэчныя, спагадлівыя людзі. Ды, відаць, не пашанцавала ёй на такіх. За сем гадоў чатыры жанчыны ў яе памяняліся, і ўсе — нейкія негаваркія, бяздушныя, грэблівыя. Зробяць сваю справу — і спяшаюцца знікнуць, не хочуць пагаварыць з самотнай бабулькай. Пэўна, баяліся, што скардзіцца пачне яна, нэндзаць. А каму чужы боль патрэбны? І правільна: маладому дрэву — цвісці, а старому — чэзнуць. Відавочна было, што працавалі тыя жанчыны ў аддзеле сацабароны толькі па неабходнасці, з-за куска хлеба і што пры першай жа магчымасці гатовыя адтуль уцякаць на скрут галавы. Каб не бачыць чужых пакутаў.

Тут Пятроўна крыху памылялася. Бо як урач не можа перажываць хваробы сваіх кліентаў — інакш не зможа нармальна лячыць, гэтак і сацработнікі не выконвалі б як след сваіх абавязкаў, каб празмерна спагадалі адзінокім старым калекам. Чэхаўскі доктар, які быў гатовы заразіцца дызентэрыяй, ратуючы хворага, — выключэнне; да таго ж ён памёр...

## 18

Прайшло сем гадоў пасля інсульту. Жыццё Яніны Пятроўны Мачульскай як бы сышлося ў кропку, а час спыніўся: дні былі падобныя на дні, ночы на ночы; знешнія падзеі бурлівага свету амаль не траплялі ў яе кватэрку. Часам находзіла на старую зацьменне, і не магла яна ўспомніць, які зараз дзень, месяц і год. Тады глядзела яна ў акно і бачыла, напрыклад, як аблятае яблыневы квет. Значыць, сярэдзіна траўня... Або валіў снег, нагадваючы, што зіма ў разгары. Толькі які месяц? Снежань, студзень ці люты? Тады клыпала Пятроўна на кухню, сядала пад старэнькае радыё, якое ніколі, дарэчы, не выключалася. І слухала, слухала, слухала, пакуль не назаве нехта з дыктараў год, месяц і дзень...

Адна засталася ўцеха ў Яніны Мачульскай — разглядаць фотаальбом. З пажоўклых нягеглых здымкаў пазіралі на яе любыя твары мамы, таты, усміхаўся ў малайцаватыя вусы высокі лейтэнант — муж Максім. Былі тут і пазнейшыя фотаздымкі — пасляваенны Мінск у руінах; а вось Яніна перад Вечным агнём на плошчы Перамогі; а гэта лагоднае мора пад скаламі — Ялта... у пеністых хвалях па пояс — Яніна з сяброўкамі; вось яна на банкеце ў гонар свайго пяцідзесяцігоддзя... Усё, з таго часу не фатаграфавалася больш Мачульская. Хацела застацца ў гісторыі маладой і прыгожай. Хаця... хто будзе тыя карткі разглядаць?

Паўгода таму, улетку, пачула па тэлефоне Яніна Пятроўна незнаёмы малады голас, які прадставіўся служыцелем Дома міласэрнасці прыхода, назву якога яна не запомніла, і прапанаваў сваю дапамогу. Здзівілася ціхмяная бабулька: адкуль ён пра яе даведаўся? Адказаў, што іх Дом збірае інфармацыю пра хворых адзінокіх людзей, каб падтрымліваць іх, — гэта адна з ягоных задач. Голас быў такі прыемны, што Пятроўна, якая хоць і зняверылася ў дапамозе, не магла ўсумніцца ў шчырасці маладога чалавека.

Вечарам ён завітаў да яе. Назваўся проста Кастусём. «А як па бацьку?» — пацікавілася Мачульская. «Я сірата. Выхоўваўся ў дзетдоме. Так што называйце мяне проста Косцем». — І абаяльна ўсміхнуўся. На выгляд яму было гадоў дваццаць сем. Сярэдняга росту, светлавалосы, з добрымі блакітнымі вачыма.

Увесь вечар Кастусь захоплена распавядаў пра свой прыход, пра тое, з якімі цяжкасцямі яны будавалі Дом міласэрнасці, якая гэта небывалая па сваёй задуме ўстанова і як яна цяпер хараша дапаможа абнядоленым людзям. Хваліў айца Аляксандра, мудрага, высокадухоўнага і адначасова дзелавітага чалавека, які здолеў звярнуць увагу дзяржавы на свой аб'ект і дамагчыся нармальнага фінансавання будаўніцтва.

Распытваў і пра Яніну Пятроўну. З яўнай цікавасцю слухаў яе аповеды пра вайну, пра мужа, — пра ўсё тое, што было для яе набалелым і запаветным. Пайшоў Кастусь у той вечар позна. А назаўтра, гадзін у дзесяць, з'явіўся зноў і распачаў грунтоўнае прыбіранне кватэры. За тыдзень навёў узорны парадак, занёс у пральню кучу бялізны, адрамантаваў тэлевізар, напоўніў халадзільнік такімі прадуктамі, пра існаванне якіх Мачульская толькі здагадвалася. «Не хвалюйцеся, гэта па гуманітарнай дапамозе, — адказваў на яе незразумелыя пытанні малады чалавек. — Наш дом замежныя пасылкі атрымлівае».

А галоўнае, Кастусь аказаўся ці не першым за апошнія гады, хто паставіўся да хворай Яніны Пятроўны з душою, хто з ёй па-людску размаўляў, хто бачыў у ёй не інваліда, а чалавека. Прыходзіў ён два-тры разы на тыдзень, тэлефанаваў штодня, даведваўся пра настрой і здароўе. Хлопец як бы ўдыхнуў жыццё ў кватэру Мачульскай. Рэчы і прадметы побыту, якія яна лічыла старызнай і хламам, цяпер ажылі і зноўку вабілі да сябе. Пятроўна садзілася перад трумо і падоўгу разглядала бацькавы попельніцу і трубку, пасля вайны перавезеныя з Гродна, раскрывала старую мудрагелістую шкатулку, даставала адтуль танныя каралі і пярсцёнкі, чысціла іх шаўковай хусткай, любавалася бляскам, які набываюць пасля гэтага метал і каменьчыкі. У адной з каробачак адшукала старэнькі медальён з выцвілай фотакарткай і раптам страпянулася: пекная светлавалосая дзяўчына, што глядзела на Пятроўну скрозь шматгадовы пыл, была яе мама! Гадоў трыццаць, як забылася Яніна на гэты медальёнчык, так ён і ляжаў сярод гузікаў, караляў і завушніц. Дрыготкімі рукамі паднесла бабулька яго да вуснаў, пацалавала, расплакалася і на некаторы час стала яна маленькай… маленькай дзяўчынкай Янінaчкай, якая так любіла сядзець у матулі на каленях, туліцца да мяккіх грудзей, слухаць лагодны голас. І, як ніколі, адчула тады Пятроўна, што не паміраюць любімыя людзі, заўжды яны сярод нас: з кожнай драбнюткай рэчы, з люстэрак, з нябеснай сінізны і прымятай травінкі глядзяць на нас іхнія вочы…

— Яніна Пятроўна, — перарваў бабульчыны роздумы Кастусь, які стаяў перад ёй са швабрай у руках. — Вы мяне проста крыўдзіце.

— Я? — здзівілася Мачульская.

— Я ж прасіў вас не мыць у ванне свае рэчы. Вам жа нельга згінацца пасля інсульту, каб кроў да галавы не прылівала. А вы…

— Ну, Косценька, — сумелася Пятроўна, — не хапала, каб вы маёй бялізнай займаліся. Да таго ж я ў ракавіне мыю, а над ёй згінацца не трэба…

— Яніна Пятроўна, — з сур'ёзным дакорам зірнуў на яе хлопец. — Я вас прашу, каб гэтага больш не было. Мне нават невыносна такую гаворку слухаць.

— А вы думаеце, як я жыла ўсе сем гадоў, пакуль з вамі не пазнаёмілася? Усё па кватэры сваімі рукамі рабіла. Мне толькі прадукты прыносілі ды пыласосілі раз на месяц. А я ж тады куды слабейшая была, чым цяпер.

— Што яны там рабілі, то Бог ім суддзя. А я адказваю за сябе і за вас. І таму настойліва прашу вас не выконваць цяжкую працу. — Кастусь укленчыў і шураваў швабрай пад канапай.

— Дык што ж мне сесці і чакаць скону? — пакрыўдзілася старая. — Нерухомасць у маім стане яшчэ страшнейшая…

— А ніхто вам і не кажа не рухацца. Але ж — разумна, у меру, адпаведна сваім магчымасцям. Вы ж падумайце, калі з вамі што здарыцца, як мне потым жыць на зямлі. — Ён падняўся і сур'ёзна паглядзеў на Пятроўну. — Напрыклад, пражыву я яшчэ паўвеку, а ўсё буду думаць, што па маёй віне вы… Гэх! — узмахнуў ён рукой. — Нават і гаварыць пра гэта не хочацца.

— Дык мне ж усё адно паміраць. І хутка.

— Усім паміраць, мілая мая Пятроўна. А хутка — не хутка пра тое Бог ведае. Пра тое маўчаць трэба. Як кажа наш айцец Аляксандр: дзякуй сённяшняму дню, а думай пра вечнае. Жыві, кажа ён, так, быццам зусім не памрэш, бо з Хрыстом у душы не паміраюць ніколі.

Крыху памаўчалі.

— Глядзі ты, як завея разбушавалася, — кіўнуўшы на акно, сказала гаспадыня.

Кастусь адставіў швабру і падышоў да падаконня. Упёрся лбом у шыбу.

Нібы жывая істота, шчыравала на двары завіруха. Раі сняжынак лятали-кідаліся ў розныя бакі: то на яблыні, то на тэлефонную будку, шыбы. Людзі ішлі, тулячы галовы ў плечы, некаторыя паднімалі каўняры. Было толькі а дванаццатай дня, але з-за снегавых хмар сцямнела, як адвячоркам.

— Прыгожа ўсё гэта глядзіцца з-за шыбаў, — задумённа прамовіў хлопец. — Але на двары не вельмі ўтульна: вецер, калючы снег… Калі я ішоў, не было яшчэ такога моцнага ветру.

— А па мне, дык хоць самы люты мароз — усё адно на вуліцы лепей. Я ўжо забылася нават, як снег рыпіць і чым зіма пахне. — Пятроўна з замілаваннем глядзела ў акно: скрозь снежную завесу ледзь праступаў абрыс суседняга дома.

— Каб я, Яніна Пятроўна, за вас не баяўся, даўно б на двор вывеў. Але гэта лепей па цёплым часе рабіць. Як апранеце на сябе зімовую

вопратку — адразу ж на сэрца нагрузка. Спусціцца мы яшчэ спусцімся, а вось угору…

— Ды ладна, — усміхнулася Мачульская. — Гэта я проста да слова. Ведаеце, калі невылазна дома сядзіш, то звыкаешся неяк і падчас ловіш сябе на думцы, што ці то не хочаш, ці то пабойваешся адкрытай прасторы.

— Усё, Яніна Пятроўна, вырашылі, — ажывіўся хлопец, — як пацяплее, будзем на двор выбірацца: да птушак, да кветак, да ласкавага ветрыку…

Абое на хвіліну прымоўклі, і было чуваць, як стукаецца ў шыбу завея.

— А ўсё ж няма для мяне нічога вабнейшага за зіму, — прамовіла старая. — Гэта як іншы свет, чараўніцтва. Праўда, цяпер зімы зусім не такія, як калісь. У дзяцінстве, памятаю, на нашай вуліцы сумёты платы завальвалі… Што ты!

— І я вельмі люблю зіму, Пятроўна. Марозную, снежную… Асабліва, калі сонца па свежых гурбах гуляе. Тады — на лыжы і ў лес. І каб абавязкова адзін… А бывае, проста сяджу дома, як мы зараз, і на снегапад любуюся. Тады ўзгадваюцца любімыя вершы. Напрыклад, такі:

Снег идет, снег идет,
Снег идет, и все в смятенье:
Убеленный пешеход,
Удивленные растенья,
Перекрестка поворот.

— Нешта знаёмае, — задумалася Пятроўна і запытальна зірнула на Кастуся: — Гэта ж песня такая ёсць?

— Ёсць і песня. А верш гэты — Барыса Пастарнака, — адказаў суразмоўнік. — Няма паэта, які б танчэй і выразней зіму разумеў, чым ён. У яго нібы сама душа са снегу народжана. Хіба гэта не цуд! Жыві ды не памірай пасля такіх вершаў, — працягваў хлопец. — Гэх, Яніна Пятроўна, а давайце зараз з вамі вып’ем за тое, — ён узяў са стала бутэльку, — каб адно любаваліся мы на зіму, а не мерзлі, каб грэліся мы на сонцы, а не пакутавалі ад спёкі, каб дажджы наталялі зямлю, а не выклікалі паводкі ды няўроды. І каб чалавек, у сваю чаргу, не брыдзіў сваёй хцівасцю навакольнае хараство, каб не труціў ён рэкі і азёры, каб бярог паветра і глебу ад розных адкідаў цывілізацыі…

— Ну, за гэта варта выпіць, — падтрымала старая.

Хлопец пайшоў на кухню і вярнуўся з двума фужэрамі і штопарам.

— Мне толькі трошачкі, — папярэдзіла Пятроўна.

— Само сабой, — кіўнуў Кастусь і наліў ёй чвэрць фужэра. — Вось так самы раз будзе… Гэта «Алігатэ» — бяскрыўднае белае віно. — Ён напоўніў свой келіх. — За прыгажосць, Яніна Пятроўна, і за дабрыню чалавечую.

Асцярожна чокнуліся, выпілі.

— Паслухайце, Косця, — пасля паўзы спыталася бабулька. — Можна вам задаць адно далікатнае пытанне?

— Думаю, можна.

— Вось вам гадоў… дваццаць сем…

— Дваццаць восем, — удакладніў Кастусь.

— Тым болей, — працягвала Пятроўна. — Хлопец вы сімпатычны, добры... Але нежанаты. Калі не сакрэт, ёсць у вас каханая дзяўчына?

— Няма, — з чыстасардэчнай прастатой адказаў малады чалавек.

— Чаму? Не шукалі?

— Ведаеце, Яніна Пятроўна, я не адчуваю, што народжаны для сямейнага жыцця.

— Як так? — здзівілася старая.

— Як кажа наш айцец Аляксандр, кожны чалавек павінен прыслухоўвацца да свайго ўнутранага голасу і ў пэўны час вызначыць, для чаго ён жыве. Калі гэтага па розных прычынах не адбываецца, то Бог пасылае нам выпрабаванні... А калі чалавек глухі і ўпарта не хоча жыць сваім жыццём, можа надарыцца катастрофа... Я не ведаю яшчэ, Яніна Пятроўна, свайго покліча, але прадчуваю, што шлях мой будзе нялёгкі і пакручасты. Можа, у рэшце рэшт прывядзе ён мяне ў манастыр... Ва ўсякім разе, наўрад ці калі-небудзь я ажанюся.

— Нейкія вы дзіўныя рэчы, Косця, гаворыце. Вось жа перад вамі прыклад чалавечай адзіноты сядзіць. Думаеце, я ад таго шчаслівая?

— Вам жыццё вайна паламала, Яніна Пятроўна. А шлях вы абралі правільны. Для вас ён — замужжа, дзеці... Што яны не нарадзіліся, не ваша віна. Затое вы захавалі вернасць памяці героя. Бог ведае пра вашу ахвяру і пра вас не забудзецца. — Ён крыху памаўчаў. — У мяне ж іншы выпадак. Я паважаю жанчын, мне, канешне ж, падабаюцца дзяўчаты, але пакахаць не магу, бо каханне — гэта страсць, а страсць для мяне — згуба. Захварэўшы на каханне, я не змагу выканаць тое, дзеля чаго народжаны, хоць — як гэта ні смешна — яшчэ не ведаю, дзеля чаго. Няма большых эгаістаў, чым закаханыя.

— Але ж... Як жа... — з недаўменнем пачала старая, ды не знайшла слоў.

— Даруйце, Яніна Пятроўна, — зірнуў на яе Кастусь, — што ўстурбаваў вашу душу... Даруйце.

Неўзабаве размова скіравала ў іншае рэчышча, Кастусь выпіў яшчэ віна, павесялеў, цытаваў зімовыя вершы Пушкіна, якіх ведаў неверагодную колькасць. Ажывілася і Яніна Пятроўна.

Пайшоў госць за поўдзень, калі крыху ўлеглася завіруха. Перад адыходам уключыў тэлевізар і настроіў яго на нейкую забаўляльную перадачу.

## 19

Яшчэ чатыры гады таму гэта была самая звычайная сям'я. Можна нават сказаць, што добрая. Лявон Міхайлавіч Стрэчань любіў жонку і дачку, жыў хатнімі клопатамі. І Свету, адзінае дзіця ў сям'і, найбольш песціў якраз бацька. Мама была стражэйшая. Міхайлавіч жа і нявывучаныя ўрокі, і двойкі дачцэ дароўваў і па два разы на тыдзень вадзіў у кіно на новыя фільмы. Зімой браў з сабой на лыжы ў лес, а з шасці гадоў навучыў Свету катацца на каньках. І хадзілі яны ўзімку кожныя выхадныя ў парк Горкага на адкрыты каток. Вярталіся румяныя і жыццярадасныя, з зайздросным апетытам. Ад сталых заняткаў фізкультурай і спортам у Светы быў заўжды добры настрой, яна ніколі нічым не хварэла.

Летам жа яны ехалі на месяц у Крым, на Каўказ ці на азёры Беларусі, у дамы адпачынку. Ужо там і плавалі ўволю, і па гарах лазілі… У верасні аднакласнікі заўсёды дзівіліся Свецінаму шакаладнаму загару, заслухоўваліся ейнымі расповедамі пра адпачынак у мясцінах далёкіх і незнаёмых. Дарэчы, Лявон Міхайлавіч кожнае лета вёз сям'ю на новае месца — цярпець не мог аднастайнасці. А таму і ў Батумі пабывалі яны, і ў Сочы, Ялце, Еўпаторыі.

Так, добрая гэта была сям'я. І гарнуліся да яе людзі: на святы іх дом поўніўся цікавымі гасцямі. Часта хадзілі ў госці і бацькі, нярэдка і дачку з сабой бралі. А там — дзеці, захапляльныя гульні, весялосць, радасць…

Вядома, як у кожнай сям'і, надараліся і канфлікты паміж бацькамі, непаразуменні. Але неяк не памятае Святлана, каб даходзіла гэта да слёз, лямату і праклёнаў, не прыгадае, каб у знак непрыхільнасці не размаўлялі паміж сабой Лявон Міхайлавіч з Нэляй Аляксандраўнай. Не, мірыліся яны хутка, таму што незлапомнымі, добрымі былі людзьмі.

Маці ўсё жыццё працавала настаўніцай геаграфіі, бацька — у канструктарскім бюро на заводзе, у сорак тры гады дaслужыўся да начальніка аддзела, зарабляў няблага і ні ў чым не адмаўляў любімай дачце. Апранута была Света заўсёды гожа, модна. У халадзільніку нават у пакутныя часіны развалу імперыі не пераводзіліся якасныя прадукты. Але не гэта было галоўнае. Значна важней — бацькавы ўвага, памяркоўнасць, лагода і ласка. Аж да дванаццаці гадоў усаджвалася Света вечарамі да яго на калені, шаптала на вуха розныя глупствы, і абое радасна, блазнавата смяяліся…

Але аднойчы ўвосень, чатыры гады таму, прыйшоў Лявон Міхайлавіч дамоў надзвычай узрушаны і, жэстыкулюючы, расказваў за вячэрай пра нейкіх вернікаў, якія выступалі ў клубе іхняга прадпрыемства. Паколькі Святлане было тады толькі шаснаццаць гадоў і ў галаве віравалі праблемы далёка не рэлігійныя, то не запомнілася ёй, пра якую менавіта хрысціянскую секту ішла гаворка. Аднак ужо тады з трывогай заўважыла назіральная дзяўчына нязвычны, нейкі апантаны бляск у вачах Лявона Міхайлавіча. Яна нават прыраўнавала бацьку да тых сектантаў, бо надта ўжо палка, узахлёб, расказваў ён пра іх мудрыя прамовы, пра іх любасць да бліжняга, прастату і даступнасць. Помніцца, узгадваў праваслаўных святароў, бэсціў іх за пыхлівасць, за аддаленасць ад народа, за сквапнасць. Ды зноў прымаўся хваліць, спрачаючыся з мамай, прапаведнікаў, што выступалі сёння ў іхнім клубе, — якія яны малайцы. Сказаў, што ўзяў адрас іх прыхода і абавязкова пойдзе ў нядзелю на сустрэчу з тымі цікавымі, высокадухоўнымі людзьмі. Потым вышмаргнуў з дыпламата кіпу каляровых, добра выдадзеных буклетаў, брашур, часопісаў. Расклаў іх на стале і да ночы любаваўся карцінкамі на евангельскія сюжэты, зачытваў услых некаторыя прамудрыя месцы з артыкулаў.

Свеце напачатку гэта было цікава, яна таксама разглядвала каляровыя малюнкі. Асабліва падабаліся анёлы з ажурнымі крылцамі, якія сядзелі на ружаватых аблоках. Потым, праўда, ёй патэлефанаваў аднакласнік, і дзяўчына, адасобіўшыся ў спальні, хутка забылася за гуллівай балбатнёй і на буклеты, і на бацькаў дзіўны аповед пра нейкіх там вернікаў.

Але ў нядзелю Лявон Міхайлавіч дбайна пагаліўся, прыняў ванну, спырснуўся адэкалонам, апрануў парадны касцюм і накіраваўся ў далёкі канец горада, дзе ў нейкай школе арандавала памяшканне тая рэлігійная суполка. Клікаў туды і жонку, але яна спаслалася на галаўны боль.

З таго часу стаў Міхайлавіч наведваць памянёныя сходы па два разы на тыдзень. Прыходзіў адтуль нейкі прасветлены, незямны, падоўгу дзяліўся з Нэляй Аляксандраўнай сваімі ўражаннямі ад гэтых мерапрыемстваў. Спрабаваў навязацца з расповедамі і дачцэ, але тая, інтуітыўна адчуўшы нядобрае, пад рознымі прычынамі ўхілялася: то ўрокі трэба дарабіць, то пазваніць камусьці, то фільм цікавы па тэлевізары…

Праз тры тыдні, у суботу, раздаўся ў іхняй кватэры неспадзяваны званок. Калі Святлана адчыніла, то спужалася: перад ёй стаялі два самавітага выгляду дзядзькі і пыталіся на ламанай мове, ці дома Лявон Міхайлавіч. Былі яны белавалосыя, белатварыя, вельмі ахайныя і прыветлівыя. Распранаючыся ў пярэдняй перад усхваляваным бацькам і яго дачкою, дзякавалі ды прасілі прабачэння за прынесеныя невыгоды. Неўзабаве яны адасобіліся з Лявонам Міхайлавічам у зале і завялі гутарку, якая доўжылася не менш за дзве гадзіны. Бубнёж іх роўных, добра пастаўленых галасоў, што напачатку выклікаў цікаўнасць у Светы, праз гадзіну стаў дзейнічаць на яе самым гнятлівым чынам. Нібы паклаў нехта яе галаву на кувадла і мерна біў молатам. Праз шчыльна зачыненыя дзверы залы даносіліся адно нізкія частоты: «Бу-бу-бу, бу-бу-бу…» — бясконца!

Як потым высветлілася, гэта прыходзілі амерыканскія місіянеры, заснавальнікі філіяла іхняй секты ў Мінску — Біл і Джэк. Гэтыя «слаўныя хлопцы», як называў іх Лявон Міхайлавіч, завіталі да яго з мэтай праводзіць падрыхтоўчыя гутаркі, пасля якіх ён, бацька, будзе рэкамендаваны для ўступлення ў іхнюю суполку.

Пачуўшы гэта, маці схапілася за галаву, а дачка падумала, ці не сніцца ёй усё гэта. Не, не снілася. Гэтым вечарам, першы раз за жыццё, Нэля Аляксандраўна, змогшыся пераканаць мужа адумацца, сур'ёзна пасварылася з ім і начавала ў пакоі ў дачкі.

Але гэта, як паказалі далейшыя падзеі, былі толькі кветачкі. Наведванні місіянераў сталіся рэгулярныя і ўсё болей працяглыя. А ў тыя вечары, калі Лявон Міхайлавіч не гутарыў з імі, то прападаў у малельным доме.

У снежні, пасля іспыту, яго прынялі ў секту, пра што бацька з гонарам паведаміў дамашнім. А заадно і аб'явіў, што Біл і Джэк ужо не будуць хадзіць да яго з пропаведзямі, бо ён сам цяпер прапаведнік ніжэйшага рангу і сам павінен далучаць да іх праведнай веры аблудныя душы. Цяпер ужо ён будзе, на пару з нейкім Сымонам Францавічам, хадзіць па дамах і гутарыць з кандыдатамі на ўступленне.

У хуткім часе бацька выступіў з паўгадзінным зваротам да дачкі і жонкі, дзе абвяшчалася, што ад гэтага часу ён мусіць парваць усялякія дачыненні з ранейшымі сябрамі-прыяцелямі, паколькі яны вядуць грахоўны лад жыцця, у прыватнасці — спажываюць алкагольныя напоі, што катэгарычна забаронена іхняй верай. Гэта раз. Другім, і самым страшным, было тое, што Лявон Міхайлавіч давёў пра заклапочанасць кіраўніцтва секты недалучанасцю да яе Нэлі Аляксанд-

раўны і Святланы. Гэта ў іх недапушчальна, таму што ёсць такія мерапрыемствы, дзе паяўляцца без сям'і — вялікі грэх. І прапанаваў бацька дамашнім сур'ёзна задумацца над гэтым пытаннем. Тэрміну ён дае ім месяц.

І літаральна праз дзень адбылося здарэнне, якое проста шакіравала няшчасную Свету.

У суботу, па абедзе, яна, мама і Лявон Міхайлавіч вярталіся з рынку. На выхадзе з метро, калі праміналі падземны пераход, бацька знячэўку аддзяліўся ад іх, падскочыў да жабрака, які сядзеў ля сцяны, падабраўшы пад сябе ногі, і стаў на яго крычаць. Жабрак быў зацухмолены, варты жалю дзядзька — з брудным змарнелым тварам, закарузлымі рукамі, смярдзючы. Сыты і мажны, дагледжаны Лявон Міхайлавіч усчаў гарлаць на ўвесь пераход: лаяў дзядзьку за жабрацтва, папракаў тым, што ён — малады і здаровы — не працуе і дурыць людзям галовы. Пры гэтым трос рукамі, у якіх былі пакеты, набітыя мясам, рыбай, сырамі і садавінаю...

У Светы нібы парвалася нешта ўнутры. Яна аслупянела і з жахам вытарашчылася на бацьку. Маці ж падбегла да яго і намагалася суняць. Марна. Усё больш шалеючы ад выгляду бруднага дзядзькі, бацька роў, тупаў нагамі, а потым адмахнуўся чарговым разам ад жонкі і ўдарыў нагой па жабраковай шапцы, што ляжала доле. З яе паляцелі, закружлялі ў паветры папяровыя грошы.

Але найбольш уразіла Свету тое, што ніхто з людзей, якія знаходзіліся паблізу, не ўступіўся за няшчаснага жабрака, не асадзіў раз'юшанага Лявона Міхайлавіча. Помніцца, апанавала Святлану нездаровае жаданне, каб нейкі дужы мужык падскочыў да яе бацькі, заляпіў кулаком у твар, збіў з ног і пачаў мяцеліць нагамі. Але не аказалася такіх рашучых заступнікаў... У лепшым выпадку нехта спыняўся і з цікаўнасцю назіраў, што ж будзе далей. А большасць дык і наогул спяшалася як найхутчэй абмінуць месца канфлікту.

У роспачы пабегла Света ўверх па прыступках. Не памятае, як дамчалася да дома, як апынулася ў кватэры, дзе з ёй здарылася працяглая і моцная істэрыка. Мама, што падаспела праз пяць хвілін, выклікала «хуткую». Урач зрабіў дзяўчыне ўкол, прывёў да прытомнасці.

З таго дня маці перасялілася жыць у даччын пакой, пакінула бацьку з'язджаць з глузду на адзіноце.

Гэтае жыццё з чужаком у двухпакаёўцы было невыносным. Хоць Лявон Міхайлавіч, паглыблены ў абавязкі прапаведніка і выратавальніка душ, цяпер рэдка бавіўся дома, але калі прыходзіў, то пачынаў свае несканчоныя назойлівыя казанні пра тленнасць цела, пра бязглуздасць зямных уцех, пра сапраўдную веру ў Госпада, якую толькі і дае людзям іхняя секта.

Каб менш сустракацца з бацькам, Света на выхадныя збягала да сябровак, а ў працоўныя дні старалася не бываць дома па вечарах. Калі не было куды і з кім пайсці, то проста бяздумна і самотна блукала па горадзе. Аднойчы да яе прычапіліся два п'яныя хлопцы і ледзь не зацягнулі ў падваротню. Выратаваў нейкі дзядок з аўчаркай, што, на шчасце, праходзіў паблізу.

Але сутыкненняў з продкам пазбегнуць не ўдалося. Аднаго разу, прыйшоўшы са школы, плюхнулася Света на сваю тахту, уключыла

магнітолу і апусціла руку ў кардонную скрынку, дзе захоўваліся касеты... Скрынка была пустая. Не знайшліся касеты і ў другіх месцах пакоя. Дзяўчына спярша падумала, што, магчыма, маці кудысьці іх прыбрала. Але навошта?

І хоць Света старалася сябе супакоіць, суняць галаву іншымі думкамі, нешта трывожнае ўсё ж закралася ў душу. І нездарма. Недзе праз паўгадзіны, калі абедала ў кухні, адчыніла дзяўчына тумбачку, каб выкінуць у сметніцу аб'едкі, і абамлела: на дне амаль пустога вядра, паверх бульбянога шалупіння і яечных шкарлупін, ляжала гара раструшчаных ушчэнт касет. Ад нечаканасці, ад недарэчнай бязглуздасці гэтага факта ў яе закружылася галава, на вачах выступілі слёзы. Аднак яна стрымалася, зашылася ў спальню і, лежачы на тахце, бяздумна глядзела ў столь. Гэтак яна прабавілася да пяці гадзін, пакуль не прыйшоў бацька. Лявон Міхайлавіч у апошні месяц заўсёды вяртаўся з работы на гадзіну раней, чым звычайна, бо клікалі яго неадкладныя справы місіянера: штодзень на пару з таямнічым Сымонам Францавічам ён наведваў з душавыратавальнымі гутаркамі два-тры дамы.

Света ўварвалася да бацькі з папрокамі якраз у той момант, калі ён перад люстэркам пераапранаў кашулю. На слёзы дачкі ён нават не павярнуў галавы і сталёвым, адчужаным голасам сказаў, што гэта ён раструшчыў і выкінуў касеты, бо не можа дапусціць, каб яго дачка слухала бязбожную, сатанінскую музыку. А калі ўжо яна без гэтага памірае, то хай ідзе на дыскатэкі, у клубы, да сяброў і сяброўак. «У маім доме гэтай парнаграфіі не будзе», — спакойна завяршыў Міхайлавіч, з любасцю павязваючы строгі гальштук.

— Ды ты... — пачала была Света, але захліпнулася ад абурэння і слёз. — Ды як ты пасмеў!.. Ды я... цябе... за гэта... — Твар яе спалатнеў, міміка яго была жахлівая. І тут, як бы насмеліўшыся на нешта адчайнае, яна заламала рукі і выкрыкнула тонкім прарэзлівым голасам: — Сектант!

— Маўчаць! — рэзка павярнуўшы да яе ўкормлены твар, гаркнуў бацька. — Маўчаць і не пярэчыць! — Ён узняў дагары кулакі і зрабіўся жудлівым. — Не смець мне тыкаць, не смець мне тыкаць ніколі! — Лявон Міхайлавіч трос кулакамі над галавой. — Толькі на «вы» да мяне надалей звяртацца! Толькі на «вы»! І стукацца, стукацца ў мой пакой, калі хочаш сюды зайсці! А цяпер — вон! Вон!!

Ён схапіў яе за руку, балюча выкруціў плячо і вышпурнуў з залы.

Света плакала ў спальні да самай ночы. Маці яе суцяшала як магла, паіла валяр'янкай і абяцала даць грошы на новыя касеты.

У гэты ж час Лявон Міхайлавіч, з іголачкі апрануты, ахайны і светлы душою, прапаведаваў па кватэрах іх мікрараёна. Схіляў на шлях праведны новыя і новыя душы.

Наступны месяц быў для Светы жахлівы. Даходзіла да таго, што яна ўсур'ёз думала атруціць роднага бацьку — настолькі ненавіснымі сталі яго твар, пастава, голас... І невыказна палягчэла ў яе на душы, калі аднойчы Лявон Міхайлавіч паведаміў маці, што з'язджае ад іх, каб сысціся і жыць з добрай жанчынай. Забраў ён не толькі свае манаткі, але і тэлевізар, і дарагі сервіз, і сталовае срэбра. Асноўнай прычынай сыходу называў ён немагчымасць жыць пад адным дахам з людзьмі, якія плююць на Хрыстовы запа-

ведзі, якія пагразлі ў хлусні і распусце і якіх ён не можа наставіць на правільны шлях... «Толькі ў тым я грэшны, — некалькі разоў паўтарыў бацька, — што пакідаю вас у паняверцы... Толькі ў гэтым».

Але вера верай, а і пра цела не забывай, і неяк так выйшла, што новая сужыцелька Лявона Міхайлавіча аказалася гадоў на дваццаць за яго маладзейшая. Як потым высветлілася, была тая жанчына адной з актывістак іхняга прыхода, таксама зацятая верніца. У першыя тры гады падарыла яна Лявону Міхайлавічу аж трох сыноў, прычым блізняты нарадзіліся ўжо праз сем месяцаў пасля таго, як Міхайлавіч пачаў жыццё новае і праведнае. Пра што і пахваліўся бацька Нэлі Аляксандраўне ў мнагаслоўным лісце, у якім, дарэчы, заявіў, што разводзіцца з ёй не збіраецца, таму што не лічыць штамп у пашпарце за сапраўдны шлюб, а сапраўдным лічыць ён толькі шлюб, асвечаны іх царквою.

З гэтай жа прычыны і аліменты ён не плаціў на Свету цэлых паўтара года — пакуль ёй не стукнула васемнаццаць. Спагнаць жа з бацькі па законе было немагчыма, таму што ён звольніўся з СКБ і стаў адным з кіраўнікоў прыхода. Там жа, відаць, і харчаваўся.

А яшчэ пісаў бацька, што ён непамерна цяпер шчаслівы, бо знайшоў сэнс існавання чалавека на зямлі. Пісаў, што не можа нарадавацца на сваіх карапузаў і любімую жонку Юлю, якая амаладзіла яго гадоў на дзесяць, дае яму энергію і духоўную моц. У канцы ліста збіўся на маралізм і павучаў, што яго лёс можа ім стацца прыкладам, як сапраўдная вера прыносіць шчасце, душэўны спакой, з'яўляецца апірышчам у цяжкіх жыццёвых калізіях. Не трэба адчайвацца, заканчваў ліст Лявон Міхайлавіч, трэба любіць, спадзявацца і верыць, трэба маліцца, рабіць людзям дабро, і тады Бог паможа.

## 20

Свой дзень нараджэння Леанід Нілавіч Пугач на гэты раз адзначаў даволі сціпла. З усяе процьмы сяброў, таварышаў і знаёмцаў ён запрасіў толькі сына, Марыну Паспелаву і, вядома ж, Валерыя Віктаравіча Адынца.

З закускамі мастак таксама асабліва не размахваўся і прывёз сякі-такі харч з рэстарана, дзе папярэдне зрабіў заказ.

На невялікім прыземістым століку, акружаным чатырма фатэлямі, апрача закусак стаялі пляшка армянскага каньяку і дзве бутэлькі французскага віна. Каньяк, дарэчы, быў ужо адкаркаваны і гаспадар з адзіным пакуль сваім госцем — Адынцом — пакрысе яго папіваў.

Леанід Нілавіч з нецярпеннем чакаў астатніх запрошаных, бо было ўжо сем гадзін вечара, а сына сяброўку ён настойліва прасіў прыходзіць не пазней за палову сёмай. Да таго ж ён забегаўся з самага ранку па справах, перажыў віншаванне на кафедры ад студэнтаў і выкладчыкаў, шматлікія званкі па мабільніку, дужа змарыўся і хацеў есці.

Валерый Адынец, наадварот, быў у самым лепшым душэўным стане, у настроі паспрачацца з імяніннікам, пафіласофстваваць. Яны сядзелі ўжо з гадзіну, і за гэты час не раз прыводзіў Адынец свайго га-

рачага сябра ў раздражненне, узнімаючы надзённыя, балючыя для мастака тэмы.

— Не гавары, чуеш, ніколі не гавары пры мне дрэнна пра простых людзей! — кіпяціўся Леанід Нілавіч. — Яны нашмат за нас лепшыя хаця б тым, што цэняць сам працэс жыцця, а не выдумляюць розныя карціны ды вершыкі. І ў гэтым іх сіла.

— У табе гаворыць нязжыты марксіст, ленінец, — падколваў Валерый Віктаравіч суразмоўніка, — тыя таксама любілі рабочы люд. І да чаго далюбіліся? Тое, што адбылося восемдзесят гадоў таму, — гэта звычайнае паўстанне рабоў.

— Ды пры чым тут паўстанне! — абурыўся Пугач. — Што ты абвастраеш увесь час!

— Я не абвастраю, а проста перасцерагаю цябе ад найтыповейшай памылкі інтэлігента — ад памылкі распусціць нюні і замілоўвацца рабацягамі. Не дай Бог!

— «Рабацягамі», — перадражніў яго мастак. — І слова ж якое падабраў: абразлівае, прынізлівае, грубае. А вядома табе, інтэлігент-разумнік, што на гэтых, як ты кажаш, рабацягах свет трымаецца. Бо якраз яны нясуць праз тысячагоддзі ўвесь вопыт рамёстваў, дзякуючы якім мы з табой не бегаем на чатырох лапах, а сядзім лютай зімой у цяпле і каньячок армянскі пацягваем. Пра гэта падумаў?!

— Ну-ну, — хітра прыжмурыўся Валерый Віктаравіч, прыгубіў каньяк.

— Нукае ён! — Леанід Нілавіч нервова зірнуў на гадзіннік. — Я вунь, на што ўжо не беларучка, на хутары гадаваўся, з малалецтва ў баразну ўлягаў, а як тры гады таму паляцеў у мяне дзвярны замок, то не ведаў, як да яго падступіцца. Поркаўся, торкаўся — нават стары выняць нармальна не здолеў, не кажучы ўжо, каб новы замок урэзаць. І гэта я, які сотні скульптур наляпіў, тысячы палотнаў пэндзлем выпацкаў! А прыйшоў малады хлопец, слесар, і за паўгадзіны замок так прыладзіў, што залюбуешся. І прычым не лічыў гэта вялікай справаю, нейкай там творчасцю недасяжнай. Прыйшоў, зрабіў, атрымаў грошы і развітаўся…

— А потым узяў на тыя грошы чарніла, нажэрся да ачмурэння і пачаў жонку за валасы цягаць ды дзяцей сваіх калашмаціць, — прадоўжыў за яго з'едлівы Адынец.

— Ды што ты ўсё апашляеш! — трэснуў кулаком па стале Пугач. — Я з ім усур'ёз гавару, а ён усё са шпількамі ды з падколачкамі… Ты ведаеш, што такое для цывілізаванага чалавека дзверы? Дзверы — гэта шчыт, за якім пачынаецца духоўны свет чалавека. Дзверы — гэта інтым, сям'я, творчасць. Гэта тое, што свяцей за ўсё ахоўваецца грамадскімі законамі. З дзвярэй, калі хочаш ведаць, сам чалавек пачынаецца.

— Чалавек пачынаецца знутры.

— Э не, браце! — усклікнуў Пугач. — Нармальны чалавек пачынаецца з дома, з сям'і, з мамы з татам, што адмяжоўваюцца ад вірлівага свету тымі ж банальнымі дзвярыма. А іх прыдумалі, удасканалілі, данеслі да нас з глыбіні вякоў не мысляры, не навукоўцы, а рамеснікі, умельцы, майстры. І калі псуецца гэтая святая святых чалавецтва — дзверы, — то рамантаваць іх зноў жа бягуць простыя людзі. А мы, інтэлігентная погань, адно хныкаем: «Памажыце!»

— Чаму ж ты так інтэлігентаў не любіш? — спытаўся Адынец, прывольней развальваючыся ў фатэлі. — Навошта ж тады мастаком стаў? Ішоў бы кайлом махаць.

— І пайду! — усклікнуў Нілавіч і выплюхнуў у рот рэшткі каньяку. — І пайду, калі гэта спатрэбіцца. Не перажывай, я да мазольнай працы прывучаны. А інтэлігентаў не люблю таму, што кволы гэта народ. Амаль усе неўротыкі, псіхапаты, шызафрэнікі і самагубцы ыз інтэлігенцкага асяроддзя выходзяць. А гэта гаворыць акурат пра тое, што няправільна, непабожна яны жывуць. Няма ў іх унутранай гармоніі.

— Глядзі, у рабацяг яна завялікая, — саркастычна скрывіўся Валерый Віктаравіч.

— Вялікая не вялікая, а лепшая, чым у нас з табой. — Нілавіч пацягнуўся па пляшку каньяку, наліў сабе на донца і прапанаваў Адынцу. Той адмовіўся. — Рабацяга ў пятлю палезе адно калі дап'ецца да белай гарачкі. Таму што ў цвярозым стане ён да такой дураты не дадумаецца, для яго, простага чалавека, няма нічога даражэйшага за жыццё. Яго з работы звальняюць, яму зарплату не выплачваюць месяцамі, ад яго жонка сыходзіць — а ён нішто, ён бадзёры, жвавы і нават жыццярадасны. Ён пойдзе нап'ецца з таварышамі, ён будзе бэсціць і ўрад, які яго галечай мардуе, і жонку, што гуляе, але ніколі не прыйдзе яму ў галаву легчы тварам да сцяны, а потым вены сабе рэзаць — маўляў, усе падлюганы і жыць з вамі я не жадаю. Не! — пляснуў далонню аб далонь мастак. — Ён людзей любіць, ён жыццём даражыць.

— Глупства! — сказаў Адынец. — Несусветнае глупства гародзіш. Па-першае, вены сабе ён не ўскрые таму, што ў яго звілін на гэта не стане, а зусім не з жыццялюбства, табой прыдуманага. Жывёліна таксама ніколі сябе не заб'е. Стоп! Не перабівай, — ускінуў руку Віктаравіч, калі Пугач раскрыў рот запярэчыць. — Не перабівай, я цябе слухаў... Дык вось. Па-другое, ён, рабацяга, любіць не жыццё ў тваім разуменні — з яго паэзіяй, жывапісам, харавством прыроды ды іншымі аздобамі. Не! Ён любіць сябе, а ўсё навокал для яго з'яўляецца асяроддзем, з якім ён мусіць змагацца за выжыванне і з якога мусіць зубамі выдзіраць харч, жанчын і забавы шматстайныя. Канешне, ён сваё «я» шануе і ў цвярозым розуме на самагубства не пойдзе. Што ён — дурань, калі можна ўзяць пляшку ды паваліць Машку?

— О, як жа ты ўсё спрашчаеш! — ускінуў рукі Пугач. — Як жа ты ўсё зводзіш да пошлага прымітывізму! Для цябе працоўны чалавек — гэта нейкае быдла, якое мусіць такіх разумнікаў, як мы, абслугоўваць...

— Я так не казаў.

— Не, якраз гэта ты ўвесь час і меў на ўвазе. Які абсурд! І гэта кажа чалавек, які сядзіць на мяккім крэсле, вырабленым рукамі рабочых; які п'е каньяк, зроблены з вінаграду, сабранага селянінам, які грэецца ў дваццаціградусны мароз у доме, узведзеным будаўніком. А дом гэты, між іншым, ацяпляецца качагарам, так, тым мурзатым качагарам, што дзяжурыць у бруднай кацельні цэлыя суткі дзеля таго, каб нам было ўтульна і цёпла...

— Згодны. Не гарачыся, Нілавіч, не гарачыся... — прымірэнча пачаў Адынец. — Толькі не забывайся і ты, што крэсла гэтае мяккае

спраектавана ў СКБ нейкім меланхалічным інтэлігентам; што вытворчасць і дастаўку да цябе каньяку арганізавалі людзі з вышэйшай адукацыяй; што чарцяжы і дома, і кацельні таксама выкананы інжынерамі. А інакш гэта былі б не будынкі, а куча каменння. І тварыў бы ты не ў выгоднай майстэрні, а сядзеў у пячоры і ў лепшым выпадку высякаў бы свае малюнкі на гранітных плітах.

— Ды ну цябе! — Пугач нервова скубануў бараду і ўскочыў з крэсла. — Цябе не пераспрачаеш. — Ён падышоў да акна, прыціснуўся лбом да шыбы і пакрыўджана замоўк.

Адынец, ухмыляючыся ў вусы, спакойна і час ад часу падносіў да вуснаў кілішак.

— Не, ну хіба яны не паршыўцы! — перарваў цішыню хрыплаваты голас Нілавіча. — Гадзіну назад падысці папрасіў. І гэта, заўваж, не з пустой прыхамаці, а з нагоды майго дня нараджэння.

— А ты пазвані. У Марыны ж мабільнік ёсць.

— Не хачу, — бурклівым тонам адказаў Нілыч. — Мая справа запрасіць, арганізаваць закусь-выпіўку, а там — як ім заўгодна. А не прыйдуць, то і без іх пасядзім. Вось вазьму назнарок сёння і нап'юся.

— Ды не пераживай ты так.

— А хто перажывае! — горда сказаў мастак, хоць у голасе яго чуліся і прыкрасць і крыўда.

Памаўчалі яшчэ некалькі хвілін, цягам якіх Нілавіч не адыходзіў ад акна і паныла глядзеў на двор.

— Вось жа зіма сёлета: то мароз за дваццаць, то снегапады! І ніводнай адлігі яшчэ не было, — прамовіў нарэшце Пугач.

— А навошта яны здаліся — адлігі? З імі адна нуда ды прастуда.

— Не. Я ж не кажу, што маразы і снег — дрэнна. Я проста дзіўлюся, што так рэдка бывае, каб...

Тут мілагучна запілікаў тэлефон, што вісеў на сцяне. Гаспадар шпарка падышоў да яго, рыўком зняў трубку.

Званіла Марына Паспелава. Званок, як і прадчуваў Пугач, быў несуцяшальны: у Марыны захварэла дачка, і яна сёння не прыйдзе.

Усё гэта Леанід Нілавіч выслухаў спакойна, зрэдку ўстаўляючы толькі «так» і «ўгу». На развітанне пажадаў Марынінай дачцэ хутчэй папраўляцца і сказаў, што яшчэ патэлефануе.

— Ну што, Валер, пачнём памаліўшыся? — падміргнуў мастак прыяцелю, калі ўсаджваўся за стол.

— Сяргея чакаць не будзем? — Адынец пасунуў крэсла бліжэй да закусак.

— А навошта? — буркнуў імяніннік, спрытна адкаркоўваючы бутэльку белага віна. — Прыйдзе — нальём. А не — то яму ж горай. — Ён наліў паўнюткія келіхі. — Давай, брат, без тостаў, па-дзяжурнаму.

Яны чокнуліся, Нілавіч імгненна асушыў свой фужэр і прагна накінуўся на ежу. Валерый Віктаравіч выпіў толькі палову налітага віна, узяў нож і відэлец. Еў ён паважна і нетаропка.

— Слухай, — сказаў Адынец праз колькі часу, — якую я нядаўна кнігу прачытаў.

— Валяй, — адобрыў яго гаспадар. Сам ён няспынна жаваў і накладваў на талерку новыя і новыя порцыі.

— «Псіхалагічныя развагі» нейкага Сакрасава. — Тут Віктаравіч шматзначна ўхмыльнуўся. — Сам я падобным чытвом не захапляюся

і не трачу на яго грошай. Але ёсць у мяне супрацоўніца, якая завернута на эзатэрычнай літаратуры. Купляе ўсё, што пад руку трапіцца, чытае запоем, шчыра ўсяму верыць і потым узахлёб распавядае кожнаму стрэчнаму пра чарговую «геніяльную» кнігу. — Адынец узяў келіх і дапіў рэшткі віна, выцер сурвэткай вусны і адкінуўся на спінку крэсла. — Дык вось, тыдзень таму прынесла яна мне гэтага Сакрасава і настойліва параіла яго пачытаць. Папраўдзе, узяў я тую кніжку толькі з ветлівасці, мяркуючы адно пагартаць. Але, неспадзявана для сябе, той жа ноччу прачытаў усю. І ведаеш чаму?

— Ну? — гугнява спытаўся Пугач, бо быў з набітым ротам.

— Таму што не розумам аўтарскім захапіўся, а наадварот, вучонай яго бязглуздасцю. Са мной такое бывае: крайне бяздарнае і крайне тупое прыцягвае не меней, чым геніяльнае. Карацей, прыняўся я чытаць тыя «Псіхалагічныя развагі», і напачатку яны нават мне спадабаліся. Не навізной думкі, канешне, а сваёй нязлоснасцю, неагрэсіўнасцю, калі хочаш. Пачаў аўтар добра: усе нашы беды, маўляў, унутры нас; жыццё не мяняецца, а мяняецца наша яго ўспрыманне; калі мы светла настроены, то і свет паварочваецца да нас тварам; трэба любіць людзей, і тады яны цябе палюбяць... Словам, у такім духу на старонак дваццаць размазаў. Нават схемы маляваў у пацвярджэнне сваіх выкладак, будаваў графікі. Тут бы я, з-за банальнасці выказванняў, тыя «Псіхалагічныя развагі» адклаў і ціхамірна на іх забыўся, але заела мяне адна старонка. Пасля гэтай мяккай пасцелі, пасля гэтага шчадралюбнага кісялю раптам заяўляе аўтар, што не трэба, маўляў, чакаць, пакуль шчасце зваліцца з неба, а трэба самому сябе шчаслівым рабіць. Насцярожыўся я ад гэтых слоў спадара Сакрасава.

— Чаму? — здзівіўся Пугач. — Слушна кажа твой дзядзька: сам шчасце і заваёўвай.

— Ат, ну перабіваеш жа, Лёнь! Ты ж слухай, куды я схіляю.

— Валяй.

— Насцярожыўся я менавіта гэтаму рэзкаму пераходу — ад саладжавых слоў пра любасць і чалавечнасць да эга канкрэтнага чалавека. Як жа, думаю, ён будзе сябе шчаслівым рабіць? Паглядзім. — Адынец узяў скрылёк каўбасы і закінуў сабе ў рот; пражаваўшы, працягваў: — Стаў я чытаць уважлівей. Абвяшчае гэты вельмішаноўны аўтар, гэты навуковец-псіхолаг, што чалавецтва можа быць шчаслівым толькі тады, калі кожны чалавек будзе шчаслівы. А таму, выводзіць Сакрасаў, трэба кожнаму паставіць сябе ў цэнтр светабудовы і змагацца за сябе ўсімі сіламі. Хітра! — усклікнуў тут Адынец. — Яшчэ больш зацікавіла мяне тая кніга. Чытаю далей і праз пару старонак натыкаюся на выснову, што для дасягнення асабістага шчасця любоў трэба разбіць на прыярытэты. Не любіць, маўляў, усіх і ўсё пароўну, а любіць так: найбольш — жанчыну, сваю жонку; крыху менш — сваіх дзяцей; яшчэ менш — бацькоў; яшчэ менш — родзічаў і бабуль-дзядуль; яшчэ менш — староннягa чалавека і ўжо зусім мала — коцікаў-сабачак, птушак і раслінак. Як табе?

— Ну... — завагаўся мастак. — Мяркую, што ты тут нешта перагінаеш... альбо нечага недагаворваеш...

— «Недагаворваеш»! — ускінуўся суразмоўнік. — Ды тут, здаецца, спадар Сакрасаў усё дагаварыў. Да таго нават дагаварыўся, што

Хрыстову любоў рассек на прыярытэты. Пасля гэтага я ўжо, можна сказаць, супакоіўся, бо здагадваўся, што будзе ў той кнізе далей. І не памыліўся. Карацей, сфармуляваўшы рэцэпт асабістага шчасця, аўтар заклікае нас браць у рукі зброю і за яго змагацца. Прычым заахвочвае нас тым, што, калі мы здабудзем асабістае шчасце, то ўнясём свой уклад у сусвет, зробім і яго шчаслівейшым. Але паколькі аўтар выставіў на пярэдні план каханне, любоў самца да самкі, а па-навуковаму — палавую любоў, то адразу ж уявіліся мне шэрагі агрэсіўных самцоў, якія выйдуць на паляванне. Гэтакія шарэнгі фаласаў — непрыхільных, суровых, эгаістычных, да таго ж абнадзееных аўтарам, што гэтае паляванне — святая справа прадаўжэння чалавечага роду. — Валерый Віктаравіч гадліва зморшчыўся. — Уяўляеш сабе, Лёнь, войска самцоў, кожны з якіх зараз рынецца здабываць сабе самку?

— А чаму ж не? Так і ёсць.

— Ага, так і ёсць, — кіўнуў Адынец. — Толькі аднаго не ўлічыў спадар аўтар, што кожны з гэтых ваяроў-фаласаў будзе старацца заваяваць сабе найпародзістую жанчыну. А паколькі такіх — пародзістых — далёка не сто працэнтаў, то ў гэтым працэсе будуць немінучыя сутыкненні паміж фаласамі, крывавая дзяльба — з мардабоем, панажоўшчынай, трупамі. І блаславенне на тое кровапраліцце дае не хто іншы, як спадар Сакрасаў, навуковец, кандыдат псіхалагічных навук. Крута?

Адынец наліў сабе віна, прамачыў горла.

— Што ж, я працягваў чытаць гэты навуковы трактат, хаця з пэўнага моманту меў толькі адно жаданне: узяць тую кнігу і адхвастаць ёй шаноўнага Сакрасава па шчоках. І, шчыра скажу, нават адчуў нейкую мазахісцкую асалоду, калі аўтар абвінаваціў праваслаўе ў бедным і гаротным жыцці рускага народа — што, маўляў, гэта з-за доўгацярпення, якое прывіваецца верай. Каб не цярпеў народ, а сам змагаўся за сваё шчасце, то, паводле Сакрасава, жыў бы ён цяпер куды багацей... Але і гэта яшчэ не ўсё. Напрыканцы разышоўся паважаны аўтар да таго, што пачаў бэсціць не толькі праваслаўе, а і хрысціянства ўвогуле. Яно, кажа, вінаватае ў тым, што чалавецтва за апошнія дзве тысячы гадоў не дасягнула ўсеагульнага шчасця!

— Ну?

— Што ідэя хрысціянства, аказваецца, мала чым адрозніваецца ад ідэі марксізму-ленінізму, таму што асноўныя палажэнні ў іх тоесныя. І яшчэ: ва ўсім яго трактаце праглядваецца нейкая нездаровая туга па язычніцтве. А іншым разам і прамым тэкстам гаворыць нам аўтар, што пры язычніцтве паважаліся жаданні чалавечага цела, а гэта здорава, гэта нармальна, гэта навукова абгрунтавана. Няблага б, паводле Сакрасава, і цяпер пераняць штосьці адтуль. І ўсё гэта, заўваж, ён раіць нам дзеля дасягнення ўсеагульнага росквіту чалавецтва. Не болей, не меней.

Валерый Віктаравіч дужа разгарачыўся за размоваю, а таму на гэты раз наліў сабе не віна, а ліманаду і з патоляй яго выпіў.

— Што я табе магу адказаць, — узяў слова Пугач. — Усё, здаецца, слушна ты выкладаеш... Аднак рэзка неяк, аднабакова, губляючы аб'ектыўнасць. Адчуваецца, прабач, твая асабістая непрыязнасць да гэтага... як яго... Сакрасава. Нібы ён цябе асабіста пакрыўдзіў...

— Так! — зноў завёўся Валерый Віктаравіч. — Ён і ёсць асабісты мой вораг. Бо такім людзям трэба рукі паадбіваць, каб пісаць было не

панадна. Ды ад такіх кніг проста патыхае сатанізмам, а спадар Сакрасаў ёсць найтыповейшы лжэпрарок, якіх у гісторыі чалавецтва было безліч. Яны заўсёды гладзенька ды мякенька пачыналі. І непрыкметна, няўзнак рабілі адно-адзінае адступленне, а іменна пераносілі цэнтр цяжару сусвету на чалавечае эга. І ўсё! — ускрыкнуў Адынец. — І гэтага было дастаткова, каб выклікаць на зямлі хаос, разбой, кровапраліцце. Дастаткова сказаць: ты, чалавек, ёсць бог і таму маеш права ўзяць усё пажаданае. Толькі бяда ў тым, Лёня, што жаданні заўжды ў нас завялікія, а пры адсутнасці крытэрыяў дабра і зла яны, жаданні, вядуць ізноў жа да плоймы ваяўнічых фаласаў, гатовых на ўсё, толькі каб быць шчаслівейшымі. Адсюль — і войны, і рэвалюцыі, і нават прыродныя катастрофы вынікаюць... Таму што прагны чалавек, непамерна прагны і амбіцыйны. І калі не правесці яму рысу дабра і зла, не абмежаваць у правах ды не застрашыць законамі, то ён шар зямны падарве. Хіба не для таго прыходзіў Хрыстос, каб даць нам арыенцір і, калі хочаш, апусціць з нябёс на зямлю? Каб сказаць: не ты, чалавек, ёсць Бог, а Я, на мяне і раўняйся. А калі няма гэтага раўнення, Нілавіч, то тады — канец чалавецтву. Прынамсі ў тым выглядзе, у якім мы яго, чалавецтва, сабе ўяўляем. Без Бога людзі падобныя на статак, што бегае па зямлі ў пошуках пажывы, — не болей.

Валерый Віктаравіч заціх, чакаючы, што скажа сябар. Але Пугач быў не вельмі схільны зараз спрачацца. Ён надзьмута адмоўчваўся і час ад часу пазіраў на гадзіннік. Быў відавочна занепакоены тым, што сын кудысьці прапаў і не звоніць.

Нарэшце ён устаў і сярдзіта захадзіў па пакоі, набіраючы па мабільніку нумар.

Яму доўга не адказвалі. Праўда, гудкоў праз сем на тым канцы лініі нечакана адгукнуліся.

— Ну, ты што, зусім ужо?! — раптам гаркнуў Пугач у трубку. — Колькі, я пытаюся, зараз часу і калі я цябе папрасіў падысці?! Га? Ды мне напляваць, што ты стаміўся! Стаміўся ён... Ты што, не мог пазваніць і сказаць? Табе не прыйшло ў галаву, што я хвалююся?! Не кажучы ўжо пра тое, што нармальны сын хаця б павіншаваў бацьку з днём нараджэння... Ах, ты ненармальны?! — Твар імянінніка зрабіўся барвовы. — Што?!. Ды як ты можаш так гаварыць! Гад ты пасля гэтага! — Выкрыкнуўшы гэта, мастак узняў тэлефон над галавой, і Адынцу здалося, што ён мерыцца разбіць яго аб падлогу. Аднак, адумаўшыся, гаспадар шпурлянуў мабільнік на мяккую канапу і затупаў па пакоі.

— Ну, які ж падлюган, га? Чуў, Валерка? Яго ягамосць, аказваецца, спачываюць! У яго, аказваецца, настрою ісці сюды не было! Вось сволач! — Нілыч у шале то засоўваў, то вымаў рукі з кішэняў цеснай камізэлькі.

— Ды годзе табе, Лёнь. Магчыма, у хлопца праблемы, — суцяшаў яго сябар.

— Праблемы! А пазваніць ён не мог? У яго што, тэлефона няма?

Пугач падышоў да бара, рэзка адкрыў дзверцы і дастаў непачатую бутэльку гарэлкі. Дрыготкай рукой адкаркаваў яе на стале і наліў сабе поўны фужэр «вогненнай». Выпіў гэтую порцыю мастак секунды за тры і, абмяклы, апусціўся ў фатэль.

Такім чынам, дзень нараджэння быў канчаткова сапсаваны. Валерый Віктаравіч, які гэта добра ўразумеў, пасядзеў для прыліку яшчэ хвілін дваццаць і развітаўся.

...На двары было марозна, ззяла поўня, надаючы краявіду прывідна-блакітныя тоны. Калі Адынец крочыў да бліжэйшага прыпынку, было бязлюдна, а ў навакольнай цішы снег рыпеў пад нагамі так, нібы каркаў стары груган.

## 21

Колькі разоў праклінаў Пугач гэты Богам забыты раён, дзе па сваёй недарэчнай прыхамаці кватараваў яго сын Сяргей. Гэта не раён — а нейкія катакомбы. Мала таго, што ад цэнтра да яго шураваць і шураваць, дык яшчэ і спланаваны ён так, што сам чорт заблукае.

І зараз, седзячы за рулём аўто, раз-пораз чартыхаўся Пугач-старэйшы: кляў мудрагелістае спляценне вуліц, узгорысты рэльеф мікраэна і невыразна пазначаныя на будынках нумары. Аднаго разу ён заехаў не ў той двор, буксаваў у гурбах, блытаўся ў праездах і арках, а потым ледзь адтуль выбраўся.

Нарэшце ён дапяў да патрэбнага дома. Цагляная пяціпавярхоўка недарэчна тулілася на невысокім пагорку, прычым з аднаго боку будыніны вокны першага паверха ледзьве не дасставалі зямлі, а з другога знаходзіліся на ўзроўні трох метраў. Гэткая аляпаватая касавурына, а не дом.

Леанід Нілавіч нямала пакруціўся ў цесным заснежаным дворыку, перш чым убіў свой легкавік паміж шэрагам сметніц і пацёрханым «жыгулёнкам» няпэўнага колеру. Недаверліва азірнуўся вакол, дбайна запёр дзверы і ўключыў сігналізацыю. Непадалёк, па ўтаптанай дарожцы перад пад'ездамі, чацвёра хлапчукоў заядла гойсалі ў хакей і маглі, у прынцыпе, заляпіць шайбай у шыбу яго машыны. Аднак іншага месца для паркоўкі ў гэтым двары папросту не было.

Перад адным з чатырох пад'ездаў, нягледзячы на мароз, рагатала кампанія маладзёнаў, і слых славутага мастака міжволі лавіў адборныя мацюкі гэтых малойчыкаў. Зрэшты, там былі і дзяўчаты, якія не нашмат саступалі ў «красамоўстве» сваім прыяцелям. Пугач гідліва паморшчыўся і скіраваў у суседні пад'езд. Ганак быў неасветлены, высокі і коўзкі, парэнчы адсутнічалі. Абшарпаныя дзверы з непрыстойнымі надпісамі рыпнулі, адчыніліся, і адтуль вышмыгнула худая постаць, ад якой дало ў ноздры нечыстотамі і алкагольным смярдоццем. Постаць борздзенька збегла ўніз і пашыбавала нацянькі да суседняга дома. Пугач з цікаўнасцю паглядзеў ёй услед, але так і не вызначыў, мужчына гэта ці жанчына. Гэта чамусьці непрыемна падзейнічала на мастака, і па лесвіцы ён узбіраўся сярдзіты.

Вось і дзверы на пятым паверсе з нумарам дваццаць дзевяць. Вось і званок, які ліпіць на адным шурупе. Усё гэта было добра знаёмае, хаця за апошнія паўгода ён толькі аднойчы наведваў сынава жытло. Сяргей ніколі не запрашаў сюды бацьку. І сёння не запрашаў...

Мастак пацягнуўся да званка, намацаў у паўцемрадзі кнопку указальным пальцам... і перадумаў. Замест гэтага ён расшпіліў кажух, пашнарыў на поясе і дастаў мабільнік. Уключыў падсветку, набраў

нумар. На тым канцы лініі даволі хутка, пасля чацвёртага сігналу, адгукнуліся.

— Алё, слухаю, — пачуў мастак сонны і, як здалося, непрыветлівы голас сына.

— Слухаеш? — бадзёра зыкнуў Пугач-старэйшы. — Добра слухаеш? Ну тады адчыняй — я пад тваімі дзвярыма.

Прайшло не так і мала часу, перш чым сын упусціў бацьку ў кватэру.

— Здароў, мазгакрут! — ляпнуў Леанід Нілавіч Сяргея па плячы, пранікаючы ў пярэднюю.

— Прывітанне… — адказаў сын. Ён яўна не прымаў бацькавага панібрацкага тону. — Што здарылася?

— А што павінна здарыцца? — усё яшчэ са штучнай весялосцю сказаў бацька.

Не чакаючы запрашэння, ён спрытна скінуў кажух і шапку на тумбачку і прайшоў у адзіны пакой гэтай няўтульнай кватэры.

Так, кватэра была няўтульная. У гэтым мастак яшчэ раз пераканаўся, калі агледзеў пакой. Не раўнуючы бярлога, а не жытло чалавека. Старыя безгустоўныя шпалеры месцамі паадставалі ад сцен. Асабліва гэта было заўважна пад акном, справа, — там, відаць, некалі нацякала дажджавая вада. Падаконнік быў брудны, на ім стаяла шклянка-попельніца, каля якой валялася пару акуркаў і, здаецца, адна чорная шкарпэтка. Другая шкарпэтка вісела на спінцы крэсла, што тулілася тут жа, пад акном. Вэрхал быў і на пісьмовым стале, злева ад акна. Тут, канешне ж, даўно нічога не пісалі, затое грувасцілася вельмі дарагая на выгляд магнітола з акустычнымі калонкамі. Прычым калонкі стаялі адна на адной, ды так, што верхняя рыхтавалася ўпасці. Каля магнітолы ляжалі навушнікі, мікрафон, касеты, нейкія кнігі, што збольшага выкарыстоўваліся як падстаўкі-падпоркі для мікрафона і яшчэ сякіх-такіх невядомых мастаку прычындалаў. Тут жа стаялі кубак, цукарніца, валяліся пару чайных лыжачак і сцізорык. На тахце, што мясцілася справа ад акна, пасцель была амаль непрыбраная: прасціна вылузвалася з-пад неахайна пасланага паверх яе пакрывала і падмятала сабой падлогу; падушка з нясвежай навалачкай ляжала на пакрывале; збітая ў камяк вярблюджая коўдра была адсунута да сцяны.

Але галоўнае, што найперш кінулася ў вочы Леаніду Нілавічу, — гэта вялізная баксёрская груша, якая звісала са столі, трымаючыся на круку, прызначаным для люстры. Люстры ж не было наогул, і пакой асвятляўся хітрамудрай сістэмай лямпачак у шкляных каўпачках, размешчаных на стыку столі і сцен, па перыметры. Такога раней не было. Лямпачак Нілавіч налічыў восем, аднак гарэла толькі чатыры — праз адну.

— Дык што ў цябе за пажар? — перарваў сын бацькавы разглядванні. — Што за дурнота — званіць не ў дзверы, а па тэлефоне. Дый увогуле, можна б было папярэдзіць…

— Папярэдзіць, кажаш? — рэзка павярнуўся да яго Пугач. — А можа, мне яшчэ прашэнне аб аўдыенцыі табе напісаць ды заказным лістом адправіць?

— Пры чым тут прашэнне, — паморшчыўся сын. — А каб мяне дома не было? Дарэмна б бензін паліў…

— А цябе заўсёды дома не бывае, калі бацька звоніць. Можа, ты толькі выбраных прапускаеш… чорт цябе ведае.

— Калі я цябе не пускаў?! — Сяргей дастаў з кішэні пачак «Космасу», выцягнуў зубамі цыгарэту, пстрыкнуў запальніцай.

Бацька схапіў яго за руку.

— Ты можаш хоць пяць хвілін гэтую брыду не смаліць?

— А што такое?

— Ведаеш жа, што не выношу я тытунёвага дыму. Няўжо нельга без гэтага? Нябось не кожны дзень я ў цябе бываю.

— Ды чаго ты ў рэшце рэшт хочаш! — абурана ўсклікнуў сын, аднак кінуў цыгарэту на стол. — Уварваўся, як віхор, разбудзіў ды яшчэ тузае! Я, можа, стаміўся і спаць хачу…

— Спаць ён хоча! Вось якраз пра гэты твой сон бясконцы я і прыйшоў гаварыць. То набярыся цярпення, паслухай.

— Э-э-э, бацька, — скрывіўся і неяк безнадзейна махнуў рукой Сяргей. — Ды чуў я ўжо твае павучанні, чуў досыць. — Ён накіраваўся да канапы і залез на яе з нагамі. — Калі па справе якой прыйшоў — гавары. А на гнілую тваю філасофію ў мяне няма часу…

— А на спаннё ў сем гадзін вечара ў цябе часу стае?! — гаркнуў Леанід Нілавіч і падскочыў да сына. — На гэтае бяздзейнае валянне ў агідным сваім катуху ты час знаходзіш?! Слухай, сын, — тут ён гэтак жа раптоўна панізіў тон і быццам паспакайнеў, — ты ўвогуле разумееш, што з табой адбываецца? Ты хоць трохі ўяўляеш сабе, да чаго можа прывесці твая жыццёвая пазіцыя?

Сын з нудой паглядзеў на бацьку знізу ўверх, перасунуўся да самай сцяны і падкурчыў ногі. А потым, дзёрзка зіхатнуўшы вачыма, кінуў:

— А я проста жыву.

— Як проста жывеш?.. — на міг сумеўся Нілавіч.

— А так — проста жыву, — пацвердзіў сын і дадаў: — Проста жыву і не дазволю, каб мне заміналі ў гэтым працэсе. Не жадаю, каб мяне павучалі і настаўлялі, як жыць. Не жадаю выслухоўваць тваіх ушчуванняў, маралізатарства — я іх да млосці наеўся. А таму, калі гэта ўсё, з чым ты да мяне прыйшоў, то я паступаю вось гэтак. — Тут Сяргей схапіў коўдру, дзелавіта яе расправіў, а тады прыняў гарызантальнае становішча, накрыўся і павярнуўся тварам да сцяны: ён дэманстратыўна лёг спаць.

Нілавіч агаломшана назіраў за яго дзеяннямі. Не раней як праз хвіліну прамовіў:

— Добра, сын. Дзякуй табе за ветлівы прыём, за павагу да бацькі. Дзякуй. Я, канешне, пайду і не буду трывожыць тваю шаноўную асобу, не буду замінаць спачываць — ты добра сёння папрацаваў, а таму спі…

— Вось толькі не трэба іроніі, — буркнуў сын праз падушку.

— Добра, адкінем іронію і, калі ўжо я патраціў час на дарогу, то на развітанне скажу табе пару слоў… — Бацькаў твар за апошнюю хвіліну стаў нездарова-барвовага колеру: мастак даўно пакутаваў на паўнакроўе і павышаны ціск.

— Дарэмна стараешся — я слухаць не буду. — Сын нацягнуў коўдру на самую галаву.

— Не слухай, калі ты такое свінчо. Але калі ў табе засталося хоць крыху чалавечага, то нешта з маіх слоў усё ж дойдзе да твайго розуму. Прынамсі, я на тое спадзяюся.

Сяргей не адказваў.

— Дык вось. Мне надакучыла цярпець твае штукарствы, мне надакучыла назіраць, як мой адзіны сын заганяе сябе ў духоўную немарач і гіне на маіх вачах. Гіне як чалавек. Мне невыносна глядзець, як ён удае з сябе супермена, як ён плюе і чхае на людскія законы, як ён жыве ў паганым смуродным катуху, замест таго каб жыць сярод людзей, у нармальнай кватэры. Усё гэта мне надакучыла.

Пугач дастаў насоўку і абцёр узмакрэлы лоб. У пакоі было гарачае застаялае паветра.

— Ты ў дваццаць дзевяць гадоў не стварыў сям'і і нават патугаў тваіх не відаць у гэтым кірунку. Хіба гэта нармальна для здаровага мужыка? Хіба я цябе нарадзіў выродкам, і ад цябе дзяўчаты шарахаюцца? Разбярыся з сабой, сынок, — голас бацькі крыху памякчэў, — разбярыся. Не бегай ад людзей, гэта шлях у нішто. Прымі свет такім, які ён ёсць, і табе палягчэе. Бог памагае толькі добраму сэрцу, ад ліхіх адварочваецца. Вось ты зараз нацягнуў коўдру на вушы, затуліў твар падушкай і думаеш, што адварочваешся ад мяне. А насамрэч захінуўся ад усяго свету. Гэта не вырашэнне праблемы, сынок. Ад свету не адвернешся. Больш таго, ён не перайначыцца па тваім хаценні, а будзе такім, як заўжды: суровым і ласкавым, праўдзівым і хлуслівым — усялякім... Ніхто не захопіцца тваім, хай і неблагім, талентам, калі ў сэрцы тваім няма любасці, а наадварот, паўстане супраць цябе. Палюбі людзей, сынку! А іначай... — голас мастака зноў павышэў, — іначай і насамрэч праляжыш усё жыццё тварам да сцяны, а да жыцця задам: нераскрыты, непрыняты, забыты ўсімі, нікчэмны...

— Змоўкні! — ускрыкнуў Сяргей і рыўком сеў на тахце; грымаса злосці на яго твары не пакідала сумневу ў тым, што ён пільна прыслухоўваўся да бацькавых слоў, што яны яго балюча паранілі. — Змоўкні!! — ускрыкнуў ён другі раз, задыхаючыся ад гневу.

Бацька асекся і з грэблівым шкадаваннем глядзеў на сына.

— Не хачу... Не жадаю выслухоўваць твае подлыя папрокі... Ды ты сам... ты сам усяго толькі ханжа, які прымае мярзотныя законы грамадства, адно каб не быць затаптаным гэтым быдлам, гэтым табуном раз'ятраных коней... Ты проста халуй у багацеяў, якім заманулася абстаўляць свае кватэры прыгожай мазнёй, якія прагнуць увекавечыць на партрэтах свае драпежныя твары!..

— Што ты вярзеш! — узяўся за галаву мастак; цяпер у яго быў чырвоны не толькі твар, але і бялкі вачэй.

— Ага! — зларадна ўскрыкнуў сын. — Не падабаецца?! Праўда вушы пячэ?! Ды ва ўсіх вакол, і ў цябе таксама, мяшок грахоў за плячыма. Такіх грахоў, у якіх нават самому сабе брыдка прызнацца. І таму хаваеце вы іх за гладзенькімі крывадушнымі штампамі: любоў, сям'я, доўг, чалавечнасць... Цьфу! А самі толькі і пільнуеце, каб сабе больш ухапіць.

— Ідыёт! — усклікнуў мастак. — О Госпадзе, мой сын ідыёт!

— Ды любы ідыёт лепшы за цябе, такога паважанага, добрапрыстойнага і правільнага. Бо ў яго душа чыстая, дзіцячая, ён ніколі не крывадушнічае! А ты... нябось не адзін шкілет у шафе трымаеш, ханжа!

Тут ужо мастак не справіўся з сабой, падаўся наперад, ухапіў сына загрудкі, рвануў на сябе.

— Змоўкні!

Сяргей паспрабаваў выслабаніцца, але не справіўся з моцнымі мастаковымі пальцамі — тыя нібы прыраслі да кашулі. Бацькаў твар быў страшны ў гневе.

І тады сын з нейкай нахабнай смеласцю зірнуў яму ў вочы і сказаў:

— Што, бацька, сапраўды ёсць у цябе грашок, калі так раз'юшыўся?

Пачуўшы гэта, Нілавіч нечакана абмяк, але Сяргей ужо не вырываўся, а працягваў глядзець яму ў вочы. У бязмоўнасці яны прастаялі з хвіліну.

Пагляд бацькі быў збянтэжаны, безуважны і як бы павернуты назад — у сваю існасць. Нарэшце ён адпусціў сына, адступіў на пару крокаў і апалым, не сваім голасам сказаў:

— Так, я грэшны... Я шмат у чым перад табой грэшны... Ды толькі адно памятай, Сяргей: пакуль я жыву, пакуль трымаюць гэтыя рукі пэндзаль, — ён падняў свае спрацаваныя рукі да твару, — я ўсё для цябе зраблю. Таму што нас на зямлі толькі двое... — Нілавіч уздыхнуў. — Аднак памятай, сын, і тое, што мне ўжо за пяцьдзесят. Я магу пражыць яшчэ столькі, а магу і памерці ў любую секунду. І ўсё гэта будзе выглядаць на натуральную смерць. З гэтага ўзросту, сынок, прырода ўжо за мяне не адказвае. Так што, я проста прашу, калі ёсць у цябе якія праблемы, давай іх вырашаць зараз, пакуль я ў сіле.

Сяргей не адказаў і сядзеў, схіліўшы твар долу. Многа б цяпер даў бацька за ягоны адказ...

— Ну, да пабачэння, сын. І даруй, калі што не так... — Леанід Нілавіч паклаў далонь Сяргею на галаву; той сядзеў і панура маўчаў.

І толькі, калі бацька ўжо пераступаў парог пакоя, ледзь чутна, з хрыпацінкай у голасе кінуў:

— Да пабачэння.

Душэўны стан Леаніда Нілавіча пасля гэтай сустрэчы быў такі паганы, што ён ледзьве дабраўся дадому. А потым, ведаючы, што не зможа заснуць, пачаў маляваць новую карціну і праваждаўся з ёй да світання. Там былі горы з заляселымі схіламі і аснежанымі вяршынямі, аб падножжа якіх біліся ўспененыя хвалі; нізкае вечаровае сонца патухла на горных вяршынях. Людзей, звяроў і птушак там не было...

## 22

Учора, а палове дзесятай вечара, калі Таццяна Зарэмба была дома адна, прагучаў тэлефонны званок. Незнаёмы голас паведаміў, што для яе маецца ліст да запатрабавання на адной з поштаў (назваў нумар) і што заўтра яна можа яго атрымаць. Як толькі Таццяна паспрабавала дамагчыся тлумачэнняў, незнаёмец павесіў трубку.

Першае, што прыйшло тады ў галаву, гэта тое, што ліст не можа ўтрымліваць адмоўную інфармацыю. Паведамленні пра трагедыі, раптоўныя сконы родзічаў і іншыя непрыемнасці, як правіла, паведамляюцца праз тэлеграмы, у крайнім выпадку — праз заказныя лісты. Усё гэта прыносіцца паштальёнамі дамоў, пад распіску атрымальніка.

Не, тут, дзякуй Богу, нешта іншае. Прычым, найхутчэй, прыемнае. Што ж, Зарэмба любіла такія сюрпрызы. Праўда, ёй досыць часта

даводзілася атрымліваць розныя цыдулкі, ананімныя лісты з прызнаннямі ў каханні, са страснымі просьбамі аб спатканнях, з абяцаннямі залатых гор і падобнымі мужчынскімі глупствамі. Нельга сказаць, што Зарэмба заўсёды адмаўляла сваім паклоннікам. Нават за апошні год, ужо сужыцелькай Бабаеўскага, яна двойчы адгукалася на пасланні, падкінутыя ёй у грымёрку немаведама кім. І адна з сустрэч закончылася даволі весела, у гасцінічным нумары «Інтурыста». Але цяпер ёй было не да забаваў: Зарэмба дужа перажывала ад зрыву здымак у серыяле, які абяцаў ёй і славу і грошы. Здымак, хутчэй за ўсё, не будзе наогул, а гэта ніяк не ўваходзіла ў Таніны планы.

Так, ёй зараз не да любоўных прыгодаў, і яна б не пайшла сёння ў тое аддзяленне сувязі па ўзгаданы ліст, каб не меркавала атрымаць нешта сур'ёзнейшае: усё ж любоўныя запіскі рэдка высылаюцца да запатрабавання.

Адбыўшы ранішнюю рэпетыцыю, дзе яна пару разоў накрычала на няшчаснага Аркадзя Рыгоравіча, Зарэмба хуценька выслізнула з тэатра, узяла таксі і праз дзесяць хвілін была ля патрэбнага паштовага аддзялення.

Бляклая сухая паштарка — відаць па ўсім, старая дзева — па-будзённаму выкінула ёй ліст праз акенца выдачы, папярэдне папрасіўшы распісацца. Ужо пры першым позірку на канверт Таццяну ахапіла расчараванне: стаяў мінскі зваротны адрас. Пісаў нехта А. Б. Шарповіч. А чаго можна чакаць ад прыватнага паслання Шарповіча, як не чарговых прызнанняў у захапленні яе пекнатой? Абрыдла!

Таццяна, аднак, падышла да свабоднага століка, прысела і разарвала канверт: пасланне было аддрукавана на якаснай ружаватай паперы. Вось што яна прачытала:

*«Паважаная Таццяна Яўгенаўна!*

Адразу прашу ў Вас прабачэння, што патрывожыў гэтым лістом, што так фамільярна да Вас звяртаюся. Не верце зваротнаму адрасу і можаце адразу выкінуць гэты канверт. Адрас нічога не значыць. Таксама прашу Вас, у нашых агульных інтарэсах, знішчыць і сам тэкст, а запомніць толькі ніжэйнапісанае.

Я з'яўляюся супрацоўнікам адной (не буду пакуль называць) сур'ёзнай амерыканскай кінакампаніі, якая мае намер праз месяц распачаць здымкі шырокафарматнага двухсерыйнага кінафільма. Фільм будзе здымацца на расійскім матэрыяле, на расійскі сюжэт сярэдзіны дзевятнаццатага стагоддзя ў Санкт-Пецярбургу.

Аднак у нас узнікла праблема. У апошні момант галоўны рэжысёр (а гэта найвядомейшае імя Галівуда) прыйшоў да высновы, што не зможа задзейнічаць у адной з галоўных роляў амерыканскую актрысу, як тое раней меркавалася. Ён лічыць, што тут павінна дзейнічаць мясцовая актрыса з тыповай славянскай знешнасцю. Прызнаюся, што на гэтай глебе здарыўся канфлікт паміж галоўным рэжысёрам і першым прадзюсерам, і паўстала пагроза зрыву здымак. Давядзецца плаціць няўстойкі, а гэта мільёны доляраў.

Адным словам, кампанія даручыла мне заняцца пошукам прыдатнай актрысы на гэтую ролю, таму што я грамадзянін Расійскай Федэрацыі і, зразумела, лягчэй за іншых магу зарыентавацца ў нашым асяроддзі. Скажу шчыра, ужо за тыдзень я знайшоў у Санкт-Пецярбургу

аж тры кандыдатуры на гэтую ролю. Я нават адаслаў па Інтэрнеце фотаздымкі актрыс галоўнаму рэжысёру, і ён, у прынцыпе, іх адобрыў як кандыдатак на кінапробы. Але, ужо пасля гэтага, знаходзячыся па службовай справе, звязанай таксама з будучымі здымкамі памянёнага фільма, я апынуўся ў Мінску. Чыста выпадкова сябры запрасілі мяне ў Ваш тэатр на спектакль, дзе Вы выконваеце галоўную ролю.

Шаноўная Таццяна Яўгенаўна, не стану гаварыць Вам банальных кампліментаў (накшталт таго, як я быў зачараваны Вашай ігрой і падобнае). Скажу па-дзелавому і коратка: я зразумеў, што на ролю нашаму фільму патрэбная якраз такая актрыса — з Вашым позіркам, з Вашай выразнай мімікай і жэстамі, з Вашымі жаноцкімі, па-славянску пышнымі формамі. Даруйце, калі дапусціў некаторую вольнасць у апошнім сказе, але па-іншаму не мог перадаць свае ўражанні ад... Ну ды ладна.

Цяпер пра галоўнае. Ужо праз дзень я завалодаў двума дзесяткамі Вашых каляровых фотаздымкаў (думаю, Вы мне даруеце гэтае самавольства), адсканіраваў іх і выслаў па Інтэрнеце галоўнаму рэжысёру. Ён адказаў не марудзячы, прычым ягоныя меркаванні цалкам супалі з маімі: знешне Вы ідэальна прыдатная на гэтую ролю. Праўда, галоўнаму неабходна пабачыць Вас у справе, правесці сякія-такія кінапробы. Думаю, Вы разумееце, што без гэтага немагчыма. Аднак магу запэўніць, што шанцаў у Вас непараўнальна больш, чым у астатніх дзвюх кандыдатак (адну актрысу галоўны, калі атрымаў Вашы фотаздымкі, адразу ж выкрасліў). Такім чынам, у Вас ёсць рэальная магчымасць зняцца ў аднаго з найбуйнейшых сусветных майстроў, у фільме, які абяцае стаць звышкасавым. А гэта мільёны долараў, шаноўная Таццяна Яўгенаўна.

Але ж пяройдзем да канкрэтыкі. Кінапробы намечана правесці роўна праз два тыдні ў Санкт-Пецярбургу. І калі Вы пагодзіцеся ўзяць у іх удзел, то сардэчна прашу Вас быць сёння роўна а палове восьмай вечара каля цырка, а іменна ля крайняй правай афішнай тумбы. Я да Вас сам падыду, і мы скіруем у рэстаранчык, дзе ў асобнай кабіне абмяркуем дэталі.

Вы можаце спытацца, хто я і вы мяне пазнаеце. Не трывожцеся, шаноўная Таццяна Яўгенаўна. Мой сціплы твар, мяркую, добра знаёмы Вам па штотыднёвай перадачы аднаго з галоўных расійскіх тэлеканалаў. Я там вядучы.

Што ж, да сустрэчы, Таццяна Яўгенаўна? Спадзяюся, усё ў нас атрымаецца.

І апошняе. Думаю, не трэба казаць, што наша спатканне павінна застацца таемным. Не варта заўчасна, пакуль не падпісаны кантракт, даваць розгалас у газетах і спараджаць кулуарныя плёткі. Да таго ж, здымкі будуць працягвацца да лета, і Вы ажно тры месяцы не зможаце прымаць удзел у рабоце Вашага тэатра. Мяркую, гэта не вельмі спадабаецца яго дырэктару. А там — хто ведае — можа, будзе новы кантракт, новы фільм?..

З нецярпеннем чакаю сустрэчы.

Даруйце, што не падпісваю свайго прозвішча».

Са складанымі пачуццямі выходзіла Таццяна з паштовага аддзялення. Гэта было хваравітае спалучэнне радаснага экстазу і напружанай

падазронасці. «Не можа такога быць, — гаварыла сабе Таццяна, — гэта занадта добра, каб быць праўдаю».

З апушчанай галавой, з лістом у руках, пабрыла Зарэмба па тратуары. Але ж чаму — не можа? Чаму гэта не павінна быць праўдай? Хіба не заслугоўвае ўрэшце яна, Таццяна, усіх тых добрых слоў, таго захаплення, што выказваў у сваім пасланні незнаёмы прадзюсер? Не, Зарэмба з дзяцінства ведае, што гэта так, што яна народжана для лепшай долі, чым гнісці ў агорклым Мінску, у гэтым задрыпаным драмтэатры. Можа, прабіў яе час? Можа, дайшла яна нарэшце да той доўгачаканай лёсапаваротнай кропкі? Заслужанай, заўважце, заслужанай кропкі!

Таццяна завітала ў кавярню, што тулілася ў вуглавым доме, прайшла да кутняга століка, заказала кубачак кавы. Так, трэба пасядзець і спакойна абмазгаваць тое, што адбылося. Лёгка сказаць: спакойна! Ці да спакою тут, калі з незапомных часоў марыла Зарэмба стаць зоркаю. Няважна якой — актрысай, спявачкай, тэлевядучай…

Не вельмі якасная, але гарачая і досыць моцная кава яшчэ больш узрушыла яе. Ну добра, думала Таццяна, хай усё высветліцца толькі сённяшнім вечарам. Але чаму не пажыць гэтым імгненнем радасці, навошта атручваць сабе душу падазрэннямі, недаверам? У яе і так было мала ўсцешнага ў жыцці, недаравальна мала ў параўнанні з тым, што яна заслугоўвае сваёй пекнатой, здольнасцямі. Лёс заўсёды быў да яе скупаваты, і чаму б не ўявіць, што менавіта зараз выпраўляецца гэтая несправядлівасць? Так, цяпер усё стане на сваё месца! Да ліха тэатр, да ліха Бабаеўскага! Зарэмба і без таго запланавала сужыцельстваваць з ім не болей за пяць гадоў. Ды за гэтыя пяць гадоў меркавала выціснуць яго, як анучку: займець вядучыя ролі, стварыць імя, зняцца ў некалькіх расійскіх фільмах. Ха, расійскіх! Ды яны папросту пігмеі побач з сапраўдным, амерыканскім кіно, зняўшыся ў якім, ёй не тое што Мінск — Масква будзе нягегліцай! Дзякуючы расійскай прэсе, гэтым гарлапанам і снобам, яна, Зарэмба, ледзь толькі пачаўшы здымацца ў Піцеры з амерыканцамі, праславіцца на ўсю постсавецкую прастору. Яе будуць малітоўна дамагацца лепшыя тэатры Масквы… Але Масква — толькі бляклы цень Галівуда… Галівуд! Адно гэтае слова прымушала яе трымцець з маленства ад захаплення і зайздрасці. Аднак ужо тады, калі праглядала ў сваім паршывым правінцыйным кінатэатрыку кінастужкі з Манро, ведала Зарэмба, што яна зробіць усё магчымае і немагчымае, каб заняць месца гэтай пышнацелай бландзінкі… І цяпер гэты час набліжаецца.

Апанаваная такімі лагоднымі мроямі, Зарэмба нават і не заўважыла, што выйшла з кавярні і брыдзе ўздоўж вуліцы. Прычым ідзе ў кірунку, адваротным патрэбнаму. Таццяна ўзмахнула рукой, і першы ж легкавік спыніўся ля яе ног.

— У цэнтр, — развальваючыся на заднім сядзенні, загадала яна пажылому вадзіцелю.

І ўсё ж рэшткі дня, да прызначанага часу спаткання, Зарэмба правяла ў трывозе. Салодкія летуценні пра хуткія і шчаслівыя змены ў жыцці раз-пораз перарываліся сумненнямі, няўпэўненасцю, чорнымі падазрэннямі. Часам здавалася, што розум не вытрымае гэтае барацьбы. А калі распраналася ў тэатральным гардэробе, заўважыла Таццяна, як няздарова бліскаюць яе вочы, як брыдка расчырванеўся

твар. Яна нават прашмыгнула перад абедам у грымёрку і забяліла тую празмерную чырвань.

Абедала яна, па завядзёнцы, разам з Бабаеўскім у рэстаране непадалёку. Каб прыхаваць хваляванне, каб чым-небудзь не выдаць трывогі, Зарэмба была з ім, як ніколі, гаваркая і ветлівая. Хваліла новую пастаноўку, за кампанію бэсціла нялюбага дырэктару Пугача, строіла сумесныя планы на лета: куды яны паедуць адпачываць. І толькі нервовы — да месца і не да месца — смяшок гаварыў пра небывалае душэўнае ўзрушэнне. Аркадзь Рыгоравіч нават пацікавіўся, чаму яна такая вясёлая.

Што ж, ён неўзабаве пра гэта даведаецца!

…А палове шостай Таццяна сказала, што ў яе баліць галава, і таму яна паедзе дадому. Гэта не выглядала падазроным, паколькі яна рэдка заставалася глядзець спектаклі, у якіх не прымала ўдзелу. Аркадзь Рыгоравіч, які ў гэты момант лаяўся па тэлефоне з адміністратарам, адно адабральна кіўнуў.

Дзве гадзіны Зарэмба прабавілася непадалёку ад цырка. Яшчэ за паўгадзіны да спаткання з незнаёмцам яна згледзела афішную тумбу. Гэта было сапраўды гожае месца для сустрэч, бо знаходзілася ў баку ад цыркавога ганка, у баку ад шляхоў, па якіх падыходзяць гледачы. А ў палове восьмай, праз паўгадзіны ад пачатку вечаровага відовішча, тут наогул павінна быць пуста. Да слова, свой мабільнік яна абачліва адключыла.

І вось роўна ў прызначаны час Таццяна заняла сваё месца ля тумбы — тут было не да дзявочых крыўлянняў, калі наўмысна спазняешся на спатканні з мужчынамі, каб набіць сабе кошт. Паўз яе шмыгалі тралейбусы, аўтобусы і легкавікі, крочылі нешматлікія пешаходы. Якраз насупраць, праз праспект Скарыны, знаходзіўся прыпынак грамадскага транспарту. Зарэмба міжволі накіроўвала туды позірк. Што за глупства! Не на тралейбусе ж будзе дабірацца супрадзюсер амерыканскага фільма. Але ж на чым? Таццяна адышлася на пару крокаў ад тумбы і зірнула па баках: і злева і справа набліжаліся незнаёмыя людзі...

Наручны гадзіннік няўмольна паказваў сорак хвілін на восьмую, сорак пяць… пяцьдзесят… роўна восем… І з гэткай жа няўмольнасцю станавілася для Таццяны відавочна, што не толькі ніякі прадзюсер да яе не падыдзе, а яшчэ і насміхаецца з яе, рагоча, згінаючыся напалам, нейкі нядобразычлівец, які ўсё гэта наладзіў. Стаіць ён, магчыма, вунь за тым кіёскам, глядзіць на яе, недарэку, і пацяшаецца. А назаўтра папаўзуць па тэатральных закутках плёткі-перасмешачкі…

Лютая, чалавекаиенавісніцкая злосць апанавала Зарэмбу. Закарцела кінуцца на праклятую тумбу, здзерці з яе афішу, з асалодай парваць на шматкі. А потым аблаяць прахожых асламі і сволачамі. Але нельга было паказваць выгляду. Яна засунула рукі ў кішэні паліто і сціяла кулакі так, што доўгія пазногці ўвайшлі ў далоні і пазгіналіся. У вачах памутнела. Таццяна наўздагад рушыла прэч. Хацелася разадраць ужо не афішу, а свой твар — твар дурніцы і ідыёткі. На дне правай кішэні ляжаў пачак цыгарэт. Зарэмба навобмацак, не вымаючы пачка, паспрабавала дастаць цыгарэту, але заблыталася пальцамі ў абгортцы, а тады ашалела дазвання і сціснула ў камяк, раздушыла, раструшчыла бязвінныя цыгарэты. Ад гэтага крыху палягчэла. Але толькі крыху…

У бяспамяцтве дабрыла яна да нейкай падваротні і там, у цемрадзі аркі, прыткнулася да сцяны, дастала ліст, запальніцу і аддала агню сваю хуткаплынную мару... Пакуль папера не згарэла дарэшты, пакуль не апякла ёй кончыкі пальцаў, Зарэмба няўцямна глядзела на язычкі полымя. А потым бязгучна і несуцешна заплакала.

## 23

Вечарам таго ж дня, каля шасці гадзін, Аркадзь Рыгоравіч Бабаеўскі ўбачыў на сваім стале чысты канверт. Чысты ў тым сэнсе, што не было на ім ні прозвішча адрасата, ні зваротнага адраса. Гэта непрыемна здзівіла дырэктара і прымусіла ўзяць канверт. Паварочаўшы яго ў руках, Рыгоравіч не знайшоў ніякіх пазнак. І тым не менш ліст быў шчыльна заклеены.

Дырэктар націснуў кнопку перагаворніка, узяў трубку і звярнуўся да сваёй сакратаркі:

— Ніна, што гэта за канверт у мяне на стале?

— Канверт?.. А-а... Ды гэта, мусіць, ад ранішняй пошты, — успомніла сакратарка.

— Дык я ж яго толькі зараз убачыў!

— А я яго вам пятнаццаць хвілін назад і прынесла. Вы яшчэ тады па тэлефоне размаўлялі. Памятаеце?

— А чаму толькі зараз? Чаму не з усёй поштай? — прыставаў Бабаеўскі, яўна раздражнёны безыменным лістом.

— Сама не ведаю... — сумелася Ніна. — Мне здавалася, я ўсё тады вам занесла. А нядаўна гляджу — нейкі канверт ляжыць... Падумала — з ранішняй пошты выпаў.

— Ну ладна... — буркнуў Аркадзь Рыгоравіч і разарваў канверт. Тэкст быў выведзены на прынтэр, прычым мудрагелістым, вычварным шрыфтам.

«*Высокашаноўны Аркадзь Рыгоравіч*, — чытаў дырэктар, — піша Вам пастаянны, шматгадовы, адданы глядач Вашых пастановак. Бязмерна цэнячы Ваш дар рэжысёра, а таксама ўсведамляючы Вашу значнасць у беларускім культурным працэсе, хачу выказаць заклапочанасць тым, што актрыса Таццяна Зарэмба, якая неабыякавая Вам не толькі з прычыны выканання вядучых роляў, але і з цалкам мной зразумелых сардэчных прычын, не цэніць Вас належным чынам і паводзіць сябе амаральна. Карыстаючыся бязмерным даверам і прастадушнасцю геніяльнага чалавека, гэтая асоба, на жаль, не захоўвае жаночай вернасці, пра што я з сумам і болем нядаўна даведаўся. Каб не быць галаслоўным, скажу, што ў дадзены момант, калі вы напружана рыхтуецеся да спектакля, Зарэмба знаходзіцца на спатканні з адным расійскім прадзюсерам, якога таксама намерваецца закілзаць у сваіх карыслівых мэтах. А іменна: атрымаць месца ў яго дарагім і прэстыжным фільме. Вы, канешне, можаце зараз набраць нумар яе мабільнага тэлефона і ўпэўніцца, што ён адключаны. Аднак лепш за ўсё паслухайцеся маёй сяброўскай парады і кінце, кінце зусім гэтую нікчэмную, вартую жалю інтрыганку, вярніцеся ў сям'ю і радуйце надалей гледачоў сваім рэжысёрскім талентам.

Усяго Вам добрага, шаноўны Аркадзь Рыгоравіч, і даруйце, калі крыху Вас засмуціў. Але нельга было маўчаць.

*Добразычлівец*».

Хвіліны тры праседзеў Аркадзь Рыгоравіч нерухома. Тупа глядзеў на ліст. Затым страпянуўся, схапіўся за тэлефонную трубку і тут жа, як апечаны, адняў ад яе руку. Ашчаперыў галаву, у якой не было ніякіх канструктыўных думак — нібы выцялі Бабаеўскага па патыліцы мяшком з бульбаю. Ускочыў, таропка і бязмэтна захадзіў па пакоі. Сеў на канапу, вывудзіў з кішэні мабільнік, стаў ліхаманкава націскаць кнопкі. Але, не набраўшы да канца, неяк баязліва выключыў апарат і зладзеявата схаваў яго назад у кішэню.

Нарэшце мозг пачаў ацэньваць тое, што адбылося. Вярнулася і магчымасць дзейнічаць. Бабаеўскі падляцеў да стала, уключыў перагаворнік і штучна спакойным голасам прамовіў:

— Ніна, зайдзі да мяне.

Потым абабег стол, плюхнуўся ў крэсла і стаў чакаць. Рукі, што ляжалі на стальніцы, не знаходзілі сабе прымянення і хапалі то акуляры, то аловак, то самапіску. Прытым відавочна падрыгвалі. Рыгоравіч апусціў іх уніз.

Ніна нешта замарудзілася і не прыходзіла. Гэта раззлавала дырэктара і яшчэ раз нагадала пра тое, што трэба ўсё ж здвоіць іхнія кабінеты і зрабіць агульны ўваход — каб усе наведвальнікі праходзілі праз яе пакой, і яна заўсёды была ў яго пад рукой. Гэтае пытанне непакоіла Аркадзя Рыгоравіча, па меншай меры, апошнія два гады, але не давала яго вырашыць адна важкая акалічнасць: як быць з інтымнымі спатканнямі ў кабінеце, да якіх, як да наркотыкаў, прызвычаіўся Бабаеўскі? І які знайсці кампраміс? А пакуль тое, даводзілася гукацца з сакратаркай праз перагаворнік ды чакаць, калі яна выйдзе з суседняга кабінета, замкне яго і толькі тады дасягне дырэктарскай.

Нарэшце Ніна, як заўсёды без стуку, нешырока адчыніла дзверы і праслізнула ў кабінет Бабаеўскага. Гэта была хударлявая рыжавалосая жанчына гадоў сарака пяці, не прыгажуня, маці траіх дзяцей, верная жонка. А самае галоўнае — руплівы работнік і чалавек, бязмерна адданы Аркадзю Рыгоравічу.

Сакратарка дзелавіта наблізілася да дырэктара і вышкалена замерла.

— Слухай, Ніна, ты дакладна памятаеш, што гэты канверт прыйшоў з ранішняй поштай? — спытаўся Аркадзь Рыгоравіч, незвычайна, як змеціла сакратарка, устурбаваны; канверт ён трымаў у руках.

— Папраўдзе, не магу сказаць дакладна, — прызналася Ніна. — Я ўбачыла, што ляжыць ліст, і вырашыла, што ёнываліўся з агульнае кіпы… Вы ж ведаеце, колькі ў мяне папераў на стале. Мог жа ён упасці на іншы стос і згубіцца… Тым больш — белы, без надпісаў.

— Так… — задумліва мяў шчокі пальцамі Бабаеўскі. — Ну добра. А пошту ты сама забірала?

— Канешне. Як заўсёды — у вахцёра. Мне толькі заказныя лісты непасрэдна ў кабінет дастаўляюць.

— А падкінуць гэты канверт не маглі? Хто да цябе пасля абеду заходзіў?

— Ну, вы скажаце! — усміхнулася сакратарка. — Ды чалавек трыццаць было, Аркадзь Рыгоравіч. Уся ж дакументацыя праз мяне.

— З чужых хто завітваў?

— Так, — Ніна паспрабавала прыгадаць некалькіх чалавек.

Потым перабралі акцёраў і рэжысёраў, што па справе і без з'яўляліся ў сакратарскай пасля абеду. Атрымалася — ледзь не траціна тэатра.

— Ладна, Нінок, — сказаў Бабаеўскі. — Я толькі цябе прашу надалей не прымаць ніякіх ананімных лістоў. Сур'ёзна прашу, — ён зрабіў націск на слове «сур'ёзна». — Ты чула, што ў Амерыцы лісты з заражаным мікробамі парашком дасылаюць?

— Так... — напалохана зірнула на яго Ніна.

— А таму загадваю табе іх не ўскрываць, а несці ў сметніцу, што на заднім двары. Зразумела?

— Ага...

— Ну вось і згода, — Бабаеўскі падняўся з крэсла. — Ідзі займайся, калі ёсць справы. Калі не — можаш ісці дадому.

Ніна кіўнула, павярнулася, як салдат, і мерна працокала да выхаду.

Аркадзь Рыгоравіч, як толькі яна выйшла, памкнуўся да дзвярэй і два разы крутануў барабан верхняга замка. Потым вярнуўся да стала, усеўся на рабочае месца, зняў тэлефонную трубку і набраў нумар сваёй кватэры. Кватэра маўчала. І вось толькі зараз з усёй выразнасцю дайшло да яго тое, што зусім не важна, хто і як пераслаў яму ананімны ліст, а важна, што ўсё — *праўда*. Нябачны абруч сціў яго скроні. Ад непазбыўнасці гэтай бязлітаснай праўды, ад яе д'ябальскай вастрыні захацелася схавацца пад стол, заплюшчыць вочы і заціснуць вушы далонямі.

«Яна ж сказала мне, што пайшла дадому. Як жа так?» — разгублена, па-дзіцячаму наіўна паўтараў пра сябе Бабаеўскі, раз за разам набіраючы хатні нумар — быццам бы колькасць набораў нешта мяняла. Потым схапіў пракляты ліст і яшчэ двойчы яго перачытаў. «Мабільнік! Там сказана пра мабільнік. Ну, канешне, яна проста выйшла ў краму па хлеб, у іх якраз кончыўся ўчора хлеб — яны яшчэ, помніцца, з-за гэтага пасварыліся». Абнадзееoriginalны Рыгоравіч набраў нумар Таццянінага мабільнага тэлефона. Але незнаёмы мілагучны голас паведаміў, што «нумар зараз недасяжны для прыёму або адключаны». Ад слова «адключаны» Бабаеўскага апанаваў мітуслівы адчай. Ён яшчэ раз утаропіўся ў ананімны ліст: «Вы, канешне, можаце зараз набраць нумар яе мабільнага тэлефона і ўпэўніцца, што ён адключаны», — так раіў незнаёмы добразычлівец.

Усё, што адбывалася з Бабаеўскім у наступныя некалькі гадзін, не падлягала ніякай логіцы. Яго вяло ачмурэнне.

Недзе без пятнаццаці сем, не зважаючы на спектакль і на запрошаных высокапастаўленых гасцей, выбраўся дырэктар з тэатра праз чорны ход і, расхрыстаны, без пальчатак і шапкі, памчаўся ў бок праспекта. Злавіў таксі і паехаў да Таццяны. У пад'езд ён уварваўся тайфунам і ледзь не збіў з ног ціхмяную бабульку, што спускалася яму насустрач.

Дапяўшы дзвярэй, Аркадзь Рыгоравіч даў працяглы званок, а тады замалаціў па іх кулакамі. У шале ён нават забыўся пра ключы. Потым усё ж вывудзіў з кішэні звязку ключоў і доўга не мог знайсці патрэбныя, доўга не мог патрапіць у шчыліну... Кватэра была пустая і акурат у такім выглядзе, у якім яе Бабаеўскі пакінуў раніцай. Але гэта якраз і давала падставы меркаваць, што Таня тут не з'яўлялася. Не было ні яе паліто, ні ботаў, ні шапкі, не было наогул ніякіх слядоў.

«Яна мяне падманула, — зашаптаў сам сабе Бабаеўскі. — Яна ж сказала, што пойдзе дадому. Як жа так?» Ён знясілена апусціўся на канапу і з паўгадзіны праседзеў у кволай бяздумнасці.

Устаў з канапы пастарэлы гадоў на дзесяць — не злы, не апанаваны прагай адпомсціць, а нейкі млявы і абыякавы. Выйшаў з кватэры і пачаў спускацца па лесвіцы. І тут штосьці нібы стукнула яму ў патыліцу: Рыгоравіч азірнуўся і паглядзеў на дзверы. «У апошні раз», — упэўнена прагучала ў яго галаве, і раптам з усёй выразнасцю ўявілася, як наступным разам сустрэнуць яго перад гэтымі дзвярыма два яго чамаданы — чорны і рыжы, вялікія пукатыя чамаданы; а выставіць іх нейкі ўхмылісты малады здаравіла. Добра яшчэ, калі кухталёў не навешае.

Праставалосы і ў незашпіленым паліто, брыў Бабаеўскі куды вялі вочы. А прывялі яны напачатку ў нейкі шынок, за стойку са спіртнымі напоямі. Рыгоравіч яшчэ даволі някепска памятаў, як заказаў два разы па сто грамаў гарэлкі. Закускі не браў. Далейшае занатавалася няпэўна і нейкімі ўрыўкамі. Помніць толькі, што апынуўся каля яго спагадлівы таварыш — нізкі нягеглы дзядзька ў пацёрханай куртцы, — якога дырэктар паіў, частаваў, якому скардзіўся на жыццё. Стаялі яны, здаецца, за стойкай бара, потым сядзелі за сталом, потым ізноў стаялі за іншай стойкай, мабыць — ужо ў іншым шынку. Потым ехалі на таксоўцы, доўга і дрогка ехалі… Цьмяна праступала ў свядомасці харчовая крама на шырачэзнай вуліцы, пасля — падваротня і змрочны пад'езд, бутэлька, якую яны пілі з дзядзькам па чарзе з рыльца… А потым адбылося нешта неверагоднае: спагадлівы твар сабутэльніка знячэўку зрабіўся ачужэлы і злы, ён схапіў Аркадзя Рыгоравіча за адварот паліто і стаў нешта патрабавальна крычаць. Бабаеўскі ўслухоўваўся і не ўспрымаў задурманеным розумам, чаго дзядзька хоча. Тады сабутэльнік рвануў яго на сябе, ударыў ілбом у зубы і тут жа, не марудзячы, — у пах чаравікам. Ад пранізлівага болю прытомнасць на імгненне вярнулася да Бабаеўскага, ён выпрастаўся і абрушыўся на нягеглага дзязьку ўсёй сваёй масай, падмяў… Але нешта навалілася на яго з бакоў і зверху, нечыя кулакі замалацілі па галаве і спіне. Яго зрынулі долу і білі нагамі…

## 24

Сёння, у апошні дзень лютага, Валерый Віктаравіч Адынец пасля абеду сарваўся з работы і паехаў дадому. Адынцу пазванілі з клінікі для душэўнахворых і паведамілі, што яго брат, Алег Віктаравіч, знаходзіцца «ў крытычным стане». Што азначала — пры смерці. Да гэтага ішло даўно. Ад працяглай нерухомасці ў брата ўзніклі праблемы з ныркамі, да таго ж адказвала сэрца, шматлікія пролежні псавалі кроў, знясільвалі і без таго дарэшты аслабелы арганізм няшчаснага Алега.

Валерый Віктаравіч зрабіў крук і заехаў дадому. Ён доўга і бесталкова пераапранаўся, дастаўаў нейкія мяшкі і торбы, колькі разоў пералічыў у кашальку грошы і толькі тады зразумеў, што ўсё гэта яму не патрэбна, што ён проста валаводзіць са страху перад недалёкім спатканнем. Ён апусціўся на канапу і безуважна ўтаропіўся на кніжную секцыю. Усе мудрацы, што жылі і жывуць на зямлі, думкі якіх былі згрупаваны на гэтых паліцах, наўрад ці змаглі б зараз суцешыць Адынца. Не змаглі б па той простай прычыне, што самі смяротныя.

А Валерый Віктаравіч мусіць зараз ехаць на спатканне са смерцю — ён з усёй неадхільнасцю прадчуваў гэта.

Адна толькі кніга прыцягнула яго ўвагу, — тая кніга, што ніколі не ставілася ім у адзін шэраг з астатнімі. Яна і зараз ляжала на тумбачцы каля канапы. Адынец узяў яе ў рукі, раскрыў і, не гартаючы, тут жа прачытаў наступнае: «Яшчэ трохі, і свет ужо не пабачыць Мяне; а вы пабачыце Мяне, бо Я жыву, і вы будзеце жыць» (Іаан, 14 : 19).

Неўзабаве ён ужо тросся на маршрутным аўтобусе па горадзе, які з набліжэннем каляндарнай вясны і не думаў пазбаўляцца ад снегу. І хоць марозік быў лёгенькі, градусаў пяць — не болей, адчувалася, што людзі і птушкі, кіёскі і вітрыны, тратуары і вуліцы дужа стаміліся ад зімы.

На ўскраіне Валерый Віктаравіч перасеў на іншы аўтобус, які вывез яго за горад і ў хуткім часе дамчаў да высокага і працяглага муру клінікі для вар'ятаў. Гэты мур, а таксама двор і будынкі даўно ўжо перасталі шакіраваць Адынца. Ён быў тут сталым наведвальнікам. Не мог толькі спакойна глядзець на хворых, што трапляліся яму на тэрыторыі і ў калідорах вар'ятні. Валерый Віктаравіч міжволі прыжмурваў вочы і бачыў толькі іхнія размытыя постаці, чуў галасы, на твары ж зірнуць не асмельваўся. Яму хапала братавага спакутаванага аблічча, што ўжо чвэрць стагоддзя, удзень і ўночы, стаяла перад ім. Ён пры ўсім жаданні не змог бы забыцца на гэты твар, бо тое быў, па сутнасці, сам Валерый Віктаравіч Адынец — блізнюк хворага Алега.

Але зараз, як ніколі, агаломшылі Валерыя Віктаравіча бледнасць, зляжалыя рэдзенькія валасы, сінія кругі пад вачыма. Алег знаходзіўся ў рэанімацыйным боксе. Ён паўляжаў на некалькіх падушках, падаткнутых пад спіну і галаву, у бальнічнай піжаме, накрыты казённай коўдрай па грудзі; тонкія рукі былі выцягнуты ўздоўж цела. Уражвала худзізна братавых пальцаў, а таксама касцістасць твару. Валерый Віктаравіч і сам быў чалавекам хударлявы, але ніколі не думаў, што мае такі вуглаваты чэрап, такі востры нос, такую выпнутую наперад ніжнюю сківіцу.

Брат ляжаў адзін, суседні ложак быў акуратна засланы. На Алегавай тумбачцы стаялі два пустыя і адзін поўны балоны для кропельніц. Стойка для кропельніцы ўзвышалася ад брата леваруч. Паветра ў боксе не падалося нясвежым, аднак моцна пахла хлоркай і лекамі.

Алег млява перавёў позірк на Валерыя Віктаравіча, і — дзіўна! — упершыню за апошнія два гады ў ім мільганула радасць. Так, ва ўсялякім разе, падалося Валерыю.

— Гэта я, Алежак, — ціха сказаў ён, наблізіўся і стаў над братам.

— Сядзь, Валерка, — слабым голасам прамовіў Алег і паказаў вачыма на табурэтку, што стаяла ля самага ложка.

Валерый Віктаравіч хацеў адказаць, але ў горле ўтварыўся даўкі камяк. Ён ледзь не расплакаўся. Сеў на паказанае братам месца.

— Што там на двары? — усё тым жа слабым голасам спытаўся брат.

— Апошні дзень зімы, Алежка, — механічна прамармытаў Валерый; за два гады — з таго часу, як з братам здарылася беспрасветнае вар'яцтва, ён развучыўся з ім размаўляць як з роўным.

— Зіма... — раздумліва прамовіў брат. — Я забыўся, як яна выглядае...

«О Госпадзе, дай мне сілы стрываць», — падумаў Валерый, бо надрыўная спазма зноў сціснула насаглотку.

— Затое я бачу снег... Вунь, у акне. — Алег паказаў вачыма на вузкае высокае акно, знізу, на тры чвэрці, зафарбаванае пад зялёны колер сцяны. — Снег ішоў учора і тры дні таму... Тры дні таму ён быў асабліва прыгожы... Ведаеш, Валерка, там... — ён хацеў паказаць правай рукою, але толькі перабраў пальцамі, — там, пад акном, вечарам уключаецца ліхтар і дзівосна падсвечвае шыбу... Калі ідзе снег... — хворы запнуўся і аблізаў пасмяглыя губы, — то сняжынкі здаюцца такімі цудоўнымі... І кожная мае сваю душу... Гэта матылькі, якія прылятаюць мяне наведаць...

«Божа, памілуй яго душу, — сказаў сам сабе Валерый, міжволі адвёўшы пагляд ад братавых вачэй. — Не, ужо лепей поўнае вар'яцтва, чым усведамляць сваё маруднае паміранне...»

— Усё будзе добра, Алежак, усё будзе добра... — толькі і здолеў ён з сябе выціснуць.

— А ведаеш, мне ўжо лепей, мне значна лепей апошнім часам. — Голас Алега быў хоць нядужы і надтрэснуты, аднак вельмі падобны на братаў голас.

І раптам зімна стала на душы ў Валерыя Віктаравіча, зімна і вусцішна ад таго, што ўявілася, як ён сам — праз гадоў трыццаць ці праз тры месяцы — гэтак жа апынецца на смяротным ложы: з касцістым сінюшным тварам, з прыліплымі да лба рэдкімі пасмамі, з нямоглымі дротападобнымі рукамі. Але ў адным будзе іх розніца — у тым, што не прыйдзе да яго брат Алег, не прыйдзе ніхто... Небывалы адчай авалодаў Валерыем Віктаравічам. Закарцела ўпасці перад братам на калені, цалаваць рукі, вымольваць прабачэнне за здароўе і розум. Але не змог, баючыся парушыць адносны спакой няшчаснага, а толькі напружыўся ўсімі цяглiцамі. А той нібы адчуў братаву душэўную барацьбу і прамовіў:

— Ты не шкадуй мяне, брат. Кожнаму сваё. Бачыш, я ў ясным розуме, а гэта добра. — Алег вымучыў на твары ледзь прыкметную ўсмешку. — Я хачу табе сказаць пару слоў...

— Канешне, — паспешліва падхапіў Валерый Віктаравіч, — канешне, гавары. Я...

— Ты зачыні, калі ласка, як найшчыльней дзверы, — брат нават злёгку кіўнуў падбародкам у іх бок.

У дзвярах і напраўду была шчыліна сантыметраў дзесяць. Валерый устаў і зачыніў іх, а тады вярнуўся да Алега.

— Слухай, брат, слухай мяне ўважліва. — Голас хворага крыху ўзмацніўся, параўнеў. — Я ведаю, што са мной адбывалася ўсе гэтыя гады... цяпер ведаю... Пекла бывае і на зямлі, Валерка, непасрэдна на нашай зямлі... Я там быў — так было трэба...

«Ён ізноў трызніць!» — са шкадаваннем падумаў Валерый Віктаравіч, але слухаў уважліва.

— Тое пекла, дзе я знаходзіўся, гэта толькі адлюстраванне, толькі слабае падабенства сапраўдных катавальняў Сусвету... Тых катавальняў, дзе томяцца душы грэшнікаў... О! Мне толькі аднойчы дазволілі туды зазірнуць... туды — у тагасветнае пекла... Гэта жах, Валерка!

Я скажу табе больш: калі б чалавек, што жыве паўнакроўна, той самы звычайны абывацель… убачыў на імгненне сапраўднае пекла, ён бы… ён бы, мусіць, памёр ад адчаю… А калі б не памёр, то ўжо зарокся б не грашыць да скону. Ды што там абывацель, брат! Забойца дзяцей, гвалтаўнік, знішчальнік цэлых народаў увобмірг бы зрабіўся рахманай авечкаю, каб туды зазірнуў… Ён бы на зямлю ўпаў, цалаваў бы яе ў слязах… ён бы на жываце папоўз да самай Дамавіны Гасподняй… тысячы кіламетраў бы адужаў на жываце, каб вымаліць сабе даравання… Толькі не дадзена ім туды зазірнуць! — хваравіта, тонка ўсклікнуў Алег і збіўся з дыхання.

«Гэта, відаць, агонія», — мільганула ў галаве Валерыя Віктаравіча.

Ён ужо хацеў выйсці і клікнуць медсястру, але брат нечакана падняў бяссільную, здавалася б, правую руку і паклаў яе на братава калена.

— Пачакай, брат, пачакай, мілы, даслухай… — Яго голас цяпер гучаў сіплай фістулай. — Ніхто б не толькі не грашыў, каб ведаў наступствы… але жыў бы ў бясконцай любові, у злагадзе з усім светам: з людзьмі, птушкамі, са звярамі і чарвячкамі… Пра чарвячкоў асобна скажу… Не крыўдзь іх, Валерка, ні словам ні дзеяннем… Істоты яны самыя чыстыя, хоць і жывуць у зямлі, у цемрадзі… Таму што не ядуць яны жывой плоці, а толькі гноем сілкуюцца… Чалавек жывёлу знішчае, рыбак і птушачак… І тыя, у сваю чаргу, адно аднаго паядаюць… А чарвяк, ён не тое што жывую істоту не з'есць, ён травінку грызці не стане… ён толькі мёртвым харчуецца… ён наш санітар, ён бязгрэшны…

«Бедны, бедны мой брат!» — са скрухай глядзеў на Алега Валерый Віктаравіч.

— Ты пра пекла тое людзям перадай… каб страх Божы яны не гублялі… Шкадую іх, і забойцаў, і гвалтаўнікоў, і самагубцаў, і здраднікаў, вой як шкадую… Няма ў іх любові Хрыстовай, то хай хоць на страху пякельным трымаюцца… Пра чарвяка хай памятаюць, не крыўдзяць хай чарвячка — ён за іх у іншасвеце заступнік.

Брат перапыніўся, аддыхваючыся. Аблізаў вусны. У яго вачах з'явіўся ліхаманкавы бляск. Валерый Віктаравіч з трывогай крануўся ягонай рукі — тая была гарачая, але не моцна.

— Табе нельга стамляцца, Алежка. Вунь і лоб узмакрэў… — Адынец дастаў насоўку і выцер некалькі кропелек поту на братавым ілбе. — Паляжы ціха… А я медсястру прывяду…

— Не трэба, Валерка, не трэба сястру… Я іх баюся… хоць і ніколі зла ад іх не было… Я буду ціха гаварыць… ужо хутка скончу… А ты не перабівай… не перабівай, нават калі не згодны са мною…

Валерый Віктаравіч узяў і гладзіў яго сухую руку.

— Памятаеш… Памятаеш двор наш на старой кватэры, на вуліцы Усходняй?.. Цяністы такі, зацішны дворык…

— Памятаю, Алег. Канешне, памятаю…

«Госпадзе, ды я ж ніколі не ўспамінаў пра той дом!»

— Ні аб чым не шкадую… не наракаю на свой лёс… А па двары тым нуджуся… Каштан у нас пад акном рос. Прыгожа так зелянеў, пахуча… І цвіў кожны травень… Памятаеш?

— Памятаю… — Валерый Віктаравіч ужо не мог стрымліваць слёз, яны бобам каціліся па яго шчоках.

— А пад каштанам тым лавачка стаяла, жоўтая, з сіняй спінкаю… Я там сядзець любіў… асабліва вясною і лецейкам… І глядзець, як двор наш жыве… галасы яго слухаць… Сонца гуляе па траўцы, па дарожках, па бялізне развешанай, галасы людскія перагукваюцца між будынкаў, глушацца зелянінаю… А я на арку гляджу, што ў супрацьлеглым канцы двара… Адтуль бацькі нашы з работы вяртаюцца… Убачу іх — і бягу галопам, цалуюся… А мама то цукерку з сумкі дастане, то пячэнне, а то і марожанае…

— Госпадзе, а я?! Дзе ж я быў тады, Алежак?! — ускрыкнуў Валерый і сам спужаўся гучнасці свайго голасу.

— А ты?.. — здзіўлена і ласкава паглядзеў на яго брат. — А там жа, там жа непадалёк. З хлапчукамі.

— А я… я хіба не сустракаў разам з табой тату з мамаю?! — Валерый Віктаравіч начыста забыўся на падрабязнасці тых гадоў.

— І ты сустракаў, Валерык… І ты таксама… А толькі ты з хлапчукамі больш бавіўся, цябе было дамоў не загнаць… — Алег крыху памаўчаў. — Ты завязі мяне, брат, у наш дворык. Як пацяплее, завязі… Мне б адным вокам зірнуць на яго, пад каштанам тым пасядзець, пацікаваць за той аркаю, з якой тата з мамай выходзілі…

Адынец не мог гаварыць ад пакутлівых спазмаў, што разрывалі яго грудзі і горла. І раптам — толькі ў гэтую секунду! — ён успомніў, што няма, некалькі гадоў ужо няма ні двара іх старога, ні дома: знеслі іх, зруйнавалі; новабудоўлі там узвышаюцца… Ні каштана няма, ні аркі той запаветнай…

— Добра, Алежак! — роспачна ўскрыкнуў ён. — Завязу, пакажу… пабудзем у нашым дварэ… Мы з табой яшчэ пажывём, браце. Праўда? — Ён укленчыў перад ложкам і прыпаў да Алегавых грудзей рыдаючы. — Усё зраблю, усё, што ні пажадаеш… А пакуль… Пакуль, хочаш, я цябе дамоў забяру? Хутка вясна, зелянiна, дзьмухаўцовае царства… Га? Паедзеш, Алежак?

— Паеду… — задумліва, упёршы пагляд у столь, сказаў брат.

— То я пабягу зараз, з галоўным перагавару… Ты пачакай… Я ўпрашу яго цябе адпусціць… упрашу абавязкова… — Ён устаў на ногі. — Пачакаеш? Я мігам.

— Пачакаю. Дзякуй… Дзякуй табе, Валерык. — Брат глядзеў на яго абсалютна яснымі, не замглёнымі шматгадовым вар'яцтвам вачыма.

Валерый Віктаравіч, як хлапчук, кінуўся з палаты на злом галавы. У палату якраз уваходзіла медсястра.

Ён доўга, слёзна і збівіста ўгаворваў сухарлявага галоўурача — старога яўрэя з надзвычай ласкавымі ільснянымі вачыма. Той глядзеў на Валерыя Віктаравіча і толькі са шкадобай хітаў галавою. Марк Яўсеевіч ведаў, што не зможа выпісаць Алега Адынца… Больш таго, ён ведаў, што рэшта Алегавага жыцця вымяраецца не днямі — гадзінамі. Пра гэта адназначна казалі пасля ранішняга агляду і уролаг, і кардыёлаг, і тэрапеўт… Праз дзесяць хвілін гэтай шчымлівай спрэчкі ўрачу патэлефанавалі, ён папрасіў Адынца пачакаць і таропка выйшаў з кабінета.

У яго адсутнасць распалены мозг Валерыя Віктаравіча прыдумваў галаваломныя аргументы, каб пераканаць доктара адпусціць Алега дадому. Адынец узрушана крочыў па памяшканні, размахваў рукамі

і гаварыў сам з сабою... Ён ведаў, што дзеля братавай перадсмяротнай волі пойдзе на ўсё. Ён сам стаяў на грані вар'яцтва...

А за акном зноў церусіў снег. Несканчоная, непазбыўная, дакучлівая зіма!

...Дзверы расчыніліся неяк марудліва і нясмела, і Марк Яўсеевіч зайшоў у кабінет — з пануранай галавою, з апушчанымі ў кішэні халата рукамі.

— Доктар! — памкнуўся да яго Адынец. — Я вас прашу... доктар!..

— Не трэба, Валерый Віктаравіч... Не трэба... — Урач знерухомеў пасярод пакоя і вінавата зірнуў на прасіцеля сваімі добрымі, у заўсёднай вільготнай павалоцы вачыма. — Ваш брат сканаў... Толькі што... прабачце...

## 25

Апошні месяц Анжэла Гольцава жыла ў пастаянным стрэсе. Усё было не так, усё з рук валілася. А галоўнае, даймалі штоночныя званкі па тэлефоне ад нейкага вырадка. Рэдка якую ноч не было гэтых пакутлівых званкоў. І нават калі тэлефон маўчаў, то ўсё адно не магла спаць спакойна Анжэла, бо кожную хвіліну чакала, што затрашчыць абрыдлы апарат, і прыйдзецца ляцець да яго, каб сын не прачнуўся.

На тым канцы лініі, калі Анжэла брала трубку, злавесна маўчалі. І гэта найбольш вярэдзіла нервы. Іншым разам хацелася ўзняць тэлефон дагары і разбіць аб падлогу. Карцела выкрыкнуць у трубку праклёны начному дамагальніку, паслаць яго да чортавай маці. Але не насмельвалася на гэта Гольцава, а толькі здымала трубку, з трымтлівым сэрцам прыпадала да яе і баязліва ўслухоўвалася ў цішыню. Яна чамусьці была ўпэўненая, што гэта штукарствы яе ненавіснага мужа, які і з турмы, праз нейкага памагатага, хоча яе даканаць. А можа?.. Не, яна нават думаць сабе не дазваляла пра гэтае «можа» — пра тое, што Антось выйшаў на волю і, перш чым нанесці смяротны ўдар, з асалодай шкуматае яе душу. А на волю ён выйсці не мог іначай як праз уцёкі... Гэта было самым жахлівым, што здарылася б, і Гольцава ўсяляк адганяла, адштурхоўвала ад сябе такія здагадкі. І, вядома, не магла пазбыцца дазвання — не давалі начныя званкі.

А яшчэ Віталік, сужыцель, стаў начаваць у яе ўсё радзей, спасылаўся на жыццёвыя цяжкасці і праблемы, якія ён павінен адолець. Прыходзіў добра калі раз на тыдзень, быў негаваркі, маркотны, нязменна прыносіў бутэльку таннага віна... Не, не магла Анжэла дзяліцца з ім сваімі трывогамі.

Да таго ж сын Андрэйка стаў на сябе не падобны, закінуў вучобу, атрымліваў тройкі і двойкі, а аднаго разу моцна пабіў аднакласніка. Анжэлу выклікалі ў школу, і адбылася непрыемная размова з класным кіраўніком, таксама прыйшлося прасіць прабачэння ў бацькоў хлопчыка. Сам Андрэйка на яе ўшчуванні не рэагаваў, урокі па-ранейшаму рыхтаваў абы-як, а ўсё больш праседжваў у закутку з прыгодніцкімі кніжкамі. Чытаў запоем. Анжэла не ведала спосабу, як прымусіць Андрэйку ўзяцца за розум, акрамя фізічнага пакарання. А гэта, зважаючы на сынава заіканне, было недапушчальна.

Аднойчы ў суботу, пасля аж трох начных званкоў, што раздаліся з двухгадзіннымі прамежкамі, Гольцава адважылася на адчайны крок. Выправіўшы Андрэйку ў школу, яна неабачліва лёгка апранулася і паехала ў супрацьлеглы канец горада, дзе ў даваеннай чатырохпавярхоўцы, у камунальным пакоі пражывала ненавісная ёй свякруха. Не, Анжэла не пайшла да яе, а змяшалася з натоўпам пакупнікоў перад крамай «Садавіна-гародніна» (там быў невялічкі рынак) і цікавала за свякрушыным пад'ездам. Нягледзячы на мароз і пранізлівы вецер, яна прабыла там гадзіны тры ў вар'яцкім спадзеве ўбачыць Антося. Што яна будзе рабіць, калі сапраўды згледзіць абрыдлага мужа, Гольцава не ведала.

Адно, што займела Анжэла ад гэтае варты, — абветраны твар, азяблае цела і скалелыя да болю ў пазногцях пальцы. Нават свякруха з пад'езда не выйшла.

Па вяртанні дадому Гольцаву чакаў новы сюрпрыз. У паштовай скрыні, якую яна рэгулярна правярала (хоць па беднасці і не выпісвала газет), ляжаў безыменны канверт. Яна паспяшалася ў кватэру, скінула паліто на тумбачку, прайшла ў кухню і там, пры дзённым святле, ускрыла канверт і прачытала напісаны ад рукі тэкст:

«*Анжэла!* Даруй, што паведамляю табе гэтую сумную навіну ў пісьмовай форме. Але, павер, гэта адзіны спосаб сказаць табе ўсё неабходнае, каб не захліпнуцца ад слёз. Прыйшла пара падвесці непазбежную рысу ў нашых узаемаадносінах. Пагадзіся, што яны не маглі працягвацца доўга ў такім млявым, выродлівым выглядзе. Усяму ёсць мяжа. Аднак, крый мяне Божа, у чымсьці цябе вінаваціць. Вінаватыя мы абое, таму што легкадумна, надзвычай легкадумна ставіліся да жыцця, да нашага сумеснага пражывання. Такія сустрэчы Бог дае толькі раз, іх трэба цаніць. Мы не скарысталі свой шанц.

Калі ты чытаеш гэтыя радкі, я ўжо ў дарозе: пад мерны грукат цягніковых колаў журліва гляджу ў акно, з кожнай хвілінай аддаляюся ад сталіцы, якую за чатыры гады ўзненавідзеў усёй душою. Так, Анжэла. Я кінуў інстытут, нягледзячы на тое, што ўсё-такі агораў зімовую сесію, і накіроўваюся на радзіму. Праўдзівей, інстытут я не кінуў, а толькі ўзяў акадэмічны водпуск. Аднак сумняваюся, ці знайду сілы калі-небудзь яшчэ прыехаць у Мінск. Надта ўжо няшчыра, меркантыльна, бязбожна жывуць тут людзі. Яны думаюць, што жыццё — гэта яркія фарбы, тэлевізійныя шоу, расфуфыраныя даўганогія дзяўчаты; яны лічаць, што жыццё — гэта імклівыя аўто, мабільнікі, відзікі, камп'ютэры і факсы... Не, Анжэла, яны памыляюцца. Жыццё — гэта спеў салаўя над росным разлогам, гэта ўсплёск карася ў зацішным лясным азярцы, гэта пах сенажаці... А галоўнае — гэта наша шчымлівая, узвышаная самота, калі адчуваеш сябе здатным гутарыць з вечнасцю. Мы ўсё роўна адны, Анжэла, адны на ўсім свеце: кожны самотны, страшэнна самотны і асуджаны на смерць ад самага нараджэння. А сям'я, сябры, калегі адно памагаюць нам адолець гэты пакутны шлях ад калыскі да дамавіны... А часам і перашкаджаюць, бо адно, што патрэбна нам на жыццёвым шляху, — далучыцца да вечнага... А тады і памерці не страшна.

Я еду дамоў, Анжэла. У той кут, дзе ўпершыню ступіў басанож на маці-зямельку. Еду, каб прыдбаць душэўны спакой. Я знаю, што будзе мне там няпроста — сямейнае становішча маё ты ведаеш. Але шлях да Бога заўсёды ляжаў праз выпрабаванні, праз згрызоты сумлення і цялесную змору. Аднаго баюся, каб не спіцца, зламаўшыся духам. Гэта самае страшнае і адначасова самае верагоднае, што можа мяне чакаць…

Не памінай мяне ліхім словам, Анжэла. Не таі крыўды і злосці — яны толькі атручваюць наша жыццё і, як правіла, не памочнікі ў вырашэнні праблем. Расстанемся ж па-добраму. А там… нязведаны шляхі Гасподні, і можа так стацца, што яшчэ раз сустрэнемся мы з табой пад гэтым захмараным беларускім небам…

Аб адным прашу, не гавары Андрэйку пра гэты ліст, не траўміруй дзіцячую псіхіку. Пастарайся наогул маўчаць пра мяне — ён спакваля і забудзецца. А хлопец ён добры, гэта я табе з усёй адказнасцю гавару. Ведаю, вырасце чалавекам.

Усё ж не развітваюся назусім, не гавару «бывай», роўна як і не кажу «да пабачэння». Дамо ж Госпаду вызначыць нашыя пуцявіны.

А таму: шчасця вам, здароўя і дабрабыту…

*Віталік*».

Скончыўшы чытаць, Анжэла не заплакала, і ніводзін мускул не таргануўся на яе твары. На ім застыў выраз няўцямнага ашаламлення. Маруднай, увобмірг ацяжэлай хадою яна патупала з кухні ў залу і накіравалася да кніжнай секцыі. Пацягнула на сябе адну з шуфлядаў, дастала сярэдніх памераў шкатулку, дзе захоўваліся ўсе найважнейшыя дакументы (пашпарт, метрыкі, ашчадная кніжка, разнастайныя пасведчанні). У гэтай жа шуфлядзе, пад жоўтым лістом кардону, што засцілаў дно, ляжаў маленечкі серабрысты ключык. Анжэла дастала яго і адкрыла шкатулку. Потым няспешна і дзелавіта склала ў чатыры столкі Віталікаў ліст і засунула яго між іншых папер.

Усё гэта яна прарабіла з тым жа застылым на твары бездапаможным ашаламленнем. Хутка шкатулка была вернута на сваё сталае месца.

Гольцава самнамбулічна павярнулася, зрабіла некалькі млявых крокаў і тут, нібы прабіўшы нябачную заслону, з яе грудзей вырваўся ўсхліпісты енк, а твар перакасіла грымаса. Жанчына пахіснулася на аслабелых нагах, з цяжкасцю дапяла канапы, ніцма павалілася на яе і закалацілася ў плачы.

Прарыдаўшы з паўгадзіны, яна схамянулася, села, выцерла слёзы насоўкай і пацягнулася на кухню, дзе неўзабаве застукаў нож аб шаткавальную дошчачку, забразгалі каструлі, зашыпела на патэльні цыбуля, палілася з крана вада…

Праз паўгадзіны вярнуўся са школы Андрэйка.

## 26

Напорыстая, дружная ішла ў той год па Беларусі вясна. Насуперак меркаванням скептыкаў, яна ў два тыдні пазмывала цёплымі даждамі снег, што назапашваўся цэлых чатыры месяцы.

Да красавіка не толькі па паўднёвых раёнах, але і на традыцыйна халаднейшай Полаччыне зямля цалкам пазбавілася ад снегу. А ў Мінску дык яшчэ і паспелі ўпарадкаваць вуліцы і двары, прыбраць з іх зімовае смецце. Абмытая дажджамі, вымеценая і вычышчаная сталіца радавала жыхароў. На вольных ад асфальту лапіках зямлі зазелянела трава. У сярэдзіне красавіка выпусціў лісточкі агрэст. Паглядзеўшы на яго, сталі ўбірацца вербы, а неўзабаве і паласатыя ствалы бяроз ахуталіся пухкімі салатавымі аблачынамі.

На ўсю гэтую раскошу, дзень пры дні, апускаліся чароды птушак, што паспешліва вярталіся з выраю. Яны запоўнілі сваімі жыццярадаснымі галасамі паркі, скверы, двары.

Горад у чарговы раз перамог зіму.

Яніна Пятроўна Мачульская радавалася вясне, як і ўсе людзі, хоць назірала яе з-за шыбаў сваіх акон. У першай палове дня яна ўладкоўвалася ля кухоннага акна, бо там было сонечна. Яна вязала. А калі стамляліся вочы і рукі, апускала вязанне на калені і глядзела, як унізе, па шырокай вуліцы, шастаюць аўтамабілі, як убіраецца ў зелень пагорак на тым баку вуліцы, як рухаюцца людзі па стромых бетонных лесвіцах — на пагорку стаяла некалькі дзевяціпавярховак. Яніна Пятроўна другі месяц вязала Кастусю ваўняны світэр. Вязала па мерках, што зняла ў апошні яго прыход, восьмага сакавіка. У той раз Кастусь прынёс і падараваў ёй новы тэлевізар «Soni», паставіў яго на тумбачку ў зале, паваждаўся з ім, а потым сказаў, што прыйдзе заўтра з патрэбнымі інструментамі і падключыць да кабеля, таму што з хатняй антэнай «Soni» працаваў кепска.

З таго часу тэлевізар так і стаіць непадключаны, бо Кастусь прапаў: не прыходзіў і не званіў. Але Яніна Пятроўна яго чакала і, каб было гэтае чаканне не такім сумным, вязала яму світэр.

У другой палове дня бабулька пераходзіла ў спальню, акно якой выглядала на двор, дзе гулялі дзеці, дзе чуўся іх смех і вокрыкі старэйшых. Там гупалі мячом, выбівалі дываны, а вечарамі кампаніі мужчын са смакам рэзаліся ў даміно. З акна быў крыху відзён і зацішны брукаваны завулак з нязграбнымі двухпавярхоўкамі — рэшткі даваеннага Мінска, што цудам пакуль ацалелі. Завулак караскаўся на ўзгорачак, праз метраў трыццаць збочваў направа і хаваўся за разлапістым клёнам. Па меры таго як клён зелянеў, усё меншая частка завулка была бачна Яніне Пятроўне.

Перад самым Вялікаднем Мачульская давязала світэр і паклала ў зале на трэльяж — на віднае месца. На гэтай сіняй апранасе, на грудзях, яна вымудравала тры кляновыя лісцікі: зялёны, чырвоны і жоўты.

У той жа дзень, вечарам, Яніна Пятроўна сядзела па завядзёнцы ў спальні і задумённа глядзела ў акно. Дзень быў сонечны, на двары весяліліся дзеці. Праз расчыненую фортку струменілі вясновыя подыхі, яны неслі водары цёплай зямлі, разнатраўя, першых сёлетніх кветак. Танюткімі ніцямі ўпляталіся сюды лясныя, палявыя і азёрныя пахі. Так, прынамсі, здавалася Яніне Пятроўне.

Сонца ніжэла, на брукаваны завулак, што віднеўся між будынкаў, апускаліся мудрагелістыя цені дамоў і прысадаў. Прысады пагойдваліся ад ветру, і па бруку гулялі сонечныя плямы. І вось Яніна Пятроўна ўбачыла, што на сярэдзіне завулка стаіць і нібыта глядзіць на яе

хлопец. Зрок у Мачульскай быў кепскі, але постаць хлопца здалася надзвычай знаёмай. Ён стаяў, курыў і быў зусім адзін на завулку. Хто ён? Так доўжылася некалькі хвілін, а потым хлопец павярнуўся і мернай хадою стаў аддаляцца. І па гэтай пругкай хадзе Яніна Пятроўна пазнала яго… пазнала свайго маладога мужа — бравага лейтэнанта Максіма Ягоравіча Тарасенку.

Аднак ён няўхільна адыходзіўся ад яе і быў ужо пад разлапістым клёнам. Яшчэ колькі секунд — і Максім знікне за яго заценню. Гэтага нельга было дапусціць, ні ў якім выпадку нельга. А таму, стаўшы бязважкай, выпырхнула Яніна праз фортку і паляцела за сваім нарачоным…

Там, за разгалістым клёнам, на залітай сонцам брукаванай даваеннай вулачцы, неўзабаве вітаў яе муж Максім, віталі мама і тата. Віталі душу, што больш за паўстагоддзя пражыла пасля іх на зямлі, але не знайшла сабе новых блізкіх.

Нарэшце яны сабраліся разам.

*2002—2003 гг.*



## ▸ РАГНЕД МАЛАХОЎСКІ

### ЛЮСТЭРКА ЧАСУ

Пад шэрым небам, як у павуціне,
Што парасла ў кутах замшэлай хаты,
Ўвесь сэнс жыцця ў палоне вязкай стыні
Пільнуюць часам з'едзеныя краты.

А побач — шматпакутная Радзіма,
Паволі сонца хіліцца да бору.
Душы няўтульна і нязвыкла зімна,
Нібыта тут чужынцам быў учора.

Як жыць шчасліва і забыць пакуты,
У марах сустракаць чарговы вечар,
Што ў ноч спаўзае, цішынёй крануты,
Якую раскудлаціў пруткі вецер?

О, як самотна грэшным быць анёлам,
Ці ў сценах роднай хаты, нібы прывід,
Пражыць жыццё, якое гнутым колам
Люстэрка часу ненаўмысна скрывіць.

А мо аддацца снам, што быццам совы
Лятуць нячутна змрокам раставанняў?
Стварыць малітву! І свет чысты, новы
Мне болей не задасць пустых пытанняў.

### НЕ ДЛЯ НАС

Нам наканавана
бясконцасць,
але мы захапляемся
надзённым.
Аслепленыя
бесклапотнай
ілюзіяй часу,
скіроўваем
пытлівы
погляд вачэй
туды,

дзе нас чакае
вечнасць,
дзе кожная мара
баліць
уваскрашэннем душы,
куды
пругкім промнем
мкнецца думка,
дзе кружляюць,
не зважаючы
на нашы
захапленні,
буслы.

## ПРАДЧУВАННЕ

Прадчуванне незакончанай хвіліны,
Спадзяванні неабуджанай вясны.
Як самотна падарожнікам адзіным
Крочыць праз няспраўджаныя сны.

У палоне вераснёвага туману,
У абдымках справядлівага жыцця
Прадчуванне нечаканага падману
І святога, як надзея, пачуцця.

## ГРЭШНІКУ

Ён быў грэшны, як лес на мяжы
Зуха-Дня і блудлівіцы Ночы,
Як у храме Ярылы крыжы,
Як крыніц заімжоныя вочы.
Ён не здолеў падману забыць
І душою і сэрцам любіць.
Яму ў чорнае неба глядзець
Праз разбітае лёсам вакно,
У чаканні, як будзе ляцець
Чорны птах ці анёл — ўсё адно.
Ён быў грэшны, як келіх віна,
Што прасмягнуў да самага дна.
Ён чакаў толькі суднага дня,
І суддзя яму — сэрца і Бог.
Дзе любоў, дзе падман і хлусня,
Грэшнік ведаць і бачыць не мог.
Ён быў грэшны, як лес на мяжы,
Як у полі паганскім крыжы...

## З ЗАБЫЦЦЯ

Як пустыя вочы мерцвяка,
Дні сівой мінуўшчыны няўцешнай.

Праз вякі цячэ жыцця рака
Па каменні памяці бязгрэшнай.

Колькі сцерла забыццё імён!
Колькі чорных дзір на хусце зорнай!
Хто ім кінуў наўздагон праклён,
Затушыў агмень у ночы чорнай?

Памяццю удзячнай да нябёс
Душы адлятаюць незваротна.
Час на спадзяванні — уваскрос,
Ды ад стратаў цяжка і маркотна.

## НАКРЭСЛЕННЕ ЧАСАМ

Там, дзе пачынаюцца стагоддзі,
Дзе сусвет бярэ пачатак свой,
Па жыцця далоні час праводзіць
Рысы лёсу цвёрдаю рукой.

Выпаў не найлепшы лёс паэтам.
Патанае ў Леце рэха слоў,
Праплываючы над сонным светам
Плачам асірочаных радкоў.

Лініі, накрэсленыя часам ,—
Смертным на адзінства запавет,
Што нітуе неразрыўным пасам
Мудры, ды недасканалы свет.

## ЛІСТАПАД

Мае лісты не вернуцца ніколі.
Сваіх лістоў мне не напішаш ты.
Стаю адзін у пасівелым полі,
Чытаючы аблокі, як лісты.

Чакаю з неба вестак белакрылых.
Чакання час бясследна не міне.
Пакуль пульсуе верай кроў у жылах,
То сэрца тонкім лёдам не кране.

## НАДЗЕЯ

Калі няма ўзаемнасці — бяда.
У гэтым я зусім не сумняваўся.
Няспраўджанай надзеі не шкада,
Хаця я на ўзаемнасць спадзяваўся.

Нашто цяпер на поўню воўкам выць
І адракацца ад сваіх пачуццяў?

Бо сэрцу, што кахае, не астыць,
І спачуванняў не жадаю чуць я.

Шчаку пячэ гарачая сляза,
Баліць душа ад жалю невыносна.
Шкадую, што табе недасказаў,
Як без цябе на сэрцы сёння млосна.

Наіву ж пацалункі тры ці два
Незацугляны час даўно развеяў.
Пагасла ў небе, і няма святла
Той зоркі, што назвалі мы Надзеяй.

## ПАЭТ І КАТ

Паэзія — душы нясцерпны боль,
А плач — пакора прад магутным словам.
Забойцу-кату знак падаў кароль,
Ухвалены натоўпу дзікім ровам.

І над паэтам меч узняў палач...
Заплакала цнатлівая гартэнзія.
Боль, выліты праз слёзы, — проста плач,
А словам выказаны боль — паэзія.

* * *

Мерна гаснуць на досвітку зоркі,
Ахінаецца вогнішча дымам.
Ранак з водарам крышачку горкім
Глянуў соннымі з ночы вачыма.

Па-асенняму млявае сонца
Зіхатнула адспелай калінай,
Асвятліла крыніцу да донца,
Што гарэла чырвонаю глінай.

## ДУША ПАЭТА

Не вярнуць санцавокага лета,
Не забыць тапалёвых завеяў.
А душа маладога паэта
Зачаравана спевамі феяў.

Углядаецца ў далеч сівую
Час вачыма пакрыўджаных зораў.
Дотык радасці вусны мілуе,
Заварожвае веліччу мора.

Блудзяць цені забытага лета,
Вецер грыву ў чароце хавае,
А душа маладога паэта
Жаўруком аж пад сонцам спявае.

## ПЕСНЯ

Салодкія вусны, як неба пасля навальніцы,
А словы кахання — цнатлівай расой на траве.
І зоркі гараць, як пад ранішнім сонцам суніцы,
І сэрца пяшчотную песню кахання пяе.

Юначыя мары падхоплены подыхам ветру,
А вочы галактык — у кропельцы чыстай вады.
Прачыстыя думы душу прасвятляюць да нетраў,
А вера мацуе, ратуе ад лютай бяды.

Прыцішаным голасам песня крынічна ліецца.
Нясмелыя зоры цалуюць расу на траве.
Бяздоннае неба ў каханых вачах адаб'ецца, —
Народзіцца дзень, — значыць свет у каханні жыве.





**ІВАН КАПЫЛОВІЧ**

# СМЕРЦЬ СЫНА

*Аповесць*

Глеб прачнуўся на досвітку, не ўключаючы святла, намацаў нагамі тапачкі, пратупаў да акна, рассунуў фіранкі, убачыў, што за ноч снегу трохі падкінула, і таму двор, дарога, якая бегла паблізу заводскага інтэрната, дзе ён цяпер жыў, быццам засланыя шырокім і доўгім белым дываном.

Непадалёку ад інтэрната ў вялізным сасновым парку ад снегу галіны дрэў цяжка паабвісалі і амаль зусім не калыхаліся.

«Як нечакана сёлета пачалася зіма, — падумаў ён. — А я ўсё яшчэ тут... Збіраўся да зімы вярнуцца ў вёску, ды так і не сабраўся, не паспеў...»

Ён не адводзіў вачэй ад акна, ад дарогі і парку і нібыта бачыў перад сабой доктара — маладога, высокага і тонкага, як дубец, з пышнымі чорнымі вусамі, у незашпіленым белым халаце, з сумнымі, журботнымі вачыма. Апошнім часам Глеба ні з таго ні з сяго пачала адольваць стома, круціла суставы, балела галава, і ён вырашыў паказацца неўрапатолагу, балазе, у іх была свая заводская паліклініка, што непадалёку ад галоўнай прахадной.

Доктар паслухаў ягонае сэрца, змерыў крывяны ціск, выстукаў бліскучым малаточкам з гумавым наканечнікам суставы рук, ног, пачаў штосьці пісаць у гісторыю хваробы. Пісаў і як бы між іншым пытаўся пра адно, пра другое...

— Значыць, служыць давялося ў ракетных часцях, так?

— Тры гады, доктар, адбухаў, — адказаў Глеб, — ракетная кропка, дзе я служыў, у такой глухамані, вакол адны балоты, гушчарэча, камары... Мяне прызвалі адразу пасля інстытута. І хоць я скончыў гістарычны факультэт, накіравалі чамусьці ў ракетчыкі, туды, дзе на кожным кроку матэматыка, разлікі, формулы... Які з мяне матэматык? Аднаго разу на вучэннях такі разлік зрабілі, што адкрылі агонь па сваім штабе. Дзякуй Богу, што ракета была вучэбная, без боегалоўкі... Цягалі нас потым ваенныя пракуроры, розныя следчыя, але ўсё скончылася ціха-мірна.

— Каб жа... — уздыхнуў доктар. — Тое, што табе, Глеб Кузьміч, давялося служыць у ракетчыках...

Доктар замоўк, заціх, унурыўся ў сваю пісаніну, і Глеб з таго маўчання зразумеў: не, не проста так іншы раз у яго баліць галава, да звону ў вушах баліць, асабліва перад сном, і тады здаецца, што з вачэй сыплюцца яркія жоўтыя іскрыны. І суставы ныюць да знямогі. Няўжо яго цяперашняя немач ад службы ў ракетчыках? Не адзін год ужо мінуў пасля таго, як ён дэмабілізаваўся, а глядзі ж ты...

— Я ж яшчэ не стары, — перамагаючы ў сабе душэўную навалач, што нечакана абрынулася на яго ў доктаравым кабінеце, прамовіў услых Глеб. — Думаю, што ўсё гэта хутка мінецца, а як жа яно можа быць іначай? Хіба я жыў дасюль? Вучыўся ў школе, потым інстытут, армія... У студэнтах я хіба калі смачна еў, апранаўся, як хацелася? Цяперака сама пажыць бы.

— Канечне, яшчэ пажывеш, а дзе ты дзенешся!? — доктар скончыў пісаць, зірнуў яму проста ў вочы. — І сям'я ў цябе будзе, дзетак пагадуеш, дачакаешся ўнукаў, толькі...

Доктар устаў, наблізіўся да крана ў куце ягонага вузкага, доўгага, з кушэткай каля адной сцяны кабінета. Ён пусціў ваду і, старанна намыльваючы рукі, спаласнуў іх, выцер ручніком. Пазіраў на сябе ў авальнае люстэрка зверху над кранам і пры гэтым размову з Глебам не спыняў.

— Ты мужны чалавек? — запытаў нечакана ён.

— Пра сябе цяжка казаць, — сумнавата вымавіў Глеб. З таго моманту, як ён пераступіў парог кабінета неўрапатолага, трывога не пакідала яго.

— Да таго, што зараз скажу, ты можаш прыслухоўвацца, можаш не, але я так думаю... — доктар гартаў гісторыю хваробы, глядзеў ранейшыя запісы. — На тваім месцы я вярнуўся б у вёску, бо ў горадзе хоць яно нашмат ямчэй, весялей, зручней, але... Табе край як трэба кожны дзень быць на свежым, а не на чадным гарадскім паветры. У цябе ў вёсцы бацькі, у якіх, напэўна, свая кароўка, куркі... Адным словам, галубок, мая табе добрая парада...

З паліклінікі Глеб падаўся не ў інтэрнат, дзе з таго дня, калі яго прызначылі намеснікам начальніка цэха, займаў асобны пакойчык, а ў заводскую адміністрацыю.

Стаяла ціхая, цёплая, сонечная восень. Адміністрацыя ўпобачкі з галоўнай прахадной, каля якой заўсёды шматлюдна. Падняўся на другі паверх, спыніўся каля дзвярэй з таблічкай «Намеснік генеральнага дырэктара», зірнуў у расчыненае насцеж акно. На масіўных бетонных пастаментах на невялікай пляцоўцы каля прахадной паблісквалі новенькаю фарбаю трактары — тыя, што выпускаліся даўно-даўно, калі завод толькі пачаў іх вырабляць, і тыя, якія нарадзіліся ў канструктарскім бюро ў апошні час. Некалі, з'явіўшыся на заводзе, Глеб глядзеў на гэтую выстаўку вачамі староннягa чалавека, не разумеючы, дзеля чаго і каго гэтыя экспанаты пад адкрытым небам. Але пасля таго, як ён тут даўно не навічок, пацiху-памалу ўцягнуўся ў жыццё людзей, якія збіралі гэтую тэхніку сваімі рукамі кожны дзень у тры змены, ён шмат што ўбачыў і зразумеў... Вунь першынец і мадэль самага апошняга выпуску. Хіба іх параўнаеш? Нішто не стаіць на месцы. Але, мабыць, як да першынца, так і да самай апош-

няй мадэлі ў тых, хто садзіцца кіраваць імі, хіба мала прэтэнзій? Каб жа так...

Намеснік генеральнага дырэктара Леў Захаравіч, згледзеўшы Глеба на парозе свайго кабінета, устаў, падаўся насустрач, працягваючы руку.

— На паляўнічага і звер бяжыць, — прамовіў ён, — сядай, Глеб Кузьміч, я, прызнацца, збіраўся шукаць цябе, ёсць размова.

Глеб сеў у мяккае крэсла, запытальна паглядзеў на намесніка генеральнага, не разумеючы, чаму той раптам захацеў бачыцца з ім. І яшчэ падумалася Глебу: вось тут, на рабоце, яго ўсе называюць па бацьку, а ў вёсцы, адкуль родам, чамусьці Глебам, дый годзе. Пэўна таму, што там ён вырас, усе тамашнія людзі ведаюць яго з таго часу, калі ён яшчэ бегаў у школу, быў падшыванцам, зялёным смаркачом, які з цягам часу скончыў інстытут, адслужыў у войску і даслужыўся да намесніка начальніка цэха завода, які вядомы не толькі ў Беларусі, у СССР, а і ў свеце... Але ці тое яшчэ будзе, ён жа на пачатку жыццёвай дарогі... Праўда, так думаў Глеб да сённяшняга дня, пакуль не завітаў на прыём да неўрапатолага. Што ж цяпер чакае яго?

Ён схамянуўся, адагнаў прэч ад сябе невясёлыя развагі, паглядзеў на Льва Захаравіча, які ўжо ўмасціўся ў сваім скураным крэсле з высокай спінкай.

Леў Захаравіч на заводзе мо тры дзесяткі гадоў, пачаў некалі са зменнага майстра, а цяпер во ўжо дзе — у якім кроку, а мо нават і паўкроку ад пасады генеральнага. Ніяк не верылася, што гэты кругленькі, таўсматы, як цялешык, з мясістым падбародкам чалавек, з вялікай лысінай на буйнай галаве, некалі быў малады, рухавы, вёрткі, з пышнай русай шавялюрай. Такім убачыў яго Глеб тады, калі толькі ўладкоўваўся вучнем токара ў інструментальны цэх...

— Твайго непасрэднага начальніка перацягваюць у міністэрства. Вядома — міністэрства не завод, там работа чыстая, з загранкамандзіроўкамі. Мяне калісьці таксама туды заманьвалі, але ж я што падумаў? Чыноўнікам кожны быць зможа, а каб стаць вартым інжынерам...

Глеб слухаў няўважліва, бо не выходзіла з галавы тое, што сказаў яму сёння неўрапатолаг.

— Здаецца, я ўсё разумею, Леў Захаравіч, — пасля маўчання падаў голас Глеб. — Але я не ведаю, я цяпер зусім нічога не ведаю.

Ён нізка апусціў галаў, баючыся сустрэцца з позіркам намесніка генеральнага, тым больш сказаць тое, з чым і завітаў сюды.

— Якая, Глеб Кузьміч, цябе муха ўкусіла? Пэўна, што асенняя, бо восенню мухі злосныя. Ты што — адмаўляешся быць начальнікам цэха? Ты хоць разумееш, уяўляеш, якая кар'ера адкрываецца перад табой? Дзе ты зараз жывеш? У інтэрнаце? Неўзабаве мы здаём у Шабанах стокватэрны дом. Я гарантую — адна кватэра там твая. Каб ты быў не халасцяком, то нават не аднапакаёўку, а большую выдзеліў бы. Чаму ты не жэнішся? Хіба мала ў нас на заводзе дзяўчат? Эх, каб мне, Глеб Кузьміч, твае гады... — Леў Захаравіч усміхаўся, гладзіў рукою сваю бліскучую, як маслам намазаную, лысіну.

— Не да жартаў мне, Леў Захаравіч. І кватэра гарадская, якую вы абяцаеце, пэўна, ужо не спатрэбіцца, — раптам падняў галаву Глеб. — Я да вас ад неўрапатолага, ён мне сказаў…

Глеб недагаварыў, бы нейкі даўкі камяк перасеў у горле, язык стаў непаслухмяны, а патрэбныя словы не ішлі ў галаву.

— Ты верыш дактарам? — Леў Захаравіч пасур'ёзнеў, на яго твар легла задуменнасць, а ў вачах з'явіліся спалох і трывога. — Дактары — яны ўсе аднолькавыя, ім толькі пападзіся ў рукі, то яны любога зробяць хворым.

— Тут іншы выпадак, Леў Захаравіч... Я служыў у ракетнай часці. Мне і трыццаці гадоў няма, а ўжо бачыце які? Пасівеў без пары. Ды каб толькі гэта, а то... Ногі баляць, рукі баляць, а галаву часам сцісне, як тымі абручамі. Не, не так проста ўсё гэта.

На нейкі момант усталявалася гнятлівая цішыня. Глеб не хацеў болей нічога гаварыць, бо хіба ён не выказаўся пэўна і ясна?

А намеснік генеральнага настойваў на сваім:

— Захварэў ён... А хто сёння можа пахваліцца здароўем? Ведаеш, колькі кожны дзень у нас на заводзе не выходзяць на работу? Сотні... Людзі хварэюць, бюлетэняць, але ж не кідаюцца ў роспач, як ты. Адным словам, не рабі глупства, Глеб Кузьміч, не падымай пылу. Рыхтуйся прымаць цэх. Прыхварэў трохі? Ідзі ў мясцком, папрасі пуцёўку ў санаторый, падлячыся, падмацуйся, падрамантуйся — і працуй, а не хныкай, як дзіця.

На тым і развіталіся. Але перш чым ісці ў свой інтэрнацкі пакой, Глеб сеў на трамвай — і да брацені, да Генадзя. Ягоны родны брат скончыў юрфак, працаваў суддзёй у абласным судзе. Ён яшчэ толькі заканчваў школу, а брат ужо сур'ёзна пытаўся ў яго: «Куды збіраешся падацца, калі атрымаеш атэстат сталасці?»

Брат трохі старэйшы за Глеба, вышэйшы, ён — майстар спорту па лыжах і, бывала, з'явіўшыся дадому ў вёску ў час студэнцкіх канікулаў, перш-наперш таптаў дарогу да мясцовай дзесяцігодкі, да выкладчыка фізкультуры, прасіў у таго лыжы. Генадзя ў школе паважалі, бо мала хто з выпускнікоў, як ён, Генадзь, — паступіў аж вунь куды: на юрфак універсітэта. А потым, пасля сканчэння — адразу ў абласны суд...

«Пакуль не ведаю», — адказваў Глеб, а сам хацеў спытацца: няўжо брат задаволены сваёй работай? Каб яна яму падабалася, то ён, пэўна, не скардзіўся б маці і бацьку, што ў яго заўсёды процьма работы, поўныя шафы крымінальных ды грамадзянскіх спраў, якія ён разглядае штодня ад рання і да змяркання, але атрымлівае за гэта не надта якія вялікія грошы. І кватэры ў яго сваёй доўга не было, аціраўся па чужых кутках, з-за гэтага і ажаніцца не мог.

Але потым, калі Глеб стаў ужо студэнтам гістарычнага факультэта, брат ажаніўся, неўзабаве яму далі кватэру ў прэстыжным раёне, і Глеб часцяком наведваўся да яго. Кватэра была вялікая, чатырохпакаёвая, нават пярэдняя такая прасторная, што ў ёй месціліся канапа, трохстворкавая шафа для верхняга адзення, імпартны велатрэнажор, шведская лесвіца. У куце стаялі летнія і зімовыя лыжы. Глеб не раз бачыў, як брат ходзіць на іх па бегавой дарожцы парку непадалёку ад інтэрната, дзе цяпер жыў ён, Глеб. Мабыць, у брата гэта ўжо ў крыві:

хадзіць на лыжах зімой і летам. Яно мо і добра, бо калі б увесь час сядзеў у сваім судзейскім кабінеце, то захварэў бы не раз, а так ён ні бальніц, ні дактароў не ведаў.

Дзверы адчыніла Генадзева жонка — Алеся. Яна — настаўніца, выкладае англійскую і нямецкую мовы, заняткі ў яе заўсёды ў першую змену, і са школы яна вяртаецца рана, яшчэ да абеду. Алеся, як і яны з братам, паляшучка, з-пад Пінска, расла каля Ясельды. Алеся дужа любіла Генадзя і сваіх двух сыноў: адзін хадзіў у шосты клас, другі — у чацвёрты. Гледзячы на брatаву сям'ю, Глеб лавіў сябе іншы раз на думцы, што па-добраму зайздросціць Генадзю, таму што ён хоць і нагараваўся, пакуль выбіўся ў людзі, затое нечага і дамогся. Цяпер чалавек чалавекам, свабодны, незалежны, у яго ўсяго ўдосталь на стале, у халадзільніку, у кватэры раскошная мэбля, апранаецца-абуваецца з іголачкі, на жонцы дарагое футра...

Нейкі момант Глеб як прырос да месца каля дзвярэй, стаяў задумлівы, не падобны сам на сябе. Гэта, мабыць, адразу кінулася ў вочы Алесі, і яна спытала:

— Што з табою сягоння, Глеб? Ці не захварэў ты часам?

Глеб паглядзеў на Алесю так, нібы ўбачыў яе ўпершыню, заўважыў, што на ёй новы, блакітны, у вялікія бледна-ружовыя кветы халат. Ён, напэўна, імпартны, каштуе добрую капейчыну, і адно застаецца здагадвацца, адкуль у Генадзя цяпер столькі грошай, каб самому прыбарахляцца па апошняй модзе, набываць дарагое адзенне для жонкі і дзяцей... А дываны? Іх у яго некалькі: на сценах, на падлозе, у пярэдняй, адзін з арабскімі ўзорамі, другі в'етнамскі... У апошні час, праўда, дываны з моды выходзяць, падлогі робяць паркетныя, а на сцены шукаюць імпартныя шпалеры...

— Генадзь дома? — Глеб ступіў у пярэднюю, пачаў здымаць з сябе карычневую, замшавую куртку, павесіў яе ў шафу, сеў у крэсла, расшнураваў туфлі, ссунуў іх з нагі.

— Сёння ў яго судовага паседжання няма, магчыма, вось-вось з'явіцца, — Алеся не зводзіла з Глеба сваіх вострых, уважлівых вачэй, пэўна, не магла даўмецца, чаму ён сёння не такі, як звычайна. Бо заўсёды, калі б Глеб ні наведваўся да брата, то быў у настроі, гаманкі, а тут нібыта сам не свой.

— Як вашы хлопцы? Не сваволяць, слухаюцца, вучацца добра? — пацікавіўся Глеб.

— Баюся сурочыць, Глеб. Іншыя з двара не вылазяць, ніякая вучоба ім у галаву не лезе, з-пад палкі вучацца, а нашы, дзякаваць Богу, як прырастуць да пісьмовага стала — слепяцца над задачкамі, над сачыненнямі...

— Значыць, нашага заводу, у нас у сям'і ўсе так: калі ўжо бяруцца за што, то робяць як след, прымушаць не трэба, — зазначыў Глеб, а пра сябе падумаў: так-то яно так, але... Генадзь вучыўся што ў школе, што потым на юрфаку аднолькава — яго хвалілі, ставілі іншым у прыклад. А вось у яго, Глеба, так не атрымлівалася, бо і тройкі ў школе пракідваліся, дый забуксаваў у чацвёртым класе, і яго пакінулі на другі год, таму адставаў ад сваёй роўні.

Тым часам пачуліся крокі, шчоўкнуў замок і на парозе паўстаў Генадзь у светла-карычневай, з загорнутымі берагамі кепцы, у дарагой

скуранцы, чорным парасонам у руках. На вуліцы цёпла, суха, сонечна, а ён з парасонам. Пэўна, ідучы, абапіраецца на яго як на адмысловы кій.

— Я пайшла падаваць абед, — Алеся павярнулася — і на кухню.

Генадзь распрануўся, зняў з галавы кепку, і Глеб, здаецца, толькі цяпер заўважыў, што брат прыкметна палысеў, спераду ў яго ані не засталося ад некалі кучаравай чупрыны, доўгія валасы ледзь не да барады, а на патыліцы яны кароценькія, з сівізной.

— Калі ты ўжо, нарэшце, перабярэшся з інтэрната ў людскае жытло? — брат насунуў на ногі пухнатыя, зялёныя вельветавыя тапачкі, сеў у крэсла.

— Не будзе ў мяне, Гена, тут свайго жытла, — няўпэўнена прамовіў Глеб і сціпшыўся, нізка апусціў голаў, пазіраў сабе пад ногі, нібыта спалохаўся сваіх слоў, свайго голасу, таго, у чым, здаецца, няма ўжо ніякага сумнення.

— Як гэта не будзе? — Генадзь, пэўна, зразумеў, што брат не жартуе, але не мог адразу даўмецца: з чаго б такі нечаканы паварот? — Я на днях размаўляў па тэлефоне з тваім генеральным, пытаўся, ці свеціць табе сёлета кватэра.

— Рабіць табе болей няма чаго? У цябе сваіх клопатаў мала? — нібыта паўшчуваў Генадзя Глеб.

— Я, браток, сам нагараваўся, пакуль атрымаў кватэру, ведаю, што гэта такое. Хіба мне не хочацца, каб ты хутчэй зажыў па-чалавечы, ажаніўся, займеў сям'ю? Свая кватэра — гэта ўсё, без яе аніякага нармальнага існавання. Дый надта мне цяжка ўсведамляць гэта, а як бы там ні было, я — суддзя абласнога суда, не хрэн сабачы, што-небудзь ды значу ў гэтым свеце. У начальнікаў, як бы высока яны ні сядзелі, усё здараецца ў жыцці, калі не ў іх саміх, то ў іхніх дзяцей, сваякоў... Кажуць жа — ад турмы, сумы, бальніцы... А з вокнаў майго службовага кабінета турма дужа добра відаць... І твайго генеральнага трохі ведаю, пазнаёміўся з ім на адной канферэнцыі.

— Му-ужчы-ын-ы! Прашу за стол! — пачуўся з кухні звонкі голас Алесі.

— Я шчэ не абедаў, але й не хачу, не лезе мне сягоння яда ў рот, — зірнуў на брата Глеб.

Да Генадзя, пэўна, нарэшце, дайшло: адбылося нешта такое, аб чым ён нават не здагадваецца, але такое, што раптам крута змяніла ўсе Глебавы думкі, увесь ягоны настрой і планы...

— На страву нельга крыўдзіцца, браток, давай паабедаем, а паабедаўшы...

Потым Генадзь праводзіў яго да прыпынку. Ён быў у глыбокім задуменні, бо тое, што пачуў ад Глеба за абедзенным сталом, дужа ўразіла і ашаламіла.

— Няўжо ты сапраўды вернешся ў вёску? — як бы не верачы таму, на што настроіўся Глеб, спытаў Генадзь. — Калі так, то я табе вось што скажу... Дзівак ты, а мо нават і вар'ят. Хто гэта ў наш час, маючы ў горадзе гэткую хлебную работу, як у цябе, маючы вунь якую перспектыву, магчымасць зрабіць кар'еру... Не, ты што хочаш кажы і думай, але я, мабыць, усё адно цябе не зразумею.

— Эх, Гена, Гена! Хоць мы і браты родныя, але бачыш, якія мы розныя! — з адчаем прамовіў Глеб. — Канечне, дзе табе зразумець... Я й сам хіба ўчарашняга дня пра гэта думаў? Я пакуль яшчэ дакладна не ведаю, але доктар кажа... Што доктар?! Хіба я сам дурны, нічога не адчуваю, не разумею? Скажы: на якую халеру мне будзе гэты горад, калі скруціць хвароба?

— З'едзеш ты адсюль, я буду сумаваць, бо ў мяне, па сутнасці, тут ніводнай роднай душы... Ёсць сябры, калегі, добрая сям'я, каханая жонка, але ты ёсць ты.

На гэтым і развіталіся.

Глеб разумеў брата: туга аб Палессі, аб людзях, сярод якіх выгадаваўся, з гадамі не меншала, не знікала, а ўвесь час жыла ў ім. І Генадзь не-не, дый вырываўся хоць на дзянёк-другі да бацькоў, каб параначаваць у бацькоўскай хаце — старэнькай, накрытай гонтай, што даўно парасла кароценькім, зялёным, слізкім мохам... Зімою абавязкова заходзіў у школу, прасіў у настаўніка фізкультуры лыжы і па старой завядзёнцы ішоў на лыжах у поле, у блізкі ад вёскі лес... На вуліцы ён сустракаў аднавяскоўцаў, якія скардзіліся яму на сваё жыццё, на тое, што чыноўнікі іх крыўдзяць, прасілі дапамогі, і Генадзь ніколі не выкручваўся, калі мог — дапамагаў...

Назаўтра Глеб, як звычайна, падняўся рана. Уключыў святло, узяў ручнік, зубную шчотку і падаўся на калідор, у канцы якога туалет, умывальнікі. Борздзенька спаласнуў твар халоднай вадой, а вярнуўшыся ў пакой, пагаліўся электрычнай брытвай, апрануўся — і на двор.

«Усё, болей марудзіць не хачу, падам заяву — і дадому, у вёску, да бацькоў, — канчаткова вырашыў ён. — Але сапраўды — ці не вар'ят? Брат вунь гаворыць... Тут вось ордэр на кватэру не сёння-заўтра атрымаў бы, а што чакае мяне дома?»

Намеснік генеральнага, згледзеўшы яго, замітусіўся:

— Сядай, Глеб Кузьміч, даражэнькі, я, папраўдзе кажучы, сам хацеў выклікаць цябе.

Глеб умасціўся ў крэсла насупраць Льва Захаравіча, зняў з галавы рыжую лісіную шапку, якую прыдбаў зусім нядаўна на гэтак званай барахолаўцы; яе чамусьці называюць «Полем цудаў». Ён зірнуў на Льва Захаравіча, заўважыў, што на твары ў яго ляжыць утома, а маленькія, шустрыя вочкі, над якім навіслі калматыя, чорныя бровы, так і свідруюць яго, Глеба, быццам зараней хочуць убачыць, з чым ён завітаў — з дабром ці з нечым іншым?

— Дом у Шабанах здалі ўжо, я абяцаў табе ў ім кватэру? Сваё слова я трымаю, праўда, поўнагабарытную двухпакаёўку выдзеліць не можам, выканкам не зацвердзіць, і ты сам у гэтым вінаваты — каб ажаніўся, меў сям'ю... Але і палутарка для пачатку нядрэнна. Да таго ж і дом цудоўны: дубовы паркет, кафельная плітка, вялікі балкон, чэшская сантэхніка...

— Дзякуй, Леў Захаравіч, на добрым слове, вы добры, спагадлівы чалавек, з вамі працаваць і жыць — адно шчасце. Але я, мабыць, атрымліваць ордэр не буду, вось заява, я вырашыў — і не ўгаворвайце, я доўга думаў і вырашыў беспаваротна.

Ён выцягнуў з унутранай кішэні пінжака складзены ліст паперы, разгарнуў яго і паклаў перад Львом Захаравічам.

Той пазіраў на яго, непаразумела лыпаў вачыма, на нейкі момант у яго нібы адняло мову, і ён не ведаў, што сказаць. Але ўсё ж адважыўся:

— У горад лезуць жук і жаба, а ты? Яму ўручаюць ключы ад новенькай кватэры, а ён адмаўляецца. Ліха з ёю, з работай — не хочаш рабіць у нас на заводзе, то й не рабі. Але ж кватэра... Гэта ж трэба да такога дадумацца... Мая табе шчырая парада: атрымай ордэр на кватэру, засяліся, а тады ўжо Бог бацька. Хочацца ў вёску? Калі ласка. А калі раптам адумаешся, зноў захочацца сюды, да нас? Ты яшчэ малады, Глеб Кузьміч, не ведаеш, што чалавек — гэта клубок супярэчнасцей. Сёння яму адно хочацца, а заўтра зусім іншае.

У душы ў Льва Захаравіча, мабыць, усё кіпела, нават лысіна пачырванела, пакрылася кропелькамі поту, і ён, каб выцерці галаву, вышмаргнуў з кішэні свайго чорнага расшпіленага пінжака бела-ружовую насоўку.

— Святое месца пустым не будзе, — трохі супакоіўшыся, працягваў Леў Захаравіч, — хто-небудзь знойдзецца і на пасаду начальніка цэха, але зараз не пра тое размова.

Глеб не зусім разумеў Льва Захаравіча: з чаго ён гэтак заўзята ўзяўся клапаціцца пра ягоны лёс? «Святое месца пустым не будзе...» Яно так, але, мабыць, не надта хочацца намесніку генеральнага адпускаць яго, Глеба, на волю вольную, туды, у вёску, пра якую ён думае, марыць усю апошнюю зіму і восень. Глеб, хоць і не тэхнар, а гуманітар, але ж з галавой, не адзін год працаваў токарам, брыгадзірам такарнага ўчастка, умее ладзіць з людзьмі, умее спытаць з кожнага, не слабы арганізатар. З новага чалавека хіба так строга спытаеш, як з яго, з Глеба? Новаму давядзецца прывыкаць, прыжывацца, вывучаць, каб дапяць, што да чаго, а тут трэба даваць план кожны дзень, кожную дэкаду, трэба не зніжаць якасці.

Глеб устаў і ад хвалявання надзеў шапку задам наперад, але не заўважыў гэтага, скончыў:

— Нічога болей не кажыце, Леў Захаравіч, не трэба. Атрымаць ордэр? Калі я зраблю гэта, то хіба змагу перасіліць самога сябе, а ў горадзе мне болей заставацца нельга, вам гэта, мабыць, цяжка зразумець, як і мне самому.

Глеб знарок устаў завідна, падаўся па вясковай вуліцы-гравійцы ў бок калгаснай канторы. Даўнавата ён быў у сваім сяле, і толькі во зараз заўважыў, што да двухпавярховай школы-дзесяцігодкі прыбудавалі спартзал з высачэннымі вокнамі-сценамі, зашклёнымі ўзорыстым, бы прытуманеным, шклом. Тоўстых, у некалькі чалавечых абхватаў, таполяў не было відаць. Пэўна, іх паваліліі таму, што знутры яны дуплявыя, і ў буру, якія апошнім часам здараюцца ўсё часцей, маглі ўпасці, нарабіць бяды.

І яшчэ адно кінулася Глебу ў вочы. Там, дзе раней сцяною зелянеў калгасны яблыневы сад, з'явіліся аднапавярховыя, з белых сілікатных блокаў дамкі. Ладныя такія, з чарапічным дахам, дашчанымі, прасторнымі верандамі. Кожны дамок агароджаны драцяной сеткай-

павуцінай, якая трымалася на металічных слупках. І сетка, і слупкі пафарбаваны ў блакітны колер. *Каля дамкоў, за агароджай, добры кавалак зямлі* — сотак мо пятнаццаць. У адным кутку агарода — хляўкі з тых жа сілікатных блокаў. Яны таксама накрыты чырвонай чарапіцай. З гэткіх дамкоў склалася новая вулка, якой у вёсцы ніколі дасюль не было. Вулка заканчвалася там, дзе калісь падымаўся малады дубняк.

З аднаго боку колішняга калгаснага саду, бліжэй да школы, стаяў сучасны Палац культуры, а таксама двухпавярховая адміністрацыйная будыніна, дзе месціліся сельсавет, пошта і праўленне калгаса. Туды і накіраваўся Глеб.

У сельсавеце нікога не было. Па нешырокай, з металічнымі поручнямі лесвіцы Глеб падняўся на другі паверх, дзе знаходзілася праўленне калгаса.

Наблізіўся да дзвярэй, што каля лесвіцы, на якіх на фанернай вузкай таблічцы надпіс белай фарбай: «Старшыня праўлення...»

Ён узяўся за нікеляваную ручку, адчыніў дзверы, убачыў у канцы доўгага дубовага стала немаладога веку мужчыну ў расшпіленым паліто, з густой, там-сям кранутай сівізной капой валасоў, акуратна зачэсаных назад. Гэта і быў старшыня калгаса Сымон Платонавіч. Глеб ведаў яго яшчэ з той пары, калі вучыўся ў школе. Тады, вядома, Сымон Платонавіч быў нашмат маладзейшы, на ім заўсёды быў марэнгавага колеру фрэнч з нагруднымі накладнымі кішэнямі, такога ж колеру шырокія галіфэ, на нагах хромавыя, з халявамі-гармонікамі боты.

Кожнай восенню старшакласнікаў, ледзь пачынаўся вучэбны год, строілі ў доўгі рад на школьным двары, аднекуль з'яўляўся Сымон Платонавіч, станавіўся перад строем, глуха кашляў у кулак, звяртаўся да вучняў ціхім, ахрыплым голасам і нібы прасіў прабачэння:

— Не выцерабім да замаразкаў лён, не рассцелем яго, то шмат страцім...

Льном засявалі амаль увесь Тугомер — вялізнае, як сягнуць вокам, поле. Казалі, што ў вайну тут быў партызанскі аэрадром, а цяпер вось сеялі лён. Зямля на Тугомеры была пусценькая, мала ўгноеная, і лён радзіў слаба — рос ён нізенькі, мо па калена, тоненькі, кволы, але карэнні пускаў глыбока. Каб вырваць, як казаў старшыня, выцерабіць яго з зямлі, трэба было добра аберуч ухапіцца за сцябліны і з усяе сілы пацягнуць на сябе. Ад гэтае работы пад скуру залазілі льняныя стрэмкі, далоні саднілі, балелі. Але Глеб выгляду не падаваў, не хацеў, каб Сымон Платонавіч, які ўвесь час быў каля іх, на полі, падумаў, што ён падляноўваецца...

Бліжэй да вечара старшыня запрашаў вучняў да школы, дзе на расстаўленых на двары, засланых старымі газетамі сталах у жалезных глыбокіх місках быў звараны Крушавай Маняй, школьнай тэхнічкай, боршч з баранінай, а ў талерках — тушаная з морквай і сушанымі баравікамі бульба. За ўвесь дзень, пакуль цярабіў лён і вязаў яго ў тонкія снапкі, Глеб дужа прагаладаўся і гатовы быў, здавалася, з'есці не адну такую вось міску баршчу, не адну талерку тушанай бульбы. Каля сталоў прахаджваўся Сымон Платонавіч, дзякаваў, што паспелі з лёнам управіцца за адзін дзень, казаў, што

яны зарабілі нейкую капейку і калгасная бухгалтэрыя перавядзе заробленыя вучнямі грошы ў райана, бо там сваіх грошай мала, а школе край як патрэбны наглядныя дапаможнікі ў кабінет фізікі, хіміі... Сымон Платонавіч абяцаў, што арганізуе для выдатнікаў экскурсію ў Кіеў і дзеці паедуць туды на калгаснай машыне. Ён не падмануў, стрымаў слова, і сярод тых, хто выправіўся ў Кіеў, быў і Глеб. Праўда, хлопец трохі здзівіўся, што яго ўключылі ў гэтую групу, бо хіба ён з'яўляўся выдатнікам? Пэўна, такім чынам адзначылі за ўвішную работу на Тугомеры, бо ён жа звязаў снапкоў лёну, бадай, больш за ўсіх... Дзесьці ў яго дамашнім архіве захаваўся здымак: яны, вясковыя падлеткі, на дняпроўскай кручы ў Кіеве непадалёку ад Дзесяціннай царквы...

— Чуў, Глеб, якім ветрам цябе занесла ў родны край, — Сымон Платонавіч устаў з-за стала, рушыў насустрач.

Глебу адразу кінулася ў вочы, як змянілі гады старшыню. Раней Сымон Платавіч быў хуткі, здавалася, вецер за ім не ўгоніцца, пшанічная шавялюра густой капой падала на шыю, у ім не было ніводнага кілаграма лішняй вагі, а па ветлівых, добрых вачах угадвалася, які ён шчыры, спагадлівы чалавек, і за гэта людзі яго любілі, паважалі, выбіралі сваім кіраўніком... А цяпер рухі запаволеныя, замаруджаныя, у вачах ужо няма ранейшага бляску, няма агню. Дзіва: столькі часу мінула, калі ён, Глеб, адольваў клас за класам.

— Хачу прасіцца на работу, — не адкладваючы тое, з чым так рана з'явіўся, пачаў Глеб.

Сымон Платонавіч запрасіў садзіцца, сеў і сам, нейкі момант пазіраў на Глеба, не зводзячы прыжмураных вачэй, быццам хацеў пераканацца, што перад ім той самы хлапчук-школьнік, які калісь так шчыра працаваў на Тугомеры.

— Прызнаюся, Глеб — калі мне пра цябе сказалі, то я й не паверыў, — усё тым жа ціхім, злёгку ахрыплым, як і калісь, голасам, працягваў Сымон Платонавіч. — Цяпер жа яно як? Скончыць хлапец нашу дзесяцігодку, возьмуць яго ў войска — і памінай як звалі. Старэе сяло, ох, як хутка старэе! Пасля войска мала хто вяртаецца дадому, усім ахвота жыць у горадзе, дзе кватэра з выгодамі, дзе заробкі не тое што ў нас.

— Вы мяне не агітуйце, Сымон Платонавіч, я ўжо ўсё вырашыў — застаюся дома назаўсёды, — цвёрда зазначыў Глеб. — Мабыць, вам вядома, што я скончыў гістарычны факультэт, апошні час працаваў на заводзе намеснікам начальніка цэха.

Сымон Платонавіч паглядзеў на яго так, як і Леў Захаравіч пры развітанні — як на вар'ята, бо дзе гэта бачна, каб нехта з такой пасады, са сталіцы, як тапелец у вір, пёрся ў палескую глухамань. Вунь у яго, старшыні, дзве дачкі, і хоць адну ён пакінуў тут, у вёсцы?

— Я мог бы ўзяць цябе і да сябе, у праўленне, маладых спецыялістаў, талковых, з галавой ой як не хапае, але ў нас свабоднае месца старшыні сельсавета, і каму, як не табе, заняць яго? — вёў далей размову Сымон Платонавіч і пры гэтым паглядзеў на тэлефонны светла-жоўты апарат. — Хочаш, я зараз жа пазваню ў райвыканкам?

— Хіба гэтая пасада не выбарная? — здзівіўся Глеб.

— Канечне, выбарная, але хіба цябе не падтрымаюць? Неўзабаве выбары, то я прапаную тваю кандыдатуру, але ты ўжо, калі ласка, не падвядзі мяне, карча старога, бо як жа потым мне глядзець людзям у вочы?

Як задумаў Сымон Платонавіч, так яно і выйшла. На сходзе, калі ішло вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты сельсавета, амаль усе выступоўцы падтрымалі Глеба. Толькі дырэктар школы, хваравіты, шчуплы чалавек з нездаровым бляскам у вачах, быў супраць. І Глеб гэтага не разумеў. Калі вучыўся, цяперашні дырэктар толькі пачынаў настаўнічаць — яго накіравалі ў вёску пасля Мазырскага педінстытута. Ён выкладаў геаграфію, быў дужа ўедлівы, патрабавальны, і каб атрымаць у яго добрую адзнаку, тым больш выдатную, даводзілася вераць усё назубок. Выкладчык геаграфіі потым не паладзіў з дырэктарам школы — чалавекам немаладым, бяспамятным, франтавіком, які на Дзень Перамогі на свой сіні бастонавы фрэнч чапляў ордэны і медалі. Яго, мабыць, і трымалі на гэтай пасадзе таму, што франтавік, не хацелі крыўдзіць, але малады выкладчык геаграфіі не мог пагадзіцца з тым, што школаю, дзе немалы педкалектыў, дзе не адна сотня вучняў, кіруе чалавек, які пакутуе бяспамяцтвам. Вядома, не проста так ён неўзлюбіў дырэктара-франтавіка: сам меціў на яго месца... Праз нейкі час ён усё ж дамогся свайго: франтавіка выправілі на пенсію, і выкладчык геаграфіі заняў ягонае месца. І вось цяпер выступаў супраць Глеба.

— Не разумею — чаму ён так? — спытаў Глеб у Сымона Платонавіча пасля таго, калі новы склад дэпутатаў па прапанове Сымона Платонавіча выбраў Глеба старшынёю.

— Не здагадваешся? — усміхнуўся куточкамі вуснаў Сымон Платонавіч. — Ён сам даўно меціць на гэтае месца, пэўна, школьнага, дырэктарскага хлеба наеўся ўдосталь, хочацца паспытаць сельсавецкага. І я яго разумею — столькі гадоў валаводзіцца з дзецьмі, а гэтая работа хіба лёгкая, спакойная? Не зайздрошчу я настаўнікам — нервы ім патрэбны жалезныя. Як і здароўе, а якая плата настаўніку за яго катаржную працу, якая пашана? Сам ведаеш...

Яны выйшлі з адміністрацыйнага корпуса, спыніліся непадалёку ад Палаца культуры. Побач будаўнікі закладвалі некалькі жылых дамоў, дзіцячы сад.

— З работай усё вырашылася, а з жыллём як? Будзеш у бацькоў кватараваць? — чамусьці перавёў размову на зусім іншае Сымон Платонавіч і ўважліва паглядзеў на Глеба, а потым прапанаваў: — Давай махнём за Тугомер, там у мяне ёсць аблюбаванае месцейка, не грэх абмыць тваё вяртанне на радзіму, цяпер ужо за старшыню сельсавета.

— Рабочы дзень у разгары, што пра нас падумаюць людзі? — нясмела аднекваўся Глеб.

— Мы схаваемся ў корчыкі, хто нас там убачыць? — Сымон Платонавіч наблізіўся да зялёнага, з выгаралай да белага брызентавай абшыўкай УАЗа. — Сядай, раз я кажу — сядай і не вытыркайся.

Сымон Платонавіч сам вёў УАЗ, Глеб пазіраў уперад, а калі ўбачыў Тугомер, не пазнаў яго. Па ўсім вялізным полі стаялі дажджаваль-

ныя ўстаноўкі, з умураванымі ў зямлю трубамі, вада струменямі вырывалася з трубак, разляталася буйнымі пырскамі ўшыркі і ўдоўжкі, ледзь не ад аднаго краю поля да другога. Лапушыліся, буялі цукровыя буракі, як лес, высокай сцяной стаяла кукуруза, добрая палова Тугомера была занята бульбянымі загонамі, пшаніцай з налітымі, жоўтавасковымі, як свечкі, вусатымі каласамі.

— Каб хто сказаў — не паверыў бы, што на колішняй пустэльні калі-небудзь вырасце нешта людскае, — гаварыў не то сабе, не то Сымону Платонавічу Глеб. — Адно вось не зразумею — адкуль бераце ваду для паліву? Сюды трэба мора вады, а ў нас паўз вёску плыве толькі рэчка Млынок, але ж у Млынку ў любую пару года, нават у паводку, вады вераб'ю па калена.

Сымон Платонавіч бы чакаў гэтых Глебавых слоў, задаволена ўсміхнуўся, і гэтая яго ўсмешка быццам гаварыла: маўляў, знай нашых, мы не лыкам шытыя.

— Я нездарма свой хлеб ем, — усмешка сплыла з вуснаў Сымона Платонавіча, ён знарок ехаў на малой перадачы, каб Глеб як след разгледзеў колішні Тугомер і тое, як тут усё перамянілася. — Адкуль ваду чэрпаем, хочаш ведаць? З возера, з таго, што каля закінутай цагельні. Для цагельні мо шчэ ад пачатку таго стагоддзя капалі гліну, павыкопвалі гэтакія яміны... Я і прыкінуў аднойчы: чаму б не запоўніць іх вадой, не пусціць на Тугомер вадавод ды не ўстанавіць дажджавальныя ўстаноўкі? Цяпер у нас тут залатое дно, заўсёды багатыя ўраджаі ўсяго... Апроч таго, у возеры, што каля старой цагельні, ловім сотні цэнтнераў рыбы. Запускаем кожную восень па некалькі мільёнаў малявак, затое і маем, бо з чаго я будаваў бы столькі жылля?

Скончыўся Тугомер, асфальтавая дарога, што вядзе ў Мазыр і Лельчыцы, убегла ў лес. З аднаго боку немалады хвойнік, з другога, за падрослым бярэзнікам, у даліне, дзе відаць алешнік, пракідваліся асіны, дубы.

Неўзабаве Сымон Платонавіч павярнуў, збавіў хуткасць, і машына паволі ўкацілася ў шырокі расцяроб, дзе стаялі высокія бетонныя слупы лініі электраперадачы. Па расцяробе, збоку слупоў, дарога — цупкая, убітая, уезджаная калёсамі і машынамі, пакрытая між каляін травой-сухастоем, нейкімі жоўтымі кветкамі.

Трохі аддаліўшыся ад бальшака, Сымон Платонавіч крутнуў руль улева, на затравелую сцежку, пад высокую, немаладую елку, тоўстыя галіны якой звісалі ледзь не да самага долу. А трохі наўзбоч — чорнае, затухлае вогнішча з абсмаленымі галавешкамі, недагарэлымі сасновымі ды бярозавымі паленцамі.

Сымон Платонавіч разварнуў машыну, заглушыў матор, вылез з кабіны.

— Тут я іншы раз абгаворваю з сябрамі тое, пра што нельга трызвоніць там, у канторы. — Сымон Платонавіч адчыніў вечка багажніка, выцягнуў адтуль лазовы кошык з абшмуленай, трэснутай ручкай-дугой, абышоў вакол машыны, спыніўся каля капота: — Тут абрус-самбор і хлеб-соль, — ён пачаў выкладваць на разасланую на капоце настольніцу тое, што было ў кошыку: тлустага смажанага карпа, парэзанае скрылёчкамі, трохі пажоўклае леташняе сала, вэнджа-

ную свойскую каўбаску, марынаваныя таматы ў паўлітровым слоіку, круглы каравай аржанога хлеба, пер'е цыбулі, паўтарачку гарэлкі.

— Дай Божа не маўчаць ды добра пачаць, — сказаў Сымон Платонавіч, наліўшы ў гранёныя шклянкі трохі больш як напалову гарэлкі, узняў сваю.

Ён выпіў, крэкнуў, паставіў пустую шклянку на капот і пачаў закусваць. Закусваючы, пытаўся:

— Дык вырашыў ужо, дзе будзеш жыць? Паслухай мяне — перабірайся ў дамок, што на ўскрайку саду. Я аддам табе яго не вагаючыся! Маладых спецыялістаў я не крыўджу, кожнаму магу даць па такой вось хароміне — не бедны я, калгаснікаў сваіх у людзі вывеў, яны ў мяне задарма не парабкуюць, за сваю працу штомесяц атрымліваюць, і на рахунку калгасным хапае. Таму ў мяне пакуль ніякіх праблем з трактарыстамі, з заатэхнікамі-аграномамі. Што галоўнае для чалавека? Сям'я і дах над галавой. Дарэчы, ты чаму дасюль не ажаніўся? Не, гэта, Глеб, непарадак, не па-паляшуцку, я табе халасцякаваць болей не дазволю, у нас дзяўчат, маладзіц хоць і не столькі, як у сталіцы, але яны свае, надзейныя — ажэнішся, то не пашкадуеш. Ды і ў мяне самога дзве нявесты на выданні, так што сватайся, аддам тую, якую захочаш, мае дочкі не спешчаныя, не матыліцы, адна заканчвае Інстытут культуры, а другая — Мазырскі педінстытут.

— Дайце трохі агледзецца, Сымон Платонавіч, вось агледжуся, абжывуся... А наконт жылля... Вядома, у бацькі мне месца няма, з бацькамі жыве старэйшы брат Жора, а ў яго сямейка немалая — чацвёра дзяцей.

— Хіба я не пра тое самае? Самому сёння каб пабудавацца, трэба ўсе жылы парваць. Дый капейчына патрэбна. А тут я табе гатовенькія ключыкі ў белыя ручкі. І чым ты не зяць мне? Ты даўно не бачыў маіх дачок? Яны ў мяне ані вішанькі вясною, сама цвітуць, убачыш — вачэй не адвядзеш. Не, я ніколечкі не жартую — пасватайся да каторай з іх, не пашкадуеш, я азалачу цябе, у мяне ўсё ёсць... «Жыгулі» новенькія куплю, вяселле адбухаем — на ўсё жыццё запомніш, а пасля вяселля едзьце хоць на Каўказ, у Сочы, хоць у Крым, на любыя курорты ў мяне грошай хопіць, — скончыў Сымон Платонавіч, замоўк, пэўна, не паверыўшы, што на падпіцці ён можа адважыцца на любыя размовы.

— Я праўду кажу, Сымон Платонавіч, — дайце мне трохі агледзецца, інакш нельга, бо паспяшыш...

— Крыўдзіш мяне, Глеб, я да цябе з дарагой душой, як да свайго сына, з адкрытым сэрцам, а ты нібы не давяраеш, нібыта падазраеш мяне ў чымсьці.

Потым выпілі яшчэ раз, другі і трэці, непрыкметна пераключыліся на іншыя размовы, быццам і забылі пра тое, дзе цяпер жыць Глебу і з кім яму ажаніцца. На вольным паветры, у лесе, дзе пахла травамі, кветкамі, смалой-жывіцай, грыбамі, спелымі чарніцамі, сунічнікам, якім зараслі навакольныя паляны і канавы паўз дарогу-бальшак, апетыт быў сапраўды воўчы, вельмі хутка яны дапілі гарэлку, падчысцілі ўсю закуску.

— Вар'ятам трэба быць, каб адмаўляцца ад таго, што я табе прапаную, — калі ўжо селі ў машыну і паціху пакаціліся назад у вёску,

зноў згадаў Сымон Платонавіч размову, з якой пачалося іх лясное застолле.

Глеб на гэта ні слова ні паўслова, толькі пазіраў на дарогу, уперад, на Тугомер, на загоны нізкарослай, спалавелай пшаніцы, і не ведаў, якое ж рашэнне яму трэба прыняць: паслухацца Сымона Платонавіча, ці...

— Я вам не казаў, Сымон Платонавіч, не паспеў сказаць... Каб вы ведалі, чаму я раптам пакінуў горад...

Але таго, што падумалася менавіта ў гэты момант, ён не вымавіў, вырашыў: час усё праясніць, усё стане на сваё месца.

Пра тое, што ў яго адбылася размова з Сымонам Платонавічам, Глеб пахваліўся старэйшаму брату. Жора рабіў у калгасе на «газоне»-самазвале. Зімою ён вывозіў на поле гной, торф, дастаўляў на ферму з паплавоў і лугоў сена, улетку, вясной, увосень то падкідваў да сеялкі насенную бульбу, сартавую пшаніцу, авёс, ад камбайна мчаў на зерняток з паўнюсенькім кузавам намалочанай збажыны... Вялікіх грошай Жора ніколі не трымаў у руках, але на хлеб ды на адзенне сабе, жонцы, дзецям хапала. Тым больш, што ў бацькоў каля хаты немалы, мо болей за паўгектара, гарод, і ў хляве Жора разам з бацькамі гадаваў кабаноў, трымалі яны і качак з гусямі, курэй, авечак... Жора быў на добры дзесятак гадоў старэйшы за Глеба, але выглядаў даволі свежа і молада, у яго гладка зачэсаных назад цёмна-русых валасах дасюль нельга было заўважыць ніводнай сівой нітачкі. А ў руках столькі сілы, што ён лёгка бярэ і закідвае ў кузаў сваёй машыны таўшчэннае двухметровае бервяно. У бацькавай хаце дзве грубкі, печ, дроў трэба як у прорву, і прывезці іх гэта ўжо Жораў спрадвечны абавязак: трэба ў лесе знайсці сухастоіну, распілаваць плашкі на целяшы, а потым пакалоць тыя целяшы на паленцы.

— І што ты адказаў Сымону Платонавічу? — пацікавіўся Жора, калі Глеб пачаў нібы спавядацца перад ім.

— Вядома, што яно заманліва — атрымаць ключыкі ад новай кватэры, а заадно з імі і маладуху прывесці туды, — пры гэтых словах Глебаў твар чамусьці расплыўся ва ўсмешцы. — Але... Хіба мне ў сталіцы не свяціла кватэра? А я адмовіўся. Вось і тут...

Ён раптам замоўк, а потым спытаў:

— Старшынёвыя дзеўкі вартыя, прыгожыя?

— Ты хочаш, каб я даў параду? — Жора збіраўся на работу, апранаў рабочае адзенне, нацягваў на ногі кірзавыя боты. — Не чакай гэтага, бо ледзь што, то з мяне будзеш даставаць душу. Сам не маленькі, разбярыся як след, абмазгуй і вырашы, што ты сам ад сябе хочаш. Вядома, ключы ад гатовага дамка — гэта не так ужо і дрэнна, тым больш быць старшынёвым зяцем... А дочкі ў яго назавідкі, праўда, капрызлівыя, з нашымі хлопцамі-латунамі яны не сябруюць...

Жора, ужо гатовы выбегчы з хаты, узяўся за ручку дзвярэй, але наўздагон яшчэ дадаў:

— Перш чым адмаўляцца ад дамка — падумай, бо калі возьмешся сам будавацца... Я прыбудаваў некалі трохсценак да старой бацькавай хаты, ставіў новы хлеў, потым адрынку, сцёбачку для бульбы, гародніны. То, як успомню, дык і цяпер часам у пяты коле. А ты хочаш сам хату адолець, селішча з нуля ўзняць? Паспрабуй, пабачыш — дзе-

сятаму закажаш. Будоўля такая штуковіна, яна каму хочаш усе гізунты выматае.

Не абрадавала гэтая размова і Глеба. Перш чым выпраўляцца на работу ў сельсавет, чамусьці завярнуў на невялічкую вулку, у канцы якой — калгаснае поле, а за ім — маладыя хвойнік, бярэзнік, які ўлетку абуджаецца птушыным граем. Гэта адтуль часам даносяцца да вёскі салаўіныя пошчакі-пераборы, удодава ўгаканне, а ўначы добра чуваць, як крычыць сава. Пасярод поля некалі стаялі два магутныя дубы, на тоўстыя галіны якіх нехта ўзвалок вуллі-калоды. Увосень на дубах даспявалі жалуды, увесь дол пад імі быў усланы даспелымі, прадаўгаватымі, жоўта-бурымі, нібы меднымі, жалудамі. Глеб збіраў іх у кашэль і нёс здаваць у лясніцтва. На выручаныя грошы купляў у сельпоўскай лаўцы алоўкі і сшыткі, цукеркі-падушачкі... Ад дубоў і знаку не засталося, павыкарчоўвалі іх, бо, напэўна, яны дужа заміналі трактарыстам араць, але Глебу здаецца, што зрабілі гэта не падумаўшы. Хіба шмат у лесе ды каля вёскі гэтакіх вось векавых прыгажуноў? Яны нібы сведчылі пра сівую мінуўшчыну Палесся, іх ведала ўся акруга, яны і як помнік тым, хто каля іх жыў, хадзіў, хто ў часы варожай навалы стаяў насмерць за сваю вёску, за сваю зямлю і свабоду. Глеб стаяў у канцы вузкай вулкі, і на душы ў яго было пуста і змрочна.

Потым ён паціху папраставаў у сельсавет і на паўдарозе сустрэўся з Кацярынай, дачкой Ганны Багушыхі. З Кацярынай Глеб калісь разам бегаў у школу, яна, праўда, мо гады на тры маладзейшая, і таму ўвесь час «даганяла» яго, але так і не магла дагнаць. Ужо калі ён скончыў дзесяць класаў, а Кацярына сем, то на выпускным вечары Глеб танцаваў з Кацярынай, і яна так пранікліва пазірала яму ў вочы, што не заставалася сумнення: яна закахалася ў яго. Кацярына не была прыгажуняй і дужа ўдавала на сваю маці: каштанавыя, заплеценыя ў доўгую касу валасы, твар бы цецерукова яйка, тонкая, гнуткая ў стане, але вочы заўжды свяціліся дабрынёй і ласкай. Шмат вады сплыло з таго часу, Кацярына ўжо даўно не зялёная дзеўчынёха. Твар у яе ўсё той жа — а на правай шчацэ, Глеб толькі цяпер гэта заўважыў, невялікі радзімы знак. І вочы не змяніліся — добрыя, усмешлівыя, ласкавыя. Праўда, пільней прыгледзеўшыся, можна было заўважыць у яе вачах глыбока прыхаваны смутак. Няўжо гэта ад таго, што яна дасюль не замужам? Амаль усе яе аднагодкі даўно маюць сем'і, дзяцей, а Кацярына ўсё адна ды адна.

— Кажуць, што ты назусім вярнуўся дадому. Гэта праўда? — калі трохі разгаварыліся, як бы між іншым спытала Кацярына.

— Назусім, Каця, няма мне жыцця ў горадзе. А ты? Я чуў, што ты скончыла мазырскае медвучылішча, і ўсё яшчэ адна, не замужам? Дзе працуеш?

— У нас, у дзяўчат, такая ўжо доля — трэба чакаць, калі хто пасватаецца. Ды што пра мяне казаць — ты хлапец, а таксама адзін, як палец. Што табе замінае мець сям'ю? Тваё аднагодкі, як і мае, ачалавечыліся, цешаць, песцяць сваіх дзетак, а хто-ніхто тым часам ужо і ўнукаў, я не жартую — ёсць гэтакія маладыя ды раннія. Дзе я працую? На «хуткай дапамозе». От і зараз хачу паспець на рэйсавы аўтобус. Работу сваю я люблю, але машыны ў нас усе ламакі — паедзем на сяло па выкліку, наша лайбачка па дарозе сапсуецца, шафёр чаруе над

ёю ці пад ёю, умурзаецца, як чорт, а людзі чакаюць нас не дачакаюцца.

Кацярына чамусьці загадкава ўсміхнулася, развіталася, спорненька пакрочыла ў той бок, дзе спыняюцца рэйсавыя аўтобусы. Трохі адышоўшыся, яна чамусьці азірнулася, быццам хацела яшчэ пра нешта спытаць, але, пэўна, засаромелася, не спытала і пашыбавала далей.

Вось ужо і сельсавет, дзе пад самымі вокнамі ягонага службовага кабінета стаяў УАЗ Сымона Платонавіча.

Перад тым як увайсці ў сельсавет, Глеб абвёў позіркам калгасны сад, заўважыў, што дамок, пра які казаў Сымон Платонавіч, будаўнікі тым часам падвялі пад дах, ставяць кроквы, зашываюць вагонкай франтоны, ладзяць на месца дзвярныя каробкі і аконныя рамы.

Мінула яшчэ трохі часу, і ў канцы вулкі, дзе пачыналася калгаснае поле, вясковыя мужыкі закопвалі ў зямлю дубовыя штандары, клалі на іх падваліны. Каля будаўнікоў завіхаўся Глеб — з планам дома, што вычарцілі яму раённыя архітэктары. У адпаведнасці з гэтым планам будаўнікі і распачалі сваю работу.

— Я вельмі вас прашу, хлопчыкі, — ласкава гаварыў Глеб, — рабіце ўсё як сабе, аплатай я вас не пакрыўджу — нават, калі хочаце, магу даць трохі авансу. Магу разлічыцца грашыма ці таварам... Можа, каму дыванок патрэбен, легкавічок... Я афармлю без чаргі...

— За маю работу, Глеб, не перажывай, шкадаваць не будзеш, што наняў мяне і маіх таварышаў, а не якіх-небудзь гастралёраў-халтуршчыкаў, — адказаў плячысты, у кароценькай аўчыннай кацавейцы, з чырвоным абветраным тварам Аляксей Кеб. — Ці адну хату я паставіў у сваім і суседніх сёлах? І ніхто ніколі не крыўдзіўся, што наймаў мяне — хаты ва ўсіх як звон.

Кеб паглядзеў на чэсаныя бёрны, што няроўным штабелам ляжалі каля таго месца, дзе яны закладвалі падмурак.

— Толькі вось што, Глеб. На першыя, ніжэйшыя вянкі, гэтыя бёрны мы ўскоцім самі, а вышэй... Словам, шукай аўтакран, без яго будзе цяжка справіцца. Падымаючы, пуп можа развязацца. І дзе ты толькі патрапіў на такі таўшчэзны лес? Здаецца, усё наўкруг даўно павыразалі, пазаставаліся адны дубчыкі, а ты вось выпараў. Я нічога не кажу — з такога лесу твая хата прастаіць не сто, а ўсе дзвесце гадоў. Не толькі табе самому, тваім унукам і праўнукам будзе ў ёй цёпла ды ўтульна: гэткую смалістую драўніну ніякі шашаль не сточыць.

Потым Кеб перавёў позірк на калгаснае поле, на лес, да якога рукой падаць, і дадаў:

— І месца ты для свайго котлішча выбраў — лепшага хоць бы і хацеў, ды не знайшоў. Трымай колькі хочаш гусей, качак, курэй — вольнага месца хоць адбаўляй. І грыб з ягадзінай пад рукой, вунь у тым лясочку-гаёчку.

На душы ў Глеба свята — будзе, будзе ў яго свой дом, ды не абы-які, а назавідкі ўсім: вышыня аднаго вянца сантыметраў трыццаць, не меней. Дастаткова пакласці якіх вянкоў дзесяць — і досыць. Доўга ён выбіраў сабе лес, але ж выбраў, старшаму ляснічаму дзякуй, адвёў яму тую дзялянку, куды раней мала хто заварочваў з пілой ці сякерай.

А Сымон Платонавіч, даведаўшыся, што Глеб бярэцца ставіць сабе хату, не паленаваўся спусціцца са свайго калгаснага рабочага кабінета, што на другім паверсе, у сельсавецкі, абурыўся:

— Я не разумею: ты, Глеб, вар'ят, ці што? Для каго я будаваў вунь той дамок на ўскрайку саду? Па асобным праекце ўзвёў яго. Дамок амаль гатовы, з паравым ацяпленнем, з пограбам-склепам, у два паверхі... Няўжо ты падумаў, што я жартаваў, калі казаў, што не супраць, каб ты быў маім зяцем? Я й дочкам пахваліўся, чакаў цябе са сватамі, а ты што — спалохаўся? Мае дочкі — дзяўчынкі рахманыя, знешне яны ў жонку — чарнявенькія, смуглявыя, невысокія, а характар у іх мой, а мяне ты хіба дрэнна ведаеш?

Глеб слухаў Сымона Платонавіча, разважаў: як жа так можна? Ён не бачыў старшынёвых дачок, не размаўляў ні з адной з іх, а бацька, выходзіць, усё сам вырашыў? Раней, мабыць, яно так і было, часцяком гэта здаралася — за маладых усё вырашалі бацькі. Дык то раней, а цяпер іншыя часы, іншы век.

— Не крыўдуйце на мяне, Сымон Платонавіч, але я па-іншаму не магу, — нібыта пачаў апраўдвацца Глеб, баючыся зірнуць Сымону Платонавічу ў вочы. — Каб я вам пра ўсё расказаў... Але не магу я, і вы, калі ласка, лепш не распытвайце... Няўжо вам здаецца, што я проста так, ад дураты, кінуў горад, адмовіўся ад ордэра на кватэру і майнуў сюды, у вёску? Нічога проста так, Сымон Платонавіч, не здараецца. Вы пражылі на гэтым свеце болей за мяне, самі павінны добра разумець... А тут я хачу жыць у хаце з дрэва — вось што. Бачыце, якая ў мяне галава? Колькі мне тых гадоў, а я ўжо сівы, як стогадовы дзед. Чаму? А таму, што служыў у ракетных часцях.

Глеб яшчэ хацеў сказаць, што вось колькі ўжо ён тут, у вёсцы, як вярнуўся з горада, але адразу стаў адчуваць сябе лепш: меней баліць галава, меней круціць суставы. Надыхаецца ён каля сваёй будоўлі смолкамі, сасновым пілавіннем, струганым дрэвам, і яму так добра, так хораша, што, здаецца, не пакідаў бы будоўлі ўвесь дзень, але ж трэба ісці на работу, дзе яго чакаюць справы, людзі. Але ён пра гэта толькі падумаў, а гаварыць не захацеў — і так сказаў нямала.

— Вунь яно што, — задумліва прамовіў Сымон Платонавіч, і было відаць, што Глебавы словы ўзрушылі яго, растрывожылі, — чаго ж ты адразу не сказаў, а то... Напусціў туману, і думай што хочаш, — да яго, нарэшце, мабыць, дайшло тое, аб чым ён нават і не здагадваўся, грэшным дзелам Сымон Платонавіч, мабыць, падумаў, што яму, Глебу, напэўна, жанчыны і не патрэбны, бо ў тых, хто служыў у ракетных часцях або падводным флоце, пасля службы выпадаюць валасы, зубы, і жаніцца ім не трэба... Мо тое і з Глебам?

Ён ужо зрабіў колькі крокаў да дзвярэй, але раптам спыніўся і прапанаваў:

— Давай мо сёння пасля работы адведаем нашу лясную карчму? Па-першае, даўнавата там былі, па-другое... Трэба ж замачыць закладку падмурка пад твой дом, бо калі не зрабіць гэтага — вуглы парассыхаюцца.

Глеб хацеў сказаць, што закладка ўжо замочана з мужыкамі-будаўнікамі і братам Жорам, але адмаўляць Сымону Платонавічу неяк не выпадала: усё-такі ён уладкаваў яго на работу, з самымі добрымі

намерамі. А пра сябе падумаў: пэўна, Сымон Платонавіч не паверыў да канца, шо ён пакінуў горад з-за таго... Мо ўсё яшчэ яму хочацца, каб стаў ягоным зяцем?

— Я згодзен, — адказаў Глеб.

Праз колькі часу Сымон Платонавіч ужо сядзеў у сваім УАЗіку і раз-пораз бібікаў, клікаў яго, Глеба.

— Ну што ў вас за прывычка, Сымон Платонавіч, — сярод белага дня, у рабочы час... Што пра нас падумаюць людзі? — Глеб замкнуў свой кабінет, надзеў на галаву зялёны капялюш, які аблюбаваў у сельпоўскай лаўцы і не здымаў з апошняе вясны, спусціўся па сходках з высокага першага паверха на забетанаваную пляцоўку, што перад вокнамі ягонага кабінета.

— Колькі разоў я табе даводзіў — хто тут гаспадар? Хто ўлада? — пажартаваў Сымон Платонавіч. — Я гаспадар усіх тутэйшых земляў, а ты — улада, няўжо да цябе не дайшла гэтая простая, як Божы свет, ісціна? Каго, скажы, нам баяцца? Саміх сябе? Свайго ўласнага ценю? Сядай барзджэй — і наперад, у лясную карчму, паслухаем, як журавы курлычуць, я так даўно не бачыў жураўлінага кліна, асенні лес... Закіснуць можна ў кабінеце.

УАЗ хутка прамчаў іх міма Тугомера, таго вялізнага поля, дзе цяпер ляжалі ў буртах цукровыя буракі. Дажджавальныя ўстаноўкі ўжо не падавалі вады, бо восень на двары, поле рыхтавалася да зімы.

Зноў звярнулі з бальшака на цупкую, добра ўезджаную грунтавую дарогу і спыніліся каля той жа старой, тоўстай яліны, на галінах якой, бы ёлачныя цацкі, віселі доўгія, парэпаныя шышкі.

Сымон Платонавіч выцягнуў з багажніка лазовы кошык, накрыты бела-ружовай настольніцай, пачаў выкладваць пітво і закуску...

На гэты раз апаражнілі паўтарачку, потым яшчэ бутэльку «Белавежскай», але хмель чамусьці не надта браў, пэўна, таму, што на настольніцы якой хочаш закусі ўдосталь, дый лес кругом, паветра такое, што дыхай на ўсе грудзі, не надыхаешся.

Дзіўна, але Сымон Платонавіч быццам і забыўся пра ранейшую размову, пра тое, каб Глеб ажаніўся з адной са старшынёвых дачок, атрымліваў ключы ад амаль ужо гатовага дамка на ўскрайку саду і жыў з маладой жонкай ды дзетак нажываў. Няўжо Сымона Платонавіча гэтак узрушыла навіна, якую ён пачуў сёння ад Глеба? Яно й вядома. Каму гэта ахвота мець хворага зяця, тым больш такога, які рана пасівеў, і нават невядома, ці будуць у яго свае дзеці. Бо, выходзіла, ён хварэў прамянёвай хваробай, а ў тых, хто хварэў гэтай немаччу, дзяцей не бывае... Хіба не чуў пра тое Сымон Платонавіч, не чулі ў іхнім сяле? Гэты свет такі, ён жыў і жыве чуткамі...

— Мо і праўда, Сымон Платонавіч, мне паслухацца вас? — бы нейкая нячыстая сіла пацягнула Глеба за язык, і ён не вытрымаў, не то жартаваў, не то здзекаваўся ці сам з сябе, ці з Сымона Платонавіча. — Ажанюся я з вашай дачкою, перасялімся ў дамок каля саду — і зажывём, а чаму б і не? З такім цесцем, як вы, ніякі зяць не прападзе.

На хвіліну замоўк, нібы схамянуўся: аб чым гэта ён? Ужо свой дом будуе, а вярзе абы-што...

— А дом я дабудую — а як жа. Я не прывык, не хачу спыняць сваю будоўлю. Ведаеце: я ніколі не ставіў сабе хату, а цяпер пастаўлю. Калі

не спатрэбіцца мне, то прадам, украінцы ўмэнт схопяць і грошыкі добрыя дадуць.

— У цябе, Глеб, сем пятніц на адным тыдні. То ты ўпарцішся, прыдумляеш адно, другое... Можна падумаць, быццам я калі-небудзь напрошваўся. Нікому і ніколі я не напрошваўся — Божа пазбаў мяне ад гэтага. Мае дочкі не страхапуды нейкія, знойдуць сабе пару, а як жа — прыйдзе час і знойдуць, у дзеўках не заседзяцца.

Дадому вярталіся моўчкі. Глеб бачыў перамены, якія адбыліся ў настроі Сымона Платонавіча, і ўжо нават шкадаваў: навошта было плявузгаць пра сваё здароўе, пра службу ў ракетчыках, з-за якой давялося кідаць горад і вяртацца на Палессе? Цікава: як бы цяпер паводзіў сябе Сымон Платонавіч, калі б не ведаў, што прымусіла Глеба адважыцца на гэтакі крок?

І вось ён на сваім новым, які толькі набывае будучыя абрысы, падворку. Аляксей Кеб увіхаецца з вясковымі будаўнікамі ледзь ці не з самага досвітку. Кладзе з імі на ўкопаныя ў зямлю штандары першы вянец. А Глеб падсабляе, сочыць, каб усё рабілася як належыць.

Глеб згледзеў, што па вуліцы кудысьці спяшалася Кацярына. Куды яна так рана спяшалася? Пэўна, бяжыць, каб паспець на ранішні рэйсавы аўтобус.

— Бог у помач! — Кацярына ўбачыла Глеба, прыпынілася.

Дзяўчына заўважыла, што будаўнікі заразалі чысты вугал, збіраліся класці бервяно ў замок. І яшчэ яна адзначыла, што робяць яны ўсё акуратна, складна-ладна, і Глеб, на яе думку, правільна зрабіў, што наняў сваіх, а не чужых на гэтую работу, ён, напэўна, цяпер і сам задаволены тым, як будаўнікі ўзводзілі ягоны дамок-церамок.

— Дзякуй, Каця, на добрым слове, дасць Бог, то месяцаў за колькі зруб будзе гатовы, — Глеб перавёў позірк ад дома, ад будаўнікоў на Кацярыну.

— Навошта табе аднаму гэтакая хароміна? — як бы між іншым пацікавілася Кацярына.

Глеб разумеў: не, не проста так яна прыпынілася, загаварыла з ім. Ад гэтай думкі настрою толькі прыбавілася.

— Увесь час я адзін не буду, — шматзначна адказаў Глеб. — Ці ж доўга мне ажаніцца? Было б куды прывесці, а жонка знойдзецца, — жартаваў Глеб.

Але ўсмешка як з'явілася, гэтак жа хутка і сплыла з ягонага твару, і ён ужо на поўным сур'ёзе дадаў:

— От вазьму і збяруся да цябе ў сваты, няўжо гарбуза дасі?

Кацярына, вядома, падумала, што Глеб жартуе, бо ў яго сёння, можна сказаць, цудоўны настрой — чалавек дом закладвае, і хіба гэта не свята? Але чаму Глеб нібы нават здзекуецца з яе: хіба яна вінаватая, што дасюль не замужам?

— Я чула, што цябе самога ўжо нібыта сваталі, ды не абы-якія сваты... — падкалупнула Кацярына. — І чаму ты разгубіўся? Захацелася ўлезці ў гэты хамут? — паказала яна вачыма на будоўлю. — Работы тут процьма, ці справішся, ці адолееш? І грошай трэба не адна кайстра.

Яе словы зачапілі: адкуль ёй вядома пра ягоную размову з Сымонам Платонавічам? Вёска ёсць вёска, тут у адным канцы хто-небудзь

чхне, а ў другім ужо кажуць «будзь здароў»... Хацелася ёй сказаць, каб не совала свой нос куды не трэба, але ён перасіліў сябе, лагодным галасам прамовіў:

— Сам не спраўлюся — браты дапамогуць: адзін багаты, другі на машыне...

Сказаў, а сам не зводзіў вачэй з Кацярыны. Яна здавалася яму прывабнай, някідкай з твару, але прывабнай, бо хіба не відно, якія ў яе добрыя вочы? І міласэрная яна, канечне, бо каб іначай, то хіба яна выбрала б сабе гэтую прафесію? Медыкамі, напэўна, становяцца тыя, хто ўмее спачуваць, суперажываць, глядзець на чужы боль як на свой уласны.

Кацярына не стала болей затрымлівацца, крутнулася на адной назе — і ледзь не подбегам да прыпынку, бо вунь ужо здаля паказаўся рэйсавы жоўта-чырвоны аўтобус. Глеб пазіраў ёй услед, і менавіта ў гэты момант яго кальнула думка: а чаму б і сапраўды яму не пасватацца да Кацярыны? Яна са сваіх, не падвядзе, простая, звыклая да вёскі, да вясковага побыту. Яна зразумее яго, сэрцам зразумее, чаму ён перабраўся з горада ў вёску.

Глеб падазваў да сябе Аляксея Кеба, спытаў:

— Ты быў калі-небудзь сватам?

Той, пэўна, адразу змікіціў, што да чаго, зірнуў у бок прыпынку, убачыў, што Кацярына ўваходзіла ўжо ў аўтобус, ссунуў на патыліцу вязаную зялёную шапачку, пагладзіў рукою парадзелы, яшчэ не сівы чуб, хітра прыжмурыў адно вока, як бы цэлячыся, прамовіў:

— Такое дзела... Сватацца — не хату ставіць. Заві, Глеб, пасватаю каго хочаш, у мяне вока вернае, не суročу.

Глебаў дом назавідкі: пад чысты вугал, у два паверхі, з вялікай верандай на два ўваходы-выхады, на некалькі немалых пакояў, з кухняй, дзе паставіў печ з лежаком-чараном, апроч таго, яшчэ дзве грубкі, якія будуць абаграваць дом. У верандзе прыстасаваў газавую пліту, балазе, звадкаваны газ з Калінкавічаў у сяло прывозяць раз у месяц. Плаці грошы і бяры гэтых балонаў хоць два, хоць тры, абы хапала да новага падвозу.

На агародзе Аляксей Кеб выкапаў глыбокі склеп для бульбы, гародніны, садавіны. Садавіны пакуль сваёй няма, але ж будзе, калі зямлі ўдосталь, то хіба Глеб не развядзе свой сад?

Хацелася адразу і лазнечку зрубіць, але дзе на ўсё набрацца грошай? Праўда, калі аднойчы наведаўся ў вёску Генадзь, то Глеб звярнуўся да яго, каб пазычыў трохі:

— Выручы, браток, я ненадоўга прашу, зарплата ў мяне немалая, збяру — аддам.

— Што б мне ні казалі, але я й сам бачу — ты, Глеб, вар'ят, дый годзе, — Генадзь ступаў з веранды на кухню, з кухні ў пnative праторную залу з падвойнымі вокнамі, адтуль — у спальню, бачыў, што столь і сцены патынкаваныя ўжо, абклееныя светла-зялёнымі шпалерамі, падлога пафарбавана жоўта-карычневай фарбай, і ад таго ў хаце святочна, цёпла, утульна. — Прызнацца, калі ты заікнуўся пра тое, што пакідаеш горад назаўсёды, я не паверыў, для мяне гэта было як гром з яснага неба, а цяпер бачу сваімі вачыма — памыляўся, бо, аказваецца,

хоць мы і браты родныя, і бачыліся часцяком, але як мала я цябе, Глеб, ведаў. Каюся і хвалю, хвалю бясконца.

З двара ў хату ўвайшла Кацярына, і Генадзь, мабыць, заўважыў, што яна ўжо загрубела, з-пад чорнай, кароткай плюшаўкі быў відзён вялікі жывот, ад цяжарнасці Кацярына нібы нават пахарашэла, вочы яе свяціліся жывым бляскам і ціхім жаночым шчасцем, а на твары з'явілася яшчэ болей, чым да замужжа, рудых кропачак-плямаў.

— Маладзец, браценя, хвалю яшчэ раз — ты тут у шапку не спіш, — шматзначна ўсміхнуўся Генадзь...

— Нам абодвум трэба было даўно мець сваіх дзяцей, а мы яшчэ толькі збіраемся, — адказала за мужа Кацярына, — хто-ніхто з нашай роўні ўжо ўнукаў няньчыць, а мы...

— Колькі табе, Глеб, трэба грошай? — перавёў на другое размову Генадзь. — Толькі многа не прасі, бо хоць я і суддзя, да таго ж цяпер і член калегіі абласнога суда, зарплата ў мяне такая, што ледзьве хапае, а ў мяне самога расходы ого, жыць у горадзе — гэта не на вёсцы, сам разумееш, там усё з магазінчыка, з капеечкі.

Брат, пэўна, знарок прыбядняўся, бо і апрануты ён быў не тое што Глеб. На ім нейкі адмысловы імпартны, у светлую палосачку, двухбортны шэры касцюм, мадняцкія туфлі на высокім абцасе з тоўстай падэшвай, сарочка з каўняром, нібы з кардону, ражкі якога на маленькіх гузіках, гальштук з сярэбрана-малінавым адценнем. У зубах у Генадзя люлька. Раней брат і блізка не падпускаў да сябе ні курыва, ні курцоў, а цяпер вось... І прыехаў ён не на папутцы і не рэйсавым аўтобусам, а на сваёй уласнай беленькай «Волзе».

— Мне хоць бы тысячы дзве, бо трэба разлічыцца з будаўнікамі, хлеў яшчэ не скончаны, а да зімы з ім трэба ўправіцца — народзіцца дзіця, то як без свайго малака, без сваёй каровы? — замаркоціўся Глеб.

— Магу даць і болей, — супакоіў Генадзь Глеба, — аддасі, калі разбагацееш.

Пасля братавых слоў Глеб яшчэ болей пераканаўся: у Генадзя даход не толькі зарплата, бо з адной зарплаты хіба ён вось так шыкоўна апранаўся б, раз'язджаў на новенькай «Волзе»? У суддзяў, адвакатаў, у міліцыі-следчых яшчэ і «ганарары»... Пападзецца ім у рукі які-небудзь зладзюга-рыштанцюга, то каб не пасадзілі за краты або хоць трохі скінулі тэрміну, ужо нічога не пашкадуе — ні грошай, ні якога хочаш дабра... Але пра гэта Глеб памоўчваў, бо адно яго неасцярожнае слова — і Генадзь можа перадумаць, не пазычыць яму грошай, не выручыць.

Ад'язджаючы, Генадзь, пэўна, заўважыў, як Глеб лашчыць вокам ягоную «Волгу», спытаў:

— Хочаш такую сваю мець?

— Табе, Гена, абы пажартаваць. Дзе мне разжыцца на такую, мне б хоць якога задрыпанага «Запарожца». Дай пакуль з будоўляй разабрацца.

— А я і не жартую. Лаві момант, пакуль я суддзя, бо думаеш «Волгу» можна свабодна купіць, нават маючы мех грошай? Ведаеш, колькі грузіны даюць мне за маю машыну? Тры цаны.

— Няўжо праўда?! Цэлых тры?! Адкуль у людзей гэтакія грошы? Пэўна, якія-небудзь спекулянты-ліхвяры або зладзеі — сваім чэсным мазалём заробіш надта многа?

Генадзь сеў за руль, стартануў, але тут жа заглушыў рухавік, паглядзеў на Глеба, спытаў:

— Скажы, браток, толькі не крыві душою, а як брат брату, як на духу — не шкадуеш ужо, што моўзнуў па дурасці з горада? Я іншы раз як успомню, як падумаю пра цябе, то мароз па скуры. Іншага слова, даруй, калі можаш, мне, як вар'ят, не трапляе. Каб адважыцца на такое, як ты, здаецца мне, сапраўды трэба звар'яцець.

Адказаў Глеб не адразу. Ён паглядзеў на брата, на сваю новую хату, на лес, што непадалёку ад яго селішча, глыбока задумаўся.

— Не ведаю, што і сказаць, каб ты паверыў. Не было мне пакуль надта часу пра гэта разважаць. Я ўвесь у клопатах, у рабоце. Ад рання і да змяркання. Дыхнуць няма калі, а ты пытаешся... Але што мне тут здаравей — гэта факт. Каб ты толькі ведаў, як апошнім часам у горадзе мяне даймаў боль. Рукі-ногі балелі не перастаючы. Галаву, бывала, як абручом сцісне і суткамі не адпускае. А тут боль як рукой зняло. Што ж ты хочаш: тут я штодзень п'ю сырадой цёпленькі, яйка дастаю з кубельца, грыбочкі сам прынясу вунь з таго бярэзнічкухвойнічку ў канцы поля. Каця смажыць іх з маладой бульбачкай. Мяса таксама са сваёй дзежкі — за гэтую восень я ўжо зарэзаў двух бараноў. У калгасе добрая чарада авечак, то выпісваюць усе, каму трэба.

Глеб гаварыў і нібы прыслухоўваўся сам да сябе: ці праўду ён кажа, ці не маніць, ці так яно і ёсць на самой справе?

— Мне часам здаецца, — дадаў яшчэ ён, — што я адсюль нікуды і ніколі не з'язджаў... Проста адлучыўся на службу ў войска, а потым трохі затрымаўся на трактарным... Бы ў адпачынку пабыў.

— Ну, калі так... — Генадзь зноў стартануў, памаленьку крануўся з месца і напаследак сказаў:

— Грошы я вышлю тэлеграфам, чакай.

— Навошта тэлеграфам? За тэлеграф, мабыць, трэба добра заплаціць, пасылай поштай і не выдумляй, — запярэчыў Глеб.

Але Генадзь, мабыць, ужо не чуў яго. Машына рванулася з месца, шпарка пакацілася па вуліцы ў бок бальшака. Глеб праводзіў яе вачыма да таго часу, пакуль яна не знікла за паваротнай на Тугомеры.

Кацярына нарадзіла Глебу двух сыноў. Старэйшаму было ўжо шэсць гадоў, калі на свет з'явіўся другі. Глеб гатовы быў несці Кацярыну на руках, калі падскочыў на сваіх блакітных «Жыгулях» да райцэнтраўскага раддома. Жонка неўзабаве з'явілася на прыступках з белым скруткам, пазірала ў яго бок. Глеб быў бязмежна шчаслівы, узрушаны і, напэўна, выглядаў у гэты момант трохі смешным і наіўным. У яго гадах, мабыць, так радуюцца з'яўленню чарговага ўнука, а ён вось усё яшчэ не нацешыцца сваім бацькоўствам.

— Ты прыдумаў нашаму хлопчыку імя? — першае, пра што спытала Кацярына, асцярожна перадаючы яму сына з рук у рукі.

Ён узяў хлопчыка, адчуў, які ён лёгенькі, пацікавіўся:

— Колькі ён важыць?

— Адразу пасля родаў быў тры кіло семсот грамаў, — Кацярына пачала спускацца са сходцаў уніз, кіруючыся да блакітных «Жыгулёў».

— Няўжо?! — Глеб зірнуў на Кацярыну. — А як матылёк!

— Вырасце — пацяжэе, — як бы заспакоіла жонка, адчыніла ў «Жыгулях» заднія дзверцы, умасцілася на сядзенні, прыняла з мужавых рук сына, які раптам ціхенька, бы мышанятка, запішчэў, закуксіўся. Кацярына ўзяла аднекуль соску-пустышку, сунула дзіцяці ў рот, яно зараз жа заціхла, соладка, быццам ад смагі, зацмокала.

— Мне здаецца, Кацярына, што гэта наша апошняе дзіця, а таму я хачу, каб яно мела маё імя, — як толькі выскачылі па бальшаку за райцэнтр, сказаў Глеб. — Хіба дрэнна гучыць Глеб Глебавіч?

— Чаго ты дачасна крыж на сабе ставіш? — неадрыўна пазірала на мужа Кацярына, і яе вочы пры гэтым нібы смяяліся. — Апошняе дзіця ў яго нарадзілася... Апошняя ў бацюшкі жонка... А калі я сама захачу нарадзіць, ты што — забароніш?

Глебу жончын гумар спадабаўся, але яму чагосьці было не да жартаў:

— Не такія ўжо мы з табой маладзёны, каб харахорыцца, дай мне, Каця, паставіць двух сыноў на ногі.

Глеб згадаў, як аднойчы, калі хвароба дужа скруціла, на тыдні два ўзяў пуцёўку ў заводскі санаторый-прафілакторый, што каля Мінскага мора. Тады ён яшчэ надта не звяртаў увагі на тое, што ломіць рукі-ногі, баліць галава, думаў, што гэта ад гарадскога шуму-тлуму: вось адпачне, пагуляе каля мора — і ўсё мінецца... І калі ягоны палатны доктар Зміцер Маркавіч казаў, каб ён заняўся сваім здароўем больш грунтоўна, махнуў рукою: ат, пападзіся вам, эскулапам... Зміцер Маркавіч — невысокі, з калматымі бровамі, з брытай галавой. І заўсёды ён вадзіў за ручку маленькага, трохгадовага хлопчыка. Доктару ўжо за шэсцьдзесят, і Глеб падумаў, што гэта ягоны ўнук. Аднойчы ён і ляпнуў, што які, маўляў, у яго, доктара, слаўны ўнучак. Зміцер Маркавіч адказаў: «Гэта мой сын». І нават як бы пакрыўдзіўся, што Глеб ляскае языком, не думаючы. Ад медсястры Глеб даведаўся, што Зміцер Маркавіч ажаніўся не так даўно са студэнткай, і вось ужо ў іх дзіця... Пра тое шушукаліся і тыя, хто адпачываў у прафілакторыі, і ўся абслуга... Хацелася пра гэта расказаць Кацярыне, але ён стрымаўся: навошта? Жонка падумае, што ён робіць нейкі намёк. Сёння ў іх такі цудоўны дзень, харошы настрой, то навошта псаваць яго?

Прыехаўшы дадому, Глеб паставіў машыну ў гараж, заспяшаўся на работу.

— Прашу цябе, Глеб, перастань ты з Сымонам Платонавічам у карчы за Тугомер наведвацца. Думаеш, вы там надзейна хаваецеся, ніхто пра тое не ведае? Ведаюць... Глеб, бо дойдзе да твайго начальства, то не паглядзяць — паляціш кумільгом і не ўгадаеш... Што тады рабіцьмеш? Аб гэтым ты падумаў?

Глеб сумеўся: вёска ёсць вёска, тут, мабыць, сапраўды нічога не ўтоіш.

— Я, Кацярына, абавязаны Сымону Платонавічу да магілы. Хто, як не ён, пасадзіў мяне ў крэсла старшыні сельсавета? І ты хочаш, каб я не адзначыў з ім наша свята, не замачыў нараджэнне другога сына?

Для мяне самога хіба гэта не радасць, не свята? Гавары, ды не загаворвайся, Каця. Не адзначу я з Сымонам Платонавічам гэтую падзею, то хіба ён не пакрыўдзіцца? Ён ужо колькі разоў пытаўся, калі паедзем за Тугомер — сын нарадзіўся, а я маўчу...

Ужо калі шыбаваў па вуліцы ў бок сельсавета, міжволі азірнуўся на сваё селішча. Ён як бы не верыў таму, што ўжо мае абжыты дом, а побач, бліжэй да ўзмежжа, зрублены з дрэва, з дубовымі вушакамі ў варотах хлеў, пуньку, выкапаны на гародзе пограб-склеп для гародніны. А бліжэй да вуліцы складзены з белай цэглы гараж. З усіх бакоў селішча агароджана новым, з вузенькай высокай дошкі штыкетнікам. А вароты і весніцы для выезду і выхаду з двара звараныя з ліставога жалеза і пафарбаваныя, як і плот, у зялёны колер. Нямала грошай ляснула на тое, каб селішча мела прыстойны выгляд. А хіба мала здароўя паклаў Глеб, пакуль давёў тут усё да ладу? Але от жа дзіва: за ўвесь час, пакуль будаваўся, ён ніводнага разу не звяртаўся да дактароў. Ён быццам і забыўся, з-за чаго некалі пакінуў горад. Няўжо сапраўды вёска для яго і лекі, і курорт? Няўжо клопаты, работа каля свайго дома вылечылі яго?

Да сельсавета ўжо вяла не гравійка, як раней, а асфальт — роўненькі, гладзенькі, праўда, не такі шырокі, як на бальшаку, але й то дзякуй Богу. Цяпер скрозь, па ўсіх вясковых вуліцах, асфальт, і ў любую пару года можна ехаць не толькі на запрэжаных аднаконках ці двухконках, а і на матацыклах, на веласіпедах, на сваіх аўто, якіх з кожным годам усё прыбаўляецца.

Грошай на рахунку ў сельсавеце заўсёды не хапае, і Глебу давялося не раз і не два пабываць у начальства не толькі раённага, а нават і абласнога, пакуль не дамогся, каб прафінансавалі пракладку асфальтавых дарог па ўсёй вёсцы. А гэта не адзін, а мо з добры дзесятак кіламетраў, бо вёска не на адну сотню двароў.

На сходцах каля сельсавета яго ўжо чакаў Сымон Платонавіч. Змяніўся, ох, як змяніўся ён за апошні час! Апранаецца неахайна, з-пад зашмальцаванай, зашпіленай на адзін гузік цёмна-зялёнай курткі, бы добры гарбуз, выпірае жывот. Пастарэў ён, асунуўся, пад вачыма— карычневыя «мяшкі», якіх раней не было.

— Прывёз Кацярыну з радзілкі? — спытаў адразу Сымон Платонавіч.

— Ага, яна ўжо дома з сынам. Ведаеце, як я вырашыў назваць свайго другога? Глебам.

— То й добра. Садзіся ў машыну — і айда за Тугомер, такую падзею, сам разумееш, грэх не адзначыць.

— Я не супраць, наадварот, але давайце хоць пасля абеду, бо калі хто дазнаецца...

— Ох, і надакучыў ты мне, Глеб, з гэтым сваім страхам. Вечна ён кагосьці баіцца. Каго ты баішся, чаго баішся? Дрыжыш, не раўнуючы, як той асінавы ліст. Садзіся і не прастарэкуй, у мяне ў машыне ўжо ўсё напагатове.

Па дарозе Сымон Платонавіч ашаламіў нечаканым пытаннем:

— На маё месца не хочаш?

— Не разумею я вас. Здаецца, вы не збіраліся ісці на пенсію. Ці вам надакучыла ваша работа?

— Колькі можна цягнуць гэты воз? Звекаваў я на адным месцы, досыць, пара маладзейшым даць дарогу, а я хачу паняньчыць унукаў, ты, напэўна, ведаеш, што абедзве мае дачкі замужам, у адной і другой малыя дзеці. Я вось тут, а дочкі — адна ў сталіцы, другая ў Рагачове. Сумую я па іх, па ўнуках. А на тваім месцы я не адмаўляўся б, бо што такое твая пасада ў параўнанні з маёй? Падумай, Глеб, добра падумай, а то як прышлюць каго-небудзь, ды не ўжывешся з ім... А я іду ў адстаўку, пара мне, даўно пара, мяне ўнукі чакаюць, разумееш?..

Не агледзеўся Глеб, не заўважыў, калі павырасталі сыны. Большы скончыў дзесяцігодку, паступіў у сельгастэхнікум. Глеб хацеў, каб сын падаў дакументы ў Ваенна-медыцынскую акадэмію, тым больш, што і Генадзь браўся дапамагчы, але заўпарцілася, запратэставала Кацярына:

— Цяпер такі дзікунскі час, бандытаў развялося, усюды забойствы, мафія... Не, няхай лепш бліжэй да дома. Сельгастэхнікум у Калінкавічах, туды, калі што, сеў і паехаў хоць на сваёй машыне, хоць рэйсавым аўтобусам. А дзе Ваенна-медыцынская акадэмія, а ты гаворыш...

Але бяда прыйшла зусім не з таго боку, адкуль можна было яе чакаць.

Напрадвесні меншы сын захварэў, у яго раптам ні з таго ні з сяго паднялася тэмпература, якая не спадала ні на дзень, і Глеб мусіў адвезці сына на сваіх блакітных «Жыгулях» у раённую бальніцу.

— Краснуха, — без сумнення паставіў дыягназ малады доктар.

— Гэта небяспечна? — Глеб не хаваў таго, што дужа трывожыўся, перажываў, бо хіба меншы сын ведаў калі-небудзь хваробы, дактароў? Яму хутка дванаццаць, а ён ніводнага разу дасюль не ляжаў у бальніцы.

— Як вам сказаць? — доктар знарок выбіраў асцярожныя словы, каб дужа не параніць Глеба. — Любая хвароба не мёд, гэта вядома, усё будзе залежаць ад таго, як арганізм здолее змагацца...

Сына паклалі ў стацыянар у дзіцячае аддзяленне, а Глеб пакіраваўся адразу не ў вёску, не дахаты, а ў новы райцэнтраўскі мікрараён, дзе ўжо каторы год, выйшаўшы на пенсію, адзінока жыў Сымон Платонавіч. Жонка яго памерла, яе пахавалі на вясковых могілках, і Сымон Платонавіч не захацеў заставацца ў сяле, не забралі яго да сябе і дочкі. Яму далі двухпакаёўку з усімі выгодамі ў райцэнтраўскім мікрараёне. Нейкі час Сымон Платонавіч бязмэтна бадзяўся то па райцэнтры, то з'яўляўся ў госці да Глеба, падбухторваў яго зноў за Тугомер, у лясную карчму. Але заўсёды супраць гэтага паўставала Кацярына, пагрозліва пыталася ў мужа:

— Ты хочаш застацца без работы? Сябра ён знайшоў... Ці табе засляпіла, што Сымон Платонавіч да ручкі дайшоў? Чаму ён не з дочкамі? Жыў бы ў каго з дачок, то быў бы накормлены, дагледжаны, а то ані бомж. І ты хочаш да такога жыцця дакаціцца? У цябе дзеці яшчэ малыя, хто іх паставіць на ногі, калі цябе папруць з работы?

Глеб слухаў Кацярыну, бачыў на яе вачах слёзы, але яму здавалася, што жонка перабольшвае: падумаеш, якое гора — выпіў бы ён іншы раз з Сымонам Платонавічам, то і што? Каму за тое галава баліць? Хіба не на свае, а на чужыя грошы яны п'юць?

Заўсёды, калі ён з Сымонам Платонавічам сустракаўся ў лясной карчме, у Глеба быў харошы настрой, бо ўсё ў яго ладзілася ў сям'і, на рабоце. Чаму было і не выпіць, не пагаманіць з Сымонам Платонавічам, з якім ужо столькі пражыта-перажыта?

Але сёння зусім іншае, сёння от пабыў у сына ў бальніцы, і неяк нявесела, няўтульна ў яго на душы. З чаго б гэта? Ну прыхварэў сын — дык і што? Хіба мала ў каго хварэюць дзеці?

Сымона Платонавіча ён убачыў на лавачцы перад пад'ездам. Ён сядзеў і драмаў. Глеб прыпаркаваў на пляцовачку «Жыгулі», падышоў да Сымона Платонавіча, умасціўся упобачкі з ім, павітаўся:

— Добры дзень, Сымон Платонавіч, як вы тут? Зайздрошчу я вам. Калі дажыву да пенсіі ды буду вось так сядзець на лавачцы і драмаць, ні аб чым не думаючы?

Нават не расплюшчыўшы вачэй, Сымон Платонавіч паскардзіўся:

— З начнога дзяжурства я толькі вярнуўся. Я ж на хлебазаводзе начным вартаўнікоім падрабляю. Аднаму ў сваіх вуглах да таго сумна, што хоць ваўком вый, то я ў вартаўнікі і падаўся.

Нарэшце ён усё ж расплюшчыў вочы, паглядзеў на Глеба, дадаў:

— І не зайздросці ты мне, што я на пенсіі. Нідзе ад цябе гэта не дзенецца. Я й сам думаў: от выйду на заслужаны адпачынак, то зажыву вольна і свабодна. Ды не — такі сум, што я табе, Глеб, гэтага не жадаю.

Нейкую хвіліну памаўчалі, пасля маўчання азваўся Глеб:

— А я от меншага свайго сына ў бальніцу паклаў. Доктар кажа, што нейкая краснуха, высокая тэмпература каторы дзень не спадае, я, Сымон Платонавіч, баюся... Ён жа ў нас ніколі не хварэў, а тут...

— Твая Кацярына медык ці хто? Як гэта яна магла дапусціць, каб яе сын захварэў? Чужых лечыць, а пра свайго забыла, так? — незадаволена выказаўся Сымон Платонавіч, але ўбачыў, што гэтыя ягоныя словы для Глеба як соль на рану, дадаў: — Паправіцца твой сын, не перажывай, медыцына ў нас не слабая, лекаў розных хапае — не бойся.

Сымон Платонавіч павярнуўся тварам да Глеба, і стала відаць, што шчокі і барада ў яго зараслі кароткай, густой шчэццю. Чым далей, то Сымон Платонавіч усё апускаецца і апускаецца, пэўна, зусім не хоча сачыць за сабою, гэта, няйнакш, ад адзіноты, ад таго, што яго рана пакінула жонка, а дочкі, займеўшы сем'і, мала калі згадваюць пра роднага бацьку, мала калі наведваюць яго і да сябе таксама не клічуць.

— Давай, Глеб, махнём у вёску, туды, за Тугомер, даўненька мы там не былі. Праўда, я цяпер не багаты, не магу накрыць гэткі стол, як калісь, але ці многа нам трэба — бутэлька гарэлкі ды кавалак каўбасы. Пагамонім як людзі, успомнім учорашняе, а таксама і пра сённяшняе. Давай, га, будзь ты чалавекам?

— Не, Сымон Платонавіч, толькі не зараз, не сягоння. Жонка і без таго грызе мяне на чым свет стаіць, а калі даведаецца, што я з вамі сустрэўся ў лесе за Тугомерам. Ёй здаецца...

— Жонкі ён баіцца. Думаеш, мая мяне не грызла, калі жывая была? Але я яшчэ от кеўляю, а яна... — вусны ў Сымона Платонавіча задрыжэлі, з аднаго вока выбліснула і пакацілася па шчацэ сляза.

Ніколі да гэтага Глеб не бачыў, каб Сымон Платонавіч плакаў. Здавалася, што яго не зломяць ніякія буры-навальніцы, ніякі ўраган яму не страшны, бо ён жа, чамусьці ўяўлялася, быў гэткі магутны, уладарны, заглыблены ў сваю родную зямлю, у сваё Палессе, як і тыя два дубы, што колісь высіліся на полі каля хвойніку-бярэзніку. Але доўгія гады, жыццё, пэўна, падтачылі ягоную моц, і цяпер ён зусім слабы, бязвольны, безабаронны.

— Не трэба, Сымон Платонавіч, што ты зробіш, калі чалавечая доля гэткая бязлітасная? За свой век, мабыць, трэба прывыкаць да ўсяго, што б ні здарылася.

Ён прыхінуў Сымона Платонавіча да сябе, ласкава, па-сыноўняму, паляпаў яго па плечуку, а той перастаў усхліпваць, мала-памалу суцішыўся.

Глеб устаў, развітаўся:

— Пабягу я, Сымон Платонавіч, дома адна Кацярына засталася, там процьма работы, а я забавіўся.

— Не перажывай, Глеб, паправіцца твой сын, дзеці як растуць, заўсёды хварэюць, тым больш у наш час, калі кругом усё атручана, загазавана, забруджана, спустошана ды спаганена.

— Я на гэта спадзяюся, бо калі не паправіцца... Не, я нават не хачу і думаць...

Але сын не ішоў на папраўку, і яго тэрмінова перавязлі ў абласную бальніцу. Мабыць, тое было ўжо не патрэбна, бо дзён праз колькі адтуль пазванілі, каб Глеб прыязджаў і забіраў сына... Глеб якраз знаходзіўся ў сваім рабочым кабінеце, калі прагучаў гэты тэлефонны званок, і як трымаў трубку каля вуха, то ледзь і не з'ехаў з крэсла, ледзь не абмёр, яму памроілася, што ён дрэнна пачуў, амаль шэптам перапытаў:

— Як жа гэта так?! Я ўчора быў у яго, размаўляў з ім, з доктарам...

Трубка маўчала, у ёй кораценька запікала, і Глеб зразумеў, што ён размаўляе сам з сабою.

Кожную раніцу ён прачынаўся і бачыў, што Кацярыны дома няма: яна, падхапіўшыся на досвітку, спяшалася на могілкі, да сына...

Ён спехам апранаўся і таксама туды. Яшчэ здалёку бачыў Кацярыну каля жоўтага курганка пяску, над якім, з таго боку, дзе заходзіць сонца, высіўся свежа абчасаны дубовы крыж. Кацярына была ўся ў чорным. Як апранулася ў жалобнае адзенне, калі прывезлі з бальніцы нежывога сына, то й не скідала яго з сябе.

Кацярына нібы не заўважала яго з'яўлення. Яна сядзела на нізенькай лавачцы, якую зрабіў Глеб: укапаў у зямлю два тоўсценькія слупкі, зверху прыбіў да іх нешырокую, абгабляваную, са смалова-бурымі сучкамі дошку. Жонка брала ў руку пясочак і сыпала яго на магілку. Пясочак свяціўся на сонцы тоненькім жоўтым струменем.

— Сыра тут, — варушыла вуснамі жонка, — сыра і холадна тут нашаму сыночку. Паглядзі, Глеб, — дарма, што сонца, а зямля халодная, цяжкая.

— Пашкадуй, Каця, сябе, — ён стаў упобачкі з ёй, бачыў яе скамянелы, сухі, бы нежывы твар, нерухомыя, выплаканыя, здаецца, да

апошняй слязінкі вочы. — У нас з табою яшчэ адзін сын, трэба пра яго дбаць, бо хто, калі не мы, дапаможа яму ў гэтым ліхаматарным свеце?

Кацярына, нарэшце, перастала браць у жменю і сыпаць на магілу пясочак, павярнулася да яго і прамовіла:

— Я, Глеб, не веру, не магу паверыць, што нашага сыночка, нашага белагаловага жэўжыка больш няма.

— Канечне, Кацярына, у гэта, мабыць, мы ніколі не паверым, колькі жыцьмем.

З могілак вярнуліся неўзабаве, і Глеб, ледзьве пераступілі парог, сказаў:

— Наш студэнт ліст прыслаў, у яго практыка пачынаецца, то пытае, куды яму лепш — ці ў свой калгас, ці куды-небудзь яшчэ?

— Напішы, каб ехаў да сябе, я тут яго дагледжу, абмыю, накармлю-напаю, а то папрэцца немаведама куды.

— Навошта пісаць? З'езджу і скажу, перадам твае словы.

Вяртаючыся з Калінкавічаў ад сына, Глеб чамусьці вырашыў зазірнуць да Сымона Платонавіча, падняўся на другі паверх, заспеў яго дома. Той абрадаваўся неймаверна:

— От не чакаў... Я сягоння не на дзяжурстве. Радыкуліт, халерына на яго, то я на бюлетэні ўжо другі тыдзень. Лячуся народнымі сродкамі, бо ад таблетак ды ўколаў толку мала.

Глеб прайшоўся туд-сюд па ягонай двухпакаёўцы, заўважыў, як тут няўтульна. Кватэра недагледжана, на кухні сцены і столь бы пакрыты сажай, па кутках скрозь павуціна, на падлозе на лінолеуме ўчарнелыя, незацёртыя сляды ад абутку, шпалеры на сценах там-сям паздзёртыя, абвіслыя.

— Разумею, Глеб: у цябе такое вялікае гора, — пачаў быў Сымон Платонавіч.

Але Глеб не даў яму выказацца, перабіў:

— Усё так, Сымон Платонавіч, і каб я ведаў... Я цяпер часам лаўлю сябе на думцы: каб я не пакінуў горад, не вярнуўся ў вёску, каб не ажаніўся з Кацярынаю... Хіба мой адзін сынок хварэў на тую праклятую краснуху? Мала калі гэта заканчваецца лятальна, а мой сынок парыць зямельку.

Глеб не вытрымаў, упершыню перад Сымонам Платонавічам наўзрыд, няўцешна заплакаў:

— Я не ведаю, Сымон Платонавіч, як жыць далей. Прачнуся, а Кацярыны няма дома, яна ўжо на могілках... Размаўляе то сама з сабою, то звяртаецца да сына... Звар'яцець можна ад усяго гэтага.

Сымон Платонавіч пазіраў на яго падслепаватым, бы невідушчым, позіркам, лагодна, узважана прамовіў:

— Бог пасылае нам выпрабаванні часам бязлітасныя, нечалавечыя, але на тое мы і людзі, Глеб. Усё трэба перажыць, перацярпець, перасіліць самога сябе, бо інакш... У цябе ёсць яшчэ адзін сын, от і радуйся, жыві дзеля яго.

Сымон Платонавіч правёў яго да машыны, сеў упобачкі і, нічога не кажучы, Глеб павёз яго ў вёску, за Тугомер...

— Не зразумею я вас, Сымон Платонавіч, — не змоўчаў па дарозе Глеб, — чаму вы кукуеце адзін? Ці ехалі б да каторай з дачок, ці... Хіба

мала адзінокіх жанок вашага ўзросту? Сышліся б з якой, то яна даглядзела б вас, наварыла б есці, абмыла, у хаце прыбрала.

Сымон Платонавіч толькі нядобра ўсміхнуўся, і было ясна, што гэтая размова яму не па душы.

— Не хачу я да дачок, у іх свае сем'і, не хачу ім замінаць, стары я ўжо, баюся, што не змагу ўжыцца, бо каторая часам наведаецца ці сама, ці з унукамі і зяцем, адразу пачынае даймаць, што я не так парадкую ў сваёй хаце, што от часам выпіваю... А я не хачу, каб мяне на старасці вучылі, тыцкалі, я хачу сам па сабе, разумееш? Вядома, цяжкавата аднаму, няўтульна, горасна, затое... Бедлам, кажаш, у кватэры? Як бы я сам не бачу. Але я да гэтага прывык і не заўважаю, галоўнае, зразумей — я спакойны.

— Яно ўсё так, Сымон Платонавіч, але добра, што вы пакуль неяк кідаецеся, а калі занядужаеце, што і з ложка не зможаце ўстаць? Не, што ні кажыце, але адзінота — не радасць...

Ужо калі вярталіся з лесу назад, Глеб падумаў: «Як добранька, што Бог паслаў яму Сымона Платонавіча, як з ім часам хочацца пабачыцца, пагаварыць, адысці душой ад усяго балючага, нецярпімага, якога ў жыцці цераз край».

— Як ты з гэтым новым старшынёй, ладзіш? — пацікавіўся Сымон Платонавіч і папрасіў, каб Глеб адвёз яго да месца, дзе спыняюцца рэйсавыя аўтобусы.

— Пра што вы гаворыце?! — абурыўся Глеб. — Няма ў мяне з ім аніякай дружбы. Не хто іншы, а мабыць, ён, падлюка, строчыць на мяне адзін ліст за другім у райвыканкам... І пра тое, што вось з вамі за Тугомер іншы раз... І пра недапрацоўкі, памылкі, якіх не бывае толькі ў таго, хто нічога не робіць... Не паспею адных правяральшчыкаў правесці, а тут ужо другія.

— Глядзі, Глеб, прыціхні трохі, а то... Загрыміш, папомні маё слова — загрыміш. А да пенсіі табе яшчэ колькі? Ото ж і яно — заціхні пакуль і не вытыркайся, перачакай, мо яно неяк потым само ўсталюецца.

Падышоў рэйсавы аўтобус, Сымон Платонавіч замітусіўся, заспяшаўся, пацiснуў Глебу руку і ледзь не подбежкі на прыпынак.

Глеб пазіраў, як аддаляўся аўтобус, і адчуваў, што на душы ў яго невыносна цяжка. Але каму пра гэта раскажаш, хто яго зразумее?

Той дзень урэзаўся Глебу ў памяць. Стаяла невыносная спякота, усе чакалі дажджу, як збавення. Бо трава на выпасах павысыхала, паскручвалася, парыжэла і каровы вярталіся з пашы галодныя, прасілі есці. Амаль кожны дзень на небе з'яўляліся невялікія хмаркі, што паступова цямнелі, рабіліся пагрозлівымі, пачынаў грымець гром, выблісквалі сінія маланкі. Здавалася, доўгачаканы дождж вось ён, зусім блізка. Але дажджу не было ні сёння, ні заўтра. І так ужо амаль каля двух месяцаў.

Глеб якраз вяртаўся на сваіх «Жыгулях» з Калінкавічаў, мінуў райцэнтр, мелькам зірнуў у той бок, дзе мікрараён, у якім жыве Сымон Платонавіч. Другі раз ён мо абавязкова заглянуў бы да яго, а сёння аніякага жадання, дый годзе. Глеб сам сябе не разумеў, адкуль гэткі ягоны настрой. Перад вачамі стаяў сын-студэнт, з якім пабачыўся сёння.

— Праз тыдзень, бацька, апошні экзамен, — пахваліўся той, і я — аграном.

Сын ужо дагнаў яго, гэтакі ж рослы, як і Кацярына — светла-русы, круглатвары, з валявым падбародкам, з затоеным сумам у шэразялёных вачах. З чаго б у яго гэты сум? Пэўна, сын усё яшчэ не можа забыць свайго меншага брата, якога ён так моцна любіў.

— Куды, сынок, на работу? Дадому, у свой калгас? — бы між іншым спытаў Глеб, хаваючы ў душы тое, што ён ой як перажываў. Не хацелася яму, каб сын майнуў куды-небудзь на край свету, а гэта магчыма, бо іх, студэнтаў тэхнікума, размяркоўвалі і на Камчатку, на Сахалін, у Сібір... Сын выдатнік, у яго павінен быць чырвоны дыплом, а раз так, то і выбар работы свабодны, па ягоным жаданні: куды захоча — туды і накіруюць.

Сын адказаў не адразу, і па тым, як не спяшаўся з гэтым адказам, было ясна: добра разумее, што бацькі не хочуць, каб ён адлучаўся ад іх, бо ён — іхняя адзіная не толькі апора і надзея, але і ўцеха.

— Не, бацька, у свой калгас я не хачу. Каб жа вы яшчэ са старшынёю не глядзелі адзін на аднаго ўвесь час коса, а так...

От жа дзіва: Глеб быццам ніколі і нідзе не паказваў, што з цяперашнім старшынёю калгаса ў яго не тое, як некалі з Сымонам Платонавічам. Яны быццам і вітаюцца, калі бачацца кожны дзень, размаўляюць, пытаюцца адзін у аднаго пра тое ды іншае. Але не ўжыліся яны, не паразумеліся. Дайшлі чуткі да Глеба, што новы старшыня калгаса гатовы змяшаць яго з граззю і чакае не дачакаецца, мабыць, калі яго папруць з гэтай пасады. І ананімкі, напэўна, — ягоная работа... Мо таму і прыціх Глеб трохі, баяўся апошнім часам сустракацца з Сымонам Платонавічам у лясной карчме. Нават Кацярына заўважыла перамены і аднойчы падкалупнула: «Што гэта здарылася, Глеб? Ці не здох у лесе воўк? Ты ўжо, мабыць, і забыўся, калі бачыў Сымона Платонавіча?» — «Табе, жоначка мая каханая, аніяк не дагадзіць... Сустрэнуся з Сымонам Платонавічам — дрэнна, не сустрэнуся — таксама нядобра».

Не захацеў Глеб казаць жонцы ўсёй праўды — навошта? Яна пасля смерці сына вельмі доўга была сама не свая. Цяпер як быццам трохі супакоілася. Але гэта, мабыць, толькі здаецца. Каб адкрыўся ёй Глеб, то Кацярына не распытвала б, чаго ён забыўся пра Сымона Платонавіча, пра лясную карчму. Надоечы яго выклікаў старшыня райвыканкама — рыжавалосы, шыракаплечы дзяцюк, які заўсёды быццам нечым незадаволены. Ледзь Глеб пераступіў парог ягонага кабінета, дык ён тут жа даў спісаны крывулякамі, выраваны з вучнёўскага сшытка аркуш: «Бяры чытай і давай параімся, бо хоць гэта і ананімка, але я пакідаць яе так не магу... Цяпер такі парадак: калі на кіраўніка любога рангу ёсць ананімкі, у якіх трывожныя факты, трэба разбірацца і прымаць меры...»

Пакуль Глеб прачытаў, то не адзін раз успацеў, а прачытаўшы, ціхенька-ціхенька, як баючыся свайго голасу, прамовіў: «Я ведаю, чыя гэта работа...» — «Не тое хачу я зараз ад цябе пачуць, а зусім іншае... Гэта праўда, пра што піша ананімшчык? Праўда, што вы з Сымонам Платонавічам сярод белага дня, у рабочы час...»

Толькі цяпер да Глеба дайшло, што жонка як у ваду глядзела, калі папярэджвала, перасцерагала яго...

«У мяне такое гора — хіба вы не ведаеце? — чамусьці адказаў ён старшыні райвыканкама. — Мой сыночак, мой белагаловы жэўжык без пары лёг у магілу... Я не знаю, мо я і аступіўся, даруйце... — «Знайшоў выйсце — гарэлкай заліваць гора, — мякка папікнуў яго старшыня райвыканкама і ўжо цвёрда дадаў: — Калі яшчэ хоць раз адна такая папера ляжа на мой рабочы стол — дабра не чакай...»

З цяжкім настроем пакідаў ён кабінет старшыні райвыканкама. У грудзях у Глеба кіпела: «Я ведаю, здагадваюся... Гэта ён, старшыня калгаса, кагосьці падбухторыў, каб на мяне настрачылі... Сам, гад печаны, баіцца, асцерагаецца, чужымі рукамі прывык жар заграбаць. От жа якое ліха — і дзе выйсце з усяго гэтага?.. Дый ці ёсць яно? Ён не дарue мне ніводнага праліку...»

— То куды ж усё-такі? — удакладніў Глеб, не зводзячы пільнага позірку з сына.

— Хіба мала дзе патрэбны аграномы? — няпэўна адказаў сын. — Не прападу, бацька, і на тваю шыю не павешуся, уладкуюся, трохі абжывуся — і далей за вучобу. На завочнае думаю ў Сельгасакадэмію на эканамічны факультэт — эканамісты сёння патрэбны ўсюды. Якія мае гады, бацька, а без вышэйша адукацыі цяперашнім часам як без рук. Ці ты з маткаю супраць?

— Не, чаму ж, сынок, раз ты ўжо надумаўся, вырашыў...

Па дарозе з Калінкавічаў Глеб зноў пашкадаваў, што не ўжыўся з цяперашнім старшынёю калгаса. Бо хіба яму з Кацярынай было б дрэнна, каб сын жыў разам з імі?

Недзе непадалёку ад вёскі Глеба дагнала цёмна-зялёная хмара. Нечакана наляцела гэтакая шура-бура, што ў лесе шумела, гуло, над полем, дзе стаяла невысокае, пусценькае, спалавелае жыта, узнік чорны смерч. Жытнёвыя каласы ад магутных павеваў ветру хінуліся долу, па жыце, бы па моры, пракаціліся валам адна за адною хвалі і тут жа ўдарыў пярун, ад якога, здавалася, неба раскалолася напалам, пасыпаўся буйны, з галубінае яйка, град.

«Трэба хутчэй дадому, — з бояззю паглядзеў на цёмнае неба Глеб і націснуў на газ. — Каб жа хоць машыну не пабіла — гэткі град».

Калі ён спыніўся каля свайго падворка, адчыніў вароты ў гараж, у тым баку, дзе поле і лес, ураган усё яшчэ не сціхаў, нават, здавалася, набіраў сілу. Жытнёвыя сцяблiны ламала, і жыта, усё як ёсць, палягло. І лес шчапала, бы лучыну: магутныя дрэвы выварочвала з каранямі, маладыя бярозы і дубкі гнула ў дугу, ствалы разрывала на кавалкі, так, што агаляліся белыя стрыжнявыя касмылі.

Глеб ледзьве паспеў загнаць машыну ў гараж, зачыніў вароты і баяўся выглянуць на двор. Ураган тым часам наляцеў і на вёску, чуваць было, як трашчалі сарваныя з латаў і крокваў дахі, як яны з гупаннем і вухканнем падалі на дол, абрушваліся і лажыліся на зямлю платы... Усё гэта доўжылася хвілін дзесяць — не болей.

Як толькі бура адкацілася, пацішэла, Глеб адчыніў вароты і ад убачанага акамянеў. Вёску і лес было не пазнаць. Многія хаты без дахаў і акон — як пасля бамбёжкі. Над голымі зрубамі тырчэлі задымленыя коміны. І дрэвы ў садах паламала, пакруціла. Нават на некаторых новых калгасных дамах, што ў садзе, пазрывала з дахаў бляху і аднесла на гароды, на мокрую вуліцу.

Глеб адно ўзрадаваўся, што яго дом бура нібы абмінула, не зачапіла. Нездарма ён упрасіў Аляксея Кеба, каб той змацаваў дах, кроквы-латы не толькі вялікімі, тоўстымі цвікамі, а і скобамі, якія Глеб купіў на базары ў Калінкавічах, загрузіў імі багажнік «Жыгулёў», прытарабаніў дадому і не адыходзіў ад будаўнікоў, пакуль тыя не прыбілі апошнюю скабу. Як прадчуваў...

Не заходзячы ў хату, Глеб папраставаў у бок лесу. Тое, што ўбачыў, калі наблізіўся, не забыць, мабыць, ніколі. Ад лесу мала што засталося. Ураган паклаў дрэва на дрэва, сцвалы папераломваў, пашчапаў на трэскі. Асірацелым, непрывычным здавалася і поле, жыта на якім ураган і дождж з градам прыпляскалі да зямлі, намачылі, змяшалі з пяском.

Тут як тут ляснічы ў сваёй заношанай леснікоўскай форме: сіні, зашпілены на бліскучыя металёвыя гузікі фрэнч, шапка з кароценькім матавым брылём, на кукардзе ляснікоўскія адзнакі — крыж-накрыж дубовы лісточак з галінкай папаратніку.

— Ты бачыў, Глеб, што тварылася? — не стрымаўся ляснічы. — Пэўна, чорт з ведзьмаю вяселле спраўлялі. Я звекаваў ляснічым, а такога вось не прыпомню.

З ляснічым Глеб добра знаёмы, бо калі будаваўся, то не вылазіў ад яго, просячы лесу на хату, а потым і як старшыні сельсавета даводзілася кожны год дбаць пра дровы для школы, для адзінокіх удоў. Ляснічы — чалавек салідны, сур'ёзны, дабрадушны, паважаны ў вёсцы. Ён любіў лес, бярог, гадаваў яго, пэўна, так, як іншыя берагуць і гадуюць сваіх дзяцей.

— Ой, гора якое на маю сівую галаву, вялікае гора! — бедаваў ляснічы. — Давядзецца лес адсаджваць занава. А з кім, калі? Работнікаў у мяне — раз, два. І хіба надта каго ўпросіш ісці ў лясніцтва? Каму гэта ахвота лавіць за руку самавольных парубшчыкаў, браканьераў, складваць на іх акт ды аддаваць у суд? Каму ахвота нажываць сабе ворагаў?

— Не перажывайце, Пятро Нікадзімавіч, вось я кіну сваю работу — і да вас. А чаму і не? Думаеце, мая работа мёд? Яна во дзе ў мяне сядзіць, — паказаў Глеб рукою на сэрца. — Усім, напэўна, здаецца, што я трымаюся за сваю пасаду, як чорт за грэшную душу. Памыляюцца...

Ідучы з лесу, ён усё больш і больш ужываўся ў тое, што сказаў ляснічаму як бы зусім выпадкова, жартуючы: от выправіцца ў райвыканкам і пакладзе на стол заяву з просьбай звольніць па ўласным жаданні. І прычына не абы-якая: у сувязі з пераходам на іншую работу... Цікава: ці адпусціць яго старшыня райвыканкама? Страшыў, што звольніць, а цяпер? Што ён скажа цяпер?

Ступіўшы на вясковую вуліцу, Глеб зноў убачыў скінутыя з хатаў стрэхі, паламаныя сады, абернутыя на дол платы і зразумеў: ніхто яго зараз нікуды не адпусціць. Пакуль не навядзе парадку, не адпусцяць. Ды і падай ён зараз заяву на звальненне, то што пра яго падумаюць? Што змаладушнічаў, здрэйфіў у ліхую часіну?

Закарцела, захацелася Глебу ў Мінск. Пасля таго, як памёр меншы сын, ні ён да брата, ні брат да яго не наведаліся ні разу. Яно й зразу-

мела: хіба да паездак было Глебу? Жонка ледзь не звар'яцела, дый у яго самога трыванне было на валаску.

— Адскочу на дзень-другі, — сказаў Глеб Кацярыне. — Пагасцюю ў брата, дый... Вазьму картачку ў раённай паліклініцы і загляну да свайго сталічнага доктара. Што ён цяпер мне скажа? Не хто іншы, а ён параіў, каб я з горада сюды...

Не ад няма чаго рабіць згадаў Глеб пра гэтую паездку. Апошнім часам не-не ды і забаліць галава. Як і тады, калі яшчэ жыў у горадзе. Не балела столькі часу — і на табе. Мясціна, дзе ён цяпер жыве, быццам бы чыстая. Пасля чарнобыльскай навалы колькі разоў рабілі замеры грунту, вады, паветра і заўсёды казалі, што ім дужа пашэнціла, усё ў норме, ніякіх лішніх кюры. У іхняй вёсцы нават так званыя «грабавыя» даплаты да пенсіі, як тым, хто жыве ў чарнобыльскай зоне, не выплачваюць, бо за што ж плаціць, калі нават дазваляюць збіраць грыбы, ягады? Бокам абышло іх страшнае ліха, амаль што не зачапіла. Хіба што ў першыя дні пасля таго, як выбухнула ў Чарнобылі, трохі падымаўся фон, але паступова, пакрысе ўсё прыйшло ў норму. На Палессі гэткіх мясцін практычна не засталося, так што, лічы, яны нібы ў сарочцы нарадзіліся.

— Не шкадуеш, што некалі паслухаўся доктара? Мо каб не пераехаў... — недагаварыла таго, што падумала, Кацярына.

Але хіба Глеб не здагадваецца, пра што? Апошнім часам Каця перамянілася, паспакайнела. Але гэта толькі знешне... Хіба Глеб не заўважае, як яна часам цяжка, замкнута маўчыць, думае, а потым ні з таго ні з сяго пачынае плакаць. На могілкі, дзе пахаваны меншы сын, цяпер яна мала калі наведваецца, але не-не ды і прыгаворвае: «Каб жыў наш меншанькі, які вялікі ён ужо быў бы».

— Эх, Каця, Каця! Душа ты мая дарагая! — Глеб набліжаецца да жонкі, прыхінае да сябе, гладзіць яе шаўкавістыя валасы і нібы толькі вось зараз заўважае, што яны ўжо там-сям з сівымі «нітачкамі». Раней гэтага не было. — Чаго мне шкадаваць? — працягваў Глеб. — Што цябе сустрэў? Я люблю цябе, Каця, я задаволены нашай сям'ёй, — пры гэтых словах Глеб адчуў, як кальнула пад грудзьмі, а ў горле нібыта перасеў даўкі камяк. — Не, Каця, як бы там сабе ні было...

— Праўда, Глеб, што ты збіраешся падаваць заяву на звальненне? — раптам запыталася Кацярына, пэўна, ані не разумеючы, чаму Глеб распускае гэтыя чуткі па вёсцы? Цяпер ён амаль не бачыцца з Сымонам Платонавічам, забыў пра лясную карчму, пасля ўрагану вунь колькі перарабіў усяго, каб вёска мела належны выгляд, і што — саступаць сваё месца невядома каму? Можна падумаць, што ў ляснiцтве, куды ён нібыта збіраецца, лепш. Там, напэўна, і заробак нашмат меншы, дык работа хіба лёгкая? Адсадзі, адрамантуй лес пасля ўрагану-бураломy. На гэта не адзін год спатрэбіцца. — Мог бы і з жонкаю параіцца, перш чым прымаць такое рашэнне, — пакрыўджана дадала Кацярына.

— Адкуль ты ўзяла гэта? — здзіўляецца Глеб.

— Усе кажуць... Маўляў, ты сам ім казаў... Дый ляснічы неяк во пахваліўся. Прасіў мяне, каб я не адгаворвала, а ён ужо майстрам-абходчыкам цябе прызначыць, у штаце, маўляў, ёсць такая адзінка.

Глеб не захацеў болей гаварыць пра гэта — які толк? Ён яшчэ і сам дакладна нічога не ведае, не вырашыў канчаткова, а ляснічы, вяскоўцы, з якімі раіўся, выходзіць, ужо ўпэўнены, што ён пакідае сваё ранейшае месца.

— Вярнуся з Мінска — тады відаць будзе, — скончыў ён. — А зараз давай збірай мяне ў дарогу. Кладзі ў кайстру паболей гасцінцаў. Каб і да доктара, і да брата не з пустымі рукамі.

Перш-наперш Глеб завярнуў у заводскую паліклініку. Яна ўсё ў тым жа самым, трохпавярховым, бела-цагляным будынку. Па ўсім было відаць, што тут нядаўна зрабілі рамонт, бо на ўваходзе новыя, з масіўнымі, пад бронзу, ручкамі, на тугіх спружынах дзверы, якія адчыняліся-зачыняліся бясшумна. Адны сцены пафарбаваны светла-шэраю фарбаю, другія аздоблены прыгожай, колеру бэзу, мазаічнай пліткай, а пад столлю — у выглядзе свечак, на доўгіх падвесках крышталёвыя люстры.

У рэгістратуры Глебу сказалі, што ягоны колішні доктар хоць і на пенсіі даўно, але ўсё яшчэ працуе. І якраз сёння во ў гэты самы час яго змена. Знайшлася і Глебава амбулаторная картка.

Глеб пераступіў парог кабінета, зачыніў за сабою дзверы, убачыў за сталом мужчыну з пышнай сівой шавялюрай, у акулярах з тоненькай бліскучай металёвай аправай. Ён быў засяроджаны, нават, здавалася, нечым дужа заклапочаны.

— Праходзьце, сядайце, — запрасіў доктар, не падымаючы вачэй ад сваёй пісаніны.

Глеб паставіў каля ног пакет з вясковымі гасцінцамі, спытаў нібыта нават з радасцю:

— Колькі ж я гэта не быў у вас?

Пачуўшы ягоны голас, доктар перастаў пісаць, учэпістым позіркам уперыўся ў Глеба. Хвіліну-другую пазіраў на яго моўчкі, мабыць, адразу не пазнаў, але ўсё ж здагадаўся, хто перад ім, зрокавая памяць вярнула яго ў не такое ўжо і далёкае мінулае.

— Прызнацца, я іншы раз згадваў, але не чакаў... — вымавіў доктар. — Я ўсё вельмі добра помню, склероз, дзякуй Богу, пакуль мяне не крануў... Ты быў намеснікам начальніка інструментальнага цэха, так?

Доктар устаў, па ранейшай завядзёнцы наблізіўся да крана з вадой, спаласнуў і выцер рукі, вярнуўся на месца, а сам усё не зводзіў з Глеба прыдзірлівага позірку, бы не верыў, што ён не памыліўся, і перад ім той самы чалавек, якому, па яго разуменні, жыццё «не свяціла»...

Але ў гэты момант не пра Глебава здароўе ён загаварыў, а як бы зусім пра іншае, ды пра тое самае, што ўсё адно датычылася Глеба:

— Не мог я цябе не запомніць, — усміхнуўся доктар. — Дзе гэта бачна: чалавеку даюць кватэру, а ён адмаўляецца... Увесь завод аб гэтым знаў і гаварыў, і мне даводзілася тлумачыць... Хто ж, калі не я, мог растлумачыць людзям, чаму ты адцураўся і кватэры, і гарадской прапіскі?

Ён трохі памаўчаў, як бы задумаўся над сваімі словамі, над тым, што праз столькі часу Глеб зноў у яго, і, напэўна, не так жа от проста ён завітаў, пэўна, нешта яго прывяло сюды. І вымавіў:

— Хваліся! Я спадзяюся, што на гэты раз ты з добрымі весткамі, бо каб інакш... Твой выгляд тагачасны і цяперашні — што неба і зямля.

Глеб паклаў перад доктарам сваю ранейшую амбулаторную картку, дастаў з кішэні выпіску, якую зрабілі ў раённай паліклініцы, дзе ён стаіць на ўліку цяпер.

— Ну во! — працягваў узбуджана доктар. — Я калісь не памыліўся... А ты добра зрабіў, што паслухаўся мяне. Я й не ведаю, што было б, каб ты не перабраўся ў вёску. Цяперашнія твае аналізы не тое, што тады. З такімі аналізамі, браток мой, жывуць доўга, гэта ты павер мне на слова, я малоць абы што не ўмею.

— Няўжо гэта таму толькі, што я... — быццам у чымсьці сумняваючыся, выказаўся Глеб і дадаў: — Вы кажаце, што ў мяне гэткі маладзецкі выгляд. Але апошнім часам, доктар, зноў пачаліся галаўныя болі. Не такія частыя, як раней, але як забаліць другі раз...

Доктар уважліва выслухаў яго, паглядзеў на выпіску з цяперашняй Глебавай раённай паліклінікі, пачаў разважаць:

— Вядома, можа, яшчэ нейкія рэцыдывы і засталіся... Але факт ёсць факт: во гэтыя твае аналізы і ранейшыя... Хіба іх можна параўнаць? А што ж ты хацеў: мала ў каго, хто служыў у ракетчыках...

Доктар недагаварыў, папрасіў Глеба распрануцца, доўга выслухоўваў сэрца, лёгкія, біў гумавым малаточкам з бліскучай ручкай па каленях, па руках...

— Ніколі не пакідай вёску, — доктар схіліўся над Глебавай карткай, пачаў нешта пісаць. — Вёска для цябе як збавенне. І яшчэ, — ён на імгненне адвёў вочы ад карткі, — не лішне было б прайсці абследаванне ў рэспубліканскім радыялагічным цэнтры ў Аксакаўшчыне. Цяпер гэта самы што ні на ёсць сучасны цэнтр, дзе абследуюцца і лечацца перасяленцы і жыхары з чарнобыльскай зоны.

Прамовіўшы апошнія словы, доктар зірнуў на Глеба.

— Ты, па-мойму, таксама з гэтай самай зоны, так? Мо таму і галаўныя болі пачаліся? Шмат у каго, хто адтуль...

— Не, доктар, зона, мабыць, тут ні пры чым. У нас ні ў глебе, ні ў паветры, ні ў лесе аніякіх радыёнуклідаў. Чыста ў нас, мы нават збіраем грыбы, ягады, п'ём малако ад сваёй каровы... Я сам збіраю грыбы і колькі разоў вазіў на дазіметрычны кантроль — чыстыя... Мо хіба...

Глеб хацеў сказаць, што, магчыма, гэтыя болі ад перажывання за меншага сына? Але сумеўся, замоўк: навошта доктару ведаць пра ягонае гора?

— Мабыць, не пашкодзіла б абследавацца, але... — Глеб на хвіліну задумаўся. — Хто мяне адпусціць, каб я качаўся на бальнічным ложку? Ды і трапіць туды, у Аксакаўшчыну, відаць, не так проста. Пэўна, там чарга, туды, мусіць, як і ў санаторый, трэба пуцёўка. Хоць я і старшыня сельсавета, але лячуся тым, што не вылажу са свайго агарода, з лесу.

Пры апошніх словах Глеб чамусьці ўздрыгнуў, нібы ўнутры ў яго штосьці лопнула, абарвалася.

— Нядаўна ўраган наляцеў на маю вёску, на наш лес, — Глеб паглядзеў у акно, нібыта адсюль мог убачыць тое, што нарабіла нядаўняя бура. — Вёску мы ўжо амаль адладзілі, а вось лес... Каб лесу вырасці, ведаеце, колькі трэба часу?

Глеб не стаў гаварыць, што бура, якая пракацілася над полем, лесам і вёскай, усю душу яго перавярнула. Ён зірнуў пад ногі, на пакет з гасцінцамі, узяў яго ў руку, працягнуў доктару:

— Гэта вам, бярыце, я ад усёй душы, тут вясковае маселка, атожынкі, кумпячок, каўбаскі-крывянкі.

Доктар не стаў адмаўляцца, асцярожна ўзяў пакет, паставіў збоч стала так, каб надта нікому не кідаўся ў вочы.

— За гасцінцы дзякуй, а наконт Аксакаўшчыны ўсё ж падумай, — нагадаў доктар. — Паслухайся мяне, я абы-чаго не параю, бо калі раптам дасць аб сабе знаць... Каб позна потым не было. Хваробу на ранняй стадыі можна вылечыць, а калі задаўненая... Ды і заглядвай час ад часу да мяне, хоць дарога і няблізкая з Палесся, але лішняя кансультацыя не пашкодзіць.

Брат цяпер жыў за гарадской рысай. Глеб ледзьве знайшоў. У прыгарадзе, каля невялічкай вёскі са старымі драўлянымі хатамі, каля якіх нізкія, пакрыўленыя хляўкі, сады ды агароды, на колішнім вялізным полі павырасталі катэджы. З чырвонай ці белай цэглы, з сілікатных блокаў або маналіты. Пад чарапічным або бляшаным дахам, у некалькі паверхаў. Архітэктура адмысловая: у самым нізе такой харомiны адзін або два гаражы з жалезнымі варотамі, плавальныя басейны, сауны... Раней Глебу здавалася, што ягоная хата, калі не самая лепшая з сучасных прыватных пабудоў, то ўсё ж блізкая да таго. А цяпер... Тое, што ён убачыў на полі, дзе цяпер жыў ягоны брат Генадзь, здзівіла і ўразіла. І яму стала зразумела, чаму людзі называюць паселішчы, што павырасталі апошнімі гадамі вакол гарадоў, царскімі сёламі.

Брат збудаваў катэдж з чырвонай абліцовачнй, ці не самай дарагой, цэглы. Ён стаяў з краю поля, бліжэй да маладога хвойніку. Адзін паверх у зямлі, а тры — над зямлёю. Брат ужо і агарадзіўся высокім бетонным, у верхняй частцы стылізаваным пад штыкетнік, плотам. Каля катэджа сотак дзесяць зямлі, там-сям пасаджаны яблыні, грушы, слівы, вішні. А паўз самы плот — кусты парэчкі, чарнаплоднай рабіны. У дальнім ад дома кутку ўпрытык да плота нешта падобнае на хлявок ці на адрынку для агародніны, а мо нават і для дамашняй птушкі.

Каля ўвахода ў двор на доўгім ланцугу вялізны шэры сабака. Згледзеўшы Глеба, ён ашчэрыў вострыя іклы, ціха, сіпата забрахаў.

Адчыніліся дзверы, і на парозе паўстаў Генадзь. Ён быў у спартыўным трыко, жоўтай майцы навыпуск, вельветавых, на босую нагу пантофлях.

— Ты?! От не чакаў. Ты, Глеб, сапраўды як снег на галаву. Не мог папярэдзіць? Я сустрэў бы, а то, мабыць, ногі паадбіваў, пакуль знайшоў маё селішча.

— Хіба не ходзяць таксі? Плаці — і таксісты затарабаняць куды хочаш, — Глеб баяўся і крок зрабіць, бо сабака натапырыў вушы, злосна, праз зубы, гырчэў.

— Акбар! На месца! — прыкрыкнуў Генадзь, і сабака з неахвотай палез у будку, якая стаяла на цэментным падмурку.

Глеб асцярожна наблізіўся да Генадзя, паціснуў яму руку, згадаў пра апошняе братава пісьмо, з якога і даведаўся, што цяпер Генадзь

жыве не ў горадзе, а за горадам, у катэджы, даведаўся, як трапіць да яго і як завецца гэтая вёска-селішча.

— Прызнацца, калі я атрымаў твой апошні ліст, то чытаў і не верыў. І навошта ты сюды перабраўся? Хіба ў горадзе ў цябе малая, цесная кватэра? — пачаў Глеб гаворку, калі яны прайшлі прасторную залу на першым паверсе.

Генадзь, здавалася, ані не пастарэў, усё гэтакі ж рухавы, энергічны і, мяркуючы па ўсім, дзелавы. Не перастае, напэўна, займацца фізкультурай, лыжамі, трымае сябе ў форме.

— Цесна не цесна... Хіба ў гэтым справа? Паглядзі, колькі тут прасторы, вольнага паветра! — было відаць, што гаварыць пра гэта для брата было адно задавальненне, ад гэтай размовы ў яго, здавалася, падымаўся настрой. — У мяне трохі падкапілася грошай, то куды было іх падзець? Чакаць, калі інфляцыя з'есць ці мышы паточаць? У дзяржаўны банк валюту хіба пакладзеш? Колькі ў людзей ляснула грошай на ашчадкніжках, і хіба ў каго спытаеш за гэта? Хіба вернуць? Дачакаешся, ага, на тым свеце вугалькамі... Усё, што я назбіраў, назапасіў за жыццё, дома трымаў. І ўсё баяўся, дрыжэў, каб які зладзюгаспрытнюга пра гэта не пранюхаў...

Генадзь павёў Глеба наверх і ўсё не пераставаў скардзіцца, што дом гэты даўся яму нялёгка.

— Але сам бачыш: не дом, а крэпасць. Што засталося б ад маіх грошай? Шышы. А цяпер я, калі захачу, заганю свой дамок якому-небудзь алігарху, то не толькі мне самому — маім унукам і праўнукам хопіць.

— І праўнукам? — бы не паверыў Глеб. — Ды хоць і сотню ці дзве долараў дадуць, то што яны сягоння, калі жыццё падаражэла ў параўнанні з ранейшым у тысячы разоў?

Генадзь моўчкі выслухаў Глеба, пэўна, асэнсоўваў ягоныя словы.

— Хіба чалавеку так ужо шмат і трэба? — працягваў Глеб. — Галоўнае, каб было здароўе, бо калі згубіш здароўе...

— Ты ўсё яшчэ хварэеш? — паглядзеў на яго Генадзь насцярожаным, трывожным позіркам. — Я помню, ты хваліўся, што ў вёсцы...

— Гэта праўда: на першым часе пасля пераезду з горада я зусім забыўся пра галаўныя болі, пра свае суставы... А цяпер во зноў... Я зайшоў у заводскую паліклініку па старой памяці. Доктар параіў, каб я абследаваўся ў Аксакаўшчыне.

Тым часам яны апусціліся ў цокальны паверх, дзе плавальны басейн, гараж на дзве машыны, лямпы дзённага асвятлення. У гаражы гладзенька пабліскваў серабрыстым металікам новенькі «фольксваген».

— Мабыць жа, і каштуе гэтае ехала ого-го! — сказаў Глеб і падумаў, што брат жыве не проста на шырокую нагу, а шыкуе на ўсю катушку.

— Пяцьдзесят тысяч долараў, сам з Германіі прыгнаў, — пахваліўся брат.

— Адкуль у цябе гэткія шалёныя грошы?! — Глеб даўно хацеў спытаць у Генадзя пра гэта, але ўсё не рашаўся, не адважваўся, каб брат, чаго добрага, не пакрыўдзіўся, а тут во неяк само сабой з языка сарвалася.

— Ха, адкуль... Колькі я суддзёю быў? Сам ведаеш. Вядома, на судзейскую зарплату не разгонішся, але табе, як брату, скажу... Пападзецца ў мае рукі закаранелы крымінальнік, такі, што яму хоць вышку давай... Як тады ўжо яго сваякі разам з адвакатамі кружыліся каля мяне... Яны што хочаш гатовыя былі аддаць, абы я толькі скасціў трохі або вышку замяніў на любы тэрмін... Хіба я жалезны, не чалавек? Часцяком выручаў сваіх кліентаў-пацыентаў, затое і меў, — нахабна рагатнуў Генадзь. — А ты пытаеш... Я табе так скажу: то не юрыст, што лапцем боршч хлябае... І калі ён не дурань, з галавою, то й не пападзецца... Вось жа я не папаўся...

Брат адчыніў-зачыніў дзверцы «фольксвагена», падняў-апусціў капот, зазірнуў у багажнік, быццам лішні раз хацеў пераканацца, а заадно і Глебу паказаць, што легкавік у яго назавідкі.

— Цяпер я маю сваю прыватную натарыяльную кантору, да мяне заўсёды чэргі: аднаму тэрмінова трэба аформіць куплю-продаж нерухомай маёмасці, другому прыспічыла са спадчынай, — з задавальненнем працягваў Генадзь, — грошыкі мне так і плывуць на разліковы рахунак, нібы залаты дожджык сыплецца. У мяне ў банку свой рахунак, а як жа ты думаў? Вядома, я бяру і наяўнымі, але гэта забараняе падатковая інспекцыя. Але хіба ў падатковай інспекцыі не людзі? Якая там у іх зарплата? Як ва ўсіх бюджэтнікаў — яе хапае на хлеб без масла. А многім жа хочацца болей, вось людзі ідуць мне насустрач, даруюць грэшнаму, калі я дзе аступлюся, а я ўжо плачу адступныя...

Генадзь да таго стаў шматслоўны, што, напэўна, і сам не заўважаў, што язык у яго сёння як з прывязі сарваўся:

— Хочаш ведаць, дзе мая кантора? У горадзе, у ранейшай кватэры. Офісы ў жылой плошчы забаронены, але які я быў бы юрыст, каб не знайшоў выйсця? Там я працую як чорны вол, часам заседжваюся да поўначы, а тут вось жыву, адпачываю. Я толькі цяпер, Глеб, зразумеў, чаму ты некалі пакінуў горад. Тут нібы на курорце. І сплю я заўсёды як чорт смалёны, адчуваю столькі здароўя, столькі сілы ў сабе... І гэта дзякуючы таму, што я не дурань, умею жыць і працаваць. Цяпер вось у гэтым дамку-церамку...

Потым брат пасадзіў Глеба за стол, папрасіў прабачэння, што не жонка, а ён сам мусіць абслугоўваць яго:

— Жонка зранку ў канторы, яна ў мяне за бухгалтара, бо дзе мне аднаму ўправіцца. І жонцы, і яшчэ некалькім чалавекам, што наняў, плачу зарплату. Жонка цяпер рыхтуе справаздачу ў падатковую інспекцыю. За камп'ютэрам сядзіць, падбівае, як кажуць, бабкі. Я й сам днямі прападаю ў канторы, а што ж ты думаў: калі хочаш грошы мець, то працуй, як мядзведзь. Сёння я дома, бо газ павінны падводзіць, табе, лічы, пашэнціла.

— А сыны? Дзе твае хлопцы? — пацікавіўся Глеб.

— Старэйшы скончыў факультэт міжнародных зносін, дыпламат, у нашым пасольстве ў Казахстане, а меншы ў войску даслужвае, восенню павінен дэмабілізавацца. Мы з жонкай унукаў хочам, але наш старэйшы чагосьці марудзіць, не спяшаецца з жаніцьбай. Час цяпер нейкі кручаны, — нібы паскардзіўся Генадзь. — Маладым адны даляры ў галаве, а хто будзе нараджаць дзяцей? І хто нам пенсію заробіць?

Глеб нядобра перасмыкнуў вуснамі.

— Каб жа толькі маладыя гналіся за далярамі...

Ён пазіраў у акно, бачыў вясковыя хаты са старымі, пахіленымі платамі, з пачарнелымі ад часу і дажджоў стрэхамі, з запушчанымі дварамі, гразкай вуліцай. Бачыў і новыя катэджы з адмысловым аконным пераплётам, з новенькімі ганкамі і ганачкамі, высокую агароджу з белай цэглы, бетонных пліт, сеткі-рабіцы, за якой хаваліся гаспадары сучасных памесцяў. Жабрацтва адных і багацце другіх калола вочы. Адны ішлі ў нагу з часам, бралі ад жыцця ўсё, што можна, а другія чамусьці безнадзейна засталіся ў мінулым.

Генадзь, мабыць, здагадаўся, аб чым у гэтую хвіліну падумаў Глеб, спахапіўся і як бы пачаў апраўдвацца:

— Толькі ты, калі ласка, не крытыкуй мяне, Глеб, я сам вельмі добра ўсё разумею, але як, скажы, сядзець, склаўшы рукі, калі цяпер час такі: адкрывай сваю справу — і ты сам сабе Бог і воінскі начальнік?

Пачаставаліся, выпілі не па адной чарцы «Залатога кальца» — гарэлкі да таго смачнай і празрыстай, нібыта божая сляза. І, напэўна, дужа дарагой, бо нават бутэлька, з якой брат наліваў, і то назавідкі: пузаценькая, нібы графінчык, з доўгім вузкім гарляком, з узорыстага крышталю, з выгнутай дугой ручкай, шкляной пробкай-закруткай.

— Ты ўсё яшчэ старшынёю сельсавета? — чамусьці спытаў брат. — І не надакучыла табе гэтая работа? Але паспрабуй знайдзі ў вёсцы які-небудзь лепшы занятак, вёска ёсць вёска, то от у мяне...

— Ураган у нас нядаўна пагуляў, — з сумам гаварыў Глеб. — Пабачыў бы ты, што ён нарабіў! З хатаў пазрываў дахі, векавыя дрэвы на зямлю палажыў, паламаў, як запалкі, жыта ўпляскаў у пясок...

— Апошнім часам па ўсёй зямлі катаклізмы. Дня, здаецца, не бывае спакойнага. Там паводка, там землятрус... — са скрухай вымавіў брат. — І ў нас тут неяк было шумнула. У сяле, — зірнуў Генадзь у бок запушчаных двароў вёскі, — трохі набедакурыла: стагі паабарочвала, дрэвы ў садзе паламала... А нас не зачапіла.

— Хапіла мне клопату, — працягваў скардзіцца Глеб, — столькі трэба было шыферу, аконнага шкла, страявога лесу, дошак... Усяго гэтага сёння ўдосталь, але ж за ўсё заплаці, а які бюджэт у майго сельсавета? Усё хаджу па начальству, выпрошваю, выбіваю, дастаю праўдамі і няпраўдамі.

Ён зноў зірнуў у акно, нібыта бачыў сваю вёску і паранены ўраганам лес.

— Закончу ўсё — і пакіну цяперашнюю работу, падамся ў ляснііцтва, — нібы пра ўжо вырашанае сказаў Глеб. — Колькі засталося да той пенсіі? А то на мяне цяпер чаго толькі не навешалі: вуліцы парадкуй, дровы ў школу і ўдовам давай, малако ад людскога статку збірай... Часам здаецца, што я ніякі не старшыня сельсавета, а сельпоўскі нарыхтоўшчык, дый годзе. Надакучыла! Пайду ў леснікі. Хоць там зарплата меншая, затое нервы мае ніхто матаць не будзе.

Брат выслухаў яго ўважліва, засумняваўся:

— Гэта ты, Глеб, мабыць, ад нездароўя пачынаеш пароць гарачку. Мяняць пасаду старшыні сельсавета на лесніка... Як ні глядзі, а старшыня сельсавета на вёсцы — не маленькі начальнік — улада! А хто такі ляснік? Амаль тое самае, што і пастух.

— Не, Генадзь, здароўе тут ні пры чым. Я ж ужо быў назусім забыў дарогу да дактароў...

Потым Генадзь адвёз Глеба на сваім «фольксвагене» да аўтобуснага прыпынку, папрасіў прабачэння, што не можа даставіць на аўтавакзал:

— Раптам з'явяцца газаўшчыкі, а мяне няма дома, без газу як без рук. А я паставіў ужо газавы кацёл. Зімою, каб абагрэць маю хароміну, ні вугалю, ні дроў не набрацца, а з газам...

Рэйсавы аўтобус быў ужо амаль каля Глебавай вёскі, але пасажыры папрасілі шафёра спыніцца, усім раптам захацелася зблізку ўбачыць тое, што нарабіў ураган.

Глеб выбраўся з аўтобуса апошні і адразу падаўся прагалкам да таго месца, якое калісьці аблюбавалі яны з Сымонам Платонавічам. Ураган прайшоўся над лесам шырокай і доўгай паласой. Дзе ён разгуляўся, не засталося амаль ніводнага жывога дрэва. Толькі там-сям тырчэлі маладыя бярэзінкі-дубчыкі ды нізенькія хвоі або елкі. Вакол ляжалі параздзіраныя, спілаваныя і ўжо складзеныя штабелямі ствалы сосен, дубоў, вольхаў, бяроз. Нязвыкла і дзіка было бачыць голую, нібы па-жывому садралі з яе скуру, мясціну, дзе Глеб яшчэ не так даўно прагульваўся, рэзаў венікі, збіраў грыбы. Некаторыя векавыя дрэвы ўпалі на лінію электраперадачы, парвалі правады. Лінію ўжо аднавілі, а дрэвы з парванымі правадамі ляжалі на зямлі.

«Ляснічы казаў, што ўсю гэтую мясціну зноў засадзяць маладым лесам. Не хутка ён вырасце, не хутка зашуміць вецер у ягоных кронах».

Аўтобус засігналіў, запрашаючы пасажыраў вяртацца на месца. Глеб яшчэ раз акінуў вокам паранены лес, чамусьці падумаў, што нейкі нябачны ўраган даўно кружыць над ім, Глебам, над яго лёсам і робіць сваю чорную работу.





## ІГАР ПРАКАПОВІЧ

* * *

Памаўчым на парозе планеты,
Вып'ем келіх касмічнага рому.
За Плутон адлятаюць каметы —
З гасцявання імкнуцца дадому.

Што за шчасце — пагрэцца на сонцы!
Што за радасць — купацца у промнях!
Толькі жаль, гэта ўсё не бясконца...
Гэта ўсё — як пясок на далонях.

Паглядзім вочы ў вочы прасторы.
Памаўчым на парозе планеты.
Мо і мы ўжо адправімся скора
За Плутон, дзе знікаюць каметы...

* * *

Душа мая адсвяткавала
Сустрэчу з Вамі.
Зноў дзіўна музыка іграла,
Нібыта ў храме.

Плылі біблейскія аблокі
Як птушкі-мары.
Быў свет вялікі і шырокі
На ўсе абшары.

Лілося Боскае святло
На Вашы плечы,
І шчасце ціхае ішло
За намі ў вечар.

Мы бесклапотнасцю сваёй
Прымялі кветкі.
Пра нас прытоена з журбой
Шапталі сведкі...

* * *

У дымцы сонца зіхаціцца,
Ў вадзе люструюцца агні.
Адно жаданне — растварыцца
У цішыні.

І пыл асядзе на дарогу,
І пачарнее сон вады.
Мы не растворымся... Мы пойдзем.
Куды?

Жыццё запомніцца імгненнем:
Бязважкі пыл... Азёрны сон...
І дотык перад растварэннем —
Узлёт ці скон?

У дымцы сонейка і космас.
Яны — далёка ад зямлі.
І чыйсьці растварыўся голас
У цішыні...

* * *

Замкнулася неба
на тысячу тысяч замкоў.
Душа пацяжэла —
палёт так нялёгка даецца.
Грахі не пускаюць
пакінуць заземлены схоў,
Грахі прымушаюць
ачысціць ад накіпу сэрца.

А часу так мала...
Заблытана сеткай жыцця, —
Стамлёнае цела
адчайна шукае дарогу.
І бачыцца марнасць
усіх намаганняў... Хаця
Шляхі ўсе зямныя
вядомыя Госпаду Богу...

* * *

Я іду дарогай да вяршыні горнай, —
На дарожных знаках — колер фарбы чорнай.

Над дарогай нізка сівы лунь лятае,
Нейкія праклёны мне ён намаўляе.

Нейкую трывогу шэпча ліст у лесе,
І змяя чамусьці на дарогу лезе.

На суку дубовым сойка песню вяжа.
Не хачу і слухаць — праўды не раскажа.

Над дарогай голле хіляць вербалозы.
На галінках росы, як чыесьці слёзы.

## ПАЛАЦ ЧАРОЎНАЙ ПТУШКІ

*І. Атрахімовічу, мастаку*

Ёсць на свеце чароўная птушка,
Што жыве за аблокамі мрояў
У прыгожым высокім палацы,
Дзе і сцены, і столь — летуценне.
Залатыя агні
Там гараць у шыкоўных пакоях,
І матывам шчымлівым
Ляціць на зямлю запрашэнне.

Ды запрошаных шмат,
Але выбраных толькі адзінкі.
Тых, хто здольны пачуць
І хто здольны убачыць агні.
Тых, хто можа сабраць
У прыгоршчы свае залацінкі
І хто можа парваць
Прыцягненне звышшчыльнай зямлі.

Быць на балі ў палацы
І бачыць чароўную птушку —
Асалода, з якой
Параўнаецца хіба жыццё.
Гэта як у спякоту
Дажджы выцалоўваюць сушу.
Гэта як праз каменне
Стралою ляціць пачуццё.

У вяртанні назад
Ёсць на новы узлёт спадзяванне,
Бо святло у душы
І агонь у руках залаты.
А птушыным пяром
Верш напіша паэт пра каханне,
І у фарбах мастак
Нам раскажа пра рай незямны.

## У СВЯТЛЕ ПАЛЫНОВАЙ ЗОРКІ

Паляціць душа птушкай белаю
У той вырай, дзе радасць бясконцая,

Каб збіраць там шыпшыну спелую
Без плутонію, радыю, стронцыю.

Застанецца тут пасма ссівелая
Ды хаціна з забітымі вокнамі.
След схавае сцяжынка ўтравелая
У дзікім садзе з чарэшнямі соннымі.

А душа з чарадою буслінаю
Паляціць у краі невядомыя.
Цела ж хутка абернецца глінаю,
Потым ягадай стане ядомаю.

Мы далёка ляцім і вяртаемся,
Бо нам дома шыпшына мілейшая.
Паміраем і зноў нараджаемся,
З кожным разам да Сонца бліжэйшыя...





АЛЕГ ЖДАН

# ODI ET AMO

***Сцэны шчаслівага сямейнага жыцця***

**Дзейныя асобы:**

Жанчына.
Мужчына.

**Сцэна першая**

*Пакой звычайнай двухпакаёвай кватэры. Канапа, шафа, некалькі крэслаў, шмат непатрэбных рэчаў. Жанчына абдзірае са сцен старыя шпалеры. Мужчына адсоўвае шафу, канапу.*

Жанчына. Панеслі? Стол і крэслы няхай застаюцца, яны яшчэ нічога, а канапу — на сметнік. Будуць у нас нарэшце і спальня, і гасцёўня. Уладкуемся і запросім гасцей. Век нікога не запрашалі.

Мужчына. А мо лепш у гэтым пакойчыку гасцёўню? Адсюль від з акна прыгажэйшы.

Жанчына. Можна і гэтак. Але ж канапу трэба выкінуць. Увогуле я б і крэслы памяняла...

*З высілкамі цягнуць канапу да дзвярэй.*

Мужчына. А помніш, як мы купілі яе? Па аб'яве, амаль што дарам, хапіла адной стыпендыі. Добрая канапа. І маці яна падабалася. Лічыла, што яна самая каштоўная з нашых рэчаў, што яе можна прадаць за вялікія грошы! Як антыкварыят. Дзіўна, амаль два месяцы прайшло, а я ўсё яшчэ не дам веры, што яе няма.

Жанчына *(ласкава)*. Гэта таму, што ты быў і застаўся дзіцем. Хлопчыкам, які не верыць, што ёсць смерць.

Мужчына. Але ж яе і сапраўды няма. Ёсць пакуты, хваробы, а смерці няма. Жыццё можна выразіць на мове лічбаў, а смерць? Смерць — гэта нуль. Нуль мае сэнс у дадатку, сам па сабе ён — нішто. Гэтак жа і смерць. Яе няма.

Жанчына. І што ў такім разе ёсць? Што можна прапанаваць больш разумнае і сур'ёзнае, чым смерць?

Мужчына. Ты хочаш простага адказу, а яго няма. Не існуе.

*Зноў цягнуць канапу.*

Ж а н ч ы н а. І як гэта мы зацягнулі яе сюды? Яна шырэйшая за дзверы!.. Адразу пасля рамонту запросім Лапцёнкаў. Першымі!

М у ж ч ы н а. Але ж ты, здаецца, не надта любіш іх.

Ж а н ч ы н а. Менавіта таму. Няхай ведаюць, што цяпер у нас усё як след.

М у ж ч ы н а. Што «як след»?

Ж а н ч ы н а. Ну... Ты ж разумееш, пра што я. І гэта праўда, такое яно, жыццё.

*Стомленыя, апускаюць канапу.*

М у ж ч ы н а. Гэта мы — такія, а не жыццё. Жыццё больш справядлівае.

Ж а н ч ы н а. Калі ты супраць, можна запрасіць Ахрэмчыка з яго новай каханкай. Ці ён урэшце ажаніўся?.. А можна і ўсіх адразу — на фуршэт.

М у ж ч ы н а. Нельга ўсіх адразу. Усе разам — то свята. У мяне зараз іншы перыяд.

Ж а н ч ы н а. Я разумею. Гэта само сабою. Я адно хачу сказаць, што... як папраўдзе... трагедыя была тады, як яна пакутавала, а цяпер... цяпер яна вольная, і мы вольныя. Мы болей не засмучаем адно аднаго, не прыносім аніякіх непрыемнасцей, у нас няма праблем, нам лёгка ўспамінаць пра тое жыццё, мы...

М у ж ч ы н а. Змоўкні!

*Працяглая паўза.*

Ты не разумееш галоўнага: *яна памерла, але ж яна — жыве.*

Ж а н ч ы н а. Чаму, я разумею... Разумею. Я проста хацела сказаць...

М у ж ч ы н а. Яна жыве!

Ж а н ч ы н а. Ты — у пераносным сэнсе?

М у ж ч ы н а. У любым.

Ж а н ч ы н а. Калі б ты быў вернікам...

М у ж ч ы н а. Вера не можа ўкладвацца ў канон.

Ж а н ч ы н а. Аднак тады гэта — ерась.

М у ж ч ы н а. А вось гэта ўжо проста словы... Не будзем без дай прычыны ўспамінаць яе.

*Паўза.*

Ж а н ч ы н а. Калі табе так шкада гэтай пачварнай канапы, можам паставіць яе на месца. Няхай стаіць яшчэ дваццаць гадоў... Я хацела сказаць, што ў кватэры павінна нешта мяняцца. Нельга жыць сярод адных і тых жа рэчаў. Былі б грошы, я выкінула б усё, да апошняй сурвэткі. Хочацца новага жыцця.

М у ж ч ы н а. Для новага жыцця патрэбна новае мінулае. Мы звязаны нашым мінулым мацней, як любымі путамі.

Ж а н ч ы н а. Так, аднак пры чым тут канапа? Убачыш, як будзе добра без яе. Купім мяккую мэблю, паставім новы таршэр, столік для часопісаў і газет, перанясём сюды тэлевізар... Гасцёўня будзе, як казка.

М у ж ч ы н а. Ладна, паехалі.

*Зноў спрабуюць прапіхнуць канапу ў дзверы,
і зноў нічога не атрымліваецца. Галасы: «Улева, улева занось!.. —
Нахілі трошкі... Ды не, не так, не ў той бок... —
Мо на «папа» паставіць? — Яшчэ што, глядзі, які праём... —
Усё, я больш не магу». Жанчына знясілена падае на канапу.*

Ж а н ч ы н а. Як быццам спярша кранам паставілі тут гэтую канапу, а потым узводзілі сцены. Узяў бы ты сякеру, дый... Усё роўна — на сметнік.

М у ж ч ы н а. Ну што ты... Такая рэч... Мо каму спатрэбіцца. Я думаю, больш як адзін дзень яна на сметніку не прастаіць. Паспрабую разабраць. Як удасца зняць спінку...

*Прыносіць адвёртку, абцугі, малаток, спрабуе адкруціць вінты. Жанчына тым часам разглядае крэслы.*

Ж а н ч ы н а. Не, крэслы таксама давядзецца выкінуць. Паглядзі. Сесці страшна.

М у ж ч ы н а. Я адрамантую.

Ж а н ч ы н а. А выгляд? На якой барахолцы іх куплялі?.. Як хто прыйдзе... Сораму не абрацца.

М у ж ч ы н а. Ну, нашы госці таксама сядзяць не на гобсанаўскіх. У Лапцёнкаў увогуле — драўляная лаўка.

Ж а н ч ы н а. Драўляная лаўка — гэта стыль, а такія крэслы — жабрацтва або неахайнасць. Прапаную выкінуць.

М у ж ч ы н а. А вось любімае Алёшына крэсла. Дзесяць школьных гадоў сядзеў на ім. Як выкінуць? Прыедзе — пацікавіцца: дзе? Дзеці любяць старыя рэчы.

Ж а н ч ы н а. Можна яго пакінуць, хаця ўвогуле ўсё гэта — сантыменты. Барахло і ёсць барахло.

М у ж ч ы н а. Выкідвай што хочаш.

Ж а н ч ы н а. А найперш пераклеім пакой. Якія ёсць зараз шпалеры! Тут трэба не шкадобіцца, купіць і для сцен, і для столі. Зноў жа тэрмінова патрэбна сучасная люстра... А як пабагацеем, зменім вокны на шклопакеты!.. Ты не ведаеш, колькі ў мамы назбіралася грошай? Яна, здаецца, паўгода не атрымлівала пенсію.

М у ж ч ы н а. Не ведаю.

Ж а н ч ы н а. Многа, канешне, не будзе, але ж на гэты пакой, думаю, назбіралася.

М у ж ч ы н а. Не забывай, што грошы патрэбны яшчэ і на помнік.

Ж а н ч ы н а. Так, вядома. Аднак мама жыла сціпла, і помнік павінен быць сціплы. Думаю, яна не ўхваліла б — з мармуру ці граніту. Найлепшы варыянт — мармуровая крошка, невялічкі здымачак. Кароценькая эпітафія. Як у большасці. Я, дарэчы, наведала адну майстэрню. Ёсць вельмі прыстойныя і недарагія помнікі.

*Мужчына з прыкрасцю кідае адвёртку і абцугі.*

М у ж ч ы н а. Не, надта глыбока ўеліся вінты. Паспрабуем усё ж праціснуцца.

Ж а н ч ы н а. Я бачыла, як суседзі неслі піяніна. На вяроўках.

М у ж ч ы н а. Вяроўкі тут не патрэбныя. Давай памяняемся месцамі. Я стану наперадзе.

Ж а н ч ы н а. Выдатная работа для жанчыны.

М у ж ч ы н а. Можна пачакаць да вечара. Вечарам я пазаву каго з суседзяў.

Ж а н ч ы н а. Не, панясём. Да вечара ты можаш перадумаць. Дарэчы, памяняць кухню таксама трэба. Калі мы яе купілі? Гадоў дваццаць пяць таму.

М у ж ч ы н а. Так, дваццаць пяць. Але ж не мы купілі, а мама, як пераехала да нас. Нарадзіўся Алёша, і яна пераехала. А потым яна купіла для нас спальню — румынскую, між іншым, даволі дарагую. Дзіўна, як яна назбірала на такія дарункі. Нават кватэру дапамагла купіць.

Ж а н ч ы н а. А мае бацькі?

М у ж ч ы н а. Вядома, твае таксама. Пяцьдзесят на пяцьдзесят... Акрамя таго — пасцельную бялізну, на якой і сёння спім, а часам і займаемся каханнем, коўдры, што накрываемся, падушкі, на якіх глядзім цудоўныя начныя сны. І нешта яшчэ яна падаравала... такое значнае...

Ж а н ч ы н а. Абедзенны японскі сервіз на юбілей нашага вяселля. А пад Новы год ляснула яго на падлогу, каб сапсаваць свята.

М у ж ч ы н а. Не, нешта больш значнае... А-а! *(Смяецца.)* Жыццё яна падаравала мне. Ох, мама, мама... Падарунак, як выявілася, яшчэ той... Хаця... Бывае і горш. Лепш — рэдка ў каго, а горай — калі ласка. Вядома, ёсць і шанцуны... Не ведаю, хацеў бы я стаць такім ці не. Гэтыя шанцуны часам атрымліваюць ад жыцця такога штурхаля... Не, не трэба. Жыць можна і так. Жыць лепш гэтак... Ты, вядома, не згодна? Ты, канешне, хацела б апынуцца сярод выбраннікаў. І, як усе жанчыны, — проста так, ні за тое і ні за гэта. За прыгожыя вочкі. За вушкі, ножкі, шыйку.

Ж а н ч ы н а. Так! Я хацела б пажыць па-чалавечы! Хаця б адзін год! Госпадзе, ці чуеш ты: толькі адзін год! Сярод прыгожых рэчаў, сярод разумных і высакародных людзей, там, дзе вечная вясна і лета!..

М у ж ч ы н а. Ну а што як Гасподзь насамрэч пачуе цябе? Што ты будзеш рабіць, як міне той год? Ты будзеш самай няшчаснай сярод жанчын.

Ж а н ч ы н а. Я згодна і на такое. Затое буду ведаць, што пабыла шчасліваю. Колькі баб засіліцца ад зайздрасці!

М у ж ч ы н а. М-да. Аднак наўрад ці паміраючы гавораць — як слаўна я пажыў... Цікава, што ў дзяцінстве ды юнацтве я лічыў сябе шанцунком. Шанцунок — гэта ў каторага ўсё складваецца без высілкаў, само сабой. І вось ён, узровень майго шанцавання. Вось які быў наканаваны лёс. Такое месца на зямлі, такая дзейнасць, такая жанчына.

Ж а н ч ы н а. Месца і дзейнасць, можа, і не вельмі што, а жанчына... Тут табе сапраўды пашанцавала.

М у ж ч ы н а. Згодзен. Ты, вядома, не горшы варыянт. Проста па характарах мы не вельмі адпавядаем адно аднаму. Мужчына і жанчына — як болт ды гайка. Як разьба аднолькавая, усё добра. Ну а як розная... У нас зашмат завусеніц, жоначка... Між іншым, мы яшчэ зусім не старыя. У нас яшчэ насамрэч можа быць усё новае: і месца, і дзейнасць, і мужчына-жанчына. Ты хацела б?

Ж а н ч ы н а. Не разумею.

М у ж ч ы н а. Як сярод прыгожых рэчаў, сярод разумных ды высакародных людзей, там, дзе вечная вясна-лета, — значыцца, з іншым мужчынам. Ты гэтага хацела б?

Ж а н ч ы н а. А ты?

М у ж ч ы н а. Я не хачу. Сёння мне... як бы гэта мовіць... Сёння мне, як не блага, дык ужо добра.

Ж а н ч ы н а. Мне таксама. Можаш не сумнявацца. Мы, па сутнасці, пражываем адно жыццё. Як ты любіш мяне, то і я люблю цябе. Як ты хочаш іншую жанчыну, то і я — другога мужчыну.

*Падымаюць канапу, зноў спрабуюць прайсці ў дзверы, і раптам Жанчына ўскрыквае.*

М у ж ч ы н а. Што здарылася?

Ж а н ч ы н а. Далонь параніла. Нейкі цвік ці шуруп...

М у ж ч ы н а. Пакажы... Ну, да вяселля зажыве. Памаж ёдам на ўсялякі выпадак... Між іншым, ясна, чаму мы не можам яе вынесці. Яна супраціўляецца. Калі ўносілі — ішла, як па масле. Падобна, што ў рэчаў з цягам часу таксама ўзнікае адданасць тым людзям, якім яны служаць. То не ты параніла далонь, гэта яна абараняецца ад цябе.

Ж а н ч ы н а. Глупства.

М у ж ч ы н а *(прыносіць ёд, мажа Жанчыне далонь)*. Пра жыццё рэчаў мы ўвогуле нічога не ведаем. Наша філасофія занадта эгацэнтрычная. Нас мала цікавіць нават жыццё жывёл, не кажучы пра звычайныя рэчы... Калі ты панясеш на сметнік крэслы, яны зададуць табе жару. Старая люстра таксама падкіне. Мала не пакажацца. А тая настольная лямпа? Яна цябе так адпрацуе шнурам — тры дні на мяккае месца не сядзеш.

Ж а н ч ы н а. Як інтэлігентна, дасціпна.

М у ж ч ы н а. З рэчамі мы звязваем нейкія спадзяванні. Але ж і яны спадзяюцца на нас. Тым, хто збіраў грошы, выбраў сярод іншых, прывёз у свой дом, яны слугуюць лепш, чым чужым. Яны жывуць нашым жыццём і пагарды даравацц не могуць. Каб я быў філосафам, напісаў бы трактат «Чалавек і ягоная рэч». І сувязь тут зусім не простая... Як згодна мы збіралі грошы на рэчы, калі пажаніліся! Здавалася, якасць жыцця павышаецца з кожнай пакупкаю.

Ж а н ч ы н а. Аказалася, зніжаецца?

М у ж ч ы н а *(паўза)*. Але ж справа, вядома, не ў рэчах. Справа ў насычэнні — і душы, і цела. Галоўнае пытанне — чаму яно, насычэнне, адбываецца так хутка. Ясна, як насычаецца цела, плоць, а як душа — не ясна. З целам усё проста: яно адчувае прыемнасць, як насычаецца, а як насыціцца — задавальненне. Мінае нейкі час, і яно зноў патрабуе свайго. А душа? Яна таксама адчувае прыемнасць, калі насычаецца, але ж за ім — стомленасць ды расчараванне. Душа аказваецца ў супярэчнасці з плоццю. Ну а між маёй душой і тваёй, маёй плоццю і тваёй і ўвогуле гэткая маленькая рэгіянальная вайна. Ці не так?

Ж а н ч ы н а. Часам так, часам зусім не так... Мне здаецца, я ведаю, што такое душа. Душа — гэта пяшчота. Раней яна пастаянна жыла ў тваіх вачах, а цяпер? Дзе яна? Ау!.. Бракуе пяшчоты, значыцца, бракуе кахання. Таму мы і цягнем гэтую пачварную канапу, бо здаецца, што без яе будзе больш кахання. Жанчына з дзяцінства рыхтуецца да яго і калі не мае... Хто жанчына без кахання?.. А пакольні яго не запатрабуеш, не папросіш, маем сурагаты — увагу, павагу...

М у ж ч ы н а. Магу прызнацца, што я ўсё ж больш люблю цябе, чым паважаю. Асабліва, як ты зноў становішся маладою і спакушаеш мяне, як дваццаць пяць гадоў таму. Нават дзесяць. Нават пяць. Ды і цяпер калі-нікалі... Асабліва, як павернешся да мяне на пасцелі. Як нырнеш пад маю коўдру. Якая шчэ ўвага-павага!.

Ж а н ч ы н а. Ой, гэтае вечнае жаданне мужчын, каб пасцель была галоўнай мэтай жанчыны! Але ж кожная жанчына яшчэ і асоба.

М у ж ч ы н а. Згодзен. На маю думку, жанчына ўвогуле істота высокая. Я лічу, што нават пры ўсіх нашых мужчынскіх вартасцях і пры ўсіх вашых жаночых хібах хлопчык — паражэнне прыроды. Жанчына істота больш складаная і дасканалая. Нават дзіўна, што яе стварылі з рабра Адама, а не наадварот.

Ж а н ч ы н а. Ты сёння надзвычай шчодры. Больш звыкла чуць ад цябе іншае: усе бабы — дурныя або ідыёткі. Здагадваюся, што прычынай з'яўляецца не ўвага-павага. *(Тым часам Мужчына набліжаецца да яе.)* Ну-ну!.. Трэба закончыць справу! Паспрабуем яшчэ раз. Гэтая канапа, як наша жыццё: ані ў якія дзверы не лезе...

М у ж ч ы н а. Не трэба. Прыйдзе сусед, дапаможа... Усё ж гэта не жаночая работа.

Ж а н ч ы н а. А мы ўсё жыццё займаемся не жаночай, таму што вы не займаецеся мужчынскай. Хутка нас перайманяюць: вы будзеце звацца жанчынамі, а мы — мужчынамі. Ужо ж зададзім вам жару!

М у ж ч ы н а. Гэта ў якім сэнсе?

Ж а н ч ы н а. У любым. І ў *гэтым* таксама. Ну, узялі?

М у ж ч ы н а. Пачакай... Мо... перайменуемся?

Ж а н ч ы н а. Хутчэй ужо, сярод белага дня!

М у ж ч ы н а. А чаго адкладаць? Мы, жанчыны, істоты нецярплівыя. Ну а што светла... Адно людзі займаюцца каханнем упоцемку. Можаш уявіць, скажам, ільвоў ці тыграў, якія чакаюць ночы?

Ж а н ч ы н а *(з пяшчотаю)*. Людзям гэты занятак надта замінае і працаваць, і адпачываць... Мы не вынесем гэтую канапу, калі...

М у ж ч ы н а. Што нам канапа... Няхай стаіць хоць сто гадоў... Нам нішто не... Альбо сэнс жыцця ў рэчах?

Ж а н ч ы н а. А ў чым?

М у ж ч ы н а. У каханні. Адно ў каханні.

*Жанчына абдымае Мужчыну. Маўчанне.*

Ж а н ч ы н а. Успомніла! Успомніла!.. Мы здымалі дзверы, як уносілі канапу! Няўжо ты забыў?

М у ж ч ы н а. Не, нічога я не забыў. Проста няма жадання здымаць дзверы, ліштву... *(З расчараваннем.)* Дык што, здымаць?.. А можа... потым?

Ж а н ч ы н а *(зноў абдымае яго, звонка смяецца)*. Потым. Канешне, потым... У чым, ты казаў, сэнс жыцця? У каханні?.. Я згодна, адно ў каханні...

## Сцэна другая

*Мужчына і Жанчына наклейваюць у спальні шпалеры. Аніякіх рэчаў, адно дзве табурэткі, шафа ды жалезныя драбінкі стаяць ля сцен.*

Ж а н ч ы н а. Добра было б і гэтую дарэвалюцыйную шафу адправіць услед за канапаю. Ці паспрабаваць прадаць?

М у ж ч ы н а. Хто яе купіць? А выкідваць — не ўжо, выбачай. Канапа стаяла на сметніку амаль тыдзень. Я пачуваўся здраднікам, як ішоў на работу і з работы.

Ж а н ч ы н а. Ты залішне сентыментальны.

М у ж ч ы н а. Мне здавалася, што ў яе ёсць вочы. Як ні азірнуся — глядзіць. Як на фотаздымках анфас: вочы ў вочы... А калі яе нарэшце забралі... Напэўна, я сапраўды сентыментальны. Але ж гэтая канапа — кавалак нашага жыцця. Часам я яе люта ненавідзеў. Помніш, як вазілі яе па кватэрах? Здавалася, шукаем кватэры не для сябе, а для яе: каб пралезла ў дзверы, памясцілася ў пакоі...

Ж а н ч ы н а. Што ж, то была наша адзіная ўласнасць.

М у ж ч ы н а. Зноў жа, Алёшка зачаўся на ёй.

Ж а н ч ы н а. Алёшка яшчэ на раскладушцы.

М у ж ч ы н а. А па-мойму, на канапе.

Ж а н ч ы н а. Мне лепш ведаць. Я ж не адразу сказала табе. Па-першае, не была ўпэўнена, па-другое... не ведала, як паднесці такую навіну. Не ведала, як ты паставішся да яе. Аднак, каб ты... Я ўсё роўна стала б раджаць.

М у ж ч ы н а. Як я мог паставіцца? Хіба існуюць варыянты?

Ж а н ч ы н а. Існуюць адценні. І каб ты... Калі б я заўважыла, што ты незадаволены ці расчараваны...

М у ж ч ы н а. Чаму расчараваны? Я табе — хто? Тайны каханак?.. Я ганарыўся і табой, і сабой. Можа быць, я ніколі так не любіў цябе, як тады.

Ж а н ч ы н а. Не, я не пярэчу. Ты быў малайчына. Ты дапамагаў мне, як мог. Я пачувалася выдатна. Трэба заўважыць, што бацька ты таксама быў неблагі.

М у ж ч ы н а. Дзякуй.

Ж а н ч ы н а. Аднак і не самым лепшы. Напрыклад, я доўга не магла зразумець, любіш ты Алёшку ці не.

М у ж ч ы н а. Я і сам доўга не мог зразумець. Прыязнасць да дзіцяці — то было незнаёмае пачуццё. Я адчуваў адно вялізную адказнасць за яго. За яго здароўе, жыццё, — але ж то не было сентыментальнае пачуццё.

Ж а н ч ы н а. Вось-вось. Да канапы ў цябе сентыментальнае, а да сына несентыментальнае. Мужчын зразумець цяжка.

М у ж ч ы н а. Гэтак жа, як жанчын.

Ж а н ч ы н а. Не іранізуй. Мы складаней, чым вы.

М у ж ч ы н а. Згодзен.

Ж а н ч ы н а. Мы глыбей разумеем жыццё, лепш успрымаем мастацтва. Мужчыны больш мэтанакіраваныя, гэта факт. Таму вы маеце нейкія поспехі на службе і часта бераце такіх жанчын, якіх не заслугоўваеце.

М у ж ч ы н а. Ты хочаш сказаць, што я не варты цябе? Можа быць. Але ж цяпер позна гаварыць пра гэта: ты, якая глыбока разумее жыццё і мастацтва, мая. Мая жанчына па праве ўласнасці.

Ж а н ч ы н а. Ты не хочаш хадзіць у тэатры, ты амаль абыякавы да музыкі, ты чытаеш адно газеты... А ногі? Якія ў цябе, напрыклад, ногі? Крывыя. А ў мяне? Чаму ты не пярэчыш?

М у ж ч ы н а. Табе пярэчыць — застацца з крывымі нагамі.

Ж а н ч ы н а. Жанчына вянец тварэння хаця б таму, што выношвае дзіця.

М у ж ч ы н а. Ну, у гэтым працэсе ёсць і наша роля.

Ж а н ч ы н а. Ваш працэс — адна хвіліна. Наш — сорак два тыдні. Можна параўнаць?

М у ж ч ы н а. Так ужо й адна.

Ж а н ч ы н а. Добра: дзве. Ну... тры, чатыры, пяць.

М у ж ч ы н а. Ты пераблытала мяне з кімсьці, каму заўсёды няма калі.

Ж а н ч ы н а. Што? Гэта ты пра мяне, пра жанчыну, якая ахвяравала табе і маладосць, і ўсё жыццё? Я нават у думках, акрамя цябе... Я — дурная, разумееш, дурная! Можна было пражыць *такое* жыццё, а я...

Мужчына *(абдымае і цалуе яе).* Ну — выбачай. Давай пагаворым пра што-небудзь, што нас аб'ядноўвае. Напрыклад, пра сына... Помніш, як мы прывезлі яго з раддома? Аднак, якія мы былі смелыя! Ні кала, ні двара, а мы заводзім дзіця.

Ж а н ч ы н а. Так, безразважныя. Я ні спавіваць, ні купаць не ўмела, дзякуй той кватэрнай гаспадыні, навучыла. Помніш, як мы яго спавівалі першы раз?

М у ж ч ы н а. А як я матляўся па аптэках за кропнай вадзіцай? Здавалася, у ёй, як у жывой вадзе, выратаванне ягонага крохкага жыцця... Які быў цудоўны час. Мы стараліся рабіць прыемнае адно аднаму. А цяпер? Мы сталі надта незалежныя... З аднаго боку, звязаныя, як кайданамі, з другога — незалежныя.

*Наклейваюць паласу,*
*потым намазваюць клеем наступную.*

Ж а н ч ы н а. Але ж няблага атрымліваецца ў нас. Не горш, як у рабочых. Трэба закончыць рамонт да прыезду Алёшы. Хачу, каб ён увайшоў і ахнуў.

М у ж ч ы н а. Хутчэй за ўсё, не прыедзе ў гэтым годзе. Калі ўжо на пахаванне бабулі не прыехаў...

Ж а н ч ы н а. Ты перабольшваеш значэнне гэтай падзеі. Памёр стары чалавек... Усё натуральна. Надта далёка ехаць.

М у ж ч ы н а. Ён яе любіў.

Ж а н ч ы н а. Так, вядома так... Затое якое пісьмо даслаў? Я расплакалася. Ён увогуле далікатны хлопчык...

М у ж ч ы н а. І далікатны, і добры.

Ж а н ч ы н а. Так. Хаця для сучаснага свету — то кепска. Чым больш дабрыні ў чалавека, тым горш — і для яго самога, і для тых, хто побач. Рана ці позна давядзецца крытычна паглядзець на людзей, і што тады рабіць з дабрынёю?.. Дастаеўскі сказаў, што «свет выратуе прыгажосць», а я скажу — вынішчыць яго дабрыня. Дабрыня — гэта слабасць. Тыя, што заклікаюць да яе, запрашаюць да самагубства.

М у ж ч ы н а. Не разумею, каго ты абвінавачваеш.

Ж а н ч ы н а. Усіх, хто паразітуе на чалавечай слабасці. І тых, хто хоча выжываць з дапамогаю дабрыні. Нас з табою, таму што мы — слабыя. І наш сын — слабы. Я баюся за яго... Што за дзяўчына прасіла ягоны адрас? Не спадабаўся мне яе голас. Быццам мы абавязаны. Быццам мы — служба даведкі... А што як ажэніцца з ёю? Загадзя ненавіджу нявестку. А ты, пэўна, будзеш ёй падпяваць.

М у ж ч ы н а. Так, табе будзе не салодка. Прыйдзе час, і ты, слабая, *укусіш яе за руку.*

*Маўчаць.*

Ж а н ч ы н а. Не можаш дараваць?.. Так, я ўдарыла яе, але ж *яна плюнула мне ў твар.*

М у ж ч ы н а. Вось так, без дай прычыны.

Ж а н ч ы н а. *Але ж яна ўкусіла мяне!* Я хацела паправіць ёй падушку, а яна ўкусіла!..

М у ж ч ы н а. Раптам... Проста з-за нянавісці да тваёй рукі. Я ж прасіў цябе: не хадзі да яе. Я спраўлюся адзін. Мне твая дапамога непатрэбная. У рэшце рэшт твая дапамога абыходзілася мне надта дорага.

Ж а н ч ы н а. Як — не хадзіць? Яна пазвала мяне! Судна, «утку» ёй трэ было падаць! Ведаеш, што было б, каб не падала?

М у ж ч ы н а. Ведаю...

Ж а н ч ы н а. Між іншым, я ніколі слова благога не сказала пра сваю свякроў. Я заўсёды казала, што мая свякроў — лепшая за ўсіх.

М у ж ч ы н а. Дык гэта ты не яе хваліла, а сябе. Такім чынам ты ўхваляла *сябе.*

Ж а н ч ы н а. Вось яна, падзяка. За штодзённае мыццё яе бялізны. За супы ды кашкі. Гэта недасолена, тое перасолена. За бяссонныя ночы. Тры гады!.. Ты хоць раз за тры гады зварыў суп?

М у ж ч ы н а. Я не ўмею гатаваць.

Ж а н ч ы н а. Ты не ўмееш!.. Ты не хочаш! Ты ведаеш, што я ўсё зраблю, усё паспею... Я думала, гэта не скончыцца ніколі. Людзі ездзілі адпачываць у Турцыю, Грэцыю, на Канарскія астравы, у Крым, нарэшце, а мы?..

М у ж ч ы н а. Далёка не ўсе ездзілі адпачываць за мяжу.

Ж а н ч ы н а. Усе! Лапцёнкі ездзілі? Ахрэмчык сваіх каханак вазіў? А Самойлавы?

М у ж ч ы н а. Мы яшчэ з'ездзім, жонка. З'ездзім.

Ж а н ч ы н а. З'ездзім... Грошы ў цябе ёсць? Божа мой, як жахліва складваецца жыццё. За што мне гэта, чаму? Чым правінілася, дзе награшыла?

М у ж ч ы н а. Цікава, што мы, бязбожнікі, як толькі прыцісне, адразу да Яго: за што? Кожны лічыць сябе бязгрэшным... Не дараваць я не магу — забыць. Дараваць або не дараваць — не мая справа. Гэта будзе рашаць яна сама.

Ж а н ч ы н а. Верыш, што яна ўваскрэсне.

М у ж ч ы н а. Навошта ёй уваскрасаць? Яна жывая. Проста свет, дзе яна цяпер, не бачны нам.

Ж а н ч ы н а. І як ты яго ўяўляеш?

М у ж ч ы н а. Аніяк. Яго немагчыма ўявіць. Ён даступны адно пачуццю, а не досведу альбо фантазіі.

Ж а н ч ы н а. Зайздрошчу табе. У цябе неабмежаваная колькасць жыццяў. Зараз ты верыш у наступную, у наступнай станеш верыць у чарговую. І гэтак далей, да вечнасці і несмяротнасці... Не, я ў несмяротнасць не веру. Гэта было б надта страшна. Вечна ўспамінаць сваё мінулае, вечна сустракацца са сваімі сябрамі ды ворагамі... Нават з табой... Не хачу.

М у ж ч ы н а. Не хвалюйся. Сустракацца мы не будзем. Адразу, так бы мовіць, на парозе атрымаем па заслугах і — у вечнасць. Кулём. Кожны сам па сабе. Адзін на мільёны светавых гадоў.

Ж а н ч ы н а. Прыдумваеш новую рэлігію?

М у ж ч ы н а. Думаю, для таго каб ацаніць усё, што мы *тут* рабілі адно аднаму, *там* патрэбна, як мінімум, вечнасць. Трэба моцна засяродзіцца, каб зразумець. Зразумець гэта ў цяперашнім жыцці немагчыма. І, галоўнае, немагчыма зразумець, чаму ды ў што ператвараюцца самыя прыўкрасныя адносіны — любоў. Ты ж любіла мяне, так? А цяпер табе і несмяротнасці не трэба, як — са мною.

Ж а н ч ы н а *(пасля доўгага маўчання)*. Ты што ж, зусім не любіш мяне? Калі мужчына запэўнівае жанчыну, што яна не любіць яго, значыць — ён не любіць яе. Не гавары, што я цябе не люблю. Я не хачу гэтага чуць. Я цябе люблю.

М у ж ч ы н а. Гэта называецца — любоў? Яна вельмі падобная да нянавісці. Я не хачу такой любові.

Ж а н ч ы н а *(зноў пасля маўчання)*. Значыцца, у цябе ёсць другая жанчына... Калі яна ў цябе з'явілася? Яна маладая, прыгожая?

М у ж ч ы н а. Не гавары глупства. У мяне нікога няма.

Ж а н ч ы н а. Я гэта даўно заўважыла. Ты стаў такі акуратны... Амаль кожны дзень прасуеш штаны, сарочкі, насоўкі... Дзе яна працуе? З табою? Звычайна большасць раманчыкаў пачынаецца на рабоце... Так, ты асцярожны: аніякіх званкоў, запісак, няўчасных спатканняў... Але ж я адчуваю! Жанчыну падмануць немагчыма, калі яна *не хоча* падманвацца...

М у ж ч ы н а. Не фантазіруй, жонка.

Ж а н ч ы н а. Я разумею: палюбоўніца — гэта так цікава! Пошукі кватэры для спатканняў... Паездкі на машыне ў патаемнае месцейка ў лесе... Ты, натуральна, за рулём, яна — ззаду. Часам яна пяшчотна кладзе далонь табе на плячо, і ты прыціскаеш яе шчакою... Атмасфера загадкі, таемнасці... Я ёй зайздрошчу! Яна замужам ці вольная птушачка?

М у ж ч ы н а. У мяне няма другой жанчыны.

Ж а н ч ы н а. Ёсць!.. Я не веру табе, я цябе ненавіджу!

М у ж ч ы н а. Што ж, гэта для кахання патрэбны і душэўныя, і фізічныя сілы, а нянавісць з'яўляецца на пустым месцы.

Ж а н ч ы н а. Ты падманваў мяне ўсё жыццё! Ты мяне ніколі не любіў! *(Плача.)*

М у ж ч ы н а. Гэта няпраўда. Хопіць плакаць. Давай працаваць.

Ж а н ч ы н а. А ўвогуле, калі ты мяне не любіш і не любіў, — гэта твае праблемы. Варты ты ці не варты, але ж я цябе любіла. *У маім жыцці была любоў*, як і наканавана жанчыне ад веку. Як загадвае сама Прырода. Я жыла па яе законах. А ты, як не любіў мяне, яшчэ раскаешся за гэта. Я нават спачуваю табе. Самае крыўднае — празяваць тое, што даецца ад Бога кожнаму чалавеку. *(Зноў у голасе слёзы.)* Вось як ты паляціш кулём у тартарары за мільёны светавых гадоў, ведай — гэта за тое, што правароніў любоў.

М у ж ч ы н а. Я цябе любіў. Дый цяпер, відаць, люблю. Як ты трапіла ў мінулым годзе ў бальніцу, я вельмі баяўся за тваё жыццё. Я і не здагадваўся, што тваё жыццё такое для мяне дарагое.

Ж а н ч ы н а. Праўда?.. А мне нядаўна прымроілася, што ў нашым акварыуме не рыбы, а змеі. І яны распаўзаюцца, распаўзаюцца... Змеі — гэта жанчыны. Твае жанчыны. Яны джаляць, джаляць мяне, і няма куды схавацца ад іх. Так мне было балюча, крыўдна, страшна...

Я ўжо не магу адна. *(Падыходзіць да яго, абдымае. Доўга стаяць нерухома.)*

М у ж ч ы н а. Нічога. Ты жанчына прывабная, адразу з'явіліся б жанішкі. Вунь таўсцяк-халасцяк з дзесятай кватэры. Як ён паглядае на цябе? Быццам ты яму нешта паабяцала. Між іншым, зрабіў еўрарамонт. Багаценькі. А лысы з дзесятай кватэры?

Ж а н ч ы н а. Не трэба гаварыць так. Нібыта сватаеш мяне. Я нікуды не пайду і цябе нікому не аддам... Добра, давай працаваць. Папрацуем гадзінкі дзве, а потым пойдзем ў парк. Даўно мы не гулялі з табой. Я буду цалаваць цябе за кожным дрэвам!

*Падымаюць шпалеру з падлогі, нясуць да сцяны.*
*Мужчына становіцца на лесвіцу,*
*Жанчына застаецца ўнізе.*

Па-мойму, трэба вышэй. Не, яшчэ вышэй. Яшчэ вышэй!..У мяне супадае ўзор.

М у ж ч ы н а. Тады ў мяне не супадзе.

Ж а н ч ы н а. А ты паспрабуй.

М у ж ч ы н а. Ну вось. Бачыш, што атрымалася?

Ж а н ч ы н а. Дык навошта ты зацягнуў на бардзюр? На столь яшчэ прыклей, ідыёт!

М у ж ч ы н а. Не трэба так размаўляць са мной.

*Зноў спрабуюць прыклеіць шпалеру.*

Ж а н ч ы н а. Улева вазьмі. Я кажу — улева. Бачыш, куды пайшло? Няўжо табе не ясна: *улева!* Ну што за тупасць! *Улева!* Улева, улева, улева!

М у ж ч ы н а. Якая ж ты зараза. Зараза і дурніца. Клей сама. *(Саскоквае з лесвіцы.)*

Ж а н ч ы н а. Што ты сказаў? Зараза? Я — зараза? Гэтага я табе ніколі не дарую! Ты ў мяне перад смерцю ўспомніш «заразу»! Сваната!

*Жанчына раз'ятрана адкідвае лесвіцу,*
*здзірае ўжо наклееныя шпалеры.*
*Мужчына моўчкі глядзіць на яе.*

М у ж ч ы н а *(раздзельна і ўнушальна)*. Што гэта азначае?.. Развод?.. Ты хочаш развода?.. Што ж, можа быць, гэта правільна... Я гатоў.

Ж а н ч ы н а. І я га-то-ва!

М у ж ч ы н а. А ведаеш, які тастамент я напішу перад смерцю? Каб цябе не паклалі побач са мной.

Ж а н ч ы н а. Я памру раней за цябе! Гэта ты не падкладвайся да мяне! *(Злосна, істэрычна рагоча.)*

## Сцэна трэцяя

*Мужчына ў банным халаце накрывае маленькі столік ля канапы. Побач няярка свеціць таршэр, працуе тэлевізар. Мужчына падыходзіць да дзвярэй ваннай. Стукае, прыслухоўваецца.*

М у ж ч ы н а. Эй-эй!.. Ці скора вы, мадам? Я больш не магу. Адчыніце, бо дзверы выламлю. Вырву з завесамі. Праб'ю галавою. Што?..

Гэта ўрэшце невялікадушна! Па-першае, я галодны, аж падціскае. Па-другое, таксама галодны, аж млею. Па-трэцяе... Што? Муж я табе ці не муж? Я маю права!.. Маю права ўвайсці ў ванную. Маю права пацерці табе спіну. Маю права захутаць цябе ў прасціну ды перанесці ў ложак. Што?.. Гэта несправядліва! Ты чула ці не чула пра супружніцкія абавязкі? Гэта — бясспрэчнае! Святое! Гэта — агульначалавечае!.. Урэшце, жанчына ты ці не? Ты павінна цягнуць мяне ў ванную, а не зачыняцца. Я буду скардзіцца! Я буду пісаць у еўрапейскі парламент у камісію па правах чалавека! Я запатрабую пракурорскага нагляду! Я больш не магу! Я выламлю гэтую зашчапку разам з дзвярыма!.. *(Сядае на падлогу ля дзвярэй.)* І навошта я ажаніўся з табою? Што атрымаў? Адно толькі пакуты — фізічныя і маральныя. Хоць бы раз за ўсё жыццё сказала: хадзем, патры мне спіну!.. Я ёй наліваю ваду, разводжу пену, намыльваю мачалку, а яна выпіхвае мяне вонкі. Ведаеш, да чаго можа прывесці мужчыну гэткае сядзенне ля дзвярэй ваннай? Што можа стацца з ягонай сакрэцыяй? Не ведаеш?.. О, як ты пашкадуеш аднойчы! *(Падхопліваецца, зноў стукае ў дзверы).* Я патрабую павагі да маёй сакрэцыі!

*Дзверы раптам адчыняюцца. Жанчына выходзіць з ваннай. На ёй таксама халат, валасы абвязаны ручнікам. Выглядае яна эфектна.*

*(Уражана.)* О-о-о!

Ж а н ч ы н а. Ты ўжо прыгатаваў вячэру? Які малайчына!.. І бульбачка, і селядзец, і фрукты заморскія... *(Цалуе яго.)* Калі ты паспеў? Я ляжала ў ванне мо паўгадзіны.

М у ж ч ы н а. Калі чакаеш любімую жанчыну, усё паспяваеш. Усё атрымліваецца само сабою.

Ж а н ч ы н а. А ці ёсць што выпіць?

М у ж ч ы н а. А як жа! У кожнага сапраўднага мужчыны ёсць НЗ. *(Ставіць на стол бутэльку віна.)*

Ж а н ч ы н а. Ой!.. Што гэта за віно?.. Ой-ёй, уяўляю, колькі яно каштуе... Мо схаваем яго да якога свята? Шкада парушаць гэткую прыгажосць...

М у ж ч ы н а. Не, не шкада. Сярод усіх каштоўнасцей — сустрэчы найгалоўнейшыя. Па сутнасці, адно яны і напаўняюць жыццё. Я маю на ўвазе хвіліны, калі паміж мужчынам і жанчынаю няма аніякай адлегласці ні для душы, ні для цела.

Ж а н ч ы н а. Ага, мужчына застаецца мужчынам. У вас нават інтэлект скіраваны на спакушэнне жанчын. Усё падыходзіць, каб атрымаць асалоду: і заморскае віно, і родная бульба. Ты ж пра пасцель, правільна разумею?

М у ж ч ы н а. Гм... Вядома, у іерархіі спатканняў пасцель — найвышэйшая. Аднак сёння я кажу пра спатканні, якія ёсць і нагода, і вынік кахання. Гэта спатканні мужа ды жонкі. Гэта тыя часы і дні, калі асыпаецца ўсё дробязнае, няважнае нас.

Ж а н ч ы н а. Што ж, сёння ты мне падабаешся. Як сядзем, насупраць ці побач?

М у ж ч ы н а. Насупраць. Хачу глядзець на цябе. Пасля ванны ты выглядаеш на дваццаць. Дарэмна ты зачыняеш дзверы. Многія мыюцца разам, спалучаюць карыснае і прыемнае.

Ж а н ч ы н а. Ведаю цябе. З табой памыешся. Ёсць нейкі вопыт. Ці забыў, як мы залілі ўвесь дом? Я ад сораму чуць не згарэла.

М у ж ч ы н а. А нас не залівалі? Дом маладзёнаў — вось прычына. Залівалі сусед суседа ці не кожны вечар, а як субота-нядзеля — біблейскі патоп. Что зробіш, прычына слушная, любоў ёсць любоў.

Ж а н ч ы н а. Мяркуеш, любоў, а не проста разбэшчанасць?

М у ж ч ы н а. Вядома, любоў. Яе найвышэйшая праява.

Ж а н ч ы н а. Самая-самая?

М у ж ч ы н а. Вышэй не бывае. Напрыклад, вельмі вострае пачуццё — улюбёнасць. Але ж, па сутнасці, яна толькі надзея. Надзея і жаданне. У той час як любоў — здзяйсненне.

Ж а н ч ы н а. Як хораша ты сёння гаворыш! Гэта, між іншым, таму, што я не пусціла цябе ў ванную. Мужчыны разумныя, пакуль стаяць пад дзвярыма, пакуль у вас — надзея ды жаданне. А як толькі пачнецца здзяйсненне... І як яно ўвогуле заканчваецца... Куды што дзяваецца! Мужчына вельмі падобны на адну асаблівасць свайго арганізма: то гэтая асаблівасць, магутная і несакрушальная, то яе амаль што няма. Дзе ты? Ау!.. Ну, за што вып'ем?

М у ж ч ы н а. Вядома, за любоў!..

*П'юць. Мужчына падае Жанчыне разабраны кветкаю апельсін.*

Ж а н ч ы н а. А помніш, як тады, у тваім інтэрнаце, мы елі апельсіны?

М у ж ч ы н а. А як жа, то незабыўнае. Я купіў пяць кілаграмаў са стыпендыі, і мы з'елі іх за адну ноч. Самы цудоўны ўспамін у маім жыцці.

Ж а н ч ы н а. А потым я захацела ў прыбіральню, а ісці па вашым бясконцым калідоры саромелася, бо інтэрнат мужчынскі, і ўрэшце...

М у ж ч ы н а. ...урэшце ты адправіла мяне за дзверы...

Ж а н ч ы н а. Смешна, га?

М у ж ч ы н а. Люба ўспомніць... Мы ж былі зусім маладыя.

Ж а н ч ы н а. Вось якую ролю могуць адыграць апельсіны ў жыцці чалавека. Я ж не збіралася заставацца ў цябе на ноч. Я яшчэ ўвогуле не збіралася спаць з мужчынамі. Мне падабалася быць дзяўчынкаю. Мне было прыкра слухаць тых, хто... Ну, сам разумееш. Я прыйшла паесці апельсінаў. У мяне быў білет на цягнік на шэсць раніцы...

М у ж ч ы н а. І ў мяне быў білет. А ў выніку мы ўсе дзесяць дзён вакацый правялі ўдваіх, не выходзячы з інтэрната.

Ж а н ч ы н а. Калі ты кіраваўся купіць што-небудзь паесці, я баялася, што дзверы адчыніць камендант. Была гатовая залезці пад ложак. Білет жа мой, студэнцкі, застаўся на вахце, у дзяжурнай!

М у ж ч ы н а. Якая дзяжурная! Я выкупіў твой білет у той жа вечар за два апельсіны!.. А няблага было нам, праўда? Раніца, дзень, вечар... Усё пераблыталася. Панядзелак, серада, субота... Як гэта ты не зацяжарала тады? Можа, засцерагалася?

Ж а н ч ы н а. Прыдумаеш! Я не мела пра гэта сапраўднага ўяўлення. Так — нешта чула... Гэта ж не цяперашняя моладзь. Цяперашнія дзяўчынкі контрацэптывы носяць з сабой як цыгарэты ці жуйку. Я была дзяўчынка сарамлівая.

М у ж ч ы н а. Так, сарамлівая, аднак вельмі скора палюбіла красаваца голенькай.

Ж а н ч ы н а. Ну, то была такая любоўная гульня, так бы мовіць — паглядзі на мяне. Я ж была зграбненькая, ці не так?

М у ж ч ы н а. Больш чым. Мне хацелася глядзець на цябе дзень і ноч. Большай асалоды — не ведаю, фізічнай або эстэтычнай — я не памятаю. Але ж ты і цяпер прыгожая і зграбная. Сапраўды. Хаця... Дазвольце, спадарыня, параўнаць. Дзе, чакайце, вузельчык на вашым халаце? *(Спрабуе зазірнуць пад халат.)* Ці можна памацаць вашу талію?

Ж а н ч ы н а. Но-но! Не спяшайся. Ты заўсёды надта спяшаешся. Гэта зусім не той выпадак, калі трэба прыйсці першым.

М у ж ч ы н а. А скажы шчыра... разумееш, у мужчын усё прасцей... ты якую-небудзь прыемнасць адчувала? Мне здавалася, ты проста саступаеш мне.

Ж а н ч ы н а. О, нават тут мужчынскі шавінізм! Ён захацеў — яму саступаюць. А можа, ты выконваў тое, што я хацела?

М у ж ч ы н а. Каб ведаць... Я трымаўся, як мог. Мне здавалася, я нейкая сексуальная пачвара. Маньяк. Я баяўся напалохаць цябе.

Ж а н ч ы н а. Напалохаць? Мяне? Чым?.. Жанчыны заўсёды здольныя на большае.

М у ж ч ы н а. А помніш, як мы пазнаёміліся?

Ж а н ч ы н а. Ну як жа. То было пад Новы год. Ты так шалёна скакаў і жартаваў, што падаўся мне дурнем.

М у ж ч ы н а. Гэта ты правакавала мяне. Ні раней, ні пазней я ніколі асабліва не жартаваў. Я ўвогуле лічу, што пачуццё гумару — не самое галоўнае.

Ж а н ч ы н а. Так, вядома. З эрэкцыяй яго не параўнаеш. Эрэкцыя найважнейшай будзе.

М у ж ч ы н а. Ну, табе на мяне крыўдзіцца няма чаго.

Ж а н ч ы н а. Крыўдзіцца? Барані Божа! Паколькі пачуццё гумару не галоўнае, лепш на цябе не крыўдзіцца.

М у ж ч ы н а. Хутчэй — мне трэба крыўдзіцца на цябе.

Ж а н ч ы н а. Таксама не трэба. Я, калі хочаш, турбуюся пра будучыню. Кажуць, сексуальных прыемнасцей адмерана чалавеку пэўная колькасць. Трэба размеркаваць іх як мага раўнамерней.

М у ж ч ы н а. Не згодны. Можна апынуцца на тым свеце з вялікім запасам. Што тычыцца гумару... Жартаваў я тады са страху. Мне здавалася, што ты надта прыгожая для мяне і хто-небудзь цябе абавязкова ўкрадзе.

Ж а н ч ы н а. А мне падабалася, што ад цябе ішла нейкая пастаянная фізічная цеплыня. Я адчувала яе на адлегласці двух метраў. То быў і душэўны, і фізічны камфорт. Я ж не ведала, што гэта проста такая магутная сексуальная энергія. Нават цяпер, праз дваццаць пяць гадоў, ты ў нейкія хвіліны разаграешся, як электрапрас без тэрмарэгулятара.

М у ж ч ы н а. Гэта блага?

Ж а н ч ы н а. Гэта цікава. Хаця цяпер я ведаю, чым гэта заканчваецца.

М у ж ч ы н а. Спадзяюся — добра заканчваецца?

Ж а н ч ы н а. Як калі!.. Але ж, якімі мы сталі... Не тоячыся — пра ўсё. Відаць, старэем...

М у ж ч ы н а. Глупства! Мы не старэем, а ўрастаем у жыццё. Вучымся разглядаць яго з усіх бакоў. Мы хочам ведаць пра яго *ў с ё*.

Ж а н ч ы н а. А помніш, якая ў мяне была прычоска? Яна каштавала мне ледзь не палову стыпендыі. Чамусьці ты увесь вечар спрабаваў палізаць яе.

М у ж ч ы н а. Гэтая пабудова была падобна на вялізную ромавую бабу пад тлустым слоем цукровай глазуры. Акрамя таго, то быў твой тадышні імідж — салодкая жанчына. Не адно мне, усім хацелася палізаць цябе. Гэта даволі рэдкі тып жанчын. З такімі лёгка жартаваць, лёгка гаварыць пра самае інтымнае. Яны натхняюць і выдаюць вельмі даступнымі.

Ж а н ч ы н а. Даступнымі? Дзіўна, што раней ты не гаварыў мне пра гэта... Цяпер я разумею, чаму ты так прыціскаўся, як танчыў са мною. Я адчувала ўсе твае мужчынскія каштоўнасці.

М у ж ч ы н а. Табе было непрыемна?

Ж а н ч ы н а. Не ведаю. З аднаго боку, смешна... З другога — цікава, чым усё скончыцца. Скончылася вяселлем праз паўгода. Якая ж я была дурніца!

М у ж ч ы н а. Я таксама не збіраўся жаніцца так рана. І раптам зразумеў, што не магу без цябе жыць. Не ўяўляю без цябе заўтрашні дзень... А помніш Оршу, гатэль, нумар з прусакамі?

Ж а н ч ы н а. Як жа! Ты адразу накінуўся на мяне, як вяпрук, павырываў усе гузікі і гумкі, і тут увайшла пакаёўка.

М у ж ч ы н а. Так, я не замкнуў дзверы на ключ... Думаю, яна нічога не зразумела.

Ж а н ч ы н а. Не зразумела? Хлопец з дзяўчынкаю голыя ляжаць на пасцелі, а яна глядзіць і нічога не разумее! Уся абслуга ведала нас, адно не свісталі ўслед. Гэта ж які быў час? Савецкая мараль незачыненых дзвярэй не даравала. Плюс да ўсяго ты абліў столь шампанскім.

М у ж ч ы н а. Але ж я разлічыўся з імі. Даў сто рублёў.

Ж а н ч ы н а. Вось гэта дарэмна. Тут яны якраз і кваліфікавалі мяне як прастытутку... Слухай, давай як-небудзь з'ездзім у Оршу! Паселімся ў тым гатэлі... Нумар не помніш? Помню, што глядзелі на горад зверху, а на даляглядзе — агні, агні... І тут ты сказаў — давай пажэнімся. А я спытала — калі? А ты адказаў — зараз або ніколі... Аднак, якія хвіліны здараліся ў нашым жыцці!

М у ж ч ы н а. Гэта таму, што я люблю цябе.

Ж а н ч ы н а. І я.

*Мужчына націскае клавішу магнітафона — льецца музыка. Запрашае Жанчыну на танец.*

М у ж ч ы н а *(сур'ёзна)*. Я сапраўды вельмі люблю цябе.

Ж а н ч ы н а. А я не магу без цябе жыць.

## Сцэна чацвёртая

*Позні вечар ці ноч. Мужчына ляжыць у ложку з газетаю, Жанчына сядзіць перад люстрам, наносіць на твар крэм.*

Ж а н ч ы н а *(хутаецца ў шаль)*. Калі гэта ўключаць ацяпленне? Холадна ўжо і ўдзень, і ноччу. На рабоце холадна, дома холадна.

М у ж ч ы н а. Так, хай бы ўжо зіма, абрыдла слота-хлюпота.

Ж а н ч ы н а. Не, я не хачу зімы. Восень лепш. Зімой у мяне насмарк, кашаль. Толькі ў сакавіку крыху ажываю. Я і памру калі-небудзь пасярод зімы.

М у ж ч ы н а. Гм... Любіш ты пагаварыць пра вечнае нанач. Не хвалюйся, ты будзеш жыць доўга. У гэтым сэнсе ў цябе добрая спадчыннасць.

Ж а н ч ы н а. Сумняваюся. Ды і навошта — доўга?.. Паміраць трэба ў свой час. Вядома, крыўдна паміраць вясною, летам... А зімой — хораша. Прырода спіць, і ты спіш. Не, смерць не такая бессэнсоўная, як нам здаецца. Ёсць у ёй нешта сур'ёзнае, вечнае. Гэта жыццё даецца на колькі там гадоў, а смерць — яна назаўсёды!

М у ж ч ы н а. Зноў ты за сваё. Філасофія даўно выйшла з моды. Гэта тэма для нудлівых скептыкаў ды мазахістаў.

Ж а н ч ы н а. Проста ты баішся. Ты баязлівец, адно — тайны.

М у ж ч ы н а. Чаму — тайны? Я на самай справе баюся смерці. Я ўжо не такі малады, каб пагарджаць ёю, але ж і не такі стары, каб скарыцца. Я хачу жыць і пра такое не думаць.

Ж а н ч ы н а. Усе мужчыны — баязліўцы, хто тайны, хто яўны.

М у ж ч ы н а. Гэтак жа, як усе жанчыны. І гэта нармальна. Чалавек павінен быць то смелы, то баязлівы. Інакш яму не выжыць.

Ж а н ч ы н а. Смелы са слабымі, баязлівы з моцнымі?

М у ж ч ы н а. Менавіта так. Як увесь жывёльны свет, ад драпежнікаў да траваядных. Нікога не баяцца адно самыя буйныя драпежнікі, бо яны, як правіла, нясмачныя. Дый то...

Ж а н ч ы н а. Я нікога і нічога не баюся.

М у ж ч ы н а. Ну, то я, дзякуй Богу, ведаю. Ты смелая і рызыкоўная жанчына. Амаль што Арлеанская дзева.

Ж а н ч ы н а. Я нават цябе не баюся. Ты думаеш, я цябе баюся? Ніколькі.

М у ж ч ы н а. Сапраўды, смелая жанчына. Проста адчайная. Не баішся мяне. Я ж такі страшны!

Ж а н ч ы н а. Не, ты не страшны. Ты — звычайны. Як усе. Сярэдні. Сярэдняга росту, сярэдняга розуму, у цябе нават паходка, выраз твару — сярэднія.

М у ж ч ы н а. Зразумеў. Ты хочаш сказаць, што не любіш мяне. Ці ж можна любіць нешта *сярэдняе?* Любяць выключнае. Не любіш... Мяркуеш, гэта цяпер мае якое-небудзь значэнне?.. Трэба заўважыць, што буйныя драпежнікі, якімі мы і з'яўляемся, увогуле не любяць адно аднаго. Спараванне — не любоў. Проста чалавека раздзірае юр, таму і прыдумаў любоў.

Ж а н ч ы н а. Якая ў цябе брыдкая лексіка: спараванне, юр...

М у ж ч ы н а. Добра, не спараванне, а савакупленне, не юр, а пажадлівасць.

Ж а н ч ы н а. Яшчэ горш. Дарэчы, я нават па тваёй шкале не драпежніца. Я ўжо даўно не ем мяса.

М у ж ч ы н а. Ага, адно мясныя булёны. Галіна-бланка буль-буль. Драпежнікам такое не снілася... З другога боку... Рэч у тым, што драпежнікі мы не заўсёды. Мы становімся такімі тады, як маем толькі свой інтарэс. А ўвогуле чалавека хутчэй можна аднесці да птушак — шмат якія з іх манагамныя. Зноў жа: некаторыя людзі лётаюць па

начах. Ці хаця б у сне. Ты, жоначка, лётаеш у сне ці не? Да якога-небудзь мужчыны?

Ж а н ч ы н а. Не разумею тваёй іроніі.

М у ж ч ы н а. То не іронія. То смутак па загінуўшай маладосці... Буйныя драпежнікі і рыбы не ведаюць, што такое прыхільнасць на ўсё жыццё.

*Маўчаць.*

Добра, час класціся. Падай мне, калі ласка, шклянку вады. Ноччу ў мяне чамусьці перасыхае горла ад смагі.

Ж а н ч ы н а. Тваё горла перасыхае таму, што спіш з раскрытым ротам.

М у ж ч ы н а. Няпраўда.

Ж а н ч ы н а. Праўда. Што, я не бачу? Ды храпеш, як трактар.

М у ж ч ы н а. Я не храпу.

Ж а н ч ы н а. Храпеш. Аж нос гнецца. Разумею, гэта у вас спадчыннае. Думаю, што калісьці гены чалавека былі менш кансерватыўныя. Прыкладна, нейкі там пітэкантрап храпнуў, як аб'еўся мамантам нанач, і ўвесь ланцуг нашчадкаў храпе па сённяшні дзень. І мужчыны, і жанчыны. І маці твая вельмі соладка, так, што фіранкі ўзляталі, пахрапвала.

М у ж ч ы н а. Не разумею, чаму ты яе так не любіла?

Ж а н ч ы н а. Не любіла?.. Гэта не так. Хутчэй, odi et amo. Любіла і ненавідзела. Гэтак жа, як яна мяне. Чалавека нельга адно любіць або адно ненавідзець, калі ён столькі гадоў жыве побач.

М у ж ч ы н а. ... і зычыць табе адно дабра.

Ж а н ч ы н а. Так, я згодна... Але ж як яна старалася не дапусціць нашага вяселля! Напэўна, яна мела рацыю, было б лепш, каб мы не пажаніліся, але ж у той час... Як я плакала па начах. Я была тады ўжо на трэцім месяцы.

М у ж ч ы н а. Гэтага яна не ведала. А як дазналася, нават прыспешвала вяселле. З таго часу нічога, акрамя дабра, ты не ведала ад яе. Нарэшце, хто гадаваў нашага сына? Хто яго адводзіў-прыводзіў у дзіцячы садок, а потым і ў школу, хто дапамагаў яму рыхтаваць урокі?

Ж а н ч ы н а. А хто параіў зрабіць аборт, як я зацяжарала другі раз?

М у ж ч ы н а. Рашэнне ты прымала сама.

Ж а н ч ы н а. Нічога мы самі не вырашаем. Да любога рашэння нас нехта падштурхоўвае.

М у ж ч ы н а. Гэта і ёсць ідэальная формула безадказнасці: вінаватыя ўсе, акрамя мяне. І ўсё ж нічога, акрамя дабра і спагады, ты не мела ад яе.

Ж а н ч ы н а. Так, яна была добрая жанчына... Аднак і злапомная, помслівая! Помніш, як яна ляснула той японскі сервіз пад Новы год? Падазраю — наўмысна. Каб сапсаваць свята.

М у ж ч ы н а. Як гэта невялікадушна, асабліва цяпер, калі яе няма.

Ж а н ч ы н а. Нават дзіўна, што няма. Яна трымалася за жыццё мёртваю хваткай. Я была ўпэўнена, што яна мяне перажыве.

М у ж ч ы н а. Ачомайся, жонка!..

*Маўчаць.*

Я ведаю, ты хацела, каб я адправіў яе ў дом састарэлых.

Ж а н ч ы н а. Ясна, хацела. Там таксама выдатна жывуць і выдатна паміраюць. Але ж часам здавалася, што не ў дом састарэлых трэба ёй, а ў вар'ятню. Апошнім часам яна выспела для яе. Я нясу «утку», а яна плюе мне ў твар! Не, я не хацела б жыць так доўга. Я хачу, каб мне, як прыйдзе той час, зрабілі адпаведны ўкол. Укол вечнага спакою і вечнай радасці.

М у ж ч ы н а. І хто гэта зробіць? Наш сын? Ці ён мусіць зрабіць заяўку ды аплаціць кошт?

Ж а н ч ы н а. Не, гэта зробіш ты.

М у ж ч ы н а. Дзякуй за ласку. Забіць жанчыну, з якой меў столькі фізічнай блізкасці... Не для мяне. Хаця я разумею, што, можа быць, *там* жыццё нават цікавейшае. Мо там дадаюць тое, што не паспеў узяць на зямлі.

Ж а н ч ы н а. Не, табе *там* нічога не дадуць. Ты паспеў усё узяць тут — і сваё, і чужое. Ты скарыстаў кожны выпадак, кожную жанчыну, кожную хвіліну...

М у ж ч ы н а. Канкрэтна!

Ж а н ч ы н а. Дваццаць пяць гадоў таму, як мы пазнаёміліся... як ты вырашыў «паспрабаваць» мяне, паласавацца ды кінуць...

М у ж ч ы н а. Якая бязглуздзіца! «Паласавацца, кінуць...» Я быў такі закаханы, што нічога не «вырашаў»! Я залежаў ад цябе, як наркаман ад гераіну ці яшчэ якой заразы, каб прымаць нейкія асабістыя рашэнні.

Ж а н ч ы н а. Ну а твае камандзіроўкі з каханкамі? Асабліва з той, рыжанькай... А твая паездка ў Маскву на курсы павышэння кваліфікацыі? Ты і сапраўды падвысіў яе. Я гэта адразу адчула... А наша паездка на Свіцязь, як Алёша паступіў у інстытут? Перад сынам табе не было сорамна?

М у ж ч ы н а. А табе? Табе таксама ёсць у чым пакаяцца на Страшным Судзе?

Ж а н ч ы н а. Хочаш ведаць? Магу распавесці.

М у ж ч ы н а. Не трэба. Ведаць усё няма неабходнасці. Ведаць трэба толькі ўзаемавыгаднае.

Ж а н ч ы н а. Не, ужо, пара выцягнуць галовы з пяску. Зараз я скажу ўсё і пра цябе, і пра сябе. Дзесяць гадоў таму, калі ты...

М у ж ч ы н а. Змоўкні!

Ж а н ч ы н а. Дзесяць гадоў таму, як я зразумела, што ты не любіш мяне...

М у ж ч ы н а. Змоўкні! Замры!..

Ж а н ч ы н а. Дзесяць гадоў таму, як я зразумела... *(Змаўкае. Плача.)* Якая я была дурніца дзесяць гадоў таму! Такія мужчыны заляцаліся да мяне! Дык жа не, я й блізка не падпускала нікога. Здавалася, што свет пагасне, як я дазволю каму-небудзь што-небудзь...

М у ж ч ы н а. Ну што ты, што ты... *(Лашчыць яе.)* Не плач. Усё добра. Я люблю цябе. І вельмі ўдзячны, што не наставіла мне рогі. Між іншым, мужчын з рагамі я пазнаю здалёк: яны маюць нейкую асаблівую паходку. Гордую і незалежную. І выраз твараў у іх надта горды. Гэта таму, што ноша цяжкая і, каб захаваць раўнавагу, трэба высока трымаць галаву. Яны, гордыя ды незалежныя, часцей прабіваюцца ў начальнікі, зарабляюць больш грошай.... А ўсё дзеля чаго? А дзеля таго, каб людзі не заўважалі іх раскошныя рогі!..

Ж а н ч ы н а. Вось-вось, і ты мог бы добра зарабляць, каб я не была такой дурніцаю.

М у ж ч ы н а *(цалуе яе).* А я люблю дурных і дурнаватых. То часцей за ўсё харошыя людзі... Ну, позна ўжо, давай спаць.

Ж а н ч ы н а. Заснеш цяпер... Гэта ты — ледзь галаву на падушку — спіш. Не дабудзіцца. У мінулым годзе, як я хварэла на грып, — о, то была дарэмная надзея. Я ляжала мокрая ад поту, а ты хроп, як п'яны шавец. Між іншым, у цябе апошнім часам з'явілася ў сне нейкая дурнаватая ўсмешка. Жудасная, скажу табе, карціна, як чалавек храпе і ўсміхаецца.

М у ж ч ы н а. Усмешка — гэта заўсёды добра. Можа быць, наша існасць выяўляецца менавіта ў сне. А тое, што на тварах удзень, — маска.

Ж а н ч ы н а. Ты спіш так глыбока, што, напэўна, праспіш сваю смерць.

М у ж ч ы н а. Ну што ж, як з усмешкаю... Няблага. Можа стацца, на тым свеце лепш прымаюць тых, хто з усмешкаю. А вось ты наадварот, зусім перастала ўсміхацца. Так што табе *там* могуць адмовіць. Маўляў, спярша навучыцеся ўсміхацца, спадарыня, гэта значыць, цаніць зямное жыццё, а ўжо тады прыходзьце сюды... А калісьці ты смяялася без дай прычыны. Я нават думаў: мо галава не ў парадку?

Ж а н ч ы н а. Я спадзявалася, што жыццё мяне не падмане. А цяпер ужо даўно ні на што не спадзяюся. Мне здавалася, што жыццё — гэта вясна і лета, а выйшла — глухая восень: холадна, холадна, холадна. Сыра ды холадна. *(Хутаецца ў пуховую хустку.)*

М у ж ч ы н а. Не, я разумею, у цябе ўсё было ў норме. А беспрычынны смех меў сексуальнае паходжанне: любіце мяне, вось я якая вясёлая, сексапільная... А вось цяпер ты, жоначка, не ў парадку. І, можа, да сексолага трэба звяртацца не адно з нагоды расстройства інтымнага жыцця, а і з прычыны знікнення смеху.

Ж а н ч ы н а. Можаш знайсці сабе палюбоўніцу з вясёлым смехам. Я не супраць, мне ўжо ўсё роўна.

М у ж ч ы н а. Палюбоўніца — гэта вельмі клопатна. Акрамя таго, у мяне мала грошай. На свае сродкі я магу знайсці адно пахмурную суровую жанчыну без пачуцця гумару, але ж такая ў мяне ёсць. Ты.

Ж а н ч ы н а. Не, я аніякая не палюбоўніца. Гэтае жыццё пазбавіла мяне рэшткаў сексуальнасці... Я стамілася, мне ўсё абрыдла.

*Маўчаць.*

М у ж ч ы н а. Гэта такі момант, жонка. Гэта мінецца. Я — твой муж. Ты — мая жонка. Мы абавязаны пераадольваць такія імгненні.

Ж а н ч ы н а. Я нічога нікому не абавязана. Я — вольная жанчына.

М у ж ч ы н а. Так не бывае, жоначка. Мы ўсе абавязаны адно аднаму. Якая воля, калі нам давядзецца яшчэ доўга разам жыць, а магчыма, і паміраць. Нават, калі я заўтра памру, ты ўжо не будзеш вольная. Нябачныя ніці працягнуцца да цябе ад мяне з Царства Божага.

Ж а н ч ы н а. Якія ніці? Хто я для цябе? Хто ты для мяне? Роднасць — гэта, калі родная кроў. Муж і жонка — чужыя людзі.

М у ж ч ы н а. А вось гэта проста жахліва. Не адчуваеш?.. Успомні маладосць. Ці магла б ты ўявіць дваццаць пяць гадоў таму, што скажаш такія словы?.. Трэба пастаянна ўспамінаць, якімі мы былі. Трэба

сачыць за пераменамі ў душах. Толькі так можна пазбавіцца скажэнняў, што ўзніклі выпадкова і яшчэ не застылі на тварах.

Ж а н ч ы н а. Навошта? Усе перамены — натуральныя. Наша сённяшняе аблічча і выгляд і ёсць цана нашага сумеснага жыцця. Ці ты хочаш сказаць, што змяніўся менш за мяне? Але ж як нехта змяніўся менш, значыцца, схітраваў, пражыў за чужы кошт... Не, я не пра цябе. Ты не хітрыў. Табе хітраваць — навошта? Ты шчыры, адкрыты эгаіст. І выяўляецца гэта ва ўсім, ад слоў да ўчынкаў... Нават у пасцелі ты эгаіст: было б добра табе, а мне — не мае значэння.

М у ж ч ы н а. Чаму ты раней не гаварыла пра гэта?

Ж а н ч ы н а. А таму што ведала — дарэмна. Ты ж эгаіст!

М у ж ч ы н а. Вядома, я не магу змяніць свой арганізм, але... Можна неяк прыладзіцца... можна было б мне... ці табе... ёсць спосабы... не такі ўжо гэта сакрэт...

Ж а н ч ы н а. Ясна, што прыладжвацца — мая задача. Твая — прасцей!.. Вось чаму ў цябе няма і быць не можа сапраўднай палюбоўніцы, а зусім не з-за грошай. Ты можаш мець адно прастытутак.

М у ж ч ы н а. Няпраўда! Табе было добра са мною! Успомні, што ты гаварыла дваццаць пяць гадоў таму!

Ж а н ч ы н а. Не хачу. Мне непрыемна ўспамінаць і цябе, і сябе. Тыя маладыя людзі памыліліся, а мы расплачваемся за іх. Яны былі прагныя да цялесных уцех і нікольк не думалі пра нас.

М у ж ч ы н а. Ты думаеш, гэта была памылка?

Ж а н ч ы н а. Вядома. Інакш мы б зараз спалі, а не ўспаміналі маладосць.

*Маўчаць.*

М у ж ч ы н а. Няхай так... Але ж якая то дзіўная рэч — сямейнае жыццё. Якія выбухі нянавісці мы зведваем і ўсё ж працягваем жыць разам. Чаму? Навошта? Бо не хочам пачынаць спачатку? Шукаць партнёра, набываць жыллё, рэчы... Не чалавек, а жыццёвая стабільнасць становіцца важнейшай. Абыякавасць — каштоўнасцю. І вось мы гатовыя ўжо жыць разам без усялякай блізкасці — фізічнай, душэўнай — толькі б у гэтых сценах, пад гэтым дахам, сярод гэтых рэчаў. Толькі б сёння — як учора, і заўтра — як сёння. Прамінуў выбух нянавісці, вярнулася абыякавасць — і гэта выдаецца за каханне...

Ж а н ч ы н а. Зноў філасофія.

М у ж ч ы н а. Цікава, што тут магла б жыць іншая жанчына ці другі мужчына і вялі б такую ж размову. Як гэта сумна і безнадзейна... Ёсць думка, што чалавек будучыні — чалавек не сямейны. Я мяркую, што шлюб не знікне, але ж будзе заключацца па кантракце — на тры, на пяць, самае большае — на сем гадоў. Без права прадаўжэння. Прадоўжыць можна будзе толькі ў выключных сітуацыях, скажам, з прычыны душэўнай хваробы аднаго з партнёраў.

Ж а н ч ы н а. А калі любоў сапраўдная?

М у ж ч ы н а. Любоў сапраўдная, або, як гавораць, «да гроба», увогуле не будзе разглядацца, бо гэта яўная ідэя-фікс. Як, прыкладна, ідэя вечнага рухавіка.

Ж а н ч ы н а. Ясна. Да магілы — не трэба, а вось заключыць кантракцік на год-другі з якой маладзейшай ты не супраць. Хоць бы з Кацькай Зварыкінай. Вось хто эгаістка! Яна і замуж не ідзе толькі таму, каб ні з кім не дзяліць пасцель. Уяўляю вас разам!

М у ж ч ы н а. Не разумею, за што ты ненавідзіш яе. Жанчына як жанчына, не горшая за іншых. З-за таго, што твая начальніца? Што маладзейшая за цябе?

Ж а н ч ы н а. Ніколі не забуду, як я пазваніла ёй, а ты падняў слухаўку.

М у ж ч ы н а. Яна папрасіла падняць. Яна была занятая ў тую хвіліну.

Ж а н ч ы н а. Чым? Рыхтавалася ў ваннай да кахання? Альбо прыводзіла сябе ў парадак — пасля? А ты быў такі шчаслівы, што забыў, дзе знаходзішся. Ты ўзяў слухаўку *свайго* тэлефона. Паслухаў бы ты, як гучаў твой голас.

М у ж ч ы н а. Але ж ты сама паслала мяне да яе! Яна папрасіла цябе, ты — мяне. Каб паставіў новы замок у дзверы.

Ж а н ч ы н а. Ага, замок. І ты ставіў яго ўвесь вечар. А мог бы і ўсю ноч, каб я не пазваніла.

М у ж ч ы н а. Што ж рабіць, я не сталяр. Паставіць замок для мяне — праблема.

Ж а н ч ы н а. А роўна праз тыдзень яна папрасіла праверыць замок. Ён, бачыце, пачаў заядаць. І ты валэндаўся з ім цэлы вечар.

М у ж ч ы н а. Што ж, мне таксама нагадаць што-небудзь? Напрыклад, тваю паездку ў санаторый «Друскенінкай»? Дзіўныя тэлефанаванні то ўдзень, то ноччу.

Ж а н ч ы н а. Так, я мела поспех! Я наўмысна раздавала нумар тэлефона, каб ты ўцяміў нарэшце, з якой жанчынаю жывеш! Але ж ты анічога не зразумеў. Мужчына здольны зразумець сваю палюбоўніцу, а жонку — ніколі!

М у ж ч ы н а. Падазраю, што і жанчына больш уважлівая да выпадковага кавалера, чым да чалавека, з якім ёй і жыць, і паміраць... А мо рэч у памылках выбару? Але ж так мала варыянтаў... Жывём, як атрымліваецца. Ці ж ты хацела такога мужа, як я? І я — марыў пра такую менавіта жанчыну?.. Не, мы не вінаватыя. Так складваецца жыццё... Аднак ноч прайшла, пара на работу.

*Доўгае маўчанне.*

Ж а н ч ы н а. Я пастаўлю чай, будзеш піць?

М у ж ч ы н а. Не.

Ж а н ч ы н а. Можа, зрабіць каву?

М у ж ч ы н а. Не.

Ж а н ч ы н а. Пачакай... Ты насамрэч думаеш, што мы не падыходзім адно аднаму?..

М у ж ч ы н а. Я думаю... Odi et amo, вось што я думаю.

*Падыходзіць да Мужчыны, ён моўчкі абдымае яе.*

## Сцэна пятая

*Гасцінная. Мужчына сядзіць перад тэлевізарам, на століку для часопісаў — кубачак кавы. У вітальню ўваходзіць Жанчына, у руках у яе — сумка і два пакункі. Здымае боты, паліто. Прыносіць падсвечнік, дастае з сумкі свечку, запальвае.*

М у ж ч ы н а. Як гэта зразумець?

Ж а н ч ы н а. Ішла ля царквы Марыі Магдалены — завітала. Свечку паставіла, імя на памінанне падала... А яшчэ купіла іконку Бага-

родзіцы. Асвечаная... Мне здаецца, нашаму дому нешта пагражае. Апошнім часам я кепска сплю і мне сняцца кашмары... Куды яе павесіць? Можа, тут?.. Шкада, што мы жывём без Бога. Я заўсёды хацела верыць, але ж чагосьці не хапае ў душы. Напэўна, вера даецца або ў дзяцінстве, як спадзяешся на несмяротнасць, або ў старасці, як марыш пратрымацца на гэтым свеце яшчэ год-два...

М у ж ч ы н а. Ты хацела верыць?.. Я гэтага не заўважаў. Несмяротнасць і Бог не адно і тое ж. Несмяротнасць — гэта надзея, Бог — лад жыцця. Нам з табою ўжо няма на што спадзявацца. Мы спазніліся.

Ж а н ч ы н а. Кажуць, што ніколі не позна...

М у ж ч ы н а. То для суцяшэння нам, бязбожнікам. Што цябе прывяло ў царкву?

Ж а н ч ы н а. Не ведаю... Быццам нехта паклікаў мяне. Можа, *яна?*

М у ж ч ы н а. Наўрад ці.

*Маўчаць. Нечакана Жанчына раскрывае давалі вялікі пакунак, што прынесла з сабою. Гэта партрэт Маці.*

*(Уражана).* Мама?

Ж а н ч ы н а. Няблага, праўда? Я заказала партрэт з таго ж здымачка, што і на помніку. Таксама асвяціла. Так стала лёгка на душы... І рамка добрая, так?

М у ж ч ы н а. Ты мяне здзівіла.

Ж а н ч ы н а. Чаму?.. Не так ужо я вінавата перад ёй. Не больш, як усе жывыя перад памерлымі.

М у ж ч ы н а. Што ж, калі і вінавата, дык яна даўно даравала. Яна даравала ўсім. Даравала майму збегламу бацьку, потым мне, табе, Алёшу... У дараванні быў сэнс і змест яе жыцця.

Ж а н ч ы н а. Не перабольшвай. Яна была такая, як усе мы: справядлівая і несправядлівая, добрая і злапомная, шчодрая і скваппная... Звычайны чалавек. Любіла цябе і Алёшку, трывала неяк мяне. А даравала, калі нічога больш не заставалася, як дараваць. Калі змушана была дараваць.

М у ж ч ы н а. То і выдатна, што — звычайная. Адно звычайныя людзі і забяспечваюць нармальнае жыццё ў свеце.

Ж а н ч ы н а. Мяне яна ненавідзела, пакуль не нарадзіўся Алёшка. Не, нікуды гэтая нянавісць не падзелася, проста затаілася да часу. Да таго часу, як апынецца па той бок жыцця і ўжо адтуль можна будзе помсціць мне. Чаму яна сёння паклікала мяне ў царкву? Каб помсціць. Дома ды на вуліцы я недасягальная для яе, а ў царкве — так, улада яе.

*Маўчаць.*

М у ж ч ы н а. Не разумею, навошта ты заказала яе партрэт... Ведаеш што... патушы свечку. Мы вядзём грэшныя размовы.

Ж а н ч ы н а. Помсціць адтуль — самая мілая рэч. Яна можа ўсё, я — нічога.

М у ж ч ы н а. Ты кранулася розумам. (*Тушыць свечку, потым паварочвае партрэт Маці і ікону Багародзіцы да сцяны.)*

*Жанчына ўсё гэта нервова паўтарае ў адваротным парадку. Маўчаць.*

А ведаеш што, жоначка... Давай вып'ем па кубачку кавы. Я сам зраблю.Табе па-турэцку?

Ж а н ч ы н а. Я не хачу кавы.

М у ж ч ы н а. Можна выпіць гарэлкі.

Ж а н ч ы н а. Я не люблю гарэлку!

М у ж ч ы н а. Ну — па шклянцы гарбаты. Помніш, летам мы купілі экзатычнае варэнне — з фейхоа — для асаблівай сітуацыі. Памойму, такая сітуацыя настала.

Ж а н ч ы н а. Якая сітуацыя? На што ты зноў ківаеш? Чаму ніколі не гаворыш проста?

М у ж ч ы н а. Прасцей немагчыма. Я прапаную выпіць, каб змяніць настрой. Каб пазбегнуць канфлікту.

Ж а н ч ы н а. Па-твойму, я правакую канфлікт? Гэта не так. Насамрэч правакуеш ты. Кава, гарбата, гарэлка, твой стрыманы голас і ёсць правакацыя.

М у ж ч ы н а. У такім разе давай проста памаўчым. Або разыдземся па розных пакоях. Месца, дзякуй Богу, хапае. Нам трэба навучыцца жыць удваіх. Мы заўсёды жылі з кімсьці: з сынам, з бабуляй... Жыццё ўдваіх — гэта зусім іншае.

*Мужчына бярэ акуляры, газеты,*
*сыходзіць у другі пакой. Жанчына ўключае тэлевізар,*
*адну за другой пераключае праграмы,*
*потым кладзецца на канапу ніц.*
*Праз хвіліну вяртаецца Мужчына.*

Мо ты пачуваешся блага? Што ў цябе, сэрца? *(Жанчына маўчыць. Мужчына кіруецца на кухню і вяртаецца з лекамі. Капае ў лыжку, дабаўляе вады.)* На, глыні. *(Жанчына не азываецца, а калі ён падносіць лыжку да яе вуснаў, раптам выбівае лыжку з ягонай рукі.)*

Ж а н ч ы н а. Адыдзіся ад мяне!

М у ж ч ы н а. Што з табою? Што-небудзь здарылася?

Ж а н ч ы н а *(рыдае).* Так, так, так! Здарылася! Здарылася!.. *Ён разлюбіў мяне!*

М у ж ч ы н а. Хто?

Ж а н ч ы н а. Мой каханак! Мой любімы мужчына!

М у ж ч ы н а. Якая бязглуздзіца. Няма ў цябе аніякага мужчыны, акрамя мяне.

Ж а н ч ы н а. Так, цяпер няма. Ён так і заявіў мне: я цябе разлюбіў!

М у ж ч ы н а. Я табе не веру. Цябе нельга разлюбіць. Калі ўжо я не разлюбіў за дваццаць пяць гадоў, то як ён мог разлюбіць за паўгода ці год? Або ён не варты цябе. Ён — свіння. Тлусты кныр..

Ж а н ч ы н а. Чаму — тлусты?

М у ж ч ы н а. Ну — худы кныр.

Ж а н ч ы н а. Ты так спакойна гаворыш пра гэта!.. Сапраўдны мужчына не можа дараваць здраду! Цябе не хвалюе тое, што мы былі... у блізкіх адносінах?

М у ж ч ы н а. Што азначае — у блізкіх? Гэта ў нас з табою — блізкія. А ў вас — палавыя. Ну і што, як такія былі ў вас? Я гэтага нават і не заўважыў. Жанчына так скроена, што яе хапае на ўсіх. Вазьмі пчаліную матку: вакол яе сотні трутняў. Або сучку падчас цечкі: за ёю бягуць усе суседскія кабялі.

Ж а н ч ы н а. Ты параўнаў мяне з сучкай?

М у ж ч ы н а. Крый Божа. Я параўнаў твайго каханка з трутнямі ды кабялямі.

Ж а н ч ы н а. Ты абразіў мяне, і я больш не магу з табой жыць. *(Тушыць свечку.)*

М у ж ч ы н а. Не, любая, мы яшчэ пажывём з табою.

Ж а н ч ы н а. Мы будзем жыць паасобку.

М у ж ч ы н а. Не атрымаецца. Можна жыць паасобку, як у мужчыны і жанчыны не бывае блізкасці. А як бывае... Эксперымент завершыцца ў першы банны вечар.

Ж а н ч ы н а. Не завершыцца, а пачнецца. Звычайна пасля ванны ты шпацыруеш па кватэры ў трусах — намякаеш на свае здольнасці, а цяпер табе давядзецца нацягнуць штаны.

М у ж ч ы н а. А табе давядзецца гатаваць багатую сексуальную вячэру для сябе самой.

Ж а н ч ы н а. Абыдуся без вячэры. Буду па суботах ладзіць разгрузачныя дні.

М у ж ч ы н а. Раней падчас вячэры ў суботу ты любіла запальваць араматызаваныя свечкі, а цяпер у тваім пакоі будзе патыхаць ладанам. *(Запальвае свечку.)*

Ж а н ч ы н а. Не хвалюйся, калі я захачу...

М у ж ч ы н а. Паслухай, жоначка... Навошта мы мучым адно аднаго?

Ж а н ч ы н а. Гэта ты мучыш мяне!

М у ж ч ы н а. Аднак, якая гэта недасканалая прыдумка чалавецтва — шлюб. Не інструмент шчасця, а спроба схавацца. Спроба пакарыстацца — мужчыну жанчынаю, жанчыне мужчынам... Збоку можа паказацца, што ты ненавідзіш мяне, а я — цябе... Цікава было б даведацца праўду аб іншых сем'ях. Параўнаць: як мы жывём — лепш, горш? Дый увогуле, ці можна так жыць?

Ж а н ч ы н а. Нельга. Таму што *горш* не бывае.

М у ж ч ы н а. Што ж нам рабіць? Сапраўды паспрабаваць жыць паасобку? Але ж зняць кватэру я не магу, няма грошай.

Ж а н ч ы н а. Ідзі да палюбоўніцы!

М у ж ч ы н а. Але ж у мяне няма палюбоўніцы!

Ж а н ч ы н а. Ха-ха-ха! У яго няма! Што гэта за мужчына, у якога няма палюбоўніцы! Сапраўдны мужчына мусіць мець і жонку, і палюбоўніцу!

М у ж ч ы н а. Дзве жанчыны для мяне занадта.

Ж а н ч ы н а. Само сабою. Для цябе многа нават адной жанчыны.

М у ж ч ы н а. Што ты хочаш сказаць?

Ж а н ч ы н а. Яшчэ неясна? *(Здзекліва рагоча.)*

М у ж ч ы н а. Відаць, ты з такіх жанчын, якім у каханні патрэбен гвалт. Адно гвалт узбуджае іх і даводзіць да аргазму. Цяпер я разумею, чаму пасля сварак ты аддавалася мне з такой жарсцю.

Ж а н ч ы н а. Ты памыляешся. Я выказвала жарсць, каб ты хутчэй зрабіў сваю справу. Ты ніколі не цікавіў мяне як мужчына.

М у ж ч ы н а. Як можаш ты гаварыць мне такое?

Ж а н ч ы н а. Прыйшоў час пазнаць праўду. Інакш памрэш з верою, што ты палавы гігант. Пара даведацца, што Алёшанька — не твой сын!

М у ж ч ы н а. Гэтага не можа быць.

Ж а н ч ы н а. Сказаць — чый?

*Ухапіўшы Жанчыну за каўнер сукенкі,*
*Мужчына замахваецца. Жанчына рагоча.*
*Потым прамаўляе па складах,*
*са спакойнай халоднай ярасцю.*

Толькі пасмей. Ты — нікчэмнасць. Фізічная, інтэлектуальная, эмацыянальная. Ты — нішто і ніхто!

*Мужчына б'е яе па твары. Яна адказвае тым жа. Адбываецца бойка,*
*якая заканчваецца раз'ятраным гвалтаваннем. Святло гасне.*
*Гвалтаванне працягваецца пры няпэўным святле той,*
*набытай у царкве, свечкі.*
*Паступова святло большае. Жанчына ляжыць*
*на падлозе паўраздзетая. Мужчына, сутулячыся, сядзіць побач.*
*Жанчына падымаецца і, прыхапіўшы падраную вопратку,*
*знікае ў ваннай. Мужчына, сціснуўшы галаву рукамі,*
*гойдаецца ўзад-уперад. Нарэшце Жанчына выходзіць з ваннай.*
*Бярэ сумку, збірае неабходныя рэчы.*

М у ж ч ы н а. Ты сыходзіш?

Ж а н ч ы н а *(ціха, спакойна)*. Так.

*Доўгае маўчанне. Жанчына апранае плашч,*
*абувае боты і кіруецца да дзвярэй.*
*Аднак Мужчына становіцца на парозе.*

М у ж ч ы н а. Застанься.

Ж а н ч ы н а. Не.

М у ж ч ы н а. Сысці павінен я.

*Усё паўтараецца: цяпер збіраецца ў дарогу Мужчына.*
*Таксама не спяшаючыся і быццам спакойна.*
*Правільней — са спакоем безнадзейнасці.*

Ну, бывай?

Ж а н ч ы н а *(з разуменнем сур'ёзнасці, нават непапраўнасці ўсяго, што адбываецца)*.

Бывай.

М у ж ч ы н а *(прыпыняецца ля дзвярэй)*. Мае ключы табе аддаць?

Ж а н ч ы н а. Я не ведаю.

*Мужчына доўга трымае ключы ў руцэ, раздумваючы, як паступіць,*
*і нарэшце вешае іх на цвік ля дзвярэй. Жанчына маўчыць,*
*і ён пакідае кватэру. Жанчына нейкі час хутка ходзіць узад-уперад,*
*зазірае ў другі пакой, на кухню і зной вяртаецца ў вітальню.*
*Успамінае, што ў гасцінай ёсць свечка,*
*запальвае яе і раптам пачынае плакаць — зусім не істэрычна —*
*горка і слёзна, як усялякая зняважаная, а можа,*
*і абяздоленая жанчына.*

### Сцэна шостая

*Мужчына і Жанчына стаяць па розныя бакі авансцэны. Сафіты паперамення высвечваюць іх.*

Ж а н ч ы н а. Тое, што адбылося тады між намі, шчыра кажучы, дробязь. Я многа думала пра ўсё гэта. Напэўна, ён павінен быў згвалтаваць мяне, то была адэкватная мужчынская рэакцыя на мае словы,

але ж... У яго былі такія вочы... Белыя, быццам закрытыя павекамі. Ён ніяк не мог скончыць сваю справу, а калі скончыў... Ляжаў на мне, быццам выпусцілі паветра, а я баялася пакарушыцца. Гэта і ёсць самыя страшныя хвіліны: што ён зробіць цяпер? Засмяецца ў твар, пачне душыць?.. Амаль што кожную жанчыну хоць раз у жыцці гвалтавалі або хацелі згвалтаваць, але ж... Ён зваліўся на бок, тварам уніз і гэтак замёр... Нельга было звальвацца. Трэба было ляжаць і цалаваць мяне да той пары, пакуль я не ўзарвуся, пакуль не спіхну яго з сябе. Усё ж такі — муж. Усё ж такі я — жанчына... Я зразумела, што ён не заб'е мяне, і паднялася... Пайшла ў ванную, прывяла сябе ў парадак, а ён усё ляжаў. Тады мне стала ясна, што наша сумеснае жыццё скончана.

М у ж ч ы н а. Я і цяпер не разумею, чаму згвалтаваў яе. Не дзеля асалоды, вядома. Асалода была сумнiўная... Хацеў адпомсціць за знявагу? Прымусіць змоўкнуць? Але ж як толькі я споўз з яе, зразумеў, што помсты не атрымалася. Не, то я зразумеў раней: як валіў яе на падлогу, зрываў трусы... Звычайна, як у нас бывала *гэта,* яна папярэджвала: *хутка ў мяне атрымаецца...* Як ні дзіўна, я і цяпер у падсвядомасці чакаў гэтых слоў... А яшчэ было, што яна саступала майму жаданню, сама не абудзіўшыся, — давай, толькі хутчэй, аднак ужо праз хвіліну клала далоні на маю спіну. І я чакаў... Звычайна яна ляжала з заплюшчанымі вачыма, усміхалася і быццам падглядвала за мной, але ж тады вочы яе былі расплюшчаныя — яна глядзела з жахам, напэўна, баялася, што стану душыць. Хаця, можа быць, гэта мае пазнейшыя ўспаміны-развагі... Можа быць, каб я не сышоў з дому, мы б з часам прымірыліся-памірыліся, і аднойчы яна зноў прашаптала б — *скора ў мяне атрымаецца...* Але ж я адчуў, што павінен сысці, хаця б для таго, каб апраўдацца — і перад ёй, і перад самім сабою.

Ж а н ч ы н а. Нянавісць мая знікла, як толькі я зразумела, што ён зняважаны самім сабою і цяпер сыдзе — хаця б для таго, каб пазбавіцца сведкі сваёй знявагі. І я хацела, каб ён застаўся. Я ўжо не маладая, каб мяняць жыццё, шукаць варыянты. Я не веру, што ў чалавека ёсць другі шанц. Рэч не ў тым, колькі гадоў мы пражылі разам, а ў тым, што пражылі самыя цяжкія гады: нараджэнне сына, ягоныя дзіцячыя хваробы, смерць нашых бацькоў... Цяпер нас чакала свабода ад клопатаў і абавязкаў — аказалася, што гэтая свабода невыносная. Канешне, праз год-другі мы б прызвычаіліся, прыстасаваліся да яе, але ж — не паспелі...

М у ж ч ы н а. З таго дня прайшло шмат часу. Хутка мы абое наноў уладкавалі свае жыцці. Вось мая новая жанчына.

*Жанчына набліжаецца і прыхінаецца да яго.*

Кажуць, знешне яна, як дзве кроплі вады, падобная на маю былую жонку. Дзіўна... Я зусім не шукаў падобную. Наадварот, я хацеў іншую... Яшчэ больш мяне ўразіла наша першая блізкасць. Мы ўжо немаладыя і не спяшаліся з гэтым. Выбралі дзень, выпілі віна... Не, усё звычайна. Звычайныя эратычныя спадзяванні і шлях да іх.... Рэч у тым, што ў нейкі момант яна прашаптала словы, якія ўразілі мяне: *«Хутка ў мяне атрымаецца!..»* Я не даў веры вушам: «Што ты сказала?» І яна паўтарыла. А мне падалося, што нічога ў тым нашым жыцці не здарылася, не змянілася, мы зноў разам і разам былі заўсёды.

Ж а н ч ы н а *(вяртаецца на сваё месца).* Мы жывём у розных канцах горада, ніколі не спатыкаемся, але ж я ведаю пра яго амаль што ўсё. Любая звестка пра яго для мяне — самая важная. Больш за ўсё я баюся, што цяпер ён шчаслівы. Як шчаслівы, значыцца, праўда была яго. І баюся, што — нешчаслівы. Як нешчаслівы, значыцца, няпраўда і віна — мая... Кажуць, мой новы мужчына, як дзве кроплі вады, падобны на яго.

*Мужчына набліжаецца да яе, кладзе рукі на плечы.*

Апошнім часам у мяне ранішняя бяссонніца, і я часта пазіраю на яго. Ён гэтак жа пахрапвае, калі ляжыць на спіне, а як прачнецца, пазірае — ці прачнулася я... Гэтак жа шумна п'е гарбату ўранку, а ўвечары бегае ад тэлевізара да лядоўні... Можа быць, нічога не здарылася? Можа, яго цяперашняя жонка — гэта я, а мой новы муж — ён?

М у ж ч ы н а *(вяртаецца на ранейшае месца).* Снам сваім я не надаю аніякага значэння. Разумею, адкуль яны і з чаго. Але ж... Яна была такая маладая, такая вясёлая, бестурботная... Яна так звонка смяялася... Я такой ніколі й не бачыў яе. Яна такой не бывала. Такіх вясёлых і бестурботных не бывае *на гэтым* свеце. Нешта з ёй здарылася!.. Сэрца ў мяне калацілася. Ніяк не мог знайсці нумар тэлефона... А калі нарэшце пачуў голас... Але ж гаворка не пра яе цудоўны жывы голас. Гаворка пра тое, што яна — жывая. Дзякуй Богу, яна жывая...

*Жанчына і Мужчына робяць некалькі крокаў адно да аднаго. Аднак спыняюцца. Пераадолець нейкую нябачную рысу яны не могуць.*





**ПАВЕЛ МІСЬКО**

# ШЫЧКА І ТАГАЛЬСКІ

***Апавяданне***

***Да чытачоў.*** *Гэтаму апавяданню амаль 45 гадоў. У свой час у друк яго не пусцілі. А ці змянілася што на сяле за паўстагоддзя?*

***Аўтар***

Іван Паўлавіч сама што даваў брыгадзірам нарад, як на стале задзінькаў тэлефон — прыглушана і настойліва, бы камар. Няйначай тэлефаністка перад кімсьці выслужвалася. Старшыня зняў трубку.

— «Маяк» слухае. Добры дзень і вам... Пішу... — Тагальскі прыкрыў далонню трубку, узняў вочы на брыгадзіраў: — З прыёмнай райкома... Зіначка, сакратарка... Тэлефанаграма, — ён пасміхнуўся і падцягнуў да сябе сшытак, але пісаць не стаў. Паўтараў уголас, каб было чуваць і прысутным: — Заўтра, у дзесяць гадзін раніцы... ў памяшканні раённага Дома культуры... адбудзецца раённая нарада льнаводаў. Яўка старшыні калгаса... брыгадзіраў і звеннявых... абавязковая... Выклікаюцца таксама льнаводы Алена Падабед, Соф'я Матыліцкая... Ало, ало! Паўтарыце прозвішча па літарах, а то не разабраць. Марыя? Антон? Таня? Іван Цвёрды? Лявон? Зразумела: Матыліцкая! — Зноў пасміхнуўся Іван Паўлавіч і скасіў вочы на брыгадзіраў. На іх тварах трымцелі, нібы хацелі ўзляцець, усмешкі.

Зіначка «часала» прозвішчы па тым спіску, што паслаў сам Тагалькі ў райком мо з месяц назад «на прадмет прэміявання і заахвочвання».

— З кім я гаварыла? Хто прыняў тэлефанаграму? — голас Зіначкі набыў сталёвыя ноткі, ужо чуваць было і без пераказу.

— А гэта старшыня, Тагальскі.

— Ой, Іван Паўлавіч, ну як вам... Гэта ж так «купіць»! Хай бы адразу сказалі, што старшыня слухае.

— А ты, дзяўчынка, і не пытала. Дык што — рашылі-такі праводзіць?

— Ага. Спачатку адмянілі, бо вясна нахапілася. Думалі, што ў рабочым парадку і сцягі, і прэміі раздадуць. А цяпер...

— А цяпер зіма вярнулася, можна і пазасядаць?

— Ну але! — не ўлавіла субяседніца іроніі. — Нельга комкаць такое важнае агітацыйна-выхаваўчае мерапрыемства... — Зіначка паўтарала, відаць, не свае словы.

Тагальскі паклаў трубку і некаторы час сядзеў моўчкі, супячы хлапчукоўскія чорныя бровы, да болю шчыкаючы пальцамі прыкапыленую ніжнюю губу. Потым паспешна закончыў нарад і адпусціў усіх.

Ах, не ў час гэтая нарада! Работы — хоць на кавалкі парвіся... Столькі людзей адрываць на цэлы дзень, грузавік пасылаць! Кожная ж мінута залатая — усё-такі вясна. Нягледзячы ні на што — вясна!

«Дам бой... Дам бой! І пра званкі з райкома скажу... Сяўба — не крос, няма чаго рабіць матагонкі».

Набраў нумар суседа, Пракопа Шычкі. Той якраз быў у канторы.

— Ну што — мо ў «Прамені» і снегу няма?

— Не кажы... Гэта ж трэба, а? На пядзю! За адну ноч!

— І многа вы пасеялі ўжо?

— Авёс — увесь, ячменю — палавіну. Лён пачалі...

— Ударнікі. І што — на ўсю плошчу гной далі?

— Дзе там! Пад авёс трохі наскрэблі. У мяне ж, сам ведаеш, пад каровамі падлога, як у хаце. Некалі і ў мужыка не было ў хаце падлогі, а цяпер нават у кароўніку. Думаем потым мінералкай падкарміць пасевы, калі выжывуць. Давядзецца ісці на паклон у райком, у вытворчае ўпраўленне... А колькі, Іван Паўлавіч, у цябе?

— Ні гектара.

— Н-ну? Не жартуй так, сынок... Мне ж *другі* жыцця не даваў, усё вочы табою калоў: Тагальскі тое, Тагальскі гэта. «А вы дрэмлеце. У юбілейную вясну дрэмлеце!» Кажу, што яшчэ ні разу так рана не сеялі, нават ЦСУ і то зводак не патрабуе — няма з чым параўноўваць за леташні год. «На ЦСУ, — адказвае, — не зважайце. Мы ім сказалі пакуль што не збіраць дадзеныя». Разумееш фокус? Мне крычыць сеяць, камандуе, як дзіцёнкам, а ЦСУ загадвае — «Маўчок!» Быццам у раёне яшчэ цішыня. Затое потым як грукне зводкай: знай нашых! Дык, кажаш, у цябе ні гектара? Я ж сам бачыў людзей на полі.

— Бачыў. Скародзілі, вільгаць закрывалі, азімыя падкормлівалі, кампосты вывозілі. А казаў, што сею. Сёння адну лічбу падам, заўтра — другую.

— За нос вадзіў, значыць! А каб прыскочыў праверыў?

— Выкруціўся б.

— А мне, братачка, абламалі рогі. Было на вяку, што і па спіне, і па баку... Накіпіць іншы раз — жыць не хочацца... — чуваць было, як Шычка цяжка ўздыхае ў трубку. — А калісь я баявым камсамольцам быў. На сорак пяць метраў гранату кідаў... Угору на метру і шэсцьдзесят скакаў.

— Я во чаго званю, Пракоп Герасімавіч. Буду гаварыць заўтра. Такія рэчы нельга даравацъ — не той час. Дык, можа, і вы падтрымаеце, выступіце? Калі не на метр шэсцьдзесят, то хоць на метр дваццаць скочыце. А там яшчэ хто падмагне.

— Шкілюеш над старым. А я магу яшчэ «скокнуць». Я, калі разыдуся, то магу такога нагаварыць... Я заеду па цябе раніцай, дарогай і дамовімся.

— Не застанеце, Герасімавіч. Я з механікам раней выберуся. У «Сельгастэхніцы» недзе яшчэ наш трактар мардуюць.

— А ці з рукі табе будзе такое гаварыць? Здорава ж ты аддзячыш за сцяг начальству. У штыкі!

— Адно другому не зашкодзіць.

— Глядзі, Іван, глядзі. Я хоць акадэміяў не канчаў, але сякі-такі розум маю.

Развіталіся.

* * *

За другую ноч снегу не ўбыло. Наадварот, падкінула яшчэ на корх дый прымарозіла. Дарогу падраўняла, і «УАЗік» амаль не трасло.

На скронях, каля вачэй Пракопа Герасімавіча сёння больш зморшчак, чым калі. Глыбокая баразна падзяліла ўскалмачаныя, хоць грабянцом прычэсвай, сіва-рыжыя бровы. Моўчкі ўглядаецца ён у белізну поля ля дарогі. Снег слепіць — «лезе ў вочы вясна».

Падрэгвае, брынчыць дзверца, праз шчыліну ў брызенце ўрываецца халодны струмень. Няўтульна Пракопу Герасімавічу і зябка. Ён паводзіць плячыма.

— Ты яшчэ не адключыў абагрэў? Тузні хіба...

Шафёр моўчкі прыгнуўся, не зводзячы вачэй з дарогі, тузянуў унізе за нейкую ручку. Сотні разоў так рабіў пры ім шафёр, а Пракоп Герасімавіч і сёння не ведае, дзе там тая ручка. Іншыя старшыні нават павывучваліся вадзіць машыну. А яго гэта не цікавіць — лішніца. Старшыні трэба не баранку круціць, не за дарогаю сачыць, а думаць.

Паміж ім і шафёрам, якраз дзе ўткнуўся ўкручаны ў зжоўклыя газеты, спавіты шпагатам сцяг, задзьмула густым і цёплым, з пахам бензіну духам. Язычкі-ўздзёры на парванай газеце залапацелі, заварушыліся. Пафарбаванае ў ружовае дрэўка сцяга выходзіла пад брызент, тырчэла ззаду машыны. Абапал палкі за спінамі шафёра і Шычкі ціха, як коткі на прымурку, саплі дзве цёткі-ільнаводкі.

Сцяг за лён... Некалькі гадоў яго не забіралі, а цяпер трэба аддаваць другім. Аддаваць Тагальскаму...

Адвярнуўся ад усіх Пракоп Герасімавіч, глядзіць у бакавое шкло. І бачыць на прыдарожных прысадах камякі прымёрзлага снегу. На лапы ялінак снег асеў пухнаватымі падушкамі, папрыгінаў галінкі долу.

«Выскачылі, як з кустоў, з гэтай сяўбой... Хаця б усё добра было. Хаця б добра... Бо і калгасьнічкі могуць вараных запрэгчы: не ўратуе ні стаж, ні колішняе партызанства. Даўно ўжо ў некаторых зуб гарыць: чаму топчацца калгас на месцы, а па некаторых паказчыках і зусім пакаўзнуўся? Хто вінаваты? Мяне вінуюць у гэтым дзеле...»

Кепска пачувае сябе Пракоп Герасімавіч. Пад сэрцам нешта смокча і цісне, цісне і смокча, і ён раз-пораз выпростваецца, адкідваецца на спінку, але ў грудзях не слабаднее, не перастае ныць. Страх і трывога не высяляюцца стуль, а яшчэ больш караняцца, запалоньваюць грудзі.

Звычайны, паганенькі страх... Не хочацца ў гэтым Пракопу Герасімавічу прызнавацца нават самому сабе.

І начорта ён учора паабяцаў Тагальскаму выступіць!.. Не яму выпінацца наперад. «Маўчы, як жаба ў карчы. Ці, як у тым анекдоце, — не чырыкай, не высоўвай галавы...» — пакратаў ён узмакрэлы лоб.

— Выключы хіба, Жэня, нешта душна стала...

Шафёр моўчкі тузае ручку.

«От жа Тагальскі не паслухаў, не пасеяў ні гектара. Дзе гэта відана, каб у цэнтры Беларусі сеялі ў канцы сакавіка, пачатку красавіка?» Ніколі мо гэтага не было... А калі і было, то не за яго памяць, не за час яго старшынёўства».

«Плугі шлямавалі... Адверне скібу, дык хоць ты распісвайся на ёй, пячаткай ляпай. Трактары калёсныя грузлі. А трэба, каб за плугам пыл курэў». Бацька, Гараська, колісь казаў: «Як сядзеш голаю... на баразну, ды не холадна будзе, от тады і сей. Умэнт зерне ў рост пойдзе, не будзе кіснуць без толку». Але хто цяпер слухае старых? Ніхто... Ён сам ужо састарэў, на пенсію скора, а чаму разумнаму ён каго навучыў?

А трэба было б слухаць старэйшых. Ведуны-знахары... Зналі яны толк у хлебаробскай справе. Не чакалі міласціны ад прыроды, але і не гвалтавалі зямлю...

Пракоп Герасімавіч спрабуе паварушыць вушамі, нават тузае за адно вуха, цікнуўшы краечкам вока, ці не сочыць за яго дзівацтвам шафёр. Не, яшчэ не налаўчыўся варушыць вушамі... А нічога дзіўнага не было б... Толькі і тапырыў, прыслухоўваўся, хто што скажа, асабліва начальства. Адвыкла свая мазгаўня варыць. Заворваў канюшыну, сеяў буракі, кукурузу... А палоць не было каму, у зеллі ледзь ваўкі не выводзіліся. Не было куды тады выганяць кароў, таўкліся і вясковыя, і калгасныя на «пятачку», на «бубне». Сухарэбрыцы... Колькі ні вазілі кошанкі, малака мала давалі, кожная літра «залатая» рабілася. Не было чым і зімою карміць. Сена таксама не нарыхтавалі, усё на кукурузу, на буракі баб перлі. А старшыні вымову за вымовай...

«Колькі ўсіх было? Чарты яго бацьку знаюць... Ніхто старых не знімаў, усё новых давалі...»

Сёння вязе апошні сцяг — за лён. А колісь былі ў калгасе і за мяса, і за малако. Нядоўга, праўда, усяго па годзе. Стаялі ў кутку кабінета, загорнутыя ў газеціны, каб не выгаралі, не пыліліся.

У бок муляе пакуначак з бутэрбродамі. Пракоп Герасімавіч нервова тузае за важкаваты каўтляк кішэні чорнага, крыху заношанага ўжо плашча, перацягвае на жывот — усё роўна нязручна, замінае. І без яго агрузламу целу цесна ў адзенні, усе складачкі распрасталіся, запоўніліся. Разбірае злосць на жонку: «Дастатная вельмі... Усунула, паспела! А каб раз у рэстаране паабедаў? Скнарыцы кусок... І што яна будзе рабіць з грашыма? Усё на кніжку тахціць... У горад еду, у людзі, і буду жаваць сухамяціну, як цяля трапкач?»

Чуе Пракоп Герасімавіч нейкі варушлівы неспакой у жываце, быццам трапілі ўжо туды счарсцвелы хлеб і з'ялчалае сала.

На твары выраз пакутніка: «Божа, Божа... Два гады йшчэ да пенсіі... Аж два гады!»

* * *

Варта было Тагальскаму акунуцца ў гаманкі, варухлівы, у клубах папяроснага дыму натоўп на прыступках Дома культуры, прабіцца ў колісь прасторнае, а цяпер наўздзіў зменшанае ад цеснаты фае, куток якога ў пажарным парадку загрувасціў буфетам, заставіў сталамі райспажыўсаюз (пад шклом, як у старасвецкіх памешчыкаў — і смажанае, і паранае, і так кускамі; на сталах — батарэі бутэлек, адкрыты доступ,

не якая-небудзь правінцыя), варта было Тагальскаму распіць з некім напалам бутэльку піва, паручкацца з адным, з другім, кагосьці па-сяброўску таўхануць у плячук, з кімсьці пажартаваць, як уся яго істота напоўнілася бадзёрым і баявым задорам. Ім авалодаў паўсвяточны, крыху нервовы настрой.

Знарок даўжэй затрымаўся каля сакратаркі Зіначкі, нібыта жартам, але ўсур'ёз нагроб жменю алоўкаў з кардоннай скрыначкі, рассоўваў па кішэнях штук пяць блакнотаў (усё роўна ніхто іх не браў). Пацешыўся, бессаромны халасцяк, панаглядаў, як счырванелая дзяўчына залішне доўга адзначала ў паперах, што «Тагальскі прыбыў».

Потым стаў прабірацца паўз сцены, выглядваючы Шычку і заадно акідваючы вокам развешаныя самаробныя плакаты. Па мясе і малаку, па ўсіх культурах «Маяк» ужо быў у першай тройцы, а па льну — на самым першым месцы. На хаду далучыўся да «ініцыятыўнай групы», што падбівала старшынь пасля ўсяго шуму зрабіць набег на рэстаран. Амаль усе «ініцыятары» — такія ж маладыя, як і ён, старшыні, нават адзін аднакурснік з Горацкай акадэміі — круглавіды, у маленькіх акулярах маўклівы Міша Супрон. Іх, як і Тагальскага, падсадзілі гадоў два-тры назад у перспектыўныя калгасы. Яны, як і ён, не былі палахлівымі стрыгунамі, перажывалі другі этап старшынёўства, калі ўсё ішло на лад, усё ўдавалася, калі паявілася нават залішняя самаўпэўненасць. Яны і тут, на нарадзе, пахаджвалі і стаялі незалежна, курылі самавіта, з ганарком, першымі совалі рукі старым і заслужаным старшыням, дружна рагаталі з дасціпных і недасціпных жартаў, падколвалі адзін аднаго.

Некаторыя з іх збіраліся таксама выступаць. Тагальскі трохі пастаяў, павыскаляўся з імі, а потым пайшоў шукаць Шычку. Нечага ж той намерваўся ўчора заязджаць, штосьці гаварыць яму...

Зайшоў у адны дзверы залы, пастаяў, перабіраючы вачыма напалову запоўненыя рады. Зайшоў, пастаяў у другіх... Роўны гул-гамана, як і ў фае. Дрэмлюць тры дзядзькі-брыгадзіры, усе трое — у цёплых, з шэрага самаробнага сукна штанах... Нейкі вусач з акулярамі на зморшчаным лобе дзівіцца ў кавалак газеты... Каля акна чародка дзяўчат-ільнаводак спрабуе галасы, мусіць, тое звяно, што заўсёды выступае на канцэртах. А вось і цёткі-звеннявыя з Пракопавага калгаса: Тагальскі пазнаў іх, прывозілі неяк старых правяраць ход спаборніцтва... Паспелі ўжо купіць крушоны, па чарзе частуюцца з адной бутэлькі, падцінаюць ад смакаты вусны. Схіліўся да іх, пракрычаў:

— Дзе «бацьку» падзелі?

Адказалі ветліва, ахвотна:

— Бог яго ведае! Як панёс на сцэну пераходны сцяг, дык і няма...

З «Маяка» льнаводкі і брыгадзіры занялі два няпоўныя рады адразу за аркестрам («Дзівакі, паглохнуць!»). Яны замахалі Тагальскаму рукамі, паказваючы на месца, маўляў, трымаюць для яго. Кіўнуў ім — «Прыйду, прыйду!» — і азірнуў сцэну. На ўсю шырыню яе стаяў доўгі, засланы чырвоным стол, за ім некалькі радоў крэслаў для вялікага прэзідыума. Тылавая сцяна сцэны закрыта карычневым занавесам, на ім — вялікі круглы партрэт Леніна. За тым занавесам хтосьці ўвесь час ходзіць сюд-туд, і па матэрыі перакатваюцца рудыя хвалі.

Не было Шычкі і за кулісамі, куды Тагальскі зазірнуў, прайшоўшы зноў праз файе і пакой пры сцэне. Давялося раскланяцца з начальствам — сакратарамі райкома, старшынёй райвыканкома, начальнікам вытворчага ўпраўлення і інструктарам абкома. Тыя аб нечым рахаваліся каля піяніна. За імі, з другога боку сцэны, стаялі крэслы з горкамі цэлафанавых бліскучых пакетаў — «прэмій». Ля іх завіхаліся са спісамі ў руках інструктары райкома.

— Ты ж, Іван Паўлавіч, далёка не заходзь, у прэзідыум пойдзеш, — *другі* сакратар, прыгожы, чарнявы, у чорным з іголачкі касцюме спаважна спусціўся да яго. Усміхнуўся ён Тагальскаму вельмі ветліва, а позірк вачэй быў насцярожаны, вычакальны. — Цябе можна зараней віншаваць са сцягам... — пацiснуў Тагальскаму руку падкрэслена моцна, як блізкі сябра, не адпускаючы, пацягнуў старшыню да акна, пад вялізны фікус. — ЦСУ сёння зводку ў райком прадставіла, у графе «Пасеяна» — прочаркі. Радуецца першы, Валянцін Пятровіч: «Добра, што не сеялі»! Бо і праўда, магла якога тарапугу пагода паддурыць, падклаў бы райкому свінню. Нябось, і не заікнуцца зараз, верна?.. У цябе ёсць запалкі? Нешта мая машына не паліць... — сакратар укінуў у рот цыгарэту, моцна сціснуў губамі, нібы хацеў раздушыць яе, папстрыкаў для прыліку запальнічкай.

Іван Паўлавіч запаліў сярнічку, паднёс прыкурыць. Потым доўга дзьмуў на яе, хаваючы ад *другога* вочы, глядзеў па баках, куды б дзець, і засунуў назад у карабок. «Вось як ты ўжо заспяваў, «камсамолец»... Затрэсліся лыткі...

— Ты сёння абавязкова выступі, раскажы пра вопыт атрымання высокіх ураджаяў ільну, агратэхнікай усё абаснуй. Многія пагарджаюць агратэхнікай. Я цябе ўключу ў спісак «араццеляў». Не бойся, трэцім ці чацвёртым! — прыязна памахаў Тагальскаму цыгарэтаю, пабраўся зноў на сцэну.

«Нават падказвае, пра што гаварыць... І згоды не пытае...»

Тагальскі ўтаропіўся ў акно, закурыў і сам. На душы было каламутна, думкі разбягаліся. На Шычку зусім забыўся.

З залы тугімі хвалямі вырываўся вальс «Бярозка». Потым прарэзліва зазвінеў званок, запрашаючы ўдзельнікаў нарады заняць месца. Усе гукі змяшаліся ў невыносную какафонію...

* * *

Пракоп Герасімавіч за гэты час пабываў у аптэцы, купіў кроплі Зяленіна (сказалі, што яны «ад сэрца») і зараз шпацыраваў па вуліцы, чакаючы, калі схаваецца апошні чалавек з прыступак Дома культуры. Калі ганак апусцеў, схадзіў яшчэ ў самы дальні куток двара. Вяртаўся адтуль спакваля, старанна абіваў з ног ліпкі снег.

Перад дзвярыма фае спыніўся, цмокнуў з бутэлечкі лякарства, пабулькаў у роце, каб быў пах, і, гідліва зморшчыўшыся, выплюнуў. Зрабіў пакутніцкі выгляд твару, зайшоў у сярэдзіну. Нікога...

Пакіраваў да дзвярэй залы.

* * *

Сядзеў Тагальскі скраечку, у трэцім радзе прэзідыума. З вышыні сцэны ўсё відаць было, як на талерцы. Бачыў: зайшоў Шычка, яшчэ ў дзвярах угнуўся, стаў прабірацца да сваіх цётак-звеннявых. Бачыў:

нешта шэпча жанчынам, балюча крывячы твар і паказваючы на грудзі. Потым Пракоп Герасімавіч як утаропіўся на дакладчыка, дык і не змаргнуў, позірк яго не ўдавалася ўлавіць.

Трыбуна стаяла з процілеглага ад Тагальскага боку і была крыху ссунута ўперад, да краю сцэны. Твар дакладчыка можна разглядаць у профіль. *Другі* чытаў пра вынікі спаборніцтва льнаводаў выразна, артыкулюючы губамі так, нібы рабіў імі гімнастыку ці абвяшчаў загад вышэйшага камандавання перад атакай.

Тагальскі не ўслухоўваўся ў той даклад. «Няўжо ніхто не бачыць яго фанфаронства? Пустога, чванлівага фанфаронства... І дзе ён, у каго набраўся гэтых «мухаў», гэтай пыхі, калі паспеў? Здаецца ж, у камсамоле гэтаму не вучаць... Ды тады, як быў першым сакратаром райкома камсамола, прасцейшым здаваўся...»

Івану Паўлавічу робіцца і сорамна, і жаллівасць разбірае, нібы бачыць неразумнае дзіця-калеку.

Першы рад прэзідыума, здаецца, таксама дакладчыка не слухае. Валянцін Пятровіч старанна разбіраецца ў паперах, рыхтуецца, мусіць, выступаць. Начальнік вытворчага ўпраўлення часта схіляецца да яго, нешта тлумачыць у гэтых паперах, выпростваецца і зноў уважліва глядзіць у залу. Старшыня райвыканкома з інструктарам абкома ўвесь час перашэптваюцца. Крайнія злева, якраз перад Тагальскім, сядзяць дзве жанчыны: адна — старшыня калгаса, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, другая — звеннявая-льнаводка, гераіня. Сядзяць чынна, нібы перад фотаапаратам.

Шычка так і не зірнуў яму ў вочы, як ні стараўся Тагальскі прыгіпнатызаваць яго позіркам.

*Другі* скончыў чытаць даклад хутка. Нядоўга выступала, «завярала», і звеннявая-гераіня, якую першай паклікалі да трыбуны. А затым нечакана назвалі яго...

Так і стаў за трыбуну, не сабраўшыся з думкамі, не рашыўшы толкам, пра што гаварыць. Неяк адразу павяло-паехала наперакасяк, зацягло ў нетры агратэхнікі. Потым падрабязна пераказваў свой вопыт вырошчвання льну. Яму пляскалі ў далоні нават больш, чым гераіні. Асабліва гучна бухаў, нібы дырыжыраваў залай, *другі*.

Ужо на месцы спахапіўся, што так нічога і не сказаў пра вясну і сяўбу. Памкнуўся быў зноў за трыбуну, але на яе ўзлёг ужо трэці прамоўца — той вусач з акулярамі на лбе.

«Віншую, таварыш Тагальскі... — зашаптаў сам сабе Іван Паўлавіч. — Здорава ўрэзаў! Моцна выступіў! Круціўся «камсамолец», як падсмалены...»

Патузаў за каўнер, расслабляючы. Зірнуў у залу і нібы спатыкнуўся: Шычка, прыплюшчыўшы вочы, — мо хаваў усмешку? — глядзеў на яго. Барада — на далонях рук, на спінцы пярэдняга крэсла.

Заляпаў Тагальскі па кішэнях, нібы шукаў курэцкія прылады, ссунуўшыся з крэсла, угнуўся (мільганула: «Як Шычка, заходзячы ў залу...»), шмыгнуў за кулісы.

Зацягваўся дымам глыбока, да галавакружэння, мераў пакой пры сцэне з кутка ў куток.

«Не тая аўдыторыя... От каб адны камуністы былі ці адны старшыні... Тады дарэчы было б і па «камсамольцу» прайсціся...» спрабаваў ён знайсці сабе апраўданне.

Выдыхаў дым зацяжна, дарэшты, нібы хацеў выдыхнуць, выскрабці тое мярзоцце, якое, адчуваў, абляпала ўсю душу.

«Усё!.. Цяпер ужо пройдзе нарада «на ўзроўні»... Паплешчам у ладкі: ах, якія мы ўсе ўдарнікі, ах, якія, харошыя... і раз'едземся... А за акном мо ў калена снегу, і зерне пад снегам... Праца людская пахавана, пот...»

Тым часам у зале нешта змянілася. Адчуў гэта Тагальскі па тым, як жыва рэагаваў народ: і рагаталі, і апладзіравалі, перабіваючы прамоўцу, і нешта выкрыквалі ўхвальна. Не ўтрываў, падняўся на сцэну, прыстояў за кулісамі, дакурваючы. Выступаў усё той жа высокі вусач — брыгадзір аднаго калгаса. Крыў, не зважаючы па прастаце душэўнай, ні на кога, — і аграномаў-гастралёраў з вытворчага ўпраўлення, і райкомаўцаў. Прапаноўваў «камсамольцу» пайсці да яго ў брыгаду звеннявым, каб уведаць хоць, што булкі не на вярбе растуць (зноў, успышкамі, смех).

Усе з прэзідыума павярнуліся да дзядзькі, як да магніта, відаць былі Тагальскаму толькі патыліцы. Адзін карак, *другога* — гладзенькі, хоць бы дзе маршчынка, у беласнежным нейлонавым каўняры — паволі наліваўся барвовасцю...

І яшчэ выступалі — па спіску і без спіска — бойка, па-дзелавому, людзей нібы падмянілі. Здзівіў і «ачкарык», аднакурснік з акадэміі. Ці-хоня-ціхоня, а наўскідаў «камсамольцу», як панесці...

* * *

— Будзьце так ласкавы, станьце побач, пастаўце сцягі каля сябе — адзін справа, другі — злева... Увага!

Фатограф раённай газеты, «малады, ды ранні», муштраваў Тагальскага і яшчэ аднаго старшыню, як хацеў. То паварочваў іх тварам да акна, то ставіў так, каб святло падала збоку, то рабіў фонам фікус, і ўсё шчоўкаў, шчоўкаў...

— А цяпер адной рукой прытрымлівайце сцягі за дрэўкі, а другой распінайце палотнішчы... Э-э, не пайдзёць... Самі сябе ад чытача загарадзілі, толькі галовы відаць... Тады, будзьце ласкавыя, так: хай сцягі стаяць каля вас, як і стаялі, толькі прытрымлівайце іх за дрэўкі не тымі рукамі, ля якіх сцягі, а другімі... У арміі служылі? Ну, як «на караул» хочаце ўзяць... А тымі рукамі, што каля сцягоў, адводзьце палотнішчы ў бакі. Распінайце, распінайце, не хавайце такую прыгажосць!

Тагальскі выконваў каманды механічна, абыякавы да ўсяго, спустошаны, пакручваўся з дурнаватым выглядам, «распінаў». У яго не хапала сілы праперці карэспандэнта. Нібы самога сёння распялі, як на крыжы, далі ўрок сумлення — цяжкі і — на ўсё жыццё.

А ў зале працягвалася ўрачыстасць. Праз роўныя прамежкі часу аркестр выдаваў грамавую порцыю туша — ажно шыбы звінелі.

Ільнаводам уручалі «прэміроўкі»...







**ІЗЯСЛАЎ КАТЛЯРОЎ**

# ПРАСВЯТЛЕННЕ

* * *

Асенняя закончанасць абрысаў
усё прасцей для розуму відна...
І свет рэальным стаў здаля і зблізу,
як на гравюры, ў раміне акна.

Бы ўсе вятры пацíхлі за палямі,
бы воблакі ўжо набылі спакой...
І кроны кронамі, дамы дамамі, —
ўсё стала ў рэшце рэшт самім сабой.

Не трэба свет прымаць адно як зваду.
Сівыя кроны свецяцца наскрозь.
І аніякага ужо разладу
між тым, што бачыш, і між тым, што ёсць.

* * *

Гэта святло ці водбліск, —
не разабраць ані.
Дзесьці далёка ў полі
шолахі папаўзлі.

Цеменню акружае,
і ад ракі — цяпло...
Як жа ваколле ззяе, —
нат і ў душы — святло!

Толькі ёй на патрэбу
ў гэткім спяваць святле,
што на зямлю і небу
ўпасці ўсё не дае.

* * *

Я тварам як бы павярнуўся
да месяца ў мутным акне...
Хіснуўся і раптам прачнуўся,
рабіць што не знаючы ў сне.

Наяве ўжо чуў, а не ў сненні,
трывожнае сэрцабіццё.
Якіясьці зыбкія цені
сабой паўтаралі лісцё.

І ціш не была болей гнётам,
і слуп ад напругі гудзеў.
І доўга, абліты святлом тым,
я ў жоўтае неба глядзеў.

Быў позірк туды, як дарога.
І там (пра што, можа, і знаў),
сумлення апроч, ужо Бога
я іншага не адчуваў.

* * *

Увесь аблашчаны ранішнім шумам,
першым промнем, што лёг на шчацэ,
ні аб чым яшчэ я не падумаў
і нікога не ўспомніў яшчэ.

Аніштo не баліць і не мучыць —
не ляжу, а лунаю нібы
там, дзе з промняў пад вецер пявучы
вырастае зара без журбы.

Усё дарую ўсім і блаславяю
на жыццё ў гэтым ясным святле...
Усё, што знаў — анічога не знаю, —
ўзросту нават няма у мяне.

Вераб'ёў зноўку хвацкая сварка.
Вецер блікі хавае ў траву...
Я прачнуўся і раптам заплакаў —
проста так, — што на свеце жыву.

* * *

Шчэ снегам ледзь прыхарашыла
дарогу мёрзлую і гаць,
а ўсё, што болей не дзівіла,
ужо як быццам не пазнаць.

Лёд роўны з прыбярэжным лугам,
дзе пышна-белыя стагі,
дзе рэчка срэбраным паўкругам
павыгінала берагі.

Вакол пухнатыя бярозкі...
Прасторней стала і святлей,
дымок над комінамі вёскі
сягоння ўецца нейк бялей.

І з лёсам зноў надзея ў згодзе
на нейкі поспех ды на ўсцех...
Калі ж і здарылася штосьці,
дык тое мо, што выпаў снег.

* * *

Сонца, сонейка, скажы,
і чаму, змарнеўшы ў болях,
не дазнаўся я, дзе доля,
а дзе мараў міражы?

І чаму ў тваім святле,
асляпляючыся ззяннем,
быць я не згублю жадання
шчаслівейшым за сябе?

Тут, на трапяткой зямлі,
дзе ільды, бы ізумруды,
ў нараджэння дзень у лютым,
у канцы зімы...

* * *

Не так бы трэба век пражыць,
калі ніякім чынам
яшчэ не смею гаварыць
я ад імя Айчыны.

Ізноў граковы гул вясны,
вада за берагамі...
І спасціжэнне ўсёй віны
перад сабой і вамі.

Ды гэта поле ў збажыне,
ды гэтыя вось травы
бы й сапраўды ўжо з-за мяне
сваёй не знаюць славы.

* * *

Цячэ па шкле вада нібы з іржой.
Успомніў раптам, як з табой мы летам...
Калі я зараз не скажу, то ўжо
ніколі, мабыць, не скажу аб гэтым.

Ёсць словы трапяткога хараства,
ды гаварыць упершыню іх позна.
Але ж і Мінск, і Гомель, і Масква —
яны засведчаць тое святланосна.

Я жыў — то запавольваў, то спяшаў,
усякае ўва мне, са мной бывала,
але вось так ніколі шчэ душа
ў другой душы сябе не пазнавала.

* * *

Я сплю — свядомасці няма —
і памяць прападае,
ды адчуваю — дух святла
мяне суправаджае.

Сярод бязмернай цемнаты
яшчэ няма здагаду,
што так пяшчотна лашчыш ты
мяне сваім паглядам.

У розум і ў душу ён мкне —
адзінае зямное,
што не дае дрымучай цьме
самкнуцца нада мною.

* * *

Я жыць пачаў, калі сустрэў цябе я, —
ізноў, ізноў падказвае завея
у лютым, падступаючы здаля...
Ізноў зімой становіцца зямля.

Ты пад маім удзячна-думным зрокам
заўсёды побач, хоць парой далёка.
Я не самотны нават і адзін, —
ні сівізны не страшна, ні маршчын.

Так, толькі ты ўсёй сутнасцю зямною
дапамагаеш быць сягоння мною...
Надзею вось на поспех зноў святлом
снег чыста праясняе за акном.

Мігаючы, калышацца, іскрыцца...
Само сябе сумленне і баіцца.
Я так цяпер табе ды снегу рад!
Зноў паміж намі толькі снегапад.

Захоплена слязамі пазіраю,
дыханнем словы шчасця напаўняю...
А без цябе ну што, скажы, я мог?
Напэўна, і мяне ўсё ж любіць Бог.

## МАЛІТВА Ў АДКАЗ

А ці чуеш Ты, о мой Гасподзь,
лепшае сваё стварэнне хоць?!
Вось яна ізноў загаварыла, —
цела — у душуператварыла.
Словы малітоўныя — зямныя,
толькі слёзы у яе — святыя.
Памажы ёй у яе журбе,
хоць яна й не просіць аб сабе.
Памажы і нам ну хоць бы ў нечым,
каб жыццё ў яе было лягчэйшым.
Ты даруй, што я грублю Табе, —
я кахаю й грэшную яе.
Ты даруй, што ўжо яе, святую,
можа быць, і да Цябе раўную.
Сярод зла жывём, як і жылі,
думаем аб бульбе і аб хлебе...
Ды не разлучай нас на зямлі,
калі ласка, а пасля — і ў небе.
Памажы, Гасподзь, у гэты час
той, якая моліцца за нас!

* * *

Воля Твая і няволя мая,
думаў, раз поруч, то ладу не выйдзе.
Ды, ўжо нічога не просячы, я
зрокам ізноў патанаю ў блакіце.

Буду праз высь на зямлю я глядзець...
Госпадзі, як Ты прыдумаў такое,
каб скрозь адна непазбежная смерць
людзям прыносіла стан супакою?!

Воля Твая і няволя мая...

* * *

Я ворагу «дзякуй» скажу,
а сябру — яшчэ не магу.

Так яра той шчырым быў,
а сябра — не раз хлусіў.

За хібы мяне ўзвышаў,
а вораг — не дараваў.

Іх тыцкаў у вочы мне, —
маланка так люта б'е.

Каб бачыў, што лепшым стаў,
а сябра на тое злаваў...

Я ворагу «дзякуй» скажу,
а сябру — яшчэ не магу.

* * *

Зноў душу хавае, тоіць,
а запомніць бы пара:
за дабро дабром не плоцяць,
за дабро не жджы дабра.

Моўчкі дурнем абзывае
сам сябе — о, небарак!
Ўслых кагосьці выкрывае:
«Я ж хацеў... Чаму вы так?»

Суцяшаць яго не смейце, —
хай злуе, у дол глядзіць,
хай на лаўцы, там, дзе вецер,
ён свой боль перасядзіць.

Зразумее хай як трэба:
добрым быць ён і не ўмеў...
Ад людзей, зямлі і неба
за дабро дабра хацеў.

* * *

Раптам дойдзе: ні ахаць, ні охаць
над сабою не варта ў журбе...
Міласэрная гэтая жорсткасць
хай паможа самому табе.
У збаўленні ад вечнага страху
ў прэрву неба зноў глянуць наўгад,
дзе ляціць асцярожная птаха
ды праз твой невясёлы пагляд.
Бачыць сонца і ў лужы, і ў небе,
ціш асуджана слухаць умець...
Жыць, сябе разумеючы меней,
каб найболей другіх разумець.

* * *

Баюся слоў, — яны не спасцігаюць
ні горычы, ні роспачы маёй,
ні сінявы, якая шчыра ззяе
і так душу трывожна абдымае,
як у апошняе расстанне з ёй.

Баюся слоў... Хачу прызнацца ў гэтым
перш, чым хіба мо рэхам будзе спеў:
Радзіму, што мне стала вышнім светам,
і я ж любіў не менш за ўсіх паэтаў,
але сказаць як трэба не сумеў.

## ПРАСВЯТЛЕННЕ

А любоў толькі гэта не зманіць —
лугу веру і сонцу ў тумане,
ды стагам між панурых палёў.
Той бярозцы на голым кургане
болей веру, чым яркасці слоў.

Ціха досвітак новы святлее.
Пахаджу — і душы палягчэе.
Ясна выступяць зноў берагі.
Усё, што свет засланяла, — сатлее:
будуць рэкі, лясы і лугі.

***Пераклад з рускай Соф'і Шах.***

# ВАДЗІМ БАРЫСАЎ

## БЕЛАРУСІ

Збажына у гонях —
Акіян бясконцы.
У рачных сутоннях
Выспявае сонца...
На лясных пагорках —
Пах смалы сасновай...
Ты — мая Апора,
Ты — мая Аснова.
...Ў белае хусцінцы,
Ў простых завушніцах —
Не чакала прынца
На сваіх дзядзінцах.
Ды папёрлі ў «сваты»
Акупантаў орды —
Францы і Ахматы,
Фрыцы і Аскольды:
«Жаніхі» йшлі валам...
Кожнага чын чынам —
Куля цалавала,
Лашчыла дубіна!
Вунь лягло іх колькі
Ля твайго парога...
Ты паклоны толькі
Адбівала Богу.
Ён тваю агорваў
Злыбеду і гора —
Быў — тваёй Асновай,
Быў — тваёй Апорай...
А ты ўсё хацела
Жыць сям'ёй братэрскай,

Каб адным надзелам —
Ад Масквы да Менска.
Тут знайшлося месца
Й мне, з Урала хлопцу...
Хай жа песня льецца
Пад крывіцкім сонцам!
У адной радзіне —
Нам бяда не гора,
У адной Радзіме —
Вораг нам не вораг:
Я — Твая апора,
Ты — мая Аснова!
...На лясных пагорках
П'яны пах сасновы.

## МОСКАЎ-СІЦІ

Крымскі мост
плыве ў Замаскварэчча
вузкай вулкай
пасярод садоў.
Храм Хрыста
ўваскрос:
заве на веча
дзеля даравання ўсіх
грахоў...

Не знайду
маленства хаты з флігелем...
Падпірае хмары хмарачос.
Як лісток
для Москаў-сіці фігавы —
фігу б тут яму,
хвіндос — пад нос!..

Бач, рэклама:
прадаюцца акцыі...
Аддаюць
амаль што задарма...
Слых аб'еглі
мовы розных нацыяў...
Толькі мовы Пушкіна
няма.

Москаў-сіці,
як рака раздольная,
у старэнькіх шлюзах —
не ўтрымаць!..
Дык якою для Расіі
доляю
станецца Масквы такая масць?

А пакуль я вохкаю і ахаю,
ў нератах чужых
трымцяць язі —
з чэрава ракі,
расійскай матухны,
дзе яшчэ рыбачылі
князі...

Ці не там
тапілі сілу сілаю?..
Ці не там
крывавіла
вада?..
Ці не там нашчадкам волю
вылавіў
слаўны князь маскоўскі —
Каліта?..

Москаў-сіці ...
Што ж, скаруся мацеры —
не аднойчы гэткае было.
Ды масты між намі развяло —
я ў Замаскварэччы,
як на якары,
бы згубіў ад яліка вясло...

* * *

Таганская. Падземны пераход.
Жабруе, просіць літасці калека...
Масква імчыць у новы век і год,
Эстрадны цешыць публіку бамонд...
Калі ж адсюль ты сыдзеш, недарэка?

Зноў — выбары... Улётак мільгаццё...
І актывіст табе даводзіць кожны:

Мінулы год тваіх пакут — апошні,
А заўтра будзе лепшае жыццё.

Ты толькі голас за таго аддай,
Што на плакаце б'е сябе у грудзі.
Маўляў, ён абяцанняў не забудзе,
Маўляў, ён створыць тут сусветны рай...

Настаў даўно і новы век і дзень —
А ты ўсё тут, у гэтым пераходзе.
Вунь і падманшчык той к табе ідзе,
Ён драбязу ў тваю далонь кладзе.
Ты мыліцаю ўрэж яму па мордзе...

***Пераклад з рускай***
***Алеся Мікалайчанкі.***

## ЦЁТКА ВОЛЯ

Не шукала лепшай долі.
Тая ж хуста ў два крылы...
Не пазнала цётка Воля,
Бо, вядома, — не малы.
Не пазнала...
Хіба ўспомніш:
Колькі нас — гарэз такіх!
У куток зашыўся цёмны —
Без білета!
І прыціх...
— Не падманвай, хлопча, болей.
Бачу: склееены квіток... —
Усміхнецца цётка Воля:
— Ды сядзі ўжо і — маўчок!..
Цётка Воля не ганяла
Хлапчукоў.
І быў я рад:
Маці грошай не давала,
А кіно — пра Сталінград!..
Пабурчыць, а вочы — з ласкай.
І сляза — у іх дрыжыць...
Недзе там
з прабітай каскай
Родны сын яе ляжыць...
І таму, напэўна, цётка
Шкадавала нас заўжды...
Разляталася чародка
Аднагодкаў —
хто куды.
Скалясіўшы мо паўсвету,
Праз дзесятак зім і лет
Я вярнуўся ў горад гэты,

Нібы ў свой дзіцячы свет.
У кіно зайшоў... Міжволі...
Ад кіно адвык зусім...
Бачу: тая ж цётка Воля
На пасту стаіць сваім.
Без падмены.
Пастаянна...
— Колькі можна тут стаяць?
— А хто будзе неслухмяных
Без білета прапускаць?..

***Пераклад з рускай***
***Артура Вольскага.***

## НІ КРЫЖА, НІ СЛАВЫ

***А. Клімовічу***

Застануся я жывым
радавым пяхоты?
Медзь аркестра — слынны гімн
прапяе камроты.

Зорка з неба прамільгне —
ў грудзі зніч трапляе:
ні крыжа, ні славы — мне,
толькі вецер грае!

Войн Айчынных нічыім
не закрэсліць чынам:
Мой Дэсант, і я над ім —
над Афганам мінным...

Пераможны марш грыміць —
сын за бацьку моліць:
з небам сувязная ніць,
а душа мірволіць
там — на полі Бою быць!

***Пераклад з рускай***
***Міхася Стрыгалёва.***





# НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ

## АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

Алесь Дубровіч (Аляксей Рыгоравіч Рэдзька) паходзіць з беднай сялянскай сям'і. Нарадзіўся ў вёсцы Галубічы Дзісненскага павета ў 1910 годзе. Цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці. З маладых гадоў уключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. У 1933 годзе браў удзел у Першым нелегальным з'ездзе пісьменнікаў, які ўтварыў Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі.

У 1934 годзе ў часопісе «Літаратурная старонка», які ў тыя гады з'яўляўся легальным камуністычным выданнем у Вільні, была надрукавана «Дэкларацыя групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі». Тую дэкларацыю падпісаў і А. Рэдзька, за што быў арыштаваны дэфензівай і трапіў у вядомую турму Лукішкі. Пасля судовага працэсу ў 1936 годзе выйшаў на волю, адбыўшы два гады да суда.

Творчасць маладога аўтара не перапынялася і ў вязніцы. Палітычныя вязні выдавалі свой рукапісны часопіс «Краты», дзе змяшчаліся і вершы А. Рэдзькі (пад псеўданімам Макар і Мікіта). А друкавацца паэт пачаў яшчэ ў 1928 годзе ў прагрэсіўнай газеце «Доля працы». Пачынаючы з 1936 года, А. Рэдзька друкуецца пад псеўданімам Алесь Дубровіч у заходнебеларускіх перыядычных выданнях «Беларускі летапіс» і «Калоссе».

Паэт заклікае да барацьбы за вызваленне роднага краю ад уціску. У Вершы «Мы» А. Дубровіч заяўляе:

Мы — скрыўджаных няпраўдай струны,
Адным распалены агнём.
Мы гімн пакуце граем сумны
І славу барацьбе пяём.

Цёпла адзываўся пра верш Алеся Дубровіча Максім Танк, які ў той час працаваў рэдактарам літаратурнага аддзела «Беларускага летапісу».

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР А. Дубровіч працаваў у валасным рабоча-сялянскім камітэце, выбіраўся старшынёй сельсавета. Перад вайной працаваў у Вілейскай раённай газеце, друкаваў на яе старонках вершы, нарысы, карэспандэнцыі. У час вайны вёў падпольную работу ў родных мясцінах на Глыбоччыне. У пачатку ліста-

пада 1942 года разам з групай падпольшчыкаў быў арыштаваны гітлераўскімі акупантамі і расстраляны. У жыцці, як і ў паэзіі, Алесь Дубровіч да апошніх дзён заставаўся змагаром.

*Прадмова і падрыхтоўка тэксту*
*Казіміра Камейшы.*

## ЗОРНЫ КРАЙ

Мне песняй выліць хочацца
Ўвесь жар грудзей маіх.
Наперад!.. Не варочацца,
Хоць шлях калюча-ліх!

За хмарамі, за горамі
Ёсць сінязорны край.
Іду к яму нязморана —
Гэй, сэрца, марш іграй!

Прыпол там, зорак поўны, я
Згарну з той сінявы.
Да вас, прасторы родныя,
Да сцежак палявых

Вярнуся, поўнай жменяю
Сыпну пад стрэхі хат, —
Няхай гараць праменнямі,
Да дня гараць няхай!

*1938 г.*

## КІНУ СВАЕ ДУМЫ

Кіну свае думы жураўліным лётам —
Хай лятуць да сонца, у далёкі край.
Сам пайду і сяду пад лазовым плотам
І пра тое сонца буду ціха граць.

І хоць скасцянеюць пальцы на марозе,
Не пакіну кратаць галасістых струн,
Хай зімой завеі выюць на парозе
Ці ў барах сасновых плачуць, як лясун.

А як пашарэе белы снег пад плотам —
Падкручу ў цымбалах кожную струну
І на ўсіх, залітых ранняй пазалотай,
Я зайграю з ветрам маладым вясну.

І па хатах людзі вечарам лучынным
Пра вясну, пра сонца будуць гаварыць;
Выйдуць на пагоркі з туманоў лагчынных,
Каб вясеннім сонцам грудзі апаліць.

Дык ляціце ж, думы, жураўлíным лётам,
Каб хутчэй сустрэцца з сонцам і з вясной!
Я іграць не кіну пад лазовым плотам,
Рукі не самлеюць, воч не сплюшчу сном!

*1938 г.*

* * *

Пад звон дратоў, сумуючы,
Ідзеш, мой брат, куды?
Дзе кінуў вёску, вуліцу,
Дзіцячыя гады?..

Знаць, птушкай пералётнаю
Ляцеў ты ў край вясны,
Ды шэрымі палотнамі
Апалі туманы

Ў прасторах; а з варожбамі
Хтось шлях твой заараў,
З рукамі зноў парожнімі
Цябе твой край спаткаў?

Ці горш? — глядзіш з трывогаю,
Што шлях яшчэ далёк,
І пад цяжкой знямогаю
Застыў на сцежцы крок?

Ды не! — казаў надоечы:
Не схіліш галавы,
Надзею ў сэрцы тоячы,
Як промень веснавы.

Калі ж і засумуецца —
З чупрыны сум страхнеш
І вёсцы, роднай вуліцы
Зноў аб вясне спяеш!

*1938 г.*





*НАРЫС*

**АЛА КАНАПЕЛЬКА**

# МОЙ ЛЁС У ПОЛЫМІ ВАЙНЫ...

*У снежні 2004 года спаўняецца 25 гадоў, як адбыўся ўвод савецкіх войскаў у Афганістан. Мінула чвэрць стагоддзя, а здаецца, усё гэта было нядаўна. Дваццаць пяць гадоў таму мы ўвайшлі ў Афганістан, а ён — у нашыя дамы і сэрцы. Мы пакінулі Афганістан, а ён застаўся — у нашых сем'ях, сэрцах, укараніўся абеліскамі на могілках. Памяць паслужліва нагадвае: вайну абвяшчаюць старыя, а паміраць ідуць маладыя. Кажуць, смерць тых, хто загінуў на ратным полі ў маладыя гады, адчуваецца тым балючэй, чым даўжэй жывуць іхнія равеснікі. У мяне не хапіла рашучасці гаварыць пра гэта з **Аляксандрам Уладзіміравічам Беляўцовым**, цудоўным і цікавым чалавекам, баявым афіцэрам, з якім нас звёў лёс на жыццёвых пуцявінах. Я таксама не стала распытваць у яго, ці праўда, што для таго, хто ваяваў, вайна ніколі не заканчваецца... Бо так хочацца сказаць і яму, і ўсім, чые лёсы апаленыя войнамі, — мір вашаму дому! І шматпакутнаму афганскаму народу таксама, з якім нас кроўна звязала некалі вайна, а цяпер — агульнае пачуццё незваротных стратаў.*

## Лёс не выбіраюць — ён выбірае нас...

І калі гэта так, дык Аляксандру Беляўцову на раду было напісана стаць ваенным. Ён нарадзіўся ў афіцэрскай сям'і, гадаваўся ў вандроўках па гарнізонных гарадках — на Далёкім Усходзе, Сахаліне. І як усе хлапчукі-аднагодкі, выхоўваўся на кінафільмах пра вайну, а карціну пра суворaўцаў «Пунсовыя пагоны» ведаў на памяць. І калі аднойчы бацька прыйшоў са службы з пытаннем «Хочаш быць суворaўцам?» — адказ «так» прагучаў без ваганняў. Праз шмат гадоў Аляксандр Уладзіміравіч скажа: «Гэта была выпадковая размова, яна ні да чога не абавязвала. Аднак у маім лёсе, як і ў лёсе кожнага чалавека, ёсць вялікая доля выпадковасці...»

Бацька больш не ўмешваўся ў жыццё сына і раіць, куды далей паступаць яму, выпускніку Казанскага суворaўскага вучылішча, у якіх войсках служыць, не стаў. Баявы вопытны афіцэр, які прайшоў Вялікую Айчынную вайну, лічыў: для афіцэра галоўнае — сумленна служыць Радзіме. Сваю службу Беляўцоў-старэйшы закончыў начальнікам штаба ў званні маёра.

Пасля заканчэння Ленінградскага вышэйшага агульнавайсковага каманднага вучылішча лейтэнант Беляўцоў быў размеркаваны ў Групу савецкіх войск у Германіі (ГСВГ). Узвод прыняў прама на палігоне. І пачаліся

баявыя будні. Усё складвалася добра, можна было толькі пазайздросціць, што некаторыя, напэўна, і рабілі, але пры гэтым не ведалі, што лёс падрыхтаваў Беляўцову не ружамі ўсланую дарогу па жыцці, а шлях з незлічонымі выпрабаваннямі, якія патрабавалі ад чалавека вялікіх высілкаў, прафесіяналізму, чалавечнасці і мужнасці. Выспявалі падзеі, у эпіцэнтры якіх неўзабаве яму выпадзе апынуцца.

## Чэхаславакія, год 1968-ы

*Першай ахвярай вайны становіцца праўда.*

Джонсан Хайрам

Гісторыя — аб'ектыўная, а выкладанне гісторыі — суб'ектыўнае; так было і застаецца. І хаця, паводле слоў Фрыдрыха Шлегеля, сусветная гісторыя — гэта сусветны суд, я не хачу аказацца сярод суддзяў: праўдзівы, шчыры расказ чалавека, сведчанне непасрэднага ўдзельніка падзей для мяне больш значныя і каштоўныя...

Ішоў 1968-ы год, Чэхаславакію ад Афганістана аддзяляў не такі і вялікі прамежак часу — крыху больш за дзесяцігоддзе. Паміж падзеямі ў гэтых далёкіх — і геаграфічна, і эканамічна, і палітычна — адна ад аднае краінах існуе шмат агульнага. Ужо чарговы віток спіралі часу дазваляе ўбачыць важныя для разумення гісторыі акалічнасці. І зрабіць высновы, з якіх галоўная: сучасныя войны нараджае барацьба за ўладу ўнутры краіны.

...«Пражскую вясну» змяніла лета, на працягу якога войскі краін Варшаўскага Дагавора двойчы ўваходзілі на тэрыторыю Чэхаславакіі — 22 чэрвеня і ў ноч з 20 на 21 жніўня. Лейтэнант Беляўцоў, на той час намеснік камандзіра роты, быў сярод іх.

— Спачатку праводзіліся буйнамаштабныя вучэнні войскаў краін Варшаўскага Дагавора. Знешне ўсё так і выглядала, аднак гэта было разведванне абстаноўкі. Пакуль ішлі вучэнні, мы былі лепшымі сябрамі, нас сустракалі з кветкамі. Вучэнні закончыліся, трэба вяртацца дамоў. Мы ж заяўляем: неабходна рамантаваць тэхніку, не можам выйсці. Хаця да вучэнняў рыхтаваліся вельмі старанна, спецыялісты з ваенных заводаў праверылі кожную машыну, адрамантавалі кожны вузел. І тут замест вываду войскаў яшчэ ўвялі рамбаты. Нарэшце пачалі рухацца і 6 жніўня — на сапсаванай тэхніцы?! — сваім ходам выйшлі ў Ужгарад, у СССР. Размясціліся ў лясах. Невядомасць, чаканне, і раптам — тэрмінова па эшалонах, дадому, цераз Польшчу ў Германію!

Але да горада Гале, дзе стаяла 27-я мотастралковая дывізія, у якой служыў Беляўцоў, эшалоны не дайшлі: на пад'ездзе да Гале іх павярнулі ў бок чэхаславацкай граніцы. Высадзіліся ў лесе. Тыя ж чаканне і невядомасць. Але ўсе разумелі: нешта наспявае. І ў ноч з 20 на 21 жніўня нашы войскі зноў перасяклі чэхаславацкую мяжу.

На касках, на тэхніцы ў войскаў, якія ўваходзілі ў Чэхаславакію, былі нанесены белаю фарбай палосы шырынёю 10 см. Гэта было зроблена дзеля таго, каб адрозніць нашы войскі ад чэхаславацкіх, бо форма і тэхніка ў арміі краін Варшаўскага Дагавора былі, бадай, аднолькавыя. Падчас штурму палаца Аміна, у Афганістане, у нашых таксама былі белыя апазнавальныя палосы на адзенні.

Жменька салдат на пагранзаставе супрацьстаяць калонам тэхнікі, вядома, не магла. Усе шлагбаумы былі пазбіваныя. Міністр абароны Чэхаславакіі Слабадан, напэўна, ведаў раней пра ўвод войск, ён аддаў загад аб несупраціўленні. Пазней Слабадана абвінавачвалі ў здрадзе. Але яго рашэнне было мудрае і адзіна правільнае: акрамя кровапраліцця, супраціўленне нічо-

га б не дало. Паўстаць на шляху той ваеннай лавіны, што ўваходзіла ў Чэхаславакію, было раўназначна самагубству.

Пра сутнасць тагачасных чэхаславацкіх падзей палкоўнік у адстаўцы Беляўцоў выказваецца адназначна:

— Ішла звычайная барацьба за ўладу. Яна і стала прычынай уводу войскаў. Як ваенны я дакладна ведаю, што быў прапрацаваны ўвод у Чэхаславакію войскаў НАТО з тэрыторыі ФРГ. І калі б не ўвайшлі войскі краін Варшаўскага Дагавора, членам якога Чэхаславакія з'яўлялася, дык там была б натаўская армія — з усімі наступствамі гэтай палітычнай і ваеннай авантуры. Імкненне калабарантаў змясціць урад, прыйсці самім да ўлады было аплачана жыццямі людзей і пралітай крывёю.

Аднак факт уводу войскаў краін Варшаўскага Дагавора, на думку ўдзельніка тагачасных падзей, прадухіліў яшчэ большыя ахвяры і магчымую сапраўдную трагедыю — чарговую вайну ў цэнтры Еўропы. І не ўсё ў Чэхаславакіі было тады гэтак, як стараюцца намаляваць, падаць сучасныя палітыкі. Так, былі і абразы, і знак роўнасці паміж зоркай і свастыкай, і акупантамі нас называлі — сведчыць Аляксандр Уладзіміравіч. Але разам з тым да «савецкіх прыгнятальнікаў», якія жылі ў халодную восень у палатках у лесе, вольна прыходзілі і чэхі, і славакі. Яны казалі: «Клопату, чорт з вамі, вы акупанты, і мы не ўхваляем, што вы да нас прыйшлі, аднак мы з вамі свае, славяне — неяк дамовімся, разбярэмся. Навошта ж вы немцаў з сабою прывялі?» На тлумачэнне Беляўцова, што гэта «добрыя немцы, не фашысты», яму адказвалі: «Мы прызнаём адных немцаў — тых, што на два метры пад зямлёю». І яшчэ адну акалічнасць падкрэслівае мой суразмоўца:

— Славакі былі ўшчэмленыя чэхамі, я сам гэта назіраў. Але чамусьці больш моцнае ўзброенае супраціўленне ў некаторых мясцінах аказалі не чэхі, а менавіта славакі.

...Пасля Чэхаславакіі Беляўцоў зноў у ГСВГ. Узнагароджаны Ганаровым значком ВЛКСМ і ганаровай граматай міністра абароны СССР як удзельнік падзей у Чэхаславакіі.

## У пясках Туркменістана

*Далей Кушкі не пашлюць,*
*Менш узводу не дадуць...*

З афіцэрскага фальклору.

Кушка — паўднёвая кропка Савецкага Саюза. І былой Расійскай імперыі — таксама. Тут і сёння на тэрыторыі вайсковай часці стаіць сімвалічны «паўднёвы крыж Раманавых»: такія крыжы былі ўстаноўлены на самых крайніх памежных рубяжах Расійскай імперыі — на поўначы, усходзе, захадзе і поўдні. Захаваўся да нашых дзён толькі паўднёвы, у Кушцы. На ім, расказваюць, быў пакінуты адным з афіцэраў царскай арміі аўтограф: «Паручык Іваноў. Сасланы на Кушку на тры гады за вальнадумства». Ніжэй рукою савецкага афіцэра быў таксама зроблены надпіс: «Лейтэнант Іваноў. Сасланы на Кушку за што і наколькі — не ведаю...»

Калі Кушка — самая паўднёвая кропка Саюза, дык Тэрмез — самая гарачая. Сюды і патрапіў пасля Германіі Беляўцоў. Пяскі Каракумаў Аляксандр Уладзіміравіч ведае не з чужых слоў. Казанджык — «кацёл вятроў», Кізыл-Арват, куды служыць накіроўвалі або ў пакаранне, або на павышэнне... У час грамадзянскай вайны менавіта сюды, у недаступныя мясціны, сыходзілі басмачы. Саманныя, глінабітныя дамы, у якіх жылі нашы афіцэры, былі пабудаваныя яшчэ пры Будзённым. У былых канюшнях месціўся клуб, даволі прыстойны. Служыць у пясках доўга — немагчыма. Аляксандр Уладзіміравіч праслужыў у Туркестанскай ваеннай акрузе 15 гадоў. Дарэчы,

тут сустрэў і сваю каханую, якая пасля стала ягонай жонкай і вернай сяброўкай па жыцці. А тады Валянціна Іванаўна, у дзявоцтве Раманава, прыехала з далёкага беларускага Крычава да сваёй цёткі ў Тэрмез вучыцца.

Закінутыя, здавалася б, забытыя Богам мясціны, у 70—80-я гады прыцягнулі да сябе ўвагу ўсяго свету. З Тэрмеза ўваходзілі савецкія войскі ў Афганістан, а праз 10 гадоў тут жа, на мосце цераз Сухан-Дар'ю, тэлекамеры паказвалі вывад нашых войск. Шмат напісана і расказана пра гэта, але тыя падзеі і сёння працягваюць трывожыць сэрцы і памяць. Што ж, калі планы вайны выспявалі ў галовах палітычных дзеячаў у фешэнебельных апартаментах, дык першыя рухі вайны зараджаліся ў пясках Туркменістана. А афіцэрская прымаўка «далей Кушкі не пашлюць, менш узводу не дадуць» атрымала працяг: «...нас усё-такі надулі — апынуліся ў Кабуле».

— Туркестанская ваенная акруга скіравана на рэгіён Іран — Афганістан — Пакістан і далей, у бок Індыйскага акіяна. Калі пачалі адмабілізоўваць войскі, я разумеў, да чаго справа, — расказвае Беляўцоў, які на той час служыў у штабе акругі. — Што значыць адмабілізаваць дывізію ў 15—17 тысяч чалавек? Гэта азначае агаліць народную гаспадарку данага рэгіёна. Мяне накіравалі ў Тэрмез, бо я раней там служыў і выдатна ведаў абстаноўку, мясцовасць. Снежань. Зіма як на заказ: снегу няма, але вельмі сырое надвор'е, і вецер «афганец» працінае так, што пры плюсавой тэмпературы марозіць. У Кушцы стаяла 5-я матастралковая дывізія, у Тэрмезе — 108-я. Войскі ўваходзілі ў Афганістан дзвюма групамі — з Кушкі і з Тэрмеза. Але маё прадчуванне да апошняга моманту падказвала: уводу войскаў не будзе — паходзяць уздоўж мяжы, пабразгаюць зброяю, пашумяць, прадэманструюць ваенную моц...

Што ж, у першы дзень вайны і ў першы дзень міру мы яшчэ не верым, што гэта праўда.

## На тым беразе́ Сухан-Дар'і...

*Вайна складаецца з непрадбачаных падзей.*
Напалеон I

«Афганскія рэвалюцыйныя сілы ў ноч на 27 снежня звергла рэжым Аміна. Савецкія войскі падтрымалі рэвалюцыянераў...» — прыкладна гэта мы пачулі ў пераднавагоднія дні 1979 года. Гэтая навіна пракацілася па студэнцкай аўдыторыі, але трывожным рэхам яшчэ не адгукнулася ў маім сэрцы. Па-першае, дзе той Афганістан, і, па-другое, што значыць — «падтрымалі рэвалюцыянераў»? У разгары была экзаменацыйная сесія, і яна куды мацней непакоіла, чым савецкая падтрымка афганскіх рэвалюцыянераў. Аднак неўзабаве адна з маіх аднакурсніц праз слёзы паведаміла, што яе брат у складзе Віцебскай штурмавой дэсантнай дывізіі адпраўлены ў Афганістан, а там вайна... І вось праз шмат гадоў з вуснаў чалавека, які адным з першых у складзе «савецкага абмежаванага ваеннага кантынгента» ступіў на тэрыторыю Афганістана, я пачула праўдзівы расказ, як тое адбывалася. Расказвае Аляксандр Беляўцоў:

— Я перасёк мяжу і ўвайшоў у Афганістан у ноч з 25 на 26 снежня. Тэрмезскага моста яшчэ не было, праз Сухан-Дар'ю перапраўляліся па пантонах. Рака шырокая і каварная, хуткасць плыні 7 метраў у секунду. І каб на такой імклівай вадзе навесці мост, патрэбна быць асамі. Такога пантоннамаставога палка ў Турестанскай ваеннай акрузе, вядома, не было. Прыехалі спецыялісты з Кіева. Я памятаю, раней жартавалі з сапёраў: вы як будзеце класці пантоны — уздоўж ракі або праз раку? Дык вось, я на свае вочы бачыў, як пантонны мост робіцца ўздоўж берага. Калі ж пантоны былі сабраныя, катэрамі мост завялі праз раку. Але пясчаныя берагі не давалі магчымасці яго замацаваць. Пачалі ў спешцы вазіць будаўнічыя блокі. Усё гэта

трэба было зрабіць хутка і непрыкметна. З грашыма і сродкамі не лічыліся. Я пераходзіў гэты мост. Ноч, поўная цемра. Мост пад напорам плыні выгнуты ў дугу. Вада ў кожны момант магла яго сарваць. Некалькі катэраў падперлі яго і працавалі на поўную моц, каб утрымаць, пакуль ішлі людзі і тэхніка.

За Сухан-Дар'ёю пачынаўся Афганістан. Хайратон — першы афганскі гарадок на шляху нашай арміі. Усіх моцна ўразіла, у якой вялікай беднасці жылі ў бліжэйшых кішлаках людзі. Дарослае насельніцтва трымалася ўбаку, але дзеці паўсюль на зямлі аднолькава цікаўныя і адкрытыя. Яны падыходзілі да савецкіх вайскоўцаў, спрабавалі размаўляць, аб нечым прасілі. Салдаты-рэзервісты, у якіх дома засталіся шматдзетныя сем'і, са слязамі на вачах назіралі, як некаторыя афганскія хлапчукі, калі іх частавалі, нават не ведалі, што такое цукар і што з ім рабіць. Не ў аднаго Беляўцова тады ўзнікла адчуванне: мы патрапілі ў іншы свет, іншы час — у сярэднявечча.

Беляўцоў, на той час у званні падпалкоўніка, прадстаўнік штаба, не ведаў, як і ўсе астатнія: навошта прыйшлі сюды, на які рубеж рухацца і нагогул — а што далей? Ён і сёння ўпэўнены, што пачаткова мэта ўводу войскаў заключалася ў тым, каб «пабразгаць зброяй уздоўж граніцы», прадэманстраваць падтрымку «рэвалюцыянерам на чале з Бабракам Кармалем» і тым самым не дапусціць абвастрэння абстаноўкі.

Войскі прайшлі ад Хайратона ў напрамку Ташкургана і там прастаялі дзень у калоне. І раптам увечары 26 снежня — загад: развярнуць калону і рухацца на Кабул. Войскі толькі тыдзень, як скамплектаваныя. Не падрыхтаваныя, не абстраляныя. Камандзіры яшчэ не ведаюць сваіх падначаленых. Болей жудаснага загаду ўявіць было нельга. І вось уся напаўкіруемая маса ўзброеных людзей паварочваецца і ідзе на Саланг. У ноч.

## Загад — на Саланг!

Праз Афганістан праходзіць, як паўкругам, адна вялікая асноўная дарога — з Тэрмеза на Ташкурган, праз Саланг на Кабул, потым Джалалабад, Кандагар, Герат і далей на Кушку. Дарогу на Саланг з мноствам тунеляў, галерэй будавалі савецкія спецыялісты. Яны там і жылі, у невялікім гарадку. Калі да Саланга падышлі калоны войскаў, на перавале, акрамя савецкіх дарогабудаўнікоў, ужо быў дэсантны батальён Хабарава.

Падпалкоўнік Беляўцоў ішоў у разведроце, у складзе якой былі тры браніраваныя разведвальна-дазорныя машыны (БРДМ).

На тры экіпажы — паўмяшка жытніх сухароў. Кансервы, каністра ржавай вады. З гэтым харчовым запасам дайшлі да Кабула. Яшчэ ў Саюзе, калі знаходзіліся ў раёне фарміравання пад Тэрмезам, ніхто не верыў, што армія пойдзе ў Афганістан. Так што боезапасы атрымалі загадзя, а сухі паёк бралі на хаду, пахапкам — каму што дасталося...

— На маю думку, рашэнне ісці на Саланг было чыстай авантурай, — лічыць Аляксандр Уладзіміравіч. — Хто ведаў рэальную абстаноўку, ніколі не аддаў бы падобнага загаду. «ГАЗ-52» — асноўны транспартны сродак кадрыраваных палкоў, мабілізаваны з народнай гаспадаркі. Ды яшчэ БТР-152, многія з якіх былі старэй за камандзіраў узводаў... Ні ў кога ніводнай карты маршруту. Сталі падымацца ў горы. На дарозе галалёд. На вышыні за 1000 метраў усчалася завея. Машыны буксуюць. Пробкі. Хвост папярэдняй калоны змяшаўся з галавою калоны наступнага палка. Рэгуліравання фактычна ніякага. Некалькі машын давялося скінуць у бездань. Не рух, а пакута...

На Салангу шмат галерэй і тунеляў. Калі галерэі прадзімаюцца (з аднаго боку — скала, а з боку прорвы — праёмы), дык у тунелях прастора за-

мкнёная. Ад уключаных рухавікоў паветра было загазаванае гэтак, што рэзала вочы, людзі задыхаліся. Беляўцоў выйшаў з машыны і вырашыў прайсці тунель пешшу. Дарога падымалася ўгару. Ён не прайшоў і палавіны шляху, як адчуў, што няма чым дыхаць. Фізічна загартаваны і вынослівы, спартсмен-мнагаборац, чый рэкорд у трохбор'і у ТуркВА не перакрыты і па сённяшні дзень, ён кінуўся штосілы бегчы назад, да выхаду з тунеля. Аддыхаўшыся на сцюдзёным паветры, Беляўцоў зразумеў: калі не наладзіць рэгуляванне руху аўтакалон, могуць быць ахвяры.

Пачалі ўпарадкоўваць рух, але манеўраваць у такіх умовах таксама няпроста: справа — каменная сцяна, злева — бездань. Ды яшчэ страх вадзіцеляў адстаць ад сваіх, згубіцца.

— Мая разведрота ўжо выйшла з аднаго тунеля, — успамінае Аляксандр Уладзіміравіч, — і я пабег уніз, да ўваходу ў яго, каб арганізаваць рэгуляванне. Трэба праходзіць тунель групамі, а не суцэльнай калонай тэхнікі. Але як тут патлумачыць вадзіцелю, што і ён, і людзі ў кузаве проста задыхнуцца ў тунелі ад выхлапных газаў? Уявіце, напрыклад, немаладога ўжо мужчынуазіята, у якога дома засталося дзевяцера дзяцей, і ён учапіўся ў руль, як абцугамі: толькі б не адстаць, не згубіцца — іначай смерць. Так што пакуль не ўрэжаш перад кабінай паўмагазіна з аўтамата, спыніць не ўдасца. Вялікімі намаганнямі рэгуляванне руху праз тунелі нам удалося арганізаваць. Саланг мы прайшлі без ахвяраў, ніхто не загінуў, ні з кім не здарылася ўдушша — я маю на ўвазе тых, каго бачыў.

Самы вялікі тунель на Салангу цягнецца тры з паловай кіламетры. Гэта вельмі складанае інжынернае збудаванне, дзе ёсць усе камунікацыі, вентыляцыя, асвятленне. Пазней савецкія спецыялісты-дарожнікі, якія жылі ў пасёлку будаўнікоў на перавале, казалі ваенным: «Што ж вы не звярнуліся да нас? Мы б уключылі на поўную моц і вентыляцыю, і асвятленне...»

— Але ўсё рабілася нахрапам... Калі мы спускаліся з перавалу, было чуваць, як бяжыць унізе рачулка. Спачатку я хацеў пайсці з салдатамі і набраць у каністры вады. Але цемра суцэльная, не відаць анічога. Да таго ж, па гэты бок Саланга, мы ведалі, ужо ішлі баі. У рэчцы маглі быць трупы. І я адмовіўся ад намеру папоўніць запас вады.

Раніцай 27 снежня выйшлі пад Кабул і паўдня, зноў у поўнай невядомасці, прастаялі ў 40 км ад афганскай сталіцы. І толькі 28-га раніцай упершыню пачулі пра Бабрака Кармаля, які прыйшоў на змену Аміну.

— Інфармацыя была абрывістая і надзвычай бедная, намеснік начальніка палітаддзела дывізіі сам не ведаў — ці то Бабрак Кармаль, ці то Кармаль Бабрак...

Дарэчы, сваёй асобаю Кармаль нейкім містычным чынам звязаў драматычныя чэхаславацкія падзеі і Афганістан. Кармаль на той час з'яўляўся афганскім паслом у Чэхаславакіі, і вось яго выклікае ў Кабул Амін. У вышэйшых колах улады Афганістана таксама не было спакою, напружанне нарастала. Амін расчышчаў вакол сябе палітычную прастору, няўгодных чакала суровае пакаранне. І Кармаль зразумеў, куды і навошта яго клічуць. Замест Кабула ён накіраваўся ў Маскву... З гэтага і пачалася сумна славутая «афганская рэвалюцыя», а па сутнасці — пераварот на вярхушцы ўлады.

У мотастралковага палка, у складзе якога знаходзіўся падпалкоўнік Беляўцоў, было асобнае заданне, з ваеннага пункту гледжання — авантура. Аднак загады не абмяркоўваюць, загады выконваюць.

— Пад Кабулам стаяла моцная танкавая афганская брыгада, верная Аміну. Нам трэба было яе блакіраваць. Як? Зноўку гэтае слова «блакіраваць», якое я праклінаў яшчэ ў Чэхаславакіі. У ваенных ёсць тэрміны «акружыць», «разграміць», але «блакіраваць» — такога не існуе. Сцямнела, калі мы падышлі да танкавай брыгады. Занялі пануючыя вышыні, перакрылі

дарогі. Я добра ўсведамляў, што значыць танкавая брыгада — падрыхтаваная, укамплектаваная сучаснай ваеннай тэхнікай, і мотастралковы полк на бронетранспарцёрах. На наша шчасце, яны не рушылі на нас, іначай бы нас раздушылі, як пачак з-пад запалак.

У афганскіх узброеных сілах былі савецкія ваенныя саветнікі, некаторых з іх Аляксандр Уладзіміравіч ведаў па ранейшай сумеснай службе. Гэта кваліфікаваныя перакладчыкі, граматныя людзі, якія займаліся ідэалагічнай работай, добра ведалі становішча ў рэгіёне, да якога належаў і Афганістан. Яны былі і ў танкавай брыгадзе, якую загадана было блакіраваць. Магчыма, ёсць пэўная заслуга менавіта гэтых людзей, што брыгада не пайшла ў наступ на мотастралковы полк.

Паблізу брыгады размяшчалася сумна вядомая турма для палітычных вязняў — зіндон Палічархі. Пазней жартавалі: хто быў у палацы Аміна, памяняліся месцамі з тымі, хто знаходзіўся ў зіндоне. Новы, 1980 год, Аляксандр Уладзіміравіч сустрэў у зіндоне Палічархі, у чаканні нападзення...

Наогул, прызнаецца Беляўцоў, у Афганістане шмат чаго адбывалася незразумелага і непрадбачанага. Калі савецкія войскі толькі ўвайшлі, афганцы ўспрымалі «шураві» спакойна. Ні варожасці, ні асаблівага дружалюбства — «яны глядзелі на нас з непаразуменнем». З шаснаццацімільённага насельніцтва гэтай краіны каля трох мільёнаў было туркменаў, каля двух мільёнаў — узбекаў і вельмі шмат таджыкаў. Да іх прыйшлі таксама туркмены, узбекі, таджыкі. Многія нават сустракалі сваіх родзічаў. Усе яны — мусульмане, разумелі мову адзін аднаго. Асабліва таджыкі, якія валодалі фарсі.

— Супраціўленне напачатку нашы войскі сустракалі рэдка, у тых або іншых мясцінах. А некаторыя афганскія палкі нас радасна віталі. Пад Кабулам, у раёне аэрапарта, я праязджаў афганскі полк. Ноч, а нам махаюць сцягамі, сустракаюць з транспарантамі. Так што і ў афганцаў на той час быў сур'ёзны падзел. Адназначна сказаць, хто супраць каго і супраць чаго — не проста. Ясна галоўнае: ішла барацьба за ўладу... Нават у Народна-дэмакратычнай партыі Афганістана (НДПА) існавалі два крылы: «хальк» — народ, і «парчам» — сцяг. За гэтымі прыгожымі рэвалюцыйнымі назвамі стаялі дзве вялікія групоўкі, якія варагавалі паміж сабою. Кожная з іх імкнулася любою цаною паставіць ва ўладзе свайго лідэра.

## «Мусульманскі» батальён

У 1979 годзе ў адной з часцей афганскай арміі, у Гераце, адбылася спроба ваеннага мецяжу. Некалькі савецкіх ваенных спецыялістаў, якія знаходзіліся ў гэтай часці, загінулі. Кіраўніцтва Афганістана, у тым ліку і Амін, не давяралі сваім набліжаным і папрасілі ў савецкага кіраўніцтва спецпадраздзяленне для асабістай аховы. І тады пад Ташкентам, на базе брыгады спецназа, быў сфарміраваны 7-ы, як яго пазней у народзе назвалі — «мусульманскі», батальён. Назва невыпадковая, бо ў гэтае падраздзяленне адбіралі пераважна таджыкаў і ўзбекаў, крыху менш туркменаў. Адзін з галоўных крытэрыяў адбору — веданне фарсі. І, вядома, знешняе падабенства з афганцамі.

Асабовы састаў пачалі рыхтаваць для Афганістана. Але здарылася так, што пасля сур'ёзнай падрыхтоўкі гэтаму бальёну не знайшлося прымянення. Баявыя хлопцы не пайшлі ў бой. Паўстала пытанне: што з батальёнам рабіць далей? У пачатку снежня 1979 года яго ўсё-такі перакінулі ў Кабул і размясцілі ў недабудаванай казарме непадалёку ад палаца Аміна. Перад адпраўкай з Ташкента афіцэры былі пераапрануты ў сержанцкую форму: у камандзіра батальёна — пагоны старшыны, у камандзіраў рот — сяржанцкія і г.д. Пасля прыбыцця ў Кабул усіх апранулі ў форму афганскай арміі.

Пры штурме палаца Аміна мусульманскі батальён узаемадзейнічаў са спецпадраздзяленнямі КДБ і сыграў надзвычай важную ролю. Гэта сёння нават школьнікі ведаюць, што ёсць такія спецпадраздзяленні, як «Альфа», «Вымпел». А тады пра іх ніхто не чуў, а той, хто ведаў, — трымаў язык за зубамі.

— Палац Аміна ўзялі «андропаўцы», як іх на той час называлі, — расказвае Аляксандр Уладзіміравіч. — Адна група пайшла на палац, другая — на турму Палічархі, трэцяя — штурмавала генеральны штаб. А падтрымку ім забяспечваў 7-ы, «мусульманскі» батальён.

З камандзірам мусульманскага батальёна і з многімі камандзірамі падраздзяленняў Беляўцоў быў знаёмы яшчэ па сумеснай службе ў Туркменістане. Цяпер іхнія дарогі сышліся ў Афганістане. У штурме палаца мой суразмоўца не ўдзельнічаў, але што там адбывалася — ведае ў падрабязнасцях. Дарэчы, у асабовага саставу батальёна, каб не пераблытаць сваіх з чужымі, былі белыя павязкі на рукавах: форма ж афганская... Ахова Аміна змагалася да апошняга, штурм вёўся самы жорсткі. Палац стаяў на высокім узгорку, і да яго вялі дзве дарогі. Асноўная, шаша, ішла серпанцінам; другая, з боку качагаркі, — па крутой вузкай лесвіцы. Па першай прарывалася група падтрымкі на БМП. Па другой, да самага пачатку лесвіцы, — група на БТРах. Асабліва моцныя ачагі супраціўлення падаўляла з суседняй вышыні хуткастрэльная чатырохствольная зенітная ўстаноўка «Шылка». Хуткастрэльнасць яе чатырох 23-х міліметровых гармат — шэсць тысяч стрэлаў у мінуту. Шквал агню!

— Я праз некалькі дзён пасля штурму быў у палацы і бачыў, што тут тварылася. Відовішча жудаснае. Асабліва там, дзе працавала «Шылка»: карціна, як на Месяцы, усё згарэла, усё знішчана. Часам даводзіцца чуць пра ўдзел у штурме палаца Аміна Віцебскай дэсантнай дывізіі. Гэтым гераічным хлопцам, безумоўна, трэба аддаць належнае. Пра іх мужнасць, праяўленую ў Афганістане, ведаюць не толькі на Беларусі і ў рэспубліках былога Саюза, а і ў замежных краінах. На колькі мне вядома, 102-я паветрана-дэсантная дывізія прыбыла на транспартных самалётах, якія прызямліліся ў аэрапорце Кабула. Адтуль на баявых машынах дэсанта яны пад раніцу падышлі да палаца Аміна. Аднак, як кажуць, патрапілі ўжо на шапачны разбор. Палац быў узяты. Я не думаю, што віцебскія дэсантнікі спазніліся. Хутчэй за ўсё іхні ўдзел у штурме палаца і не планаваўся. А вось блакіраваць, лакалізаваць дадзены раён было неабходна, і віцябляне з гэтай задачай справіліся. У нашым уяўленні дэсант звычайна асацыіруецца з парашутамі, скачкамі з самалётаў. У Афганістане прымяняўся пераважна верталётны дэсант. Парашуты выкарыстоўваліся для катапультавання або ў іншых аварыйных сітуацыях, калі трэба было экстранна пакінуць самалёт ці верталёт.

...А што да 7-га, «мусульманскага» батальёна, дык ён пры штурме палаца Аміна панёс значныя страты. У першыя дні студзеня 1980 года батальён быў выведзены з Афганістана ў Саюз.

## Дарогі Афгана, даўжынёю ў жыццё...

Задума аказаць ваенную дапамогу адной з сілаў, якая прэтэндавала на ўладу ў Афганістане, вылілася ў ваенны канфлікт. Калі спачатку ваявалі афганцы з афганцамі, дык паступова нашы войскі, якія аказвалі падтрымку аднаму боку, што змагаўся, проста падмянілі яго і пачалі ваяваць самі. Стала зразумела, што гэта ўжо не часовы ўвод узброеных сілаў — размова пайшла пра прысутнасць пастаяннай групы войскаў. Такім чынам, была сфарміраваная на базе Туркестанскай ваеннай акругі 40-я армія, першым камандуючым якой быў Юрый Тухарынаў, а апошнім — Барыс Громаў. З Громавым Аляксандр Уладзіміравіч вучыўся на курс раней у Ленінградскім вышэйшым агульнавайсковым камандным вучылішчы.

Некаторыя з уведзеных раней у Афганістан вайсковых падраздзяленняў вярнуліся дадому, іншыя — уліліся ў склад 40-й арміі. Аляксандр Беляўцоў знаходзіўся ў Афганістане паўгода, пасля чаго вярнуўся ў штаб Туркестанскай акругі…

— І да 1986 года ні выхадных, ні прахадных! Было жалезнае правіла: кожны месяц на 2—3 тыдні камандзіроўка ў Афганістан. Я ўдзельнічаў у многіх баявых аперацыях, прайшоў маршрутамі праз усю краіну. Самы цяжкі і небяспечны маршрут — на Кундуз, яго называлі «дарогай смерці». Хадзіў я па ёй. Горны раён Кундуз прылягае да Таджыкістана, да яго вядзе дарога з Тэрмеза — праз Хайратон і далей уздоўж мяжы з Узбекістанам. Яшчэ ёсць адна дарога на Кундуз, яна выходзіць з Харога. Між іншым, калі ўводзіліся нашы войскі, з боку Харога таксама рухалася калона, але прайсці не ўдалося: горная дарога аказалася вельмі складанай, і было моцнае супраціўленне.

Усе маршруты ахоўвалі савецкія ваенныя. Пад іхнім кантролем знаходзіліся буйныя населеныя пункты і аўтамагістралі. У адрозненне ад амерыканцаў сёння, якія практычна нічога не кантралююць — «…сядзяць, як пацукі ў норах, і час ад часу робяць вылазкі», Беляўцову давялося шмат паездзіць па афганскіх дарогах, і амаль кожны раз з баямі. У яго абавязкі ўваходзіла інспекцыя маршрутаў, вывучэнне абстаноўкі і ўмоў, у якіх знаходзіліся нашы вайскоўцы. Калі ж ідзеш па маршруце, умовы што для палкоўніка, што для радавога — роўныя. На БМП, на БТР зверху і ўперад — гэта не ліхацтва, не дзеля прыгожага кадра, так перамяшчацца вымушала мінная вайна. Пасля 18 гадзін рух на дарогах спыняўся. Уначы выходзілі толькі на аперацыі, ды яшчэ спецназ ішоў па сваёй праграме.

Адна з камандзіровак была даўжынёю ў 800 кіламетраў — з Кундуза на Пулі-Хумры, праз Кабул і да Джалалабада — праз увесь Афганістан. Калона ішла моцная, падтрымлівалі верталёты. Перавага ў сіле і баявой тэхніцы была на баку нашых ваенных, аднак горная мясцовасць не давала магчымасці гэтую перавагу скарыстоўваць.

— У вельмі вузкай мясціне нам учынілі засаду. Завязаўся жорсткі бой. Месца надта нязручнае: галаўны танк і дзве БМП вядуць бой, астатнім няма як ні развярнуцца, ні абысці, каб ударыць збоку. Мы панеслі страты: адзін чалавек забіты, двое параненых, падбітыя танк і БМП. Але і мы адплацілі. Асноўная частка банды была знішчана, рэшткі рассеяны па наваколлі. Дабіць не ўдалося, бо пачало цямнець. За той бой — нізкі паклон верталётчыкам, без іхняй дапамогі нам бы не мінуць ліха.

Аляксандр Уладзіміравіч знаходзіўся ў Афганістане фактычна шэсць гадоў — з моманту ўводу войскаў і па 1986 год, праехаў яго ўздоўж і ўпоперак. І, вядома, меў магчымасць параўнаць, у адрозненне ад тых, хто служыў год-паўтара і пераважна ў адной мясцовасці, што было напачатку і што сталася з гэтай шматпакутнай зямлёю за гады вайны…

— Акрамя баявых дзеянняў, я быў сведкам таго, як змянялася абстаноўка ў Афганістане, як прыгажэйшыя мясціны, дзе квітнелі сады, аліўкавыя і гранатавыя гаі, дзе патаналі ў садах кішлакі, праз 5-6 гадоў ператварыліся ў выпаленую зямлю, усё было знішчана. Вайна, на чыёй бы тэрыторыі яна ні была, — штука дрэнная. І, вядома, вайна — гэта катаржная, пякельная праца. Маральна таксама цяжка на вайне. Часам вернешся з аперацыі — есці не можаш пасля тых жахаў, на якія нагледзеўся. І хаця быў сухі закон, без ста грамаў не абыходзіліся. Як жывы і цэлы выходзіў са складаных сітуацый? Хто яго ведае — ці то шанцавала, ці то Бог ратаваў. Ды і прафесіянал я ўсё-такі…

Апошняя камандзіроўка ў Афганістан была ў 1986 годзе . Яна магла аказацца трагічнай для Беляўцова. Дзіўная заканамернасць існавала ў Афганістане: калі да замены заставаліся лічаныя дні, многіх салдат і афіцэраў, якія адчайна і мужна ваявалі, пачынаў апаноўваць страх. Было негалоснае

правіла: таго, каго вось-вось павінны замяніць, на аперацыі па магчымаці стараліся не браць. Прасочвалася тэндэнцыя: смерць падсцерагала многіх якраз напярэдадні вяртання дамоў — не хацеў Афган адпускаць са сваіх каменных адбымкаў.

— Я ведаў, што еду ў апошні раз у Афганістан, ужо планавалася спецкамандзіроўка ў Афрыку. І вось калі мы вярталіся назад, дамоў, адбыўся бой. Уздоўж дарогі ішлі трубаправоды: карасіну ў Афганістан пампавалі па трубах, а не толькі перавозілі ў цыстэрнах. Стаялі трубаправодныя войскі. Трубаправады вечна падрывалі, падпальвалі, кралі паліва і г.д. І вось пад'язджаем — бой ідзе перад намі. Душманы заціснулі трубаправодчыкаў і афганскіх салдат, б'юць з «зялёнкі». Гарыць афганскі БРДМ. І тут мы падлятаем на двух БТРах. Пачалі адбіваць сваіх. У нас буйнакаліберныя кулямёты, бой нарастае. Аднаго афганскага байца выцягнулі з машыны, якая гарэла, другога — не паспелі. Здаецца, жалеза — чаму там гарэць? — а тэхніка палыхае, як запалкі. Бачу: было б добра, каб праскочыць участак дарогі і ўдарыць па душманах з другога боку. А з трубы ж прабітай фантанам б'е карасіна, ёй залітая ўся зямля наўкола. У бойцы чалавек дурнее. І мне ў нейкі момант, у запале бою, здалося: праскочым! Дык вось, у прафесіянала-вайскоўца ў гэтай мітусні, шале, полымі, нервовай напрузе павінен заставацца светлым розум. Своечасова спрацавалі «тармазы» і мазгі. Калі б толькі мы паспрабавалі прарвацца скрозь гэтую жывую плынь агню — канцы, два бронетранспарцёры шашлыкоў: згарэлі б зажыва ў імгненне. І якраз гэта быў мой перадапошні дзень у Афганістане. Раней таксама здараліся патавыя сітуацыі, было ўсялякае, але не так успрымалася небяспека. Адным словам, на сабе зведаў «сімптом апошніх дзён»…

Аляксандр Уладзіміравіч, калі пакідаў Афганістан, развітваўся не толькі з баявымі сябрамі. Ён развітваўся і з дарогамі зямлі афганскай, кожная з якіх для яго была роўная жыццю. Серпанціны, перавалы, Цешчын Язык, Цярашкоўскі паварот… Найпрыгажэйшыя мясціны! Ці здарыцца па іх калі-небудзь яшчэ праехаць, прайсці?..

А што тычыцца вайны, дык не ваенныя яе пачыналі, а палітыкі — як і большасць войнаў на зямлі. І прайгралі яе таксама не ваенныя. Яна была палітычнай памылкай, лічыць Беляўцоў.

— Не трэба паганіць ваенных, што мы не выканалі сваёй задачы. Гэта несправядліва. І размовы: вы, узброеныя і моцныя, не маглі справіцца з бязграматнымі дэхканамі… — суцэльнае дылетанцтва. Афганцы — моцныя воіны, і Афганістан яшчэ ніхто ніколі не заваёўваў. Узгадайце той жа англійскі экспедыцыйны корпус — жывым застаўся толькі адзін чалавек, урач… У той самай «даліне смерці», дзе былі знішчаны рэшткі корпуса англічанаў, я таксама быў неаднойчы. Многае, што адбывалася на той час у Афганістане, для нас было непрадбачаным. Наджыбула, які прыйшоў на змену Бабраку Кармалю, пазней быў павешаны на базары ў Кабуле. Скажам шчыра, не кожны народ вешае сваіх прэзідэнтаў на базарным пляцы. Гэтая краіна жыла і працягвае жыць у сваім часе і ў сваім гістарычным вымярэнні.

На думку Аляксандра Уладзіміравіча, не трэба спяшацца і з ацэнкай афганскіх падзей, выносіць прысуд. Ён згадвае сустрэчу з французскімі кінадакументалістамі, якія некалькі гадоў таму назад прыязджалі ў Мінск і сустракаліся з воінамі-інтэрнацыяналістамі. Падчас сустрэчы быў паказаны фільм, зняты ў час вайны ў Афганістане. Мы яшчэ калі былі ў Афганістане, чулі пра гэтую групу, што працавала пад апекай душманаў, і стараліся іх захапіць. Трэба аддаць належнае смеласці гэтых хлопцаў: яны не пабаяліся не толькі здымаць рэальныя баявыя дзеянні (дарэчы, некаторыя з іх загінулі ў Афганістане), але і рызыкнулі паказаць свой фільм былым воінам-афганцам.

— Размова паміж намі была рэзкая, але шчырая і сумленная. Урэшце, мы выказалі павагу адзін да аднаго, але кожны застаўся на сваіх пазіцыях. Гэтак і ў свеце ўвогуле: няма і не можа быць аднолькавай, адзінай ацэнкі падзей у Афганістане, бо да іх падыходзяць з розных бакоў гледжання. Ісціна ж знаходзіцца, як заўжды, недзе пасярэдзіне...

Пасля Афганістана Аляксандр Уладзіміравіч Беляўцоў не адразу патрапіў у Беларусь. Наадварот, лёс закінуў яшчэ далей ад роднай зямлі, у Мазамбік. Ваеннаму чалавеку і ў мірны час няма калі адпачыць ад вайны. Тут, у Афрыцы, ён як савецкі ваенны спецыяліст рыхтаваў вайскоўцаў для ўзброеных сіл Рэспублікі Мазамбік. У краіне таксама ішла вайна. Супраць урада Саморы Машэла змагалася Мазамбікскае нацыянальнае супраціўленне (МНС), яго падтрымлівала ЮАР.

— Па сутнасці гэта была тая ж самая вайна за ўладу, сведкам якой я аказаўся і ў Еўропе, і ў Азіі, а цяпер вось — у Афрыцы, — кажа Аляксандр Уладзіміравіч. — Сутнасць ваеннага канфлікту да болю знаёмая і характэрная для ўсіх краін, якія сёння ваююць. Няма ні даравання, ні апраўдання крывапраліццю, жорсткасці ў такіх войнах. Нам забаранялася непасрэдна ўдзельнічаць у баях, але ж на вайне — як на вайне: мы ў форме мазамбікскай арміі, і вучылі салдат не толькі на стрэльбішчы...

З мазамбікскай камандзіроўкі Беляўцоў вярнуўся праз тры гады. А неўзабаве яго накіравалі ў Мінскае ваеннае вучылішча — цяпер ужо рыхтаваць кадры для беларускай арміі. Пасля стольскіх гадоў, пражытых у сярэднеазіяцкіх пясках, афганскіх гарах, афрыканскіх джунглях, ён ехаў па беларускай зямлі і не мог адвесці вачэй ад яе прыгажосці.

— Я шмат вандраваў па свеце, але такой прыгожай і лагоднай прыроды, такіх краявідаў, як беларускія, няма ў свеце нідзе. Душа спявала. Стаяла вясна, і здавалася, што мы трапілі ў рай.

Пасля развалу Савецкага Саюза пачалося рэфармаванне арміі, якое азначала: скарачэнні, звальненні... У Беляўцова быў выбар: заставацца выкладаць або звольніцца ў запас. У выпадку звальнення давалі кватэру — нарэшце свой дом! Ён закончыў курсы па перападрыхтоўцы былых вайскоўцаў у спецыялістаў рынкавай эканомікі і вось ужо больш за дзесяцігоддзе працуе ў АСБ «Беларусбанк».

Са шматлікіх узнагарод Аляксандр Уладзіміравіч з асаблівай гордасцю носіць ордэн Славы Афганістана. Ордэны Славы, як і медаль «За адвагу» — салдацкія, ва ўсе часы іх за «прыгожыя вочы» ніхто нікому не даваў. Прайшоўшы праз полымя вайны, ён па-асабліваму цэніць само жыццё і чысціню адносін паміж людзьмі. А свайго сына Антона, які нарадзіўся ўжо ў Мінску, просіць не верыць прыгожым фільмам-баевікам, у якіх прыгожа страляюць...

— Вайна — гэта катаржная праца. Гэта жудасныя ўмовы. Гэта невыносная маральная і фізічная напруга. Гэта пот, кроў, бруд... Паганая справа — вайна... Але ж у такіх экстрэмальных умовах і чалавек раскрываецца як на далоні, кожнага відаць — хто ёсць хто. Баявое брацтва тых, хто прайшоў праз гэтыя выпрабаванні, самае вернае і надзейнае. І я гэтым шчаслівы.





*КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА*

**МІКОЛА МІКУЛІЧ**

# «СЕЮ ПЕСНІ НА ЎЗМЕЖКІ...»

## *Паэзія Міхася Машары даверасьнёўскага перыяду*

Міхась Машара прыйшоў у літаратуру амаль адначасова з другім папулярным у Заходняй Беларусі паэтам — Міхасём Васільком. Як і шмат хто з яго творчых пабрацімаў, таварышаў па пяры, аднагодкаў і сучаснікаў, ён звярнуўся да сродкаў актуальнага ў краі шчырага і пранікнёнага, споведнага мастацкага слова пад уплывам жорсткіх рэалій народнага жыцця, абуджэння і актывізацыі грамадскай свядомасці, патрыятычнага руху. У 1928 годзе намаганнямі З. Верас на сродкі МОПРа выйшаў невялікі (усяго ў чатырнаццаць вершаў) першы зборнік пачынаючага паэта «Малюнкі». Яго склалі творы, напісаныя ў Лукішках, куды М. Машара патрапіў як дзеяч Беларускай сялянска-работніцкай грамады, рэдактар газеты «Наша воля». Як вядома, аператыўна адгукаючыся на вострыя праблемы і супярэчнасці рэчаіснасці, газета выкрывала палітыку пераследу польскімі ўладнымі структурамі і чынавенствам заходнебеларускага грамадска-культурнага, асветніцкага руху, ініцыятыў і мерапрыемстваў прадстаўнікоў сацыяльных нізоў, адстойвала інтарэсы прыгнечанай і занядбанай, але не скоранай нацыянальнай меншасці. Менавіта падчас турэмнага зняволення, навучання ў лукішскім «універсітэце», ён пачаў пісаць па-беларуску, асэнсаваў і ўсвядоміў асновы сваёй духоўна-маральнай, грамадзянска-патрыятычнай місіі і прызначэння. Крыху пазней у адным з вершаў паэт адзначыць:

О, ты вастрог,
Ў сцянах тваіх панурых,
У час даўгой, даўгой начы,
вучыўся я змагацца з бурай
і крыльлі тут расціў душы.
Тут рос мой дух... мацнела вера,
У тваіх мурох пазнаў сябе,
і песню першую нясмела
Тут прапяяла муза мне.

Досыць характарыстычным і паказальным з'яўляецца і яго прызнанне з ліста да крытыка С. Станкевіча: «Калі-б не астрог, не Грамада, я і сёньня мадзеў-бы ў цяжка мужыцкім жыцьцю, бяз жаднага духовага зьместу, із сьпячай думкай і нявыразна-падсьвядома-вострым імкненьнем у грудзёх, якое ганяла мяне ад 16 да 25 год у вандроўцы з аднаго да другога кута, ад аднаго проекту да шуканьня другога, пакуль напасьледак не абапёрся аб Грамаду й Лукішкі. 30 месячныя гасьціны, пераважна адзіночкі, разбудзілі дум-

ку, што скрысталізавала пагляды і неяк выразьней намеціўся жыцьцёвы шлях і перакананьні. І тут станоўка і грунтоўна ўзяўся за далейшы цяг самаадукацыі і духовага развою».

Турэмная няволя неаднойчы дыхне ў душу М. Машары «сьцюжай магільнай» успамінаў «з гасьцінных «Лукішак», востра абзавецца падчас наведвання Вільні ў непасрэдным сузіранні паэтам сумных «маўклівых муроў», якія столькі «затрулі часінаў» з яго «дзён маладых».

Я з дрожжу агіды страсаю
З душы гэты сумны налёт
І неяк жахліва хаваюсь
У рухлівы людзкі карагод, —

скажа ён у вершы «О Вільня! Тваім камяніцам...», які ўвойдзе ў зборнік «На прадвесьні» (1935).

Калі чытаеш вершы зборніка «Малюнкі»: «Вёска», «Не магу, не магу зразумець...», «Верасьнявая ціш абняла...», «Цяпер я ўжо зусім ня той...», міжволі звяртаеш увагу на іх прысумлены настрой, мінорную танальнасць. Паэт засяроджаны на самааналізе, вывярае сваё месца ў кантэксце бягучых грамадска-сацыяльных дзей і варункаў: «У нямым маўчаньню сьцен турмы / Пачаў вякоў навуку браць...»

Разам з тым кніжка прасякнута мажорнымі матывамі і інтанацыямі, жыццесцвярджальнай, духаноснай энергетыкай, імкненнем аўтара да шырокага ўспрыняцця свету і чалавека. Абумоўлівалі ўсё гэта, думаецца, пэўнасць маральна-філасофскіх каштоўнасцей, на якія ён арыентаваўся, яго трывалая паяднанасць з сацыяльнай глебай, што і з'яўлялася матэрыялам творчасці. Як правіла, думкі лірычнага героя М. Машары сабраныя, пачуцці вынашаныя, перакананні акрэсленыя, а ў цэлым унутраны свет адмабілізаваны, напоўнены актуальнымі духоўна-гуманістычнымі ідэямі і памкненнямі.

Я сын галоты і цямры,
Паўстаў я з поту і крыві.
Я шэрай, ціхай вёскі сын,
Уладар палёў, лугоў, далін.

Мае дзяды — згіналі каркі,
Цярпелі здзек і ласку палкі.
Хачу ўзыйсьці на шлях другі —
Я сын галоты і цямры.

*(«Я сын галоты і цямры...»)*

Змест і характар роздумаў і эмацыянальных узрушэнняў лірычнага героя М. Машары праўдзіва суадносіліся з рэальнай канкрэтыкай падзей і фактаў, з аб'ектыўным станам характэрных праблем і вострых супярэчнасцей заходнебеларускай рэчаіснасці. Паэт сведчыў умельства дынамізаваць думку, канцэнтруючы яе ў даходлівым, празрыстым вобразе, праз пластычна выразны настрой і перажыванне ён акцэнтуе ўвагу чытача на самым істотным і вызначальным у з'яве і працэсе, раскрывае паміж імі нечаканыя асацыятыўныя сувязі, стварае свежыя, яскравыя і пераканаўчыя карціны і малюнкі жыцця сялянскага асяроддзя і прыроднага свету. Пры гэтым у грамадстве яго найперш цікавяць рух, дзеянне, абуджэнне, а ў прыродзе — змена, пераходны стан, выспяванне іншай якасці, абнаўленне. Да прыкладу, лірычны герой верша «Родным гоням» поўніцца непадробнай радасцю і душэўным узрушэннем, лагодна назіраючы, як ранняю вясною, «Калі яшчэ голае ўсё», «Рвецца да сьвету жыцьцё у творчых абняцьцях красы», «Як кожным паранкам туман, бы белае стада гусей, ад цёплых, ад мокрых палян Плывець у гару ўсё вышэй...» Развіваючы і паглыбляючы ў заходнебеларус-

кай літаратуры астрожную тэму, шмат у чым напаўняючы яе новым эмацыянальна-пачуццёвым зместам, той ці іншы душэўна-псіхалагічны стан асобы, пэўныя дачыненні ў чалавечым асяроддзі, грамадска-сацыяльныя працэсы і варункі М. Машара сувымяраў са з'явамі прыроднага свету, у якім пануе гармонія і раўнавага, арганічнае сумоўе і ўзаемадапаўняльнасць:

Так прыемна дрыжыць гэта сінь —
Сінь вясновая цёплых нябёс,
І цалуецца пахам язьмін
З блескам зьяючых сонячных кос.

А бярозка зялёным лісьцём,
Праз вакно, усьміхаецца мне,
Як і я, — яна поўна жыцьцём,
Як і я, — яна рада вясьне.

*(«З вясновых настрояў»)*

Жыццё і далей не песціла паэта. Выйшаўшы з астрога, ён асталяваўся ў вёсцы Таболы, працаваў падзёншчыкам, батраком, align="center"рознарабочым, як пазней сам адзначыць у аўтабіяграфіі, «быў лесарубам, кожную вясну працаваў на румах і ганяў плыты, капаў канавы, трапаў лён купцам, махаў ад усходу да заходу сонца касой на панскіх і кулацкіх сенажацях і палетках, пільнаваў кулацкі сад і рамантаваў дарогі. І пісаў вершы, паэмы, п'есы».

Так, малады пісьменнік не пакідаў абранага занятку, «будучы ў беднасьці, заўсёды ў варунках пастаяннай барацьбы за штодзённы кавалак чорнага хлеба», настойліва працаваў над сабой, развіваў свой літаратурны талент, падвышаў узровень творчага майстэрства. Ён імкнуўся спрабаваць сябе не толькі ў паэзіі, але і ў прозе, драматургіі, знаёміў зацікаўленых чытачоў з вынікамі сваіх напружаных духоўных пошукаў, удалымі мастацкімі набыткамі ў вядучых і масавых віленскіх перыёдыках — газетах і часопісах «Беларускі звон», «Родны край», «Наша воля», «Заранка», «Шлях моладзі», «Калоссе», «Беларускі летапіс» і інш. Абазначанае і заяўленае ў першым, шмат у чым спробным, вучнёўскім зборніку М. Машары знайшло свой перспектыўны працяг і далейшае развіццё ў наступных кнігах, у якіх яго паэзіятворчыя здольнасці разгарнуліся на поўную сілу: «На сонечны бераг!» (1934), «На прадвесьні» (1935), «З пад стрэх саламяных» (1937).

Заходнебеларуская крытыка не замарудзіла адгукнуцца на праявы значнага духоўна-мастацкага росту паэта, змены і зрухі ў ягонай творчасці канца 20-х — першай паловы 30-х гадоў, даючы ім высокую ацэнку. «Калі зьвернем увагу на просты, прыгожы і свабодны, поўны абразовасьці стыль нашага песьняра, — адзначаў у рэцэнзіі на зборнік «На сонечны бераг!» Я. Малецкі, — на яго сэнтымэнтальны лірызм, на яго жывую і абразоваю эпіку і глыбокую элегію, то скажам, што ён выявіў вялікія паэтычныя здольнасьці. Вершы М. М. чытаюцца як нешта роднае, сваё, з чым так зжыўшыся наша душа. Няма ў гэтых вершах брутальнасьці, пажаданьня людзкой крыві і няшчасьця праціўнікаў, а таксама штучнасьці, а ёсьць спачуцьцё людзкой крыўдзе, любоў бацькаўшчыны, прыгоства беларускай прыроды, ідэалаў агульна людзкіх і асабістыя перажываньні». І далей: «Памінуўшы Купалу, Коласа, Бядулю, мала ёсьць сягоньня ў нас так багатых духам паэтаў, як М. Машара».

Трэба пагадзіцца з сучасным даследчыкам А. Лісам, які абгрунтавана называе М. Машару самым «прадуктыўным паэтам у заходнебеларускай літаратуры першай паловы 30-х гадоў». У перадваеннае дзесяцігоддзе М. Машара становіцца адным з самых вядомых пісьменнікаў у грамадска-культурным і мастацка-творчым асяроддзі Вільні, адным з самых папулярных сярод масавага чытача Заходняй Беларусі. На яго асобу меўся заўсёдны

і вялікі попыт падчас правядзення шматлікіх сходаў і літаратурных вечарын, яго творы не залежваліся на паліцах кнігарняў, па іх ладзіліся культурна-асветныя імпрэзы, ставіліся спектаклі, яго ідэйна-мастацкія пошукі з'яўляліся прадметам выступленняў у беларускім савецкім, а таксама польскім, украінскім, чэшскім друку. «Мы ў Заходняй Беларусі ведалі і любілі творчасць Міхася Машары, — успамінаў з нагоды 70-годдзя паэта яго колішні паплечнік па грамадска-культурным руху і літаратурнай працы Я. Міско. — Любілі за тое, што яна была надзейным саюзнікам працоўнага люду ў яго барацьбе супраць панскага прыгнёту і эксплуатацыі».

Несумненна, вядомасць і папулярнасць паэту прынеслі заглыбленасць у праблемы народнага жыцця, выяўленне актуальных духоўна-грамадскіх супярэчнасцей, узрушанае, поўнае нязгоды і пратэсту, слова ў абарону сацыяльных і нацыянальных правоў заходніх беларусаў. Вынашаны і прачулы патрыятызм і абвостраны грамадзянскі пафас палягаюць у аснове яго творчасці 30-х гадоў, цэментуюць яе зместавыя і фармальныя, мастацка-выяўленчыя асаблівасці.

Кантактуючы, падтрымліваючы цесныя стасункі і ўзаемадачыненні з прадстаўнікамі розных сацыяльных груп і катэгорый насельніцтва, М. Машара неаднойчы пераконваўся ў тым, наколькі неабходны ім добры верш, яркае, трапяткое, прасякнутае праўдаю і вераю прамоўніцкае слова. Паэт помніў, як, успрымаючы яго, загараліся вочы, ажывалі і прасвятляліся твары палітзняволеных, неаднойчы назіраў, як пад яго ўплывам абуджалася душа і выпростваліся плечы стомленага цяжкою штодзённаю працаю бедняка-селяніна і местачковага рабочага, як у іх свядомасці дужэла надзея на сцвярджэнне дабра і справядлівасці, як парывіста і імпульсіўна, лаваю гарачых воплескаў і выгукаў, рэагавала на яго дружная студэнцкая аўдыторыя.

Многія творы М. Машары вымушалі чытача задумацца над сваім жыццём і яго акалічнасцямі, цвяроза і ўзважана асэнсаваць рэальны стан грамадскіх з'яў і працэсаў. Яны вярэдзілі яго душу праўдзівымі, насычанымі карцінамі і малюнкамі вясковай рэчаіснасці, гаротнага жыцця і працы селяніна-земляроба, выхоўвалі ў яго пачуцці любові да роднага краю, высакароднасці і гуманізму, чуласці і спагады.

На палку, ў кутку, ля печы
Матка хворая ляжыць.
Ля яе пакрыта нечым,
Дзіцянё ў калысцы сьпіць.

Ля палка стаіць другое,
У дзюравым каптане...
Сыра ў хаце... Пахне гноем,
Грыбам плесьні на сьцяне.

Печ замурзана у сажу,
Шчэрыць свой бяззубы рот.
На прылаўцы з міскі кашу
Даядае смачна кот.

*(«У хаце»)*

Як можна пераканацца на дадзеным і многіх іншых прыкладах, верш паэта падкрэслена традыцыйны для нашай літаратуры, просты, празрысты і ясны, звыклы для ўспрыняцця шырокага чытача і слухача. Гэта верш-апавяданне, верш-апісанне, верш-характарыстыка, у якім звычайна гутарка вядзецца ад трэцяй асобы, хаця і не заўсёды, радзей — верш-споведзь. Аб'ектыўна-выяўленчы пачатак выконвае ў ім вядучую, дамінуючую, стылеўтваральную ролю:

Я бачыў яго ў полі
Як збожжа сьвянціў ён —
Сьвянціў рукой мазольнай
Размашыста загон.

Па чорнай ральлі сьмела
Стаўляў за шагам шаг,
З кашулі яго белай
Нёс вецер поту пах.

*(«Сяйбіт»)*

У творчасці М. Машары, як, зрэшты, і М. Васілька, шмат што вызначалі асновы і прынцыпы народнай самасвядомасці, духоўна-псіхалагічная паяднанасць лірычнага героя са стыхіяй сялянскага жыцця. Паэт у многім арыентаваўся на фальклор, багаты і разнастайны калектыўны вопыт, філасофію і мараль, настроі масы, асяроддзя. Услед за сваімі папярэднікамі, галоўным чынам Янкам Купалам і Якубам Коласам, ён распрацоўваў прыём суаднясення двух зместавых планаў, выкарыстоўваў алегарычныя сродкі мастацкай выразнасці, матывы і вобразы з сімвалічным значэннем — будоўлі, ворыва, касьбы і г. д. («Плач нуда... — старыя рэчы...», «Сенажаць» і інш.). «Вякі цярпеньнем мерым і кормім мазалём, — чытаем у вершы «Хоць хмарамі густымі».

Лірычны герой М. Машары — чалавек шчыры, сумленны, даверлівы — можа, нават і залішне, натура маладая, дзейсная, жывая, часам складаная і супярэчлівая, апантаная пошукам праўды і ісціны, правільных рашэнняў няпростых ідэйна-светапоглядных і ўласна мастацка-эстэтычных праблем. Гэта энтузіяст асветнай працы, свядомы і актыўны, «непакорлівы і адважны» ўдзельнік грамадска-патрыятычнага руху, які «ўсім сэрцам перажывае «смутак і гора народнае». Добра пацвярджаюць сказанае радкі з верша «Нашыя шляхі»:

Як глянеш так на сьцежкі за сабою,
як сумна даль тых пройдзеных дарог,
ні сьветлых дзён, ні ласкі, ні спакою;
бурлівы вір змаганьня і трывог.

У гэты сьвет прышлі мы ў час шалёны
жыцьцёвых бур, пажараў і бяды.
Пад горам гнуць сьпіну і біць паклоны
ня можам мы — як нашыя дзяды.

Звяртаюць на сябе ўвагу жыццёвасць, добрая сялянская ўгрунтаванасць героя М. Машары, пэўная своеадметнасць і ў той жа час тыповасць, грамадска-сацыяльная абумоўленасць тых змен і зрухаў, якія адбываюцца ў яго ідэйных перакананнях і душэўна-псіхалагічным свеце. Разам з тым, калі чытаеш творы паэта першай паловы і асабліва пачатку 30-х гадоў, бачыш: яму не стае выразнага ўсведамлення грамадска-эстэтычнага ідэалу, акрэсленага адчування гуманістычнай мэты. Відавочна, што ён не з'яўляецца носьбітам сацыялістычнай ідэі, не падключаны да камуністычнага падполля, у той жа час, хоць і сімпатызуе незалежніцкаму нацыянальнаму руху, не крочыць у авангардзе сцвярджэння яго духоўна-метадалагічных прынцыпаў і каштоўнасцей. «Ідзём мы ў сьвет і новай верай, Як сонцам, чысьцім пуць, — кажа паэт у вершы «Мы — песьняры». — Прад намі — муць нязнанай далі, над намі — сінь вясны...» І далей працягвае: «Мы — песьняры народнай гушчы І волен наш узлёт. У песьнях шум палёў і пушчы — у песьнях — веснаход. Мы — песьняры працоўнай эры, і сьцяг наш зоры ткуць...» А гэта — з праграмнага верша, таксама агульна-абстрактнага, рытарычнага, якім адкрываецца зборнік «На сонечны бераг!»:

Наперад, наперад, наперад!
Праз цемру, праз сон і ману.
Вяслуйма на сонечны бераг,
Там створым мы праўду сваю!

Сёння мы добра ведаем, М. Машара быў у нялёгкім пошуку свайго месца і ролі ў зменлівым і складаным грамадска-сацыяльным і літаратурна-творчым жыцці краю, форм і спосабаў рэалізацыі мастацкага таленту, адсюль і асаблівасці ўнутранай супярэчлівасці, нявыверанасці ідэйна-метадалагічнага грунту, пэўны налёт стыхійнасці эмацыянальна-пачуццёвага настрою і пафасу, урэшце, эстэтычная няроўнасць ягонай творчасці. Досыць цікавымі і паказальнымі ў плане разумення характарыстычных акалічнасцей дадзенай праблемы з'яўляюцца словы аднаго з аўтараў газеты «Наша воля», які на яе старонках дзяліўся ўражаннямі ад «Вечара беларускай паэзіі і песні», што адбыўся ў Віленскім універсітэце 15 сакавіка 1936 года, у прыватнасці, ад выступлення на ім М. Машары. Ён адзначаў, што «вобразнасьць яго вершаў стаіць на вялікім узроўні», але «зьмест творчасьці Машары зацямняе ідэовае аблічча паэта і проста нельга згадзіцца, каб «Званара» і «Маладую Беларусь» напісаў той самы паэт. «Званар» Машары гэта кліч мільёнаў, а «Маладая Беларусь» гэта безпадстаўны аптымізм і настраёвы «накіп». Хіба што правільна назваў сам аўтар, бо ці-ж гэта не «накіп»: «у грудзёх ні тугі ні адчаю, толькі сьветлая радасьць жыцьця...» Ці толькі радасьць жыцьця? Хто адчувае гэту радасьць жыцьця у сяньняшні момант?!»

Пад уплывам цяжкой канкрэтыкі складаных жыццёвых працэсаў, высокай духоўнасці, маралі і этыкі, ахвярнасці нацыянальна-вызваленчага руху М. Машара «пачаў эвалюцыянаваць улева». Але якраз адтуль, прыспешваючы гэту эвалюцыю, на адрас паэта гучала жорсткая крытыка, сыпаліся папрокі і абвінавачванні ў абстрактнасці і безыдэйнасці, «любаванні эстэтызмам», у тым, што ён, па словах, напрыклад, А. Александровіча з яго даклада на III пленуме праўлення СП СССР, «толькі фіксуе цяжкое рабскае жыццё, не бачыць тае рэвалюцыйнае перспектывы, да якой трэба моцным галасам клікаць прыгнечаных братоў». «Машара знаходзіцца на раздарожжы — і гэта факт бясспрэчны, — нібы працягваючы, развіваючы і дапаўняючы А. Александровіча, пісаў у газеце «Літаратура і мастацтва» нехта Ф. Асіповіч. — Цэлы рад твораў гэтага зборніка («На прадвесьні». — М. М.) поўны тамлення, разважанняў, хістанняў. Паэт не ведае, на што яму наважыцца, ён не ведае, які шлях выбраць, дзе шукаць таго новага светапогляду, які новым яркім светам асвятліў-бы шлях да свабоды, справядлівасці, радасці, шчасця». І далей: «Значна лягчэй жылося-б самому Машары, ён творча вырас-бы значна, каб не быў звязаны путамі сваіх яшчэ нязжытых нацыяналістычных і сялянскіх перажыткаў».

Яшчэ далей пайшоў у сваіх абвінавачваннях А. Салагуб. Маючы на ўвазе першы, зусім бяскрыўдны зборнік паэта «Малюнкі», у вядомым артыкуле «Клясавая барацьба ў літар. Заходняй Беларусі» ён падкрэсліваў наступнае: «Нацыянальныя мотывы пераважаюць, домінуюць. Соцыяльныя мотывы падпарадкаваны нацыяналістычнай пропагандзе, пропагандзе ідэй беларускай контррэволюцыі. На першы погляд гэта вельмі наіўныя вершыкі, але па сутнасьці ў аснове іх нацыяналістычная зараза, шкодная ідэолёгія».

Сур'ёзнай і прынцыповай крытыцы падвергнуў М. Машару малады М. Танк, як і А. Салагуб, не толькі таварыш па пяры, але і паплечнік па нацыянальнаму руху супраціўлення, прыхільнік і сімпатык яго авангардна-рэвалюцыйнага накірунку, камуністычнай ідэйна-метадалагічнай платформы. У артыкулах «Падарожжа і бездарожжа» і «Досыць безда-

рожжа», апублікаваных у газеце «Наша воля», ён аналізаваў паэму «Падарожжа», крытыкаваў паэта за павярхоўнасць і абстрактнасць вобразаў, прымітыўнасць канструкцыі твора, недасведчанасць у «галіне палітычна-грамадзкай». «З шырокага палатна палітычна-грамадзкага, — пераконана адзначаў М. Танк, — ён выразаў кавалкі, якімі залатаў шмат дзе працёрты жыцьцём падарожніцкі, рахітычны сьветагляд. Даў слабыя шкіцы, але не вобраз, мяйсцамі фатаграфічную клішу свайго «я», якое нат не здае сабе справы з тых гістарычных падзей, якія сяньня адбываюцца». І далей, у многім, думаецца, завастраючы свае назіранні і вывады: «Яшчэ ня даў Машара таго вобразу жыцьця, у якім ён сам паграз, якое праходзіць міма яго, не выклікаючы ніякіх рэакцый, апрача інтэлігэнцка-распоўзлага «кактнічаньня», мейсцамі з эвангелічнымі цытатамі, альбо голых знакаў запытаньня». «Падарожжа», на думку М. Танка, «гэта не нейкі нясьпелы яблык, гэта **расхлябаная па рыцьвінах бездарожжа цэлая хвароблівая бязхрыбётнасьць** (выдзелена М. Танкам. — М. М.), далёкая ад жыцьця і шкадлівая. Яна сяньня точыць не аднаго Машару і з гэтай бязхрыбётнасьці і бездарожжа трэба выйсьці на тую дарогу, па якой ідзе да лепшай будучыні ўвесь народ».

Трэба сказаць, якраз з гэтых пазіцый будзе крытыкаваць М. Машару ўжо ў пасляваенны час, рэцэнзуючы яго кнігу «Выбраная лірыка» (1945) і разглядаючы вершы 30-х гадоў, і П. Пестрак.

Не адрываючыся ад жорсткіх рэалій заходнебеларускай рэчаіснасці, слова М. Машары было звернута ў будучыню, сцвярджала яе, услаўляла рух, працу, уздым, веру, ідэі сацыяльнай актыўнасці, бадзёрасці і аптымізму. Гэтую асаблівасць заўважыў крытык А. Сакалінскі, які ў гаворцы пра зборнік паэта «На сонечны бераг!» падкрэсліваў наступнае: «Піша ён вершы не для забаўкі, і не для таго, каб з гора выплакацца, і не для таго, каб праклінаць бяздольле сваё асабістае і народнае, і не для таго, каб толькі любавацца красой, а прадусім для таго, каб выявіць прад народам сваю няўхільную веру ў лепшае заўтра Беларусі. Гэткая вера — гэта галоўны тон у вершах Машары. Машара — гэта паэт веры ў перамогу праўды і дабра на сьвеце».

Многія вершы М. Машары поўніліся запалістай энергіяй, тэмпераментам, паэтызацыяй маладосці, нястрымнага парыву да ідэалаў свабоды і справядлівасці, пафасам яднання, кансалідацыі сіл, ахопленых актыўным змагарным поступам:

Ня страшны нам віхор шалёны,
Мы з ім — свае, душой — радня.
Дарогу! — хто жыцьцём стамлёны,
Хто малады — у вір жыцьця!

*(«Ня страшны нам віхор шалёны...»)*

У вершы «На прадвесьні», своеасаблівым запеве аднайменнага зборніка, паэт натхнёна заклікаў:

Нашы новыя песьні так гулкі
І вясёлы наш марш маладых.
Прачынайся, вясковая вулка:
Па жывое ідзем да жывых.
Абарваны, галодны і босы
Не саромся... да нас — у рады!..

Лірыка-апавядальная плынь не перашкаджала сцвярджэнню адмабілізаваных і вынашаных прынцыпаў і перакананняў мастака, раскрыццю ўсёй глыбіні яго думак і перажыванняў, наадварот, прадугледжвала шырокі і ёмісты стылістычны спектр выяўлення іх патэнцый і магчымасцей.

З цягам часу ўзбагачаецца светапогляд М. Машары, паглыбляюцца яго ідэйна-метадалагічныя прынцыпы пазнання рэчаіснасці. Аналізуючы зборнікі паэта, міжволі звяртаеш увагу на рост і пашырэнне кругагляду і досведу яго лірычнага героя, развіццё і ўзбуйненне асобасных рыс характару. Відавочнымі з'яўляюцца эвалюцыя мастака ў плане духоўна-эстэтычнага асваення складаных і супярэчлівых жыццёвых працэсаў, павышэнне ўзроўню творчага майстэрства. «За вельмі рэдкімі выняткамі, дзе яшчэ чуюцца ўплывы іншых, Машара выйшаў на сваю дарогу, — падкрэсліваў у рэцэнзіі на зборнік «З пад стрэх саламяных», дарэчы, канфіскаваны паліцыяй, М. Танк. — У лірыцы, дзе ня чуўся паэт сьцісьненым «рамкамі» паэмаў, чуецца размах і арыгінальнасьць. Тут, мо' як нідзе так праявілася тое мастацкае адзінства формы і зьместу, чаго ня можна сказаць аб ранейшых яго творах...» І далей: «Калі вобразнасьць мовы і плястыка вобразаў прыйшла за глыбейшым аналізам мастацкіх вартасьцяў, за крытычнай пераацэнкай старых, дык канкрэтызацыя паэтыцкіх сымбаляў прыйшла разам з бліжэйшым падыходам да жыцьця самога паэта».

У многіх вершах М. Машары паўнакроўна жыве, напружана дыхае стыхія цяжкога народнага жыцця. Паглыбленне рэалістычных асноў творчасці паэта выявілася ва ўзбагачэнні і пашырэнні яе праблемна-тэматычнага зместу, а таксама жанрава-стылістычных асаблівасцей. Больш разнастайнымі становяцца яго мастацка-выяўленчая палітра, рытміка-інтанацыйны малюнак вершаў.

Творы, у аснове якіх падкрэсленая канкрэтнасць прадметна-рэчыўнага мыслення паэта, дэталізацыя рэалістычна-бытавых карцін і замалёвак, фарбаў і адценняў («Вясковая хатка», «Кірмаш», «Васеньні вечар» і інш.), суседнічаюць у М. Машары з парывіста-ўзнёслымі, лятункавымі, заклікавымі, поўнымі эмацыянальна-пачуццёвага вогніва, грамадзянска-патрыятычнага, прамоўніцкага пафасу («Званар», «Беларусь Маладая», «У разгоне» і інш.), творы з пэўнымі фальклорнымі традыцыямі і асаблівасцямі. У шэрагу твораў М. Машары 30-х гадоў выявіліся элегічныя матывы, характэрныя адзнакі медытатыўнага мыслення, засяроджанага рэфлексіўнага роздуму аўтара, аналізу рэчаіснасці — вершы «Даўно мінулі сенакосы...», «Апаўшае лісьце», «Мроі», «З шэлестам лісьця», «Ну чаго? Ну чаго табе трэба...» і інш.

У вершы «Едзе шпарка там хтось па дарозе...» паэт імкнецца асэнсаваць праблему суадносін вечнага і часовага, далёкасяжнага і хуткацечнага ў жыцці чалавека. Яго хвалюе дыялектыка змен і зрухаў у рэчаіснасці, змест і ўзаемазвязанасць паняццяў маладосці і старасці, учора і заўтра, радасці і гора. Жыццё чалавека нагадвае аўтару твора хуткую язду падарожніка, яно кароткае ў часе, зменлівае і непрадказальнае, няпэўнае ў сваёй сэнсавай абумоўленасці («Не вярнуць нам на'т мігу з учора, і ня знаем, што заўтра нясе...»):

Што быцьцё? што імкненьні ўсе нашы,
З прагавітаю смагай жыцьця?..
Зацьвіціць, адцьвіціць і заляжыць
У бяздонную муць забыцьця.

Хтось праехаў з званком па дарозе,
Адзьвінела і сьціхнула медзь.
Ўсё жыцьцё наша гэтак праходзіць.
І ня ўбачым, як пройдзе — мінець.

Вершы М. Машары гэтага плана вызначаюцца стрыманай эмацыянальна-пачуццёвай палітрай, унутранай сканцэнтраванасцю і ўраўнаважанасцю аўтарскага роздуму, вобразна-метафарычнай празрыстасцю, раскаванасцю і нязмушанасцю рытміка-інтанацыйнага гучання.

У 30-я гады ў творчасці М. Машары зараджаецца новы струмень — гарадская тэматыка, асэнсаванне асаблівасцей жыцця беларускага места. Натуральна, горад вабіць сялянскага па сваёй прыродзе і характары светаўспрымання паэта, прыцягвае яго дапытлівы розум і свядомасць, выклікае пачуццё ўзрушанасці і хвалявання. Напрыклад, вясновым вечарам, «Калі рытміка руху прыціхне і замоўкнуць у змроку муры», места здаецца лірычнаму герою верша «Вясна на бруку» «нейкай дрэмлючай тайнай вялікай». Узіраючыся ў цёмныя, бяздушныя вітражы «старасьвецкіх харом і муроў», ён бачыць мінуласці «міражы ў глыбіню праляцеўшых вякоў». «Аджываюць таёмныя цені невядомых людзей і багоў, — кажа аўтар. — І плывуць, і плывуць лятуценьні у задуме пустых хаднікоў».

У большасці вершаў М. Машара своеасабліва суадносіць гарадскія пейзажы і апісанні вясковых краявідаў. Горад, яго муры і брук чужыя паэту — падарожнаму «вясковых дарог», «мучыць вуха» яго лірычнага героя «бязладны рытм крыклівых нот», прыгнятаюць вулічны шум і мітусня, свісткі і сірэны, зыркія агні ліхтароў і рэклам. У заключнай страфе верша «Агні... агні... Гараць высока...» ён сцвярджае:

Я вёскі сын!.. лясоў і поля...
Мне міл і дораг іх прастор,
Люблю разгульны шум прывольля,
Не ліхтароў агні, — а зор!

Лірычны герой верша «О Вільня! Тваім камяніцам...» прыйшоў пакланіцца знакамітаму гораду, пяе яму пранікнёную песню. Аднак аўтар адразу акцэнтуе, што прыйшоў ён з «асьнежаных вёсак і ніў, дзе вецер-прыблуда сваволіць, сьпяваючы сумны матыў», прынёс «прывет ад Краіны», чые вочы «з трывогай глядзяць» туды, «дзе казкай сьвятлянай уночы» «ў неба плывуць» агні Вільні.

Так, вясковае асяроддзе ўзгадавала М. Машару, як, зрэшты, і многіх іншых заходнебеларускіх літаратараў, выхавала яго, абумовіла характар душэўна-чалавечага станаўлення, усвядоміла ў плане светапогляднага, грамадзянска-патрыятычнага развіцця. Паэт разумеў, што яго вядучыя духоўна-маральныя каштоўнасці — цяглавітая працавітасць селяніна, памяркоўнасць і разважлівасць, чуласць і дабрыня — з'яўляюцца асноватворнай дамінантай менталітэту беларускага народа, збіраюць яго ў адзінае цэлае, цэментуюць знутры. «Вёска, абмяжоўваючы бытаванне, творчыя магчымасці М. Машары, — слушна падкрэслівае А. Ліс, — была адначасна глыбіннай крыніцай яго творчасці. Яе духоўныя традыцыі, людзі, прырода стымулявалі яго натхненне, былі аб'ектам паэтычнай выявы. У беларускай вёсцы бачыў паэт не толькі радовішча творчага духу народа, але і патэнцыяльныя сілы вызваленчага руху беларусаў, рэзерв яго барацьбітоў».

Паэт адчуваў сваю трывалую душэўна-псіхалагічную повязь з вёскаю, яе багатым духоўным вопытам, са складанай і супярэчлівай стыхіяй сялянскага жыцця і побыту, спакроўленасць з адвечнымі інтарэсамі і клопатамі мужыка-беларуса, а таксама сваю глыбокую адданасць і ўдзячнасць ім. Нездарма ў вершы «Між калосься» са зборніка «З пад стрэх саламяных» ён прызнаецца: «Не хачу да зор — у неба, да зямлі я тут прырос...» Ён любіць глядзець, «як збожжа летам сьцеліць хвалі па зямлі», любіць «быць тут паэтам між калосься і людзьмі» і хоча «адзьвінець у полі рана песьняй роднай старане».

Тымі ж шчырасцю і цеплынёй, даверам і заўсёднай падтрымкай, адказвала яму і вёска. Характэрнай і паказальнай у гэтым плане з'яўляецца лаканічная і ёмістая нататка з часопіса «Рэха», органа беларускай працоўнай

эміграцыі ў Францыі. «Вядомы беларускі паэт Машара прыгатаваў да друку новы зборнік сваіх вершаў, — паведамлялася ў ёй. — На гэту вестку моладзь з ваколіц Лужок зараз-жа сабрала і прыслала ў рэдакцыю «Шлях Моладзі» 11 злотых. Сведчыць гэта аб вялікай нацыянальнай свядомасці і ахвярнасці нашай вясковай моладзі, асабліва калі прыняць пад увагу той матар'яльны стан, у якім знаходзіцца наша вёска пад польскім акупантам. З другога боку гэта сведчыць аб вялікай папулярнасці нашага песняра сярод беларускіх сялян».

Думаецца, якраз у адзначаным праблемна-тэматычным рэчышчы палягае і насычаная глыбокім духоўна-патрыятычным зместам прыродаапісальная лірыка М. Машары, у якой ён выяўляе багаты свет думак і перажыванняў свайго героя. Як правіла, пейзажныя карціны і замалёўкі-накіды ўключаюцца аўтарам у кантэкст яго занепакоенага роздуму адносна бягучых актуалій светапарадку, паядноўваюцца з асэнсаваннем надзённых і вострых праблем і супярэчнасцей заходнебеларускай рэчаіснасці.

У многіх вершах паэта, напрыклад, у такіх, як «Наўкол так прыгожа, прыгожа...», «Сьнегам, як пухам, занесены хаты...», «Панад вуліцай вясковаю...», «Як вось цьвітуць сады вясной...» і інш., духоўны свет лірычнага героя, яго эмацыянальна-пачуццёвая энергетыка праецыруюцца на працэсы і змены ў прыродзе, ставяцца ў залежнасць ад іх зместу і характару. Ён усведамляе сябе дзіцём прыроды, шчаслівы быць у яе жыццядайным асяроддзі, адчуваць яе высокую эстэтычную сілу і магічнае ўздзеянне. «Прырода родзіць у ім многа захапленьняў і сьветлых думак, — абгрунтавана даводзіў, гаворачы пра М. Машару, А. Рымчук. — Зрадніўшыся з ей і загледжаны ў яе чар, забываецца ён аб сваім асабістым і народным горы, мроячы аб шчасьці і радасьці». Менавіта з прыроднымі працэсамі, у прыватнасці, вясновымі зменамі ў наваколлі, звязваў наяўнасць радасці, бадзёрасці і аптымізму ў творчасці М. Машары М. Танк. «Пад уплывам вясны, руні, а посьле каласоў, хоць і не сваіх, паэт пакідае «нудзіцца» — адзначаў ён. — У зямлі прарастаюць зярняты, нават ня гледзючы на халады. Будзіцца патрэба жыцьця. І паэт выпроствае плечы, намуляныя вандроўнымі торбамі, так як і селянін, ня гледзючы на неўраджаі з кожнай вясной выходзіць у поле. «Я жыць люблю». Гэта ўжо не адасоблены голас, а голас тых, каму цяжка жыць і хто ведае, што за свае мазалі, як ніхто іншы, мае права да жыцьця».

Так, свабода і прыгажосць, гармонія і суладнасць, натуральнасць разлітыя ў прыродным свеце, з'яўляюцца своеасаблівай альтэрнатывай, супрацьвагай праблемам і супярэчнасцям, цяжкасцям і складанасцям, напружанасці грамадска-сацыяльнага жыцця. Цудадзейныя навакольныя краявіды, чароўныя колеры і барвы роднай зямлі, яе духаносная герменеўтыка лечаць, бадзёраць паэта, наталяюць яго душу дабратворным зместам, адчуваннем паўнакроўнасці быцця: «Сум жыцьця душы ня страшыць, калі май травой шаўковай пышна лёг на сьцежках нашых» («Між расквечаных загонаў»). Лірычны герой верша «У вясновым бездарожжы...» «Таёмна і прыгожа» вядзе «з ветрам спор»:

І гэты спор прадвесьні
Жывіць маю душу
І тчэ узор у песьні
Пра радасьць і вясну.

Што характэрна, месца прыродаапісальных вершаў ці вершаў з пейзажнымі элементамі, у творчай практыцы М. Машары другой паловы 30-х гадоў пашыраецца. На нашу думку, у гэты перыяд паэт засведчыў тэндэнцыю да пластычнай выяўленчасці і жывапісу словам. Як і многія яго сацыяльна-бытавыя вобразы і карціны, пейзажныя малюнкі, відарысы

і эцюды М. Машары далёкія ад агульна-абстрактнай апісальнасці, вызначаюцца зместавасцю, прадметна-рэчыўнай фактурнасцю і праўдзівасцю, сагрэты душэўна-пачуццёвай шчырасцю і цеплынёй. Яны звяртаюць на сябе ўвагу ў цэлым мяккай танальнай палітраю, далікатнымі, някідкімі фарбамі і светаценямі, тонкімі лініямі і пераходамі, як у наступным вершы:

Над старым заглохшым садам,
над таўпой вяковых ліп
месяц лемяшам шчарбатым
да ваўністых хмар прыліп.

Выпаўз цень, як воўк кудлаты,
лёг... расплыўся ў цішыне.
Ноч нямая... сьпяць Вісяты.
Бродзіць шолах па траве.

Над развалінай палацу
міліёны зорных воч
тых, тут згінуўшых ад працы,
памінае пэўна ноч.

Каля хаты пад бярозай
штось каліне шэпча змрок.
Сэрца мроіць аб прыгожым,
што ідзе да нас здалёк.

*(«Вісяты»)*

Як можна пераканацца, дзеянне тут разгортваецца натуральна, нязмушана, арганічна, асноўная думка, яе складовыя кампаненты не расцярушаны, а выяўлены ўнутрана сабрана, нават скандэнсавана. Безумоўна, належнаму раскрыццю аўтарскай задумы, узмацненню і акцэнтацыі ідэйнага зместу верша, яго структурна-кампазіцыйнай згарманізаванасці і суладнасці ў значнай ступені садзейнічаюць пейзажныя малюнкі і вобразы.

У 30-я гады паэт звяртаецца да лірычна-інтымнай тэмы. Прычым, калі ў зборніках «На сонечны бераг!» і «На прадвесьні» яна закраналася толькі ўскосна, раскрывалася ў рэдкіх матывах, паварочвалася сваімі асобнымі гранямі («Я хачу, каб ты сьпявала...», «Пад старой бярозай...»), то ўжо ў кнігу «З пад стрэх саламяных» увайшла няхай і невялікая, але досыць цэласная і кампактная нанізка вершаў пра каханне пад красамоўнай назвай-прысвячэннем «Ей». Вершы, якія склалі яе, — «Любы мой, прыдзі ў суботу...», «Адходзіў я адзін...», «На раздарожжы», «Я пытаўся у варожкі...» — розныя па сваім зместавым, эмацыянальна-пачуццёвым начынні, характары і ладзе вобразна-стылявой фактуры, рытміка-інтанацыйным гучанні, але ўсе яны ў той ці іншай ступені раскрывалі тонкія душэўна-псіхалагічныя перажыванні лірычнага героя, выяўлялі асаблівасці яго маральнага свету і філасофіі, чысціню і высакароднасць натуры, сцвярджалі культуру, этыку і эстэтыку самаадносін маладых людзей.

Трэба сказаць, М. Машара працуе з адным і тым жа канкрэтна-гістарычным матэрыялам, многія тэмы і праблемы, якія бяруцца ім для асэнсавання, не проста ў нечым пераклікаюцца паміж сабою, а і паўтараюцца, хоць уражання аўтарскага самапаўтарэння і аднастайнасці не ўзнікае. Справа ў тым, што ў кожным ці амаль у кожным рэальным выпадку да гэтага матэрыялу ён імкнецца падыходзіць па-іншаму, як бы мяняючы вугал і профіль яго разгляду, ракурс выяўлення, акцэнтуючы значнасць іншых фактаў і дэталей, сэнсавых момантаў, нюансаў і адценняў думкі і пачуцця, выкарыстоўваючы іншыя мастацка-выяўленчыя сродкі і прыёмы. Апелюю-

чы да шырокай масы людзей, калектыву, грамады, звяртаючыся да ўсяго народа, паэт тым жа часам намагаецца бачыць канкрэтнага чалавека, асобу, ва ўсякім разе, узіраецца ў ягоную постаць. Ён умее разгарнуць думку праз раскрыццё ўнутраных магчымасцей прадмета адлюстравання, выяўленне характарыстычных асаблівасцей працэса, дынамікі дзеяння, як у вершы «Сьпячы волат»:

Я — сьплю... Скавала мяне змора,
усё зьнясу, усё прыму.
І крыўды боль, і зьдзек і гора:
пакуль я — сьплю.

І далей:

Я чую ўздым пад зморай соннай
ў маіх грудзёх магутных сіл,
укладу я іх ў размах разгонны
растучых крыл.

Як бачым, М. Машара ўдала выкарыстоўвае такі мастацка-выяўленчы прыём, як форма маналога. З ім у паэта выступае то «сьпячы волат», над якім «стада груганова усьцяж кружыцца і крычыць», то старажытны Нёман, што, прадвяшчаючы хуткі надыход грознай буры («Хмары ізноў над старонкаю вецер шалёны нагнаў»), узрушана паведамляе:

Здаўна вас знаю, рахманыя
дзеці маіх берагоў,
вашу нядолю паганую
столькі ўжо бачыў вякоў.

Песьні тужліва-балючыя
так надакучылі мне, —
сёньня бунтарна-кіпучыя
думкі нясу на хрыбце.

*(«Хмары над Нёманам»)*

Апрача гэтага, шэраг вершаў паэта пабудаваны ў форме адкрытага ліста, публічнага паслання («Ліст» і інш.), выкліку самога сябе на суд («Кідаюць часам мне у вочы...» і інш.), а таксама апісання шляху, выяўлення дынамікі змен і зрухаў, уздымаў і спадаў у душэўна-псіхалагічным свеце лірычнага героя ад падарожжа («Дарога...», «Зьнямога», «Начамі чорнымі», «З торбы вандроўніка» і інш.). «Па сьцежках ад вёскі да вёскі вядзець мая песьня мяне...» Дарога, назіранні і ўражанні падчас паходу, вандроўкі — адзін з яго вядучых сюжэтна-кампазіцыйных і вобразаўтваральных сродкаў:

Я — жабрак у родным краю,
Гэта радасьць, ня жыцьцё,
Поле, лес... іду, мінаю, —
Торба, кій, — багацьце ўсё!

Сею песьні на узьмежкі,
Ў птушак розуму вучусь;
Мне знаёма кожна сьцежка,
Як шырока Беларусь.

Што ня куст, — начлег і хатка,
Смачна сьпіцца на траве;
Доруць песьнямі дзяўчаты
Ў кожнай вёсцы і сяле.

*(«Я — жабрак у родным краю...»)*

Кожны са зборнікаў паэта пэўным чынам выбудаваны структурна-кампазіцыйна: вершы сабраны ў адпаведныя праблемна-тэматычныя нізкі і размешчаны ў характэрнай, абумоўленай логікай аўтарскай задумы, паслядоўнасці. Напрыклад, зборнік «З пад стрэх саламяных» склалі восем адносна самастойных і закончаных раздзелаў: «Зьвінячае», «З пад стрэх саламяных», «Веснашумы», «Шум каласяны», «Жоўталісьце», «Лебядзіная бель», «Ей» і «Рознае». Своеасабліва дапаўняючы і развіваючы адзін аднаго, яны арганізуюць структурную цэласнаць, утвараюць ідэйна-мастацкае адзінства кнігі.

Паэзія Міхася Машары — значная з'ява ў гісторыі літаратуры Заходняй Беларусі. Яна досыць глыбока і пераканаўча выявіла духоўныя настроі і памкненні шырокіх народных мас, дабратворна ўплывала на грамадска-патрыятычны, вызваленчы рух у краі. Далейшыя ідэйна-мастацкія пошукі пісьменніка будуць разгортвацца ўжо ў савецкі перыяд, калі ён засяродзіцца, галоўным чынам, на прозе, раманнай творчасці.





ІРЫНА БАРОЎСКАЯ

# ПАЭТЫЧНАГА СЛОВА ЧАРОЎНАСЦЬ

***Разгляд некаторых стылістычных фігур на матэрыяле тэкстаў беларускай прафесійнай песні***

Беларуская песенная лірыка — заканамерны вынік шматвяковага працэсу развіцця мастацкага слова і музыкі, у якой схаваны непаўторныя рысы нацыянальнага характару. Беларуская прафесійная песня стала аб'ектам нашага даследавання, у якім мы прасочым выкарыстанне стылістычных (сінтаксічных) фігур у паэтычных тэкстах беларускіх паэтаў розных перыядаў.

Паэтычны сінтаксіс як сістэма сінтаксічнай арганізацыі вершаванай мовы больш складаны, чым сінтаксіс празаічнай мовы. Ён знаходзіцца ў арганічным адзінстве з рытмам, узаемадзейнічае з ім. Аднак гэтая складанасць не ўспрымаецца чытачом ці слухачом, наадварот, усе складанасці сінтаксічнай будовы спрыяюць больш адэкватнаму ўспрыняццю аўтарскай задумы і яго эмацыянальнага стану. Сінтаксіс мастацкага тэксту, як і сінтаксіс любога моўнага твора, з'яўляецца неабходнай арганізуючай часткай яго структуры. Калі мець на ўвазе тэкст літаратурнага твора, яго моўную тканіну, то аб'ектамі мастацкага адлюстравання звычайна з'яўляюцца думкі, мова, дзеянні лірычнага героя, яго ўнутраны свет і перажыванні, а таксама «агульныя» падзеі, пейзаж, прадметы навакольнага асяроддзя. У мове паэзіі (асабліва песні) заўсёды пераважае эмацыянальны пачатак, хаця ніколі не захлынае яго поўнасцю. Даследчык народнай песні Н. Гілевіч сцвярджае, што «дзякуючы гібкасці народнага мыслення (а сінтаксіс адлюстроўвае характар мыслення) дасягаецца незвычайная ашчаднасць слоўнага матэрыялу». Ён лічыць, што сінтаксіс фальклорна-песеннай мовы заслугоўвае спецыяльнага доследу. Не ў меншай ступені, на нашу думку, гэта тычыцца і прафесійнай песні.

Да паэтычнага сінтаксісу ў першую чаргу належаць розныя віды і формы стылістычных (або сінтаксічных) фігур і рытарычныя фігуры, кожная з якіх выконвае ў творы сваю выяўленчую функцыю. Менавіта ад гэтага і залежыць характар паэтычнай інтанацыі. Заўсёды трэба ўсведамляць, што мікравобразы ствараюцца не столькі выразнасцю паасобных удала знойдзеных слоў, колькі ўмелым спалучэннем іх у кантэксце. Незвычайнасць словаспалучэнняў, якая ўзнікае ў выніку парушэння звыклых лексічных сувязяў, — абавязковая ўмова з'яўлення семантычнай двухсэнсоўнасці. Вельмі часта

сэнс, эстэтычную вартасць вобраза раскрывае кантэкст — мінімальны (словаспалучэнне) і больш шырокі (сказ, сінтаксічны перыяд і г.д.). Наконт састаўных частак паэтычнага сінтаксісу ў славянскай філалогіі дагэтуль няма адзінства. Так, Г. Паспелаў адносіць да іх нават эпітэты, хаця большасць даследчыкаў лічыць эпітэты тропамі. Практычна кожны сур'ёзны даследчык прапануе сваю класіфікацыю стылістычных і рытарычных фігур, якія вылучаюцца як колькасцю апошніх, так і характарыстыкай іх унутранай сутнасці і вобразна-выяўленчай значнасці. Варта пагадзіцца з В. Рагойшам, які сцвярджае, што «сінтаксічны лад беларускага верша пакуль што яшчэ не вывучаны». Акрамя таго, жанрава-стылёвая і вобразна-выяўленчая структура песні патрабуе сваёй класіфікацыі асноўных састаўных частак паэтычнага сінтаксісу, бо далёка не ўсе традыцыйныя для паэтычнай мовы сродкі маюць адэкватнае значэнне для жанру песні. Спецыфіка песні патрабуе адметнай класіфікацыі, якая і прапануецца. Згаджаючыся з меркаваннем, што *сінтаксічныя, або стылістычныя, фігуры* — своеасаблівыя сінтаксічныя канструкцыі вершаванай мовы, якія не зусім адпавядаюць агульнапрынятым у звычайнай моўнай практыцы сінтаксічным нормам, тым не менш спыняем увагу толькі на тых, якія ў найбольшай ступені ўласцівы песеннай лірыцы ў адрозненне ад паэзіі ўвогуле.

Сродкі паэтычнага і выяўленчага сінтаксісу, якія (адны ці разам з іншымі моўнымі сродкамі, прамым сваім значэннем або сімвалічным зместам) дапамагаюць стварэнню пэўнага мастацка-вобразнага ўражання, па-рознаму ў кожнага з паэтаў удзельнічаюць у абмалёўцы названых аб'ектаў. Можна, такім чынам, гаварыць аб індывідуальна-аўтарскай характарыстыцы выкарыстання выяўленчых магчымасцей сінтаксічных сродкаў.

### *Разнавіднасці паўтораў*

Даследаванне песень беларускіх паэтаў XIX—XX стст. прыводзіць да высновы, што яны прадаўжаюць традыцыі народнай песнятворчасці. Шырока выкарыстоўваецца ў паэтычным кантэксце такі стылістычны прыём, як паўтор. Урэгуляваная перадача ідэнтычных элементаў паэтычнай мовы, якая ўжываецца для ўзмацнення выразнасці, яскрава заўважаецца, калі адзін з паўтораных кампанентаў апусціць. Лацінскі выраз «Ave, Maria» М. Танк у аднайменнай песні паўтарае ў канцы кожнай страфы, і кожны раз ён гучыць па-рознаму: то як узвышанае «Радуйся, Марыя», то як горкі ўздых, то як пратэст марнай загубы маладосці, прыгажосці дзяўчыны, якая магла быць каханай і стаць маці. Без гэтага стылістычнага прыёму песня не ўяўляецца, бо паўтор вокліча з каталіцкай імшы стварае атмасферу захаплення, чароўнасці, надзеі, радасці жыцця і расчаравання. Песня — паэтычна-музычны твор. Таму акустычныя ўласцівасці радка залежаць і ад гукапісу, і ад мелодыкі верша. Усе паўторы, гукавыя і марфалагічныя, сугучнасці, гукавыя і інтанацыйныя пераклічкі ў пэўнай ступені абумоўлены мелодыяй, асаблівасцямі напеву дадзенага твора. Як мелодыя дапамагае падабраць і спалучыць словы, так і пэўныя словы, словазлучэнні выклікаюць у кампазітараў жаданне стварыць пэўную мелодыю. Паўторы не з'яўляюцца паказчыкамі беднасці аўтарскай мовы, абмежаванасці выкарыстання моўных сродкаў аўтара, наадварот, яны сведчаць аб умелым абыходжанні са словам пры яго выкарыстанні, паколькі яно ўжываецца ў кантэксце з пэўным камунікатыўным заданнем. Паўторы ў песенных творах выступаюць адным з асноўных сродкаў моўнай экспрэсіі і з'яўляюцца разам з тым неабходнай структурнай прыметай цэласнасці тэксту. Трапна скарыстаны парны паўтор часам дазваляе аўтару стварыць мастацкі вобраз ці апісанне, узмацніць дзеянне, прыкмету або ступень якасці: *Выйду, выйду*

*хутчэй за вароты І на вуліцы снег размяту я* (А. Ставер. Закружыла мяцеліца).

Лінгвісты паўторы разглядаюць у розных аспектах і на розным матэрыяле, што звязана з яго поліфункцыянальнасцю. Паўторы, як і ўсе экспрэсіўныя канструкцыі, маюць дачыненне як да сінтаксісу тэксту, так і да яго лексікі, непарыўна звязваючы два ўзроўні моўнай сістэмы. Такім чынам, праяўляюцца дзве асноўныя функцыі паўтораў у мастацкім тэксце:

— у якасці актыўнага стылістычнага сродку славесна-моўнага абазначэння ўжо названага аб'екта;

— у якасці сродку сувязі розных сінтаксічных канструкцый у тэксце.

У песенных радках выкарыстоўваюцца паўторы ў розных тыпах сінтаксічных канструкцый. Гэта могуць быць паўторы словаформ, словазлучэнняў у межах аднаго сказа або фразы, а таксама паўтор цэлых сказаў у межах вялікіх сінтаксічных канструкцый. Паўтор уяўляе сабой парушэнне пэўнай сінтагматычнай паслядоўнасці, а таму часцей за ўсё па адной ужо гэтай структурнай асаблівасці мае магчымасць ператварацца ў экспрэсіўны сінтаксічны прыём. Паўтарацца могуць розныя часціны мовы ў залежнасці ад таго, якую сінтаксічную ролю ў сказе яны выконваюць. Паўторы паэтычнага сінтаксісу (лексіка-стылістычныя) выступаюць у ролі такіх стылістычных фігур, як анафара, эпіфара, шматзлучнікавасць, шматпрыназоўнікавасць, падваенне, кальцо, градацыя, паралелізм і інш. Звычайна ў песенных творах яны сустракаюцца не паасобку, а ў спалучэнні адно з адным або з некалькімі іншымі, што садзейнічае лепшаму выяўленню паэтычнага зместу.

А н а ф а р а (ад грэч. anaphora — вынясенне наверх). Паўтарэнне аднолькавых гукаспалучэнняў, слоў ці выразаў ў пачатку вершаваных радкоў або суседніх строф, калі «падобныя развітыя члены сказа або нават падобныя незалежныя сказы пабудаваны так, што пачынаюцца з аднаго слова» (Б. Тамашэўскі), называецца анафарай (адзінапачаткам), фігурай, характэрнай для лірычных жанраў. Анафара выкарыстоўваецца для павышэння эмацыянальнасці выказвання, ягонай танальнасці, у песенным творы выконвае кампазіцыйную функцыю, аб'ядноўваючы паасобныя радкі, напрыклад: *Сказаць, што васілёчак, дык фарба ў ім адна, Сказаць, што ты лілея, — сцюдзёная ж яна. Сказаць, што ты званочак... Дык усіх жа мала іх!* (П. Броўка. Александрына); *Я імя тваё малітваю светлаю вымаўлю, Я люблю цябе нязбытную* (У. Някляеў. Люблю). Анафара — адзін з самых ужывальных стылёвых прыёмаў народнай песні («Ці ўсе лугі пакошаны?», «Жыта спее» і інш.).

Да асноўных разнавіднасцей анафары ў прафесійнай песеннай лірыцы адносяцца:

— гукавыя, пры якіх адбываецца паўтор у пачатку вершаваных радкоў адных і тых жа злучнікаў або прыназоўнікаў, напрыклад: *Каб была я перапёлкай, Каб я волю мела.* (Янка Купала. Песня); *На яловыя кусты, На сухія верасы* (Янка Купала. Адцвітанне); *І белы па садах агонь, І, як дзявочы карагод, Чаромхі кругам ля акон* (П. Броўка. Вясной птушыны звонкі лёт); *Над табой разгараюцца зоры, Над табою сады расцвілі* (А. Русак. Дняпро); *Ці коска зазвоніць ў лугах раніцою, Ці песню дзяўча запяе, Ці конік ў дарозе праскочыць трусцою, Ці вецер ў палёх зазлуе* (Янка Купала. Водгулле) і інш.;

— лексічныя, пры якіх паўтараюцца аднолькавыя словы ў пачатку ўсіх або некаторых частак песні, напрыклад: *Александрына! Цяпер прыйшла зіма... Александрына! Шукаю я — няма! Александрына! І з песняй ты цвіла... Александрына! Якою ты была!* (П. Броўка. Александрына); *Праз гады і разлукі помню песні твае, Помню цёплыя рукі, Помню косы твае* (Г. Бураўкін. Песня

пра маці); *Вецер сцеле туман над крыніцай. Вецер вее з палян медуніцай* (Н. Гілевіч. Вечаровая песня самотніцы); *Трэба дома бываць часцей, Трэба дома бываць не госцем* (Р. Барадулін. Трэба дома бываць часцей) і інш.;

— сінтаксічныя, дзе паўтараюцца ў пачатку радкоў аднолькавыя ці аднатыпныя сінтаксічныя канструкцыі, што ў паасобных выпадках можа надаваць твору выключны лірызм і ўзнёсласць, напрыклад: *А мая ж ты кветачка, А мая ж ты птушачка, А мая ж ты зоранька, А мая ж ты дзеванька* (Я. Чачот. А мая ж ты кветачка); *Ты са мной, нечаканага шчасця заранка, Ты са мной, калі нават не побач са мной*; *Бачыць вочы твае — мне вышэйшага шчасця не трэба... Бачыць вочы твае — і ўсю ночку з табою маўчаць...* (Л. Пранчак. Найлепшая ў свеце жанчына); *Мая адзінота — зняметая птушка з падбітым крылом. Мая адзінота — разлітая чарка са шлюбным вінам. Мая адзінота — патухшая знічка ў самотнай начы* (В. Ермалёнак. Мая адзінота) і інш.

Асабліва паэтычнымі, напоўненымі замілаваннем характва і шчасця, уяўляюцца страфічныя анафары, дзе анафарычны зачын кожнай страфы нараджае цэлы каскад паэтычных асацыяцый, вызначаючы новыя далягляды духоўнага спасціжэння Бацькаўшчыны ў песнях Цёткі «Люблю мой сад» і К. Буйло «Люблю...», дзе па-жаночы шчыра аўтары прызнаюцца ў любові да роднай зямлі.

У сучаснай песеннай традыцыі часцей за ўсё анафара выкарыстоўваецца ў творах спавядальна-рытарычнага характару, галоўным чынам, у любоўных песнях або своеасаблівых споведзях-малітвах, дзе аўтар з усёй шчырасцю і адданасцю прызнаецца ў каханні да сваёй адзінай ці ў любві да бацькоўскага краю або Радзімы ўвогуле (працяг купалаўскай «Малітвы» ў «Малітве да Беларусі» Г. Бураўкіна і інш.). Прыём не надта пашыраны ў апошнія гады, але дасканалае яго выкарыстанне, нягледзячы на ўяўную прастату, выяўляе шырокія выяўленчыя магчымасці.

Анафара выкарыстоўваецца для павышэння эмацыянальнасці выказвання, ягонай танальнасці, у песенным творы выконвае кампазіцыйную функцыю, аб'ядноўваючы паасобныя радкі. Іншы раз надае твору выключны лірызм і ўзнёсласць.

Э п і ф а р а (грэч. epiphora — паўтарэнне) — стылістычная фігура, якая ў адрозненне ад анафары, заключаецца ў вынясенні адных і тых жа гукаў, слоў ці выразаў у канец некалькіх суседніх вершаваных радкоў або строфаў — распаўсюджаны прыём паэтыкі народнай песні, а ў прафесійнай песні сустракаецца даволі рэдка. Часцей за ўсё выкарыстоўваецца для большай выразнасці вобраза, узмацнення пачуццёвага напалу, падкрэслівання пэўнай думкі, прыкметы, стварэння кампазіцыйнага, рытмічнага малюнка, напрыклад: *Вясёлы спеў чуваць, Зязюлькі спеў чуваць; Тады званчэй спявай, З зязюлькаю спявай* (А. Дзеружынскі. Цвіце шчаслівая зямля), дзе эпіфара праходзіць праз 2 апошнія радкі 1-га і 3-га куплетаў.

У многіх песнях, асабліва стылізаваных у пэўных адносінах, сустракаецца гукавая эпіфара, дзе кожная страфа завяршаецца гукаперайманнем: А зязюлька кукавала: *Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку! Спі, саколік! Ку-ку, ку-ку!* (Янка Купала. А зязюлька кукавала). У песні «Я спяшаўся за табою» Н. Гілевіча ў апошняй страфе — радковая эпіфара: *З краю ў край прайсці, праехаць з краю ў край! Я гатоў пад гэтым небам, з краю ў край, Бо не водгалас, не рэха, з краю ў край! А сама мне песня трэба! З краю ў край!* Выраз *з краю ў край* праходзіць у канцы кожнага радка, узмацняючы шырыню выказвання.

Дзякуючы строфнай эпіфары паэты выражаюць узмоцненасць пачуцця свайго захаплення красой родных краявідаў, прыроды *(«Людзі, гляньце: жаўраначка!» (1); «Людзі, чуйце, жаўраначка!» (2); «Людзі, верце: жаўра-*

*начка!» (3)* — Н. Гілевіч. Жаўраначка) або скарыстоўваюць яе для большай выразнасці і пераканаўчасці *(Адно адчуй, як я кахаю, Адно спазнай, як я люблю (1); Не страшна мне, бо я кахаю, Не скрушна мне, бо я люблю (прыпеў); Не папракай, што я кахаю, Не праклінай, што я люблю (2); Адно адчуй, як я кахаю, Адно спазнай, як я люблю (3)* — Н. Гілевіч. Мой лёс — каханне). Паўтарэнне ў канцы кожнага радка « я кахаю, я люблю» выражае пачуцці паэта і перадае гэты напал слухачу. Кожная страфа песні Я. Чачота «Маладая маладзіца» завяршаецца выслоўем *«Нішто гідчэй колам света, Як піяная кабета...»*, што сцвярджае і падкрэслівае негатыўныя адносіны паэта да гэтай праблемы, акцэнтуе ўвагу на важнасці выказвання.

Эпіфара надае песенным вобразам маляўнічасць, мастацкую выразнасць, філасафічнасць думкі, глыбіню і змястоўнасць, падкрэслівае лейтматыў твора, напрыклад: *Я на струнах раззваніла б, Дух народу я абняла б, У жары сэрца растапіла б, Алтар новы ўлівала б, Пры алтары тым я грала б, Так па струнах галасіла б, То склікала б, то вітала б, То суседзяў весяліла б* (Цётка. Скрыпка). Эпіфара часціцы *б* з дапамогай дзеяслоўнай ампліфікацыі значна пашырае прасторавую велічнасць аўтарскай задумы. У гэтай жа песні ў перадапошняй страфе эпіфара праходзіць праз першы і трэці радок, прадвызначаючы аўтарскае Я.

Збег анафар значна ўзмацняецца і эмацыйным спалучэннем з пераклічкай эпіфар, што ў сваю чаргу акцэнтавана нарастаючай градацыяй і адлюстроўвае дзеянне ў двух планах, рэальным і пераносна-абагуленым. Часам анафары і эпіфары, перш за ўсё сінтаксічныя, вызначаюць будову ўсяго твора. Так, уся жаўнерская песня Янкі Купалы «Гэй, у лесе, пры даліне...» мае анафарычную кампазіцыю. У ёй абсалютна ідэнтычны другі і чацвёрты радкі (апошні, праўда, узмацняецца інтанацыйна (градацыя). У першым жа радку ў параўнанні з трэцім губляюцца два апошнія словы, затое паўтараецца заключнае слова другога радка адпаведнай страфы і двойчы вылучаецца вокліч «Гэй, гэй!», што тлумачыцца жанравымі адметнасцямі песні, разлічанай на выкананне пры маршы. Падобная заканамернасць павінна заўсёды ўлічвацца пры аналізе паэтыкі песні. Асабліва эмацыянальная эпіфара ў песні М. Танка «Ave, Maria». Як памяць аб незваротнай страце гучыць эпіфара ў песні П. Броўкі «Пахне чабор», што значна ўзмацняе эмацыянальную аснову твора.

Вялікую ролю адыгрывае эпіфара ў інструментоўцы песні, яе гучанні, рыфмоўцы і, асабліва, мелодыцы, узмацняе эмфатычную інтанацыю, надае лірызм радкам.

К а л ь ц о — паўтарэнні на пачатку і ў канцы асобных вершаваных радкоў, строф ці цэлага твора аднолькавых гукаспалучэнняў, слоў або выразаў. У песеннай лірыцы найбольш распаўсюджаны *страфічнае* і *архітэктанічнае* кальцо.

*Страфічнае* кальцо, якое найбольш поўна выяўляе ідэю твора, засяроджвае ўвагу на канкрэтных сітуацыях, з'яўляецца часткай архітэктанічнага, напрыклад: *Ігралі музыкі, ігралі, І, нібы душу спавядалі, Плылі іх шчымлівыя зыкі — Ігралі, ігралі музыкі* (А. Фіялкоўская. Ігралі музыкі). «Раманс» М. Багдановіча заснаваны на паўторах першага і чацвёртага радкоў кожных строф: [1 куплет] — «Зорка Венера ўзышла», [2] — *«Але расстацца нам час»*, [3] — *«Буду ў далёкім краю»*, [4] — *«Глянь іншы раз на яе»*. Кальцавая кампазіцыя асобных строф пакладзена Янкам Купалам у будову песень «Не шукай...», «Ты прыйдзі», напрыклад: *Не шукай ты шчасця, долі На чужым, далёкім полі, Гэт, за шумным лесам-борам, За шырокім сінім морам Не шукай ты шчасця, долі.* Радкі *Ты прыйдзі ка мне* з невялікімі ўдакладненнямі часу і месца дзеяння (вясною, улетку, зімою, увосень, на магілкі) і, урэшце, паўтор

з абрывамі ў фінале ствараюць карціну выключнай чалавечай адзіноты і не менш вялікай надзеі. Вар'іраванне пачатковых і заключных радкоў страфы генетычна звязана з народна-песеннай традыцыяй. Як і ў фальклорнай песні, кальцо паглыбляе асноўную паэтычную ідэю твора, надаючы яму сэнсавую важнасць і эмацыянальную напоўненасць. У спалучэнні з сінтаксічнай анафарай кальцавая кампазіцыя дазваляе падкрэсліць увесь трагізм быцця і разам з тым веру ў магутныя чалавечыя пачуцці — каханне, прыязнасць, спагаду.

— *Архітэктанічнае* кальцо, калі паўтараецца ў пачатку і канцы твора, напрыклад, песня М. Танка «Грай жа, музыка», пачынаецца і завяршаецца адным словам: *Дай жыту, светлы май, Дождж і пагоду, Вецер з усходу Дай мне, дай!,* што выразна акцэнтуе аўтарскую думку, завастрае ўвагу слухача на адпаведным выказванні, яго ж песня «Не шкадуйце, хлопцы, пораху...», дзе згаданы сказ-загаловак гучыць на пачатку і ў фінале твора, выразна падкрэсліваючы яго публіцыстычны, пабуджальны характар. Архітэктанічнае кальцо шырока скарыстана многімі паэтамі, напрыклад, Г. Бураўкін пачынае і заканчвае тэкст песні «Табе, Беларусь» радкамі: *Ёсць на свеце нямала прыгожых узлессяў, Ёсць на свеце нямала чароўных дарог, Толькі самыя лепшыя словы і песні Для цябе я навекі збярог;* М. Танк у песні «Ля гэтых сосен» радок *«Ля гэтых сосен нельга не спяваць»* паўтарае на пачатку і ў канцы твора; рытарычным пытаннем пачынае і завяршае сваю песню-прызнанне ў любові да роднага краю «Я не магу на вас забыцца» П. Броўка.

Кальцо надае новыя вобразна-выяўленчыя адценні, узмацняе эмацыянальны напал сітуацыі ў спалучэнні з іншымі стылістычнымі прыёмамі, напрыклад, са шматзлучнікавасцю: *Дазволь цябе любіць, Як кветачку на полі, Як явар малады, Што над ракой стаіць, Як залатую птушку, Што жыве на волі, Дазволь цябе любіць* (Зм. Бядуля. Дазволь цябе любіць), анафарай, ампліфікацыяй, шматпрыназоўнікавасцю: *Я вымалю цябе У светлае зары, У зім і вёсен счараваных, У летуценных сноў, У зорнае пары Я вымалю цябе, каханы!* (А. Фіялкоўская. Я вымалю цябе) і інш.

Кальцо як адзін са складаных сінтаксічных прыёмаў сучаснай песеннай лірыкі ўзмацняе адзіны эмацыянальны настрой і зарад, паглыбляе асноўную паэтычную ідэю твора, надаючы яму сэнсавую важнасць і эмацыянальную напоўненасць.

Антытэза (ад грэч. antithesis — проціпалажэнне) — фігура маўлення, заснаваная на рэзкім супастаўленні кантрастных або процілеглых з'яў ці паняццяў. Семантычны кантраст або процілегласць выражаюцца звычайна праз паралелізм сінтаксічнай і рытмічнай арганізацыі, праз паўтарэнне антонімаў. Пры антытэзе проціпастаўляюцца супрацьлеглыя, кантрастныя па сваім змесце словы.

Як яркі сродак экспрэсіі антытэза пашырана ў народнай лірыцы, дзе многія песні цалкам заснаваны на гэтым прыёме, напрыклад, «Ці свет, ці світае», «Туман, туман пры дарозе». Прафесійныя песні таксама характарызуюцца прыёмам антытэзы, аднак тут антытэза часцей за ўсё ўзмацняе паасобныя думкі і вобразы, спрыяе стварэнню адпаведнага настрою, напрыклад: *І ў белы дзень і ў чорну ноч я ўсцяж раблю агледзіны* (Янка Купала. Спадчына); *І хата — не міла, Ўрагамі — дружкі, І свет — як магіла, І ночкай — дзянькі* (Янка Купала. Грайце, песні); *Ці то позна, ці то рана* (Я. Купала. Грайце, песні); *Табой жыву, табою дыхаю І шумным днём, і ноччу ціхаю... З высяў зорных на зямлю* (У. Някляеў. Люблю); *Ты мой першы і апошні грэх, Горкі боль мой і салодкі смех* (Л. Пранчак. Грэх); *І ніхто адзін, і ні цэлы свет* (А. Фіялкоўская. Светлая замова) і інш. Найчасцей антытэза перадае адпаведныя зрухі чалавечай душы, напрыклад: *Нёс цябе між даляў дарагіх І*

*натхнёна плакаў і смяяўся* (А. Куляшоў. Маладосць); *Ні жуды, ні нуды* (М. Багдановіч. Маладыя гады).

Антытэза адзначаецца параўнальна рэдка ў творах грамадзянскага гучання, найбольш — у песнях пра каханне, напрыклад: *І веру ёй адзінай, І сам сабе хлушу* (Н. Гілевіч. Сонечныя гурбы); *І прыпыніць цябе няёмка, І адпусціць цябе шкада* (Г. Бураўкін. Незнаёмка); *То я рвуся к табе, то, як слуп той, стаю, То жалею цябе, то кляну горка так* (Янка Купала. Не глядзі), *Ранняй часінай к табе я лячу, Позняй парою* (А. Русак. Толькі з табою); *І натхнёна плакаў і смяяўся* (А. Куляшоў. Маладосць).

Увесь твор «Ave, Maria» М. Танка пабудаваны на антытэзе святла і змроку, прыгажосці чалавечага цела і аскетызму, зямнога і нябеснага. У шэрагу іншых песень народнага паэта антытэза стварае атмасферу кантрасту, узмацняе пачуццё трагізму, напрыклад: маці шле *думы, слёзы, песні,* але яны вяртаюцца *сіняй бурай, цёмнай хмарай, чорным воранам* («Пасылае маці думы»).

Антытэза дасягае вялікай сілы, калі спалучаецца са *стыкам* (словы, якімі заканчваюцца вершаваныя радкі, паўтараюцца ў пачатку наступных радкоў), напрыклад: *Першы арол чорны. Чорны — смерць салдата, Што ляжыць, паранен, На траве прымятай. А другі — увесь белы, Белы, яснакрылы — Вернае каханне Заручонай, мілай* (М. Танк. Два арлы). Падчас антытэза служыць для паказу сацыяльных супярэчнасцей: *Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, Яны ж мне каменне кідалі* (М. Багдановіч. З песняў беларускага мужыка). Скарга Нёмана ў песні «Над Нёманам» Янкі Купалы цалкам заснавана на супастаўленні былога і сучаснага для беларуса.

Паводле марфалагічнай структуры ў песнях шырэй прадстаўлена антытэза, якая будуецца на рознакаранёвых антонімах, напрыклад: *Да цябе я прыйду і здалёку і зблізку* (Г. Бураўкін. Табе, Беларусь); *Зімой і летам, дзень і ноч Дубы вартуюць родны край* (А. Русак. Стаяць над Нёманам дубы), радзей — аднакаранёвых, напрыклад: *Абяцаў, што сёння прыйдзе, Ды чамусьці не прыйшоў* (А. Ставер. Дзявочая песня) і інш.

Паводле сэнсавых узаемаадносін у антытэзе песенных радкоў шырока распаўсюджана а м ф і т э з а, для якой характэрна сцвярджэнне абедзвюх супрацьлегласцей, пры гэтым пэўная з'ява ахопліваецца поўнасцю, напрыклад: *Дзе хата, як маяк на кручы, Кліча нас дадому Днямі і начамі* (А. Грачанікаў. Родны бераг); *Яны к табе ўдзень і ўночы рады прыляцеці* (Я. Баршчэўскі. Дзеванька), дзе спалучэнне антонімаў *удзень — уночы (днямі — начамі)*, выражаючы супрацьлеглыя паняцці, мае значэнне 'заўсёды'; *Ходам ходзяць гаспадыні — маладая і старая* (Янка Купала. Вечарынка), дзе спалучэнне антонімаў *маладая — старая* мае значэнне 'усе'; зрэдку сустракаецца а л ь т э р н а т э з а, для якой характэрны альтэрнатыўны выбар аднаго з супрацьлеглых прадметаў, з'яў і г.д., напрыклад: *Знае хай, хто тут пан: Я — ці неба* (Янка Купала. Курган), дзе альтэрнатэза ўтворана кантэкстуальнымі антонімамі я — неба, якія звязаны злучнікам ці; а к р а т э з а, для якой характэрна не столькі параўнанне супрацьлеглых прымет, колькі сцвярджэнне наяўнасці адной з іх. У структуры акратэзы назіраецца адмоўная часціца не з адным кампанентам антанімічнай пары, а аб'ядноўваецца сама пара супраціўнымі злучнікамі *а, але*, якія могуць у радку і апускацца, напрыклад: *Не сама к табе прыйшла я, Сэрца прывяло* (А. Русак. Ціхі вечар); *Мо і скажаш, што я жыці буду, Але лепш не гавары* (М. Багдановіч. Не кувай ты, шэрая зязюля) і інш.

Пад уплывам этнакультурнай і фальклорнай традыцыі ў ранняй песні Янкі Купалы стала замацаваліся вобразныя апазіцыі *ранку* і *вечара, дня* і *ночы, вясны* і *восені, зімы* і *лета.* Першыя ланцужкі гэтых кантрастных супастаўленняў сімвалізавалі адраджэнне і красаванне жыцця, надзею і веру,

а другія — роспач і смерць, альбо часовы заняпад жыццёвых памкненняў. Падобная міфалагічная сімволіка супрацьпастаўленняў надае звычайным пейзажным песенькам сапраўды філасофскі падтэкст: *Не гудзі так, восень, Непагодай дзікай; Не крываўся, сэрца, З нядолі вялікай* (Янка Купала. З асенніх напеваў).

Антытэза найчасцей сустракаецца ў песнях пра каханне, узмацняе думку і вобраз, спрыяе стварэнню адпаведнага настрою, перадае адпаведныя зрухі чалавечай душы.

І н в е р с і я (ад лац. inversio — перастаноўка) — стылістычная фігура, сутнасць якой заключаецца ў парушэнні агульнапрынятай паслядоўнасці адзінак маўлення, напрыклад, у Янкі Купалы інверсія абумоўлена памкненнем паэта паставіць пад рыфму найбольш важнае слова: *Ад прадзедаў спакон вякоў Мне засталася спадчына; Паміж сваіх і чужакоў Яна мне ласкай матчынай.* («Спадчына») або стварыць паэтычны малюнак: *Туманамі спавівае Луг зялёны над крыніцай* («Летняя раса»). Інверсія падкрэслівае неабходныя для рэалізацыі задумы аўтара асацыяцыі і садзейнічае пашырэнню мастацкага вобраза: *Як горда бацькоўскія шапкі насілі, Прапахлыя порахам страшнай вайны* (У.Карызна. Белы караблік); *Падходзяць да самага, самага бору, шумлівага бору Уволю наслухацца музыкі спеўнай азёры* (У. Карызна. Азёры дабрыні) і інш.

У песеннай лірыцы інверсія часта абумоўлена рыфмай, рытмам, усім комплексам вобразна-выяўленчых моўных сродкаў мовы. Падчас інверсія ў спалучэнні з сінтаксічным перыядам успрымаецца як складаная канструкцыя, што падкрэслівае велічнасць і ўзнёсласць вобраза, напрыклад: *Там, дзе светла кахалі, Дзе аб шчасці гадалі, Дзе ў вячэрнім чароце плешча ціхая Друць, Над маімі шляхамі, Над маімі гадамі Твае белыя-белыя крылы плывуць* (Г. Бураўкін. Белыя крылы).

Нягледзячы на значную «свабоду» парадку слоў у сказе, у беларускай мове кожны яго член мае ўласцівае яму месца, што звязана са стылем маўлення. На гэтай падставе адрозніваецца прамы і адваротны парадак. Апошні з'яўляецца адступленнем ад звычайнага парадку і, як правіла, выконвае розную функцыю. Інверсія выказніка надае паэтычнаму радку ўзнятасць, лірычную ўсхваляванасць, дынамізм, падкрэслівае іх важнасць, напрыклад: *Тут спазналі нямала харошага, Навучыліся многаму мы* (А. Бадак. Школьны баль); *Ахінула ноч прасторы Чорным полагам-руном (Якуб Колас. Засада); Пагуляюць туманы і ўдалеч сплывуць, Прыйдзе снег, а затым стане сэрцу святлей* (У. Карызна. Асенні накцюрн); *Равуць і стогнуць сёння акіяны, Паўзуць, як змеі, чорныя туманы* (М. Ясень. Ратуйце вашы душы). Іншы раз інверсія выказніка складае ўвесь песенны твор: *Пасылае маці думы ў свет па сына, — Прылятаюць тыя думы Бурай сіняй. Пасылае маці слёзы быстрай Шчарай, — Прыплываюць тыя слёзы цёмнай хмарай* (М. Танк. Пасылае маці думы).

Прамы парадак прадугледжвае пастаноўку прыметніка-азначэння перад назоўнікам, да якога дапасуецца, інверсія азначэння надае выказванню велічнасць, узнёсласць, падкрэслівае важнасць сітуацыі, напрыклад: *Неба чыстае і глыбокае* (У. Карызна. Беларусь мая сінявокая); *Мой край, які ты прыгожы Парой вясны летуценнай* (У. Карызна. Зорка вясенняя).

Дапаўненне, выражанае назоўнікам, пры прамым парадку слоў ставіцца пасля слова, якое ім кіруе, а інверсія кіруемага слова выдзяляе, падкрэслівае яго, напрыклад: *І коціцца хваляў шумлівы прыбой* (А. Русак. Край мой любімы); *І сум, і боль снегам таюць* (У. Карызна. Зорка вясенняя).

Прамы парадак прадугледжвае прэпазіцыйнае становішча акалічнасці, а інверсія акалічнасці садзейнічае яе сэнсаваму выдзяленню, напрыклад: *Што з табой вядуць мову сталую Ў летні добры час або восенню* (Якуб Колас.

Дуб); *Мо яны, Беларусь, паняслісся За тваімі дзяцьмі ўздагон* (М. Багдановіч. Пагоня).

У беларускай мове складаны сказ звычайна ў пачатку размяшчае дададныя сказы са значэннем умовы і часу, а дапаўняльныя, месца, мэты, прычыны, параўнальныя і азначальныя — у канцы. Усякае іншае размяшчэнне лічыцца інверсіяй, што садзейнічае рэалізацыі стылістычных мэт, напрыклад: *Дамаўлялася дзяўчына, Што мяне пакліча ў госьці, Калі ў лузе над далінай Будзеш ты цвісці, каліна* (Н. Гілевіч. Што ж ты, ягада-каліна...); *Жудка стане на сэрцы, Калі ўспомніш сягоння, Як цары-самадзержцы Людзей гналі на бойню* (Янка Купала. Жудка стане на сэрцы); *Не пагаснуць зоркі ў небе, Пакуль неба будзе — Не загіне Край Крывіцкі, Пакуль будуць людзі* (Янка Купала. Не пагаснуць зоркі ў небе), *Каб на свеце была дабрыня, Жыць у дружбе павінны ўсе людзі* (У. Карызна. Давайце пазнаёмімся), *Як зорка ў рэчку, ціха слова падае У сэрца — і кругі, кругі, кругі* (У. Карызна. Гаркаваты цвет) і інш.

Аналіз песенных тэкстаў паказвае, што шматлікія аўтары шырока выкарыстоўваюць як прамы, так і адваротны парадак слоў у сказе. Як стылістычны прыём інверсія дапамагае выдзяляць, уражваць і эмацыянальна ўзбагачаць паэтычнае выказванне, засяроджваць і прыцягваць увагу чытача, слухача.

Э л і п с і с (ад грэц. ellepsis — пропуск, недастатак) — фігура паэтычнага сінтаксісу, што заснавана на пропуску аднаго з членаў сказа, які лёгка ўзнаўляецца ў кантэксце, чым перадаецца напружаная змена дзеяння, дасягаецца дынамічнасць і сціласць мовы. Гэта стылістычная фігура адпавядае ў маўленні знаку, які падразумяваецца . Эліпсіс з'яўляецца відам умаўчання, дзякуючы чаму перадаецца ўсхваляванасць або напружанасць дзеяння.

У песнях найчасцей заўважаецца эліпсіс дзеяслова-выказніка. Безвыказнікавая канструкцыя ўзмацняе эмацыянальную напружанасць твора, надае яму неабходную энергію дынамікі, экспрэсіі, напрыклад: *З свойскіх кветак-пралесак — карона твая, Уся сама — ясната лебядзіная* (Янка Купала. Маладая Беларусь); *Буду — слугой, ты — царыцай!* (Янка Купала. Песня), *Я Арцёму кашулю вышывала: Пасярэдзіне — сонейка* (М. Багдановіч. Цёмнай ноччу лучына дагарала).

Акрамя дзеяслова, знакам, які падразумяваецца, могуць быць: займеннікі, напрыклад: *Узлуецца — прамаўчу, Ёй не запярэчу* (У. Карызна. Гэй, мой конік); прыслоўі, напрыклад: *О, як шкада, што мы далёка: Я — ад цябе, ты — ад мяне...* (П. Трус. Дзяўчыне); службовыя словы, напрыклад: *Здасца хвілінай — яна прада мною* (П. Броўка. Пахне чабор); *І сказаў — прыедзе Да мяне ў сваты* (А. Ставер. Колас); радзей назоўнікі, напрыклад: *І цябе ў семнаццаць Сон не браў калісьці* (Н. Гілевіч. Не пытайся, маці); *Дзень, другі ўжо грымела у князя гульня* (Янка Купала. Курган).

Выдзяляецца сітуацыйны эліпсіс, калі прадмет ці працэс, на якія ўказваецца ў радку, адразу дапаўняецца ў свядомасці пэўным уяўленнем, напрыклад: *Чуеш ты, стары, ці не?* (Якуб Колас. Уцякай, Мароз-дзядуля), дзе выдзеленая частка падразумявае прапушчаны дзеяслоў *чуеш*, які можам зразумець толькі з кантэкстуальнай сітуацыі; *Можа, нават, побач, ну, а можа, не?* (А. Бадак. Іншапланецянка), дзе ў падкрэсленай частцы прапушчана прыслоўе *побач*. Як відаць, эліпсіс часта выкарыстоўваецца з мэтай пазбегнуць паўтору ў радку.

Спецыфічнай асаблівасцю эліптычных сказаў з'яўляецца адсутнасць выказніка, які не ўпамянуты ў кантэксце.

Дыяпазон стылістычных функцый эліптычных сказаў у песеннай лірыцы надзвычай шырокі і зводзіцца ў першую чаргу да рыфмаваральнай функцыі і мелодыкі твора. Менавіта таму эліпсіс заўсёды рыфмаваральны кампанент, які ў большай ступені садзейнічае інтанацыйнай упарадкаванасці

вершаванага радка і ўсёй песні ў цэлым. Эліпсіс садзейнічае лаканізацыі, што так неабходна для песні, узмацняе эмацыянальна-вобразнае ўздзеянне іншых яе састаўных частак. Надаючы песеннаму твору эстэтычную афарбоўку, гэты стылістычны прыём спрыяе *эмфазісу* (інтанацыйна-сэнсаваму вылучэнню галоўнай думкі радка ці вобраза ў цэлым). Як сцвярджае Н. Гілевіч, «эліпсіс звычайна перадае ўсхваляванасць, моцнае перажыванне лірычнага героя, робіць песенны радок эмацыянальна напружаным, энергічным, інтанацыйна выразным». Нельга не згадзіцца з тым, што некаторыя даследчыкі называюць эліпсіс сінтаксічным сродкам выразнасці, супрацьпастаўленым эпітэту, бо, калі эпітэты — гэта ў большасці выпадкаў дададзеныя члены сказа, з дапамогай якіх развіваецца эмацыянальна-вобразная думка, то эліпсіс — гэта пропуск аднаго з галоўных членаў сказа ці нават двух. Пры такім пропуску астатнія члены сказа атрымліваюць больш моцнае акцэнтнае вылучэнне, а ўся інтанацыя фразы становіцца больш выразнай і энергічнай.

У песнях, зыходзячы з аўтарскіх эмацыянальна-выразных задач, з дапамогай эліпсісу перадаецца напружаная змена дзеяння, дасягаецца дынамічнасць і сцісласць мовы.

Сродкі паэтычнага сінтаксісу ў тэкстах беларускай прафесійнай песні побач з іншымі моўнымі сродкамі экспрэсіі ўдзельнічаюць у стварэнні паэтамі мастацкіх вобразаў і дапамагаюць пры перадачы пэўных адносін аўтара да ствараемага вобразна-мастацкага ўражання.



**ВЕРА ХАЦКЕВІЧ**

# МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД ЯК СРОДАК УЗБАГАЧЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

*(на матэрыялах перакладаў Аляксандра Пушкіна і Янкі Купалы некаторых твораў Адама Міцкевіча з польскай мовы)*

Кожная нацыянальная мастацкая літаратура складаецца с дзвюх частак: твораў арыгінальных і перакладзеных з іншых моў. Не з'яўляецца выключэннем і беларуская літаратура. Некаторыя творы замежнай класікі маюць некалькі розных перакладчыкаў. Напрыклад, паэму «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча перакладалі А. Ельскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Семяжон ды іншыя. Некаторыя вершы, санеты Адама Міцкевіча перакладзены ў розны час рознымі перакладчыкамі.

Пра патрабаванні да перакладаў у свой час вядомы беларускі перакладчык Юрка Гаўрук адзначыў: «Не ведаю, як для каго, а для мяне мастацкі пераклад — гэта творчасць у самым высокім значэнні гэтага слова. Хочацца, каб па-беларуску кожны аўтар, якога перакладаем, гучаў як найлепш. Нічога не траціў і заставаўся самім сабой».

Некаторыя творы Міцкевіча пераклаў у свой час на рускую мову Аляксандр Пушкін, а праз многа дзесяткаў гадоў на беларускую мову — Янка Купала. Так, напрыклад, баладу «Czaty» («Засада») Аляксандр Пушкін пераклаў пад загалоўкам «Ваявода», прычым пераклад быў вольны. Міцкевіч пад загалоўкам «Czaty» зрабіў запіс — украінская балада. Сюжэт балады даволі блізка да польскага тэксту перадаецца і ў вольным перакладзе Пушкіна, а ў перакладзе Янкі Купалы вельмі блізка да польскага арыгінала. Надзвычай кранальная, гэтая гісторыя аб каханні перададзена ў музыцы Пятром Чайкоўскім у лірычнай баладзе пад назвай «Ваявода».

У свой палац ваявода вяртаецца з паходу позняй ноччу. Ён спяшаецца ў спальню маладой жонкі, але там нікога няма, пусты ложак. Ваявода з абурэннем крычыць, чаму няма каля варот ні пахолка, ні сабакі, і чаму вароты не замкнёныя. Ён кліча свайго слугу Навума, загадвае яму ўзяць зброю, порах і ісці за ім.

Ваявода з слугою схаваліся за плотам, а ў альтанцы, абвітай шпалерамі зялёных раслін, размаўляюць хлопец і маладая жанчына, іх размова і паводзіны добра бачны ваяводзе і яго слузе Навуму. Хлопец скардзіцца пані на

сваю горкую долю; яна забылася на іх доўгае, шчырае каханне і пайшла за багатага, а хлопец

на коніку верным // Гэтым полем бязмерным
Сюды мкнуўся праз холад і слоты,
Каб вітаці ўздыханнем — і ад'ехаць з жаданнем:
Добрай ночы і доўгай пяшчоты!

Яна нібы не чуе яго жалобных папрокаў, а ён шэпча ўжо на вуха каханай ці тыя самыя, ці новыя закляцці. І вось слабая жанчына «ручкай грудкі адкрыла і ў яго патанула абняцці». Ваявода загадвае Навуму застрэліць жанчыну, але спачатку ён сам хоча застрэліць жаніха. Казак шэпча пану, што не можа застрэліць гэтую жанчыну, слёзы папáдалі на порах, порах адсырэў. Ваявода перадае Навуму торбачку з сухім порахам і выказвае пагрозу: калі ён не заб'е жанчыну, хай сам застрэліцца. Загадвае чакаць выстралу, якім ён заб'е мужчыну, але Навум першы страляе ў лоб ваяводы.

У гэтай баладзе адчуваюцца біяграфічныя моманты: каханне Адама Міцкевіча да Марылі Верашчакі, па мужу Путкамер. (Між іншым, некаторыя даследчыкі лічаць, што трагедыі ў каханні Марылі і Адама не было. Марыля — адукаваная беларуская шляхцянка — ішла замуж за Путкамера не пад прымусам, а са згоды. Міцкевіч яшчэ не збіраўся ў той час жаніцца і быў малазабяспечаным ковенскім настаўнікам лацінскай і польскай моў, а Путкамер — даволі багатым чалавекам знакамітага роду, былым афіцэрам напалеонаўскай арміі, які ўдзельнічаў у паходзе на Расію.) Сум Адама Міцкевіча па Марылі звязаны з яго сумам па роднай «Літве». У пісьме да стрыечнага брата Марылі Ігната Дамейкі Міцкевіч з вялікай цеплынёй піша пра Марылю, аднак каханне да яе не перашкаджае Адаму ўсё сваё жыццё захапляцца чароўнымі жанчынамі. Паэт ёсць паэт. Але Марыля застаецца яго Лаурай на ўсё жыццё.

Паводзіны Навума прыцягваюць сімпатыі чытача. Слуга не бяздумна выконвае прыказанне ваяводы, а прымае самастойнае рашэнне. Ён выступае як асоба, індывідуальнасць: сам вырашае, што справядліва, а што несправядліва.

Пераклад Янкі Купалы двухварыянтны: першы варыянт з чатырохрадковай страфой (пад назвай «Удагонку»), другі — з шасцірадковай (пад назвай «Ваявода»). У час дапрацоўкі ўдакладнялася сінтаксічная структура перакладу, перабудоўваліся некаторыя строфы, рытм арыгінала перададзены анапестам. У параўнанні з першапачатковым варыянтам у ім менш паланізмаў, дыялектызмаў, што сведчыць пра імкненне перакладчыка падпарадкаваць мову перакладу літаратурным нормам роднай мовы.

Тут выявіўся творчы падыход Янкі Купалы да мастацкага перакладу: жаданне пакінуць форму і дух арыгінала, перадаць аўтарскую задуму, ідэю, знайсці ў роднай мове эквіваленты мастацкім вобразам, зрабіць так, каб перакладны твор стаў арганічным здабыткам айчыннай паэзіі. І ў іншых перакладах з польскай мовы Янка Купала творча падыходзіць да гэтай справы. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях твораў паэта пераклад друкаваўся пад назвай «Удагонку». Толькі ў газеце «ЛіМ» ад 23 лістапада 1940 года — пад назвай «Ваявода». Пераклад зроблены вельмі блізка да арыгінала. Каб пераканацца ў гэтым, параўнаем некаторыя радкі арыгінала і перакладу:

Z ogrodowej altany wojewoda zdychany
Bieży w zamek z wsciekłością i trwogą.

У перакладзе:

З-пад прысад агарода // Бледны ўбег ваявода.

Далей перакладаецца літаральна:

У палац свой са злосцю й трывогай.

Вельмі блізка да арыгінала: «To siedziała w bieliźnie niewiasta» — «Там сядзела кабеціна ў белі». У арыгінале: «Wojewoda już zgóry zapłacił!», у перакладзе: «Заплаціў ваявода гатоўкай» (заплаціў наяўнымі грашыма).

У арыгінале:

Wojewoda z kozakiem przyklęknęli za krzakiem // dobyli z-za pasa naboje.

Пераклад амаль даслоўны:

З казаком ваявода // Прыкуцнулі ля ўхода
І з-за пояса бралі набоі. // Адсякалі зубамі,
Прыбівалі штамплямі // Жменю пораху і шроту ўдвое.

Ваявода перадае Навуму сакеўку з *ляшчынскім* порахам. У Янкі Купалы дэталь, што порах менавіта ляшчынскі, апускаецца:

Ціха! Кінь, хаме, кракаць. // Я наўчу цябе плакаць.
На! Тут з порахам свежым машонку
Падсып жыва падпáлу, // Ногцем счысці красала
Ды ў свой лоб стрэль ці ў гэтую жонку.

Як бачым, у Навума быў выбар: ці выканаць загад ваяводы і забіць слабую, безабаронную жанчыну, ці пусціць сабе кулю ў лоб, як прапануе ваявода.

Але Навум выбірае трэцяе: ён забівае разбойніка-ваяводу. Навум дзейнічае як самастойная актыўная асоба. Гэты момант галоўны ў баладзе. Дзеля гэтага, магчыма, яна і перакладзена вольналюбівымі паэтамі — А. Пушкіным і Янкам Купалам.

«Тише ты, гайдучье племя // Будешь плакать, дай мне время!
Сыпь на полку… Наводи… // Цель ей в лоб. Левее… выше.
С паном справлюсь сам. Потише; // Прежде я; ты погоди».
Выстрел по саду раздался, // Хлопец пана не дождался;
Воевода закричал, воевода пошатнулся: // Прямо в лоб ему попал.

*(А. С. Пушкін, «Полное собрание в 10-ти томах», выд.II, т.3, М., 1957, с.259).*

Цікавыя пераклады Аляксандра Пушкіна і Янкі Купалы балады Адама Міцкевіча «Trzech Budrysów» («Тры Будрысы»). Гэтая балада была напісана Міцкевічам у Расіі ў канцы 1827 года. У ёй паэт увекавечыў імя свайго прыяцеля — беларуса Вінцэнта Будрэвіча, якога калегі звалі паміж сабой Будрысам. У Таварыства філаматаў Будрэвіч уступіў у 1820 годзе, а ў Расію прыбыў разам з Міцкевічам. У Маскве знаходзіўся таксама з Міцкевічам у канцы 1827 года, выкладаў матэматыку ў некаторых установах Масквы.

А. Пушкін і А. Міцкевіч, магчыма, пазнаёміліся ў Маскве. У верасні 1826 года Пушкін у суправаджэнні фельд'егера быў прывезены ў Маскву, дзе знаходзіўся ў гэты час царскі двор у сувязі з каранацыяй імператара Мікалая І. Пушкіна адразу з дарогі прыняў цар, потым паэт паехаў да дзядзькі Васіля Львовіча, а потым да сябра С. Сабалеўскага, у якога часова застаўся жыць. 3 мая 1927 года Пушкіну дазволілі жыць у Пецярбургу і ездзіць па краіне. Паэт быў рады такому дазволу, ён пачаў ездзіць то ў Маскву, то ў Пецярбург, а таксама па іншых месцах. З канца 1826 да самай жаніцьбы ў 1831 годзе яго можна было сустрэць у розных месцах Расіі.

Што датычыцца А.Міцкевіча, то ён, у асноўным, у гэты час жыве ў Маскве, але наездамі бывае ў Пецярбургу.

Некаторыя даследчыкі адзначаюць, што Пушкін пазнаёміўся з польскім паэтам Міцкевічам у канцы 1827 года. Аб іх сяброўскіх адносінах захавалася мноства згадак саміх паэтаў, а таксама іх сучаснікаў. Калі Пушкін пры-

ехаў у Маскву з Міхайлаўскага, яго вельмі цёпла прынялі ў літаратурных колах. Міцкевіча таксама ўсюды ветліва сустракалі. Апошняя сустрэча Міцкевіча і Пушкіна адбылася ў сакавіку 1829 года на сняданні ў Пагодзіна, куды былі запрошаны А. Міцкевіч, А. Пушкін, С. Аксакаў, А. Хамякоў, кампазітар А. Вярстоўскі, артыст Шчэпкін і іншыя прадстаўнікі культуры. Сняданне наладзіў Пагодзін, каб развітацца з А. Міцкевічам, якому далі дазвол паехаць за мяжу (мелася на ўвазе часова, атрымалася — на ўсё жыццё).

Пушкін пераклаў баладу Міцкевіча «Тры Будрысы» ў 1833 годзе, у той час, калі яе аўтар жыў за мяжой ужо больш за чатыры гады, адбылося польскае паўстанне 1830—1831 гг. і здарыліся некаторыя іншыя падзеі.

Пераклад «Трох Будрысаў» Пушкін назваў «Будрыс и его сыновья». Рускім кампазітарам і выканаўцам імпанаваў вобраз палячкі як з «Будрыса»: «Нет на свете царицы краше польской девицы», — так і вобраз палячкі з балады «Ваявода» («Czaty»), перакладзенай А. Пушкіным:

Всё пропало,
чем лишь только я, бывало, наслаждался, что любил:
Белой груди воздыханье, нежной ручки пожиманье…
Воевода все купил.

Магчыма, Пушкіну ў баладзе «Тры Будрысы» імпанавала ідэя дружбы, мірнага суіснавання суседніх краін, якую, будучы ў Расіі ў пэўны перыяд свайго жыцця, выказвае таксама і Міцкевіч. Пушкін не падзяляе погляду Міцкевіча на гісторыю існавання Вялікага княства Літоўскага: асобы і падзеі, зафіксаваныя ў пісьмовых помніках і ў фальклорных крыніцах, у Пушкіна выступаюць як міфічныя, таму Альгерда, які прадпрымаў два разы паходы на ўсход, ён адпраўляе на «прусакаў», а Кейстута — на рускіх, прычым у Пушкіна Кейстут не князь, а толькі ваявода. Яшчэ Пушкін ужывае ўласнае імя Паз, якога няма ў арыгінале. У арыгінале Міцкевіча прыблізна сказана так: «Бо перададзена мне з Вільні, там пратрубілі беспамылкова тры выправы на тры бакі свету: Альгерд — на рускія пасады, Скіргел — на ляхаў-суседзяў, а князь Кейстут нападзе на тэўтонаў». У Пушкіна:

Справедлива весть эта: на три стороны света
Три замышлены в Вильне похода.
Паз идёт на поляков, а Ольгерд на пруссаков,
А на русских Кейстут воевода.

Як вядома, змест балады Міцкевіча наступны: бацька паклікаў сваіх сыноў і аб'явіў ім, што ў Вільні рыхтуюцца паходы на Расію, Прусію, Польшчу. Ён благаслаўляе іх на паходы, раіць аднаму ехаць да Альгерда, другому — да Кейстута, а трэцяму — да Скіргела, які збіраецца ў Польшчу. Ён раіць яму прывезці з Польшчы нявестку (*сынавую*), бо і сам ён у свой час ажаніўся з чароўнай палячкай. Але праз пэўны час усе сыны вяртаюцца дадому без здабыткаў, затое з маладымі жонкамі-палячкамі.

Што датычыцца перакладу Пушкіна, то створаны ім вобраз палячкі не вельмі дакладны. У арыгінале Міцкевіча ён больш паэтычны. У Міцкевіча прыблізна так: «Бо з усіх зямель толькі палонныя палячкі самыя мілыя, вясёлыя, як маладыя кацяняты; шчочкі бялейшыя, чым малако, з чорнай вейкай павекі, вочы свецяцца, як дзве зорачкі».

У Пушкіна:

Нет на свете царицы краше польской девицы.
Весела — что котёнок у печки —
И, как роза румяна, а бела, что сметана;
Очи светятся, будто две свечки.

О. Сянкоўскі ўспамінае: «Будучи в Петербурге, я посетил одного литератора и застал у него Пушкина. Поэт читал ему свою баладу «Будрыс и его сыновья». Хозяин чрезвычайно хвалил этот прекрасный перевод. «Я принимаю похвалу вашу за простой комплимент. Я не доволен этими стихами. Тут есть многие надостатки. — Например? — Например, «полячка младая». — Так что ж? — Это небрежность, надобно было сказать молодая, но я поленился переделать три стиха для одного слова». Но хозяин утверждал, что это прекрасно. Пушкин никак с ним не соглашался и ушел, уверяя, что все подобные отступления от настоящего русского языка «лежат у него на совести» ( О. Сянкоўскі, «Собрание сочинений»; СПб., 1859, т.8, с.233).

І ўсё ж думаецца, што Пушкін мае рацыю: эпітэт «младая» да слова «полячка» як раз на месцы. Атрымалася ўзнёсла, урачыста. Сын прывёз сабе спадарожніцу жыцця, жонку, маці яго будучых дзяцей; старaславянскае слова (царкоўнаславянскае) тут на месцы. Калі б паэт не адчуваў гэтага, ён, безумоўна, перапрацаваў бы гэтыя строфы. Акрамя таго, польскае «młoda» і старaславянскае «млада́я» таксама падкрэсліваюць блізкасць гэтых моў, а значыць, і блізкасць народаў, якія карыстаюцца гэтымі мовамі.

Пераклад Янкам Купалам «Трох Будрысаў» адзін з самых ранніх. Упершыню пераклад надрукаваны ў зборніку «Шляхам жыцця» ў 1913 годзе пад назвай «Тры Будрысы». У газеце «ЛіМ» № 38 ад 23 лістапада 1940 пераклад быў змешчаны ў перапрацаваным выглядзе. Перапрацоўка была зроблена Янкам Купалам у сувязі з 85-й гадавінай з дня смерці А. Міцкевіча (1798—1855). У другім варыянце з'явілася слова «зважайце», якога няма ў арыгінале і не было ў першым варыянце перакладу. Слова «зважайце» напамінае каманду ў польскім войску і неўласціва таму часу.

У арыгінале:

Стары Будрыс трох сынаў, // Такіх, як сам, ліцвінаў,
На дзядзінец заве і гаворыць: «Выводзьце //
Коней, наладзьце сёдлы, й навастрыце // Пікі і мячы».

У першым варыянце купалаўскага перакладу:

Стары Будрыс трох сынаў, як сам ёмкіх ліцвінаў,
На дзядзінец заве і гавора:
Коні з пашы вядзеце, зброю, сёдлы браць з клеці,
А спраўляцца мне жвава і скора.

Пераклад Янкі Купалы як у першым, так і ў другім варыянце блізкі да арыгінала. За выключэннем двух-трох момантаў, другі варыянт больш удалы. Вось пераклады ўдалых дапрацовак. Радок з арыгінала «Niech litowskie prowadzą was bogi!» у першым варыянце быў апушчаны, у другім варыянце ён перакладзены словамі: «Хай вядуць вас літоўскія богі!»

У арыгінале: «Адзін з вас мусіць бегчы за Ольгердам к Русі, па-над Ільмень, пад сцены Ноўгарада. Там саболлі хвасты, срабрыстыя заслоны. У купцоў там дзенег (русізм у Міцкевіча), як лёду». У першым варыянце перакладу:

Там саболі і лісы, і злацістыя місы, //
І ў баяраў там грошай — як лёду.

У другім варыянце:

Там саболлі апоны, // Залатыя заслоны.
І ў купцоў там чырвонцаў, як лёду.

Вобраз паланянкі-палячкі ў другім варыянце перакладу бліжэй да арыгінала:

Бо з нявольніц мне толькі // Спадабаліся полькі,
Так панадны мне стан іх дзявочы, // Твар іх бела-ружовы,
Як смоль, чорныя бровы, // Як дзве зоркі іх свецяцца вочы.

(Дарэчы, у арыгінале размова ідзе не пра бровы, а пра вейкі.)

А вось гэтыя радкі, на наш погляд, лепш прадстаўлены ў першым варыянце. Арыгінал: A choć ona już w grobie, jeszcze dotąd ja sobie Przypominam, gdy spojrzę w tę stronę. («Хоць яна ўжо ў дамавіне, яшчэ дагэтуль я ўспамінаю, калі гляну ў той бок».)

У Янкі Купалы — першы варыянт:

Хоць яна ўжо ў магіле, я ўбываю на сіле,
А ўсё ж міла гляджу ў ту старонку.

Другі варыянт:

Хоць яе пахаваў я, //
Усё яшчэ ўспамінаю, калі гляну я ў тую старонку.

(Дарэчы, у перакладзе Пушкіна гэтыя радкі наогул апушчаны.)

У арыгінале: першы коннік — leci, другі коннік — leci, трэці коннік — jedzie.У перакладзе Янкі Купалы: першы варыянт — мчыцца, мчыцца, прэ; другі — мчыцца, мчыцца, мкне. Безумоўна, добра зрабіў Янка Купала, замяніўшы прастамоўнае, экспрэсіўнае *прэ* на літаратурнае — *мкне*.

У арыгінале ўсе тры сыны прывозяць бацьку па нявестцы, і на яго пытанне, што прывезлі, два сыны адказваюць «Nie, mój ojcze...», а ў трэцяга сына бацька нічога не пытае, а склікае гасцей на тры вяселлі. У першым варыянце перакладу Янкі Купалы прысутнічае адмоў’е *не*, у другім варыянце адмоў’е *не* апускаецца, *mój ojcze* перакладаецца словам *татка*, якое зніжае ўрачыстасць сустрэчы бацькі з сынамі і робіць сыноў менш самастойнымі і дарослымі.

Але наогул, пераклад Янкі Купалы як у першым, так і ў другім варыянце з’яўляецца высокамастацкім, блізкім да арыгінала і ўзбагачае беларускую літаратуру. Твор Міцкевіча ў перакладзе Янкі Купалы нічога не страціў, гучыць вельмі прыгожа і змястоўна і на сённяшні дзень.

Мы бачылі, што Пушкін зрабіў вольны пераклад балады Адама Міцкевіча «Czaty»(Засада), назваўшы яе «Ваявода». Пераклад Пушкіна, таксама як і пераклад «Трох Будрысаў», датуецца 1833 годам. Прыблізна ў гэты час з Варшавы быў накіраваны Бенкендорфу рапарт намесніка: «В Париже вышел IV том сочинений Адама Мицкевича, наполненный оскорбительными дерзостями против Российского Правительства». Данос Паскевіча заканчваўся вывадам: «Во всех сих пиесах изверг неблагодарности Мицкевич излил всю адскую желчь из ничтожной души своей и сердца. Низость общего характера народного, ложь и подлые вымыслы, суть достоинство пиес, — они писаны отпущенником — облагодетельствованным! Вместо заслуженной казни, — великодушие даровало ему свободу; чем он платит за оную? Клеветами исступленника» (у кн. Kucharska E. «Literatura polska w Rosji w latach 1830—1848»).

Пушкін у 1834 годзе ў адказ на Міцкевічаву палітычную сатыру і пасланне «Сябрам маскалям» напісаў «Ён жыў між нас». Паводле гэтага верша Міцкевіч для Пушкіна не толькі сябар у час яго пражывання ў Расіі, але і вораг, які знаходзіцца за мяжой.

«Міцкевіч, — заўважыў У. Спасовіч — не закрануў ні разу дзейнасць Пушкіна як паэта-змагара ў нацыянальным і палітычным руска-польскім

змаганні... З палітыкам Пушкіным Міцкевіч не хацеў прымірыцца, але ён не хацеў Пушкіна судзіць і дзейнічаў, нібыта зусім не ведаў, што Пушкін пісаў калі-небудзь як палітык» (Спасовіч У. «Пушкин і Мицкевич». Вестник Европы, 1887, т.2, с.746).

Балада «Пані Твардоўская» створана па фальклорных матывах аб тым, як пан Твардоўскі прадаў душу д'яблу і праз два гады павінен быў паехаць у Рым здацца чарцям. Але праходзіць сем гадоў, а пан Твардоўскі і не думае паміраць. Д'яблік высочвае яго ў карчме пад назвай «Рым». Пан Твардоўскі задае д'яблу тры задачы, дзве з іх д'ябал адгадвае адмыслова, а трэцюю — на год застацца мужам жоначкі Твардоўскага — не адважваецца і ўцякае з карчмы праз дзірку для ключа, пакінуўшы Твардоўскага ў спакоі.

«Пані Твардоўская» — пераклад Янкі Купалы, таксама блізкі да арыгінала, аднак тут ёсць свае асаблівасці. Напрыклад, у арыгінале «пан Твардоўскі падпёрся ў бокі, як пашá», у Янкі Купалы проста — *выпнуў бруха*.

> У канцы стала Твардоўскі // Выпнуў бруха, усіх мароча,
> П'е, крычыць, на чым свет боскі, // Туманы пускае ў вочы.

«Патрон з трыбунала» Янка Купала перакладае больш зразумелым словам «адвакат». У арыгінале ўказваецца, што Твардоўскі вытачыў са лба шаўца «*гданьскай* водкі». Янка Купала апускае азначэнне «гданьскай»: у арыгінале — паўбочкі водкі, у Янкі Купалы — бочку. У арыгінале *Nos, jak haczyk* (кручок), Янка Купала пакідае параўнанне без змен. Пазногці *krogulcze* — груган749ыя — Янка Купала пакідае без змен.

У арыгінале не адзначана, што дагавор падпісаны быў крывёю, але ў польскім і беларускім фальклоры з нячыстай сілай замацоўваюць дагавор крывёю, таму словы Янкі Купалы арганічна ўпісваюцца ў радок.

У арыгінале: «Już i siedem lat uciekło // Cyrograf nadal nie służy», Янка Купала ўводзіць фразеалагізм: «А ўжо і сем год, як свет чмусіш».

У арыгінале: «Ale zemsta, choć leniwa, // Nagnała się w nasze sieci», у Янкі Купалы:

> Але хоць чакаў я леты, // Помста ўрэшце даканана:
> «Рым» завецца шынок гэты, // Кладу арышт на васпана.

У арыгінале: «Twardowski ku drzwiom się kwapił», у Янкі Купалы: «Даць хацеў Твардоўскі цягу» (фразеалагізм *даць цягу* — уцячы). У арыгінале «Djabeł za kontusz ułapił» — Янка Купала пераклаў «Але той злавіў за дзягу».

У арыгінале: «Patrz, oto jest karczmy godło, koń, małowany na płotnie!» («Бачыш, вывеска карчмы, конь намалёваны на палатне, я хачу ўскочыць на сядло, а конь адразу няхай памчыцца»). Янка Купала дае разгорнутую характарыстыку каню: «Конь грывасты, хвост, як вехаць...»

У арыгінале Твардоўскі загадвае пабудаваць гмах з зярнят арэха, з *барод яўрэйскіх* зрабіць страху́, замацаваць яе зярняткамі з маку. Але Янка Купала не падкрэслівае, з чыіх барод Мефістофель павінен зрабіць страху, а гаворыць нейтральна, з барод, прычым не страху зрабіць, а ла́ты. Янка Купала не дае азначэння да слова бароды, як раней не вызначаў, якую гарэлку выціснуў Твардоўскі з ілба шаўца. Прыкладна такі ўбіў цвічок: утоўсткі — цаль, даўжыня — у тры цалі:

> Глянь, цвічок такі прымерне:
> У цаль — таўсты, даўгі — у тры цалі,
> Гані ў кожна маку зерне // Па тры гэткія гантали! [цвікі]

У арыгінале больш дакладна: Твардоўскі асядлаў «бегуса», прабуе падскокаў, зваротаў, «stępa, galopuje, klusa».

У арыгінале: «Wyleciał potem, jak z procy» (вылецеў потым, як з проламкі — з крыніцы, з холаду, можа быць «с пращи» (рус.) — у Янкі Купалы: «Потым выскачыў, як з жару».

У арыгінале:

> Яшчэ адно і будзем квіты // (Зараз лопне моц чартоўска);
> Паглядзі, вунь кабета, // Мая жоначка, Твардоўска.

Хаця ў арыгінале *мая жоначка* ўжыта не столькі ў ласкавым, колькі ў іранічным значэнні, аднак Янка Купала, увёўшы гіпербалу «Глянь, вунь баба, як печ грудзі», на наш погляд, парушыў уяўленне аб паляках як аб гжэчных кавалерах. У арыгінале *жоначка*, а ў Янкі Купалы *баба, як печ грудзі*. У арыгінале, магчыма, адзначаюцца такія якасці жанчыны, як хітрасць, настойлівасць. Чорт у паўвуха слухае, у паўвуха глядзіць, а сам прабіваецца да дзвярэй.

І апошняя страфа. Пераказ арыгінала: «Яму Твардоўскі надаядае, ад дзвярэй, ад акон адпіхае — чмыхнуўшы ў дзюрку ад ключа дагэтуль, як чмыхнуў, так і чмыхнуў».

У перакладзе:

> А Твардоўскі пры ім суча, // Нібы выпусціць баіцца.
> Скочыў дзюркай чорт ад ключа // І дагэтуль скача гіцаль.

Такім чынам, бачым, што пераклад Янкі Купалы балады «Пані Твардоўская» — высокамастацкі, блізкі да арыгінала, у ім адлюстраваны асаблівасці менталітэту польскага і беларускага народаў. У Янкі Купалы шмат мастацкіх знаходак, яскрава адлюстроўваецца сувязь зместу балады з вуснай народнай творчасцю (з малога чорт робіцца вялікім ростам і наадварот, атрымлівае тры заданні і выконвае іх; сем год чэрці чакаюць пана Твардоўскага). Усе гэтыя магічныя лічбы аднолькавыя ў польскім і беларускім фальклоры, і Янка Купала не парушае фальклорную канву балады.

«Chłop i źmija» — «Мужык і вужака», байка лічыцца вольным перакладам Янкі Купалы. Зроблены 23.07.1905, адзін з ранніх перакладаў Янкі Купалы, у якім захаваны змест арыгінала. Адагрэтая змяя хацела ўкусіць свайго выратавальніка. Мужык, каб выратавацца, забіў змяю.

Янка Купала не перакладае азначэнне Міцкевіча, што гэта байка з Лафантэна, і не перакладае ўступа аб тым, што ў байцы Эзопа расказваецца аб міласэрдным учынку мужыка, які выратаваў змяю, а тая хацела яго ўкусіць, і пачынаецца адразу дзеянне.

У Міцкевіча мужык пайшоў секчы *храсняк*, у Янкі Купалы — *бярвенне*, у арыгінале — *пад брамай* знайшоў змяю, у Янкі Купалы — *у лесе*. Янка Купала не перакладае дэталі, як мужык адагрэў вужаку (у Міцкевіча — «падаслаў кажушок, як уласнаму дзіцятку»).

У арыгінале «Aź w nieboszcryku obudził się ducha», а ў Янкі Купалы — «адхухала гадзіну печ». У арыгінале расказваецца, якім чынам вуж падрыхтаваўся кусаць свайго дабрадзея, свайго збавіцеля і ўваскрашальніка. У Янкі Купалы толькі сказана: «Кусацца паўзе к мужыку».

Удалы пераклад — гэта не перайманне, а твор жывы, шмат у чым самастойны. Не замяняючы арыгінала, ён як бы стаіць побач з ім, мабыць, з некаторымі стратамі, але і са сваімі добрымі знаходкамі. Ён не толькі дае інфармацыю пра пэўную паэтычную з'яву, а робіць гэту з'яву нацыянальным набыткам, спрыяе развіццю роднай мовы і ўзбагачае літаратуру.

З кожным годам усё больш значным становіцца пытанне аб якасці перакладаў. Распрацоўваецца тэорыя мастацкага перакладу, выпрацоўваюцца новыя метады; творчая практыка многіх перакладчыкаў дае прыклады высокай дасканаласці. На змену аматарству прыходзіць прафесіяналізм.

Не ўхваляецца падладжванне, падпарадкоўванне пісьменнікаў пад перакладчыцкія густы, гэтак жа, як і літаральны пераклад — дзве крайнасці, якія хутчэй засланяюць, чым раскрываюць аблічча аўтара.

Асабліва вялікае значэнне мае здольнасць перакладчыка пераўвасабляцца — гэта значыць, зразумеўшы аўтарскае ўспрыманне жыцця і адчуўшы яго стыль, усімі даступнымі сродкамі выяўляць тое лепшае, што закладзена ў твор. Сапраўдная паэзія — з'ява арганічная, такім жа арганічным павінен быць і пераклад.





СЯРОД КНІГ

ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ

# ГОЛАС СЭРЦА І ДУШЫ...

*Васіль Гадулька.* **Голас.** РВУ «Літаратура і Мастацтва», 2004.

Дзіўная рэч! Калі нечакана абрываецца жыццё паэта і ён дачасна пакідае гэты свет, творы, якія застаюцца пасля яго, пачынаюць жыць сваім самастойным жыццём і бачацца ў новым і незвычайным святле. А вершы, якія з-за нейкіх прычын не былі надрукаваны, нават тыя, што мелі такія-сякія хібы і заганы і патрабавалі дапрацоўкі ці рэдактарскай праўкі, успрымаюцца як закончаныя і завершаныя і ў тым выглядзе, у якім яны выйшлі з-пад пяра паэта.

Нешта падобнае адбылося і з творчай спадчынай цікавага, але малавядомага да гэтага часу паэта Васіля Гадулькі, які меў, як бачна, па-свойму адметнае і па-нацыянальнаму самабытнае і каларытнае прозвішча, што адразу, з першага погляду кідаецца ў вочы і западае ў памяць. Але справа, безумоўна, не ў прозвішчы, хаця ў мастацтве пэўнае значэнне мае кожная драбніца, а найперш у паэтычных творах, дзе з усёй паўнатой праяўляюцца як характар, так і талент паэта, і ўсё астатняе, што звязана з ім, — мастацкая палітра і глыбіня вершаў, уздзеянне, якое яны аказваюць на чытачоў.

Пра многае з жыцця В. Гадулькі апавядаецца ў артыкулах паэтаў, якія добра ведалі яго ці сустракаліся з ім у розных месцах: В. Сахарчука, А. Каско, М. Купрэева, Л. Галубовіча і фотакарэспандэнта Жабінкаўскай раённай газеты А. Ганчука. З іх успамінаў перад намі на поўны рост паўстае постаць высакароднага і душэўнага чалавека, для якога сур'ёзным і трагічным выпрабаваннем стала самае светлае і трапяткое пачуццё, імя якому — каханне. Як сведчаць сябры, каханні ў яго было два. Першае з іх ён так-сяк перанёс, адолеў. А вось другое, неразздзеленае, сталася для паэта трагічным і апошнім. Ён не мог справіцца з ім: яго каханая была замужам за тым, каго паэт у вершах называе «трэцім», хаця гэтай мянушкі часам не шкадуе і для сябе. В. Гадулька, здаецца, прадбачыў, чым скончыцца яго лёс, і з крыху жартаўлівым тонам напісаў для сябе перадсмяротную эпітафію: «Свет адмовіў паэту ў каханні. Проста так, без усякіх падстаў. Той пакрыўдзіўся, засумаваў, захварэў і памёр на світанні». Гэтыя радкі сталі прарочымі. Паэт нават угадаў час свайго скону.

Для надзвычай уражлівага і маўкліва-апантанага нейкай унутранай засяроджанасцю В. Гадулькі тыя катаклізмы і зрухі, што пастаянна адбываліся і выбухалі ў яго жыцці, выклікаючы ў душы шмат пачуццяў, былі па сутнасці тым рухавіком, які дапамагаў нараджацца ўсхваляваным і прачулым радкам. Як вядома, В. Гадулька быў негаваркі, замкнёны чалавек і падчас штодзённых клопатаў і надакучлівых згрызот, што плоймай ішлі на яго з усіх

бакоў, мог адкрыцца толькі адной асобе — Яе Вялікасці Паэзіі! Менавіта з ёй паэт вёў начамі шчырую гаворку, і радкі споведзі запісваў на чыстыя аркушыкі паперы. Нездарма, звяртаючыся ў адным вершы да крытыкаў, ён апасродкавана запэўніваў, што паэзія — гэта жыватворнае святло, якое дапамагае расці не толькі вершам, але і кветкам. Паэт не прасіў у іх нейкай скідкі для сябе за свае вершы, яшчэ як след неадшліфаваныя радкі, але гаварыў адкрыта, без аглядкі па баках: «А лепей самі паспрабуйце вырошчваць кветкі — без святла».

Паэт меў зайздроснае ўменне гаварыць пра звычайнае і бытавое, і адначасова адкрываць нешта значнае і глыбокае, што кранае, інтрыгуе не толькі кагосьці аднаго, а многіх. У аснову верша ён клаў агульначалавечае і жыццёвае, а потым паварочваў яго такім бокам, што яно выклікала на роздум і глыбокія разважанні. Нешта падобнае ён зрабіў у вершы, дзе звярнуўся да восені, лісця, карэння, пра што гаварылі сотні і тысячы разоў іншыя паэты. Зрэшты, В. Гадулька звярнуўся да восені не для таго, каб акцэнтаваць увагу на нейкай асобнай, удала знойдзенай мастацкай дэталі, паказаць выпукла і ярка, каб яна прыцягнула ўвагу многіх і абавязкова здзівіла сваёй непаўторнасцю. Не, паэта цікавіў настрой, які павінен быў выклікаць чытачоў на суперажыванне. Аўтар піша: «Люба мне, калі ў прыціхлым садзе ў кронах дрэў не згас яшчэ агонь. Ліст пажоўклы прыляціць і сядзе матыльком на золкую далонь».

Згадзіцеся, што нейкай вялікай ці значнай навізны і адкрыцця тут няма. І тым не менш радкі прыцягваюць нашу ўвагу сваім рытмічным ладам, элегічнай настраёвасцю, якая перадае вабную і чуйную сцішанасць, што бывае ў сярэдзіне асенняга дня. Аўтара цікавяць не столькі знешнія прыкметы адыходзячай восені, колькі развага пра тое, што адбываецца ў прыродзе і як яно ўздзейнічае на душу чалавека. Напрыклад, ветрык спыняе сваё свавольства «для таго, каб нагадаць: усяго жывога лёс агульны — пакрысе мярцвець і ападаць». Відаць, паэтычнае майстэрства толькі пачынала прыходзіць да В. Гадулькі, ён уваходзіў, як кажуць, у смак, спрабуючы мастацкае слова на зуб, вызначаючы яго якасць і прыдатнасць да свайго паэтычнага радка. А што тычыцца выказанай думкі, то яна варта самай высокай пахвалы з-за таго, што выклікае безліч асацыяцый, наводзіць на роздум.

Далей аўтар гаворыць пра сваё асабіста трагічнае і драматычнае, робіць гэта з веданнем справы пры дапамозе метафары: «І, хоць кажуць, што цвітуць увесну нават карчаваных дрэў камлі, — я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну...» Пра што гаворыць В. Гадулька? Ды, відаць, працягвае гаворку, якую пачаў у сваёй эпітафіі. Дакладней, пра сваё асабістае і аўтабіяграфічнае. Але чаму паэт заканчваў страфу песімістычным радком: «...кожны з нас — апошні на Зямлі». Каго меў на ўвазе В. Гадулька пад вызначэннем «кожны з нас»? Няўжо ўсіх жыхароў нашай планеты? Ці ён меў на ўвазе нешта іншае? Не, не мог В. Гадулька прарочыць гібель чалавечай цывілізацыі. Ён меў на ўвазе сваіх блізкіх родзічаў і сямейнікаў, якія адзін за адным пакінулі гэты свет. І кожны з іх стаў «апошнім на Зямлі». Што да самога паэта, нягледзячы на яго эпітафію, па сваёй натуры і «строчечной сути» ён — аптыміст, і нават у самыя неймаверна цяжкія для сябе хвіліны не ўпадаў у роспач, не апускаў рукі, верыў у нешта светлае і добрае. Хіба не ноткі жыццесцвярджэння чуюцца ў апошняй страфе гэтага верша: «І, хоць вецер гне сухое вецце, і, хоць іней срэбрам лёг на скронь, — нельга мне, шкада змахнуць, як смецце, ліст, які сагрэў маю далонь». Як бачым, нават маленькі пажоўклы восеньскі лісток станавіўся пад пяром паэта сімвалам жыцця, набываў жывыя рысы. І ён не проста ўпаў на далонь, а сагрэў яе сваім развітальным цяплом.

В. Гадулька не ўмеў прыхарошваць жыццё, маляваў і паказваў яго такім, якім яно было на самой справе, — каструбаватым, непрычэсаным, часам

суровым, якое не песціць, а круціць, перацірае ў сваіх жарнавіках. Не любіў ён залішняй фарбы і таннай аздобы пры абмалёўцы як свайго лірычнага героя, яго характару, так і карцін роднай прыроды. У «Начным трыпціху» паэт гаворыць так, нібы знарок агаляе тое, што бачыць перад сабой: «Вецер веснічкі — начны прышэлец — голасам спяваць прымусіў хрыплым. Месяц угары, — нібы тапелец, што з глыбокай чорнай прорвы выплыў».

Паэт, здаецца, дэманструе такія дэталі і падрабязнасці, якія мяжуюць з натуралізмам, пагражаючы перайсці ў анатамічна-фізіялагічнае апісанне. Аднак гэтага, дзякуй Богу, не адбываецца. Паэт адчувае меру і, балансуючы на грані магчымага і дазволенага, своечасова робіць патрэбны паварот і, гаворачы пра ноч, заўважае: «...тут, у цемры, кожны гук — прарочы». Нязначны на першы погляд штрышок, а як ён падсвечвае карціну, якая набывае новае адценне і нюансы. Разам з гэтым душа паэта ўвесь час поўніцца прадчуваннем нечага незвычайнага, амаль неверагоднага і казачнага. Не зважаючы на тое, «цемра — зверху, цемра — збоку», святло пачуцця і аптымізм жыцця перамагаюць.

Чаргаванне святла і цемры, жыццёвага і прывіднага, аптымістычнага і драматычнага — гэты кантраст, як не трэба лепш, стасаваўся да таго душэўнага стану і свету, у якім жыў апошнія гады В. Гадулька. І, хаця нейкая прывідная смуга ахінала яго дарогу, пачварныя здані з'яўляліся перад яго вачамі, хочацца думаць і верыць, што жыў ён з прыхаванай маланкай «на дне вачэй», якая асвятляла яго жыццёвы шлях, давала новыя сілы ісці наперад. А што тычыцца «Начнога трыпціха», трэба сказаць, хаця ён і не да канца адшліфаваны, мае шэраг каструбаватых радкоў, гэта — сур'ёзная заяўка на сапраўдную паэзію, дзе прысутнічаюць многія з кампанентаў, якія неабходны дзеля гэтага. У вершы маюцца багаты падтэкст, вобразнасць і метафарычнасць, што створаны не пры дапамозе параўнанняў, яны арганічна ўваходзяць у твор, пранізваюць яго ад пачатку да канца і прыносяць унутранае задавальненне чытачам.

Пра В. Гадульку, як ні пра аднаго з яго творчых калег па пяры, можна сказаць, што ён жыў і дыхаў так, як і пісаў, і пісаў гэтак, як жыў і дыхаў. Нягледзячы на бытавую неўладкаванасць, слабаволле, у творчасці гэта была цэласная і мэтанакіраваная натура. Адкуль усё гэта ішло і бралася? Ды, відаць, узнікала і завязвалася недзе ў артэзіянскіх глыбінях душы паэта, а ўслед за гэтым падсвядома і інтуітыўна клалася на паперу радкамі і страфамі. Пра гарманічную еднасць навакольнага свету, у якім жыў паэт, і яго душы яскрава сведчыць адзін з лепшых вершаў, у якім гаворыцца:

Адбіў сабе дзялянку і кашу.
Спынюся, калі ўсю дарэшты выкашу,
калі свой смутак, боль — сваю душу
камусьці роднаму і ўсяму свету выкажу.
А як не дасць мне выказацца лёс
і даўняй мары здзейсніцца не суджана,
знямоглы я ўпаду на свой пракос
і адпачну на ім душой натруджанай.

Хто не заўважыць, што лірычнае «я» паэта і яго душа зліліся з усеагульным і чалавечым, ён не ўяўляе свайго жыцця адасобленым ад жыцця ўсяго свету. Фізічная праца для В. Гадулькі — гэта і душэўнае напружанне, душэўнае ачышчэнне і ўзвышэнне над будзённым і празаічным. Блізкае гучанне дзеяслоўнай рыфмы «выкашу — выкажу» дапамагае зніtаваць у адно два паняцці і два дзеянні — касьба на дзялянцы і паэтычная споведзь, у якой паэт жадае падзяліцца з усім светам душэўным смуткам і болем. Два дзеянні як бы праецыруюцца, накладваюцца адно на адно і супадаюць паміж сабой.

Гэты верш сведчыць пра тое, што душа В. Гадулькі жыла ў цесным яднанні з усімі тымі з'явамі і падзеямі, якія адбываліся на свеце і непасрэдна закраналі любога і кожнага з нас, у тым ліку і аўтара гэтых радкоў.

Чытаючы і перачытваючы творы В. Гадулькі, цяжка сказаць, — паспеў ён выказаць «свой смутак, боль — сваю душу» ці нешта засталося нерэалізаваным у мастацкім слове. Пра сваё пачуццё ён гаварыў горача і ўсхвалявана, ёміста і каларытна, прачула і задушэўна, словам, так, што яго прызнанне не магло не крануць душу чытачоў. Некаторыя вершы проста здзіўляюць сваім мастацкім досціпам выканання, а часам і тэхнічнай віртуознасцю. У якасці доказу хочацца прывесці наступнае васьміradкоўе:

Шоўк валасоў тваіх чорны, як смоль.
Вочы — нібыта дзве спелыя вішні.
Зноў я жабрак, ён жа — прынц і кароль.
Зноў ты з ім разам, а я — трэці лішні.
Лішні, але ад цябе ні на крок
не адыду... Сам сабе ненавісны —
кінуў бы ўсё! Ды глядзяць у мой бок
вочы, нібы дзве даспелыя вішні.

Безумоўна, ніхто не хоча параўноўваць пачуццё В. Гадулькі да вясковай кабеты з пачуццём знакамітага фларэнційца Франчэска Петраркі да Лауры, тым больш іх паэзію. Напэўна, замужняя жанчына, якую кахаў В. Гадулька, наўрад ці была падобна знешне да гераіні петраркаўскіх санетаў. Але для нашага паэта яна была, відаць, не менш вабнай прыгажуняй, чым для Петраркі яго авіньёнская гандлярка Лаура. Таму В. Гадулька і прысвячаў ёй свае і вершы, і санеты з не меншым хваляваннем, як гэта рабіў яго папярэднік Петрарка, і чакаў тае хвіліны, калі яны крануць яе непадступнае і гордае сэрца.

Дзіўна, што і ў гэтым кароценькім вершы паэт не кінуў у адрас каханай аніводнага слова папроку, а пра свайго саперніка не сказаў аніводнага абразлівага слова. Сваё нешчаслівае каханне ён успрымаў, як Боскую кару невядома за якія яго грахі, і быў упэўнены, што каханне — той крыж, які наканавана яму несці да апошняга свайго дыхання. Ён добра разумее, што ў тым недарэчным трохвугольніку, які склаўся, ён — «трэці лішні», але нічога не можа зрабіць з сабой, са сваім пачуццём.

Калі гэты кароценькі верш разглядаць і аналізаваць па радках, то зноў, як ні дзіўна, нічога незвычайнага і выключнага ў ім няма. Наадварот, скрупулёзны разбор радкоў прыводзіць да сумных вынікаў, — у вершы мы не сустракаем ніводнай свежай фразы альбо радка. Усё, што маецца ў ім, даўно чутае ў творах іншых аўтараў. Колькі разоў мы сустракаліся з такімі вось «перлінамі», як «шоўк валасоў тваіх чорны, як смоль», «вачэй «спелыя вішні», «трэці, лішні», і г.д. Але ўзнікае пытанне: чаму ж тады верш кранае кожнага з нас, бярэ, што называецца, за душу, выклікае на суперажыванне? Ды падобна на тое, што ў радкі закладзена такая магутная энергетыка душы паэта, яго пачуццё пакутнай любові да жанчыны і яшчэ чагосьці таямнічага і магічнага, што аказвае на чытачоў глыбокае ўражанне.

У кожным вершы В. Гадулькі каханне вар'іруецца ў новым плане і новай інтэрпрэтацыі, толькі само яно застаецца пакутлівым і адначасова асветленым нейкім райскім святлом для самога аўтара. Ён, здаецца, адкрыў у сабе новы душэўны свет і мацярык, стаў анёлам, якому ў наш прагматычны век не толькі цяжка жыць, але нельга падчас і выжыць. Але паэт як усё роўна не заўважаў нічога гэтага і знаходзіўся ў летаргічным сне. Ці не пра гэта ён і піша: «Ад пяшчотнага дотыку першых сонечных промняў я прачнуўся на досвітку і адразу ўспомніў — ...да мяне ты прыходзіла ў сне, што сніўся мне сёння».

Гарачаму і цнатліваму пачуццю В. Гадулька прысвяціў некалькі санетаў і вянок санетаў, дзе вызначыў, што «каханне — гэта светлы сон душы, які

калісьці мне ў начной цішы надоўга вобраз твой навеяў мілы». Хаця, як заўважае аўтар, «сон той скончыўся даўно... а я прачнуцца ўсё не маю сілы». Гэта, безумоўна, радуе і адначасова насцярожвае ўяўна містычнымі развагамі. Услед за гэтым паэт спрабуе з'яднаць у вобліку каханай духоўнае і плоцевае: «Вобраз твой — Маці Боскай абраз — неўміручы — не счэз і не згас...» Няцяжка заўважыць, што паэт імкнецца зблізіць два словы і паняцці, якія і так вельмі блізкія па сваім гучанні («вобраз і абраз») і яшчэ вышэй узносіць і абагаўляе пачуццё кахання.

Што тычыцца вянка санетаў «Зорка радасці», у ім, груба кажучы, В. Гадулька ўзнавіў гісторыю свайго кахання, тыя перыпетыі, якія адбываліся паміж ім і каханай. Хаця можна з упэўненасцю сказаць, што нічога паміж імі не было, апрача таго, што яны нечакана сустрэліся, пабачылі адзін аднаго, і паміж імі, як электрычны разрад, успыхнула, прамільгнула пачуццё, якое перарасло ў гарачае каханне для паэта. Але не стала ўзаемным.

Трэба сказаць, што нялёгкая санетная форма твора, якая патрабуе ад аўтара пэўных тэхнічных навыкаў, і кожнае імгненне трэба пільнавацца канонаў гэтага жанру, ніколькі, здаецца, не замінае паэту сказаць пра тое, што хвалюе і не дае яму спакою. У радках — вольнае і нязмушанае дыханне, а сам паэт гаворыць, даследуе тое пачуццё, якое разбудзіла ў яго душы Жанчына, што падобна на Маці Боскай абраз, пасялілася ў ёй, не пакідаючы яе ні на адно імгненне. Але, «хоць сэрца спачатку ў сакрэце ад цябе свой настрой берагло, не сляпое — усё ж не магло не заўважыць, што ёсць нехта трэці — шчаслівейшы...» І калі пераказваць падзеі, што адбываліся адна за адной, то ўсё ішло лагічна і паслядоўна: «Покуль ваша вяселле гуло, я з самотай заручыны справіў».

Так прачула і горача, задушэўна і пранікнёна В. Гадулька пісаў яшчэ пра сваю родную маці, якая пад канец свайго нялёгкага жыцця ляжала разбітая паралюшам і патрабавала догляду. Яна пакутавала сама і ведала, якія пакуты прыносіла свайму сыну. Таму перад сконам і вымавіла адно, што засведчыў у сваіх радках паэт: «Ты хварэла даўно, і ў той дзень я адно толькі чуў: «Дзякуй Богу! Нарэшце!» Гэта тычыцца смерці роднага чалавека. Пра пахаванне сказана так: «Насклікалі кабет. Гатавалі абед. А труну не было каму несці». Пра стан аўтара гэтых радкоў гавораць радкі-фразы, якія нагадваюць кароткія і адрывістыя тэлеграфныя паведамленні. Ён прадбачыць, які́м будзе і ягоны скон, і піша пра сябе ў трэцяй асобе: «І згадае не раз, што самога ў свой час пахаваць нават некаму будзе».

Трэба сказаць, што ўсе беды, якія абрынуліся на плечы В. Гадулькі, — нешчаслівае каханне, хвароба і смерць маці, а перад гэтым скон роднага брата і бацькі — дапамаглі пакутнаму духоўнаму сталенню паэта, усведамленню сваёй асабістай значнасці і адчуванню таго, што здарылася з ім, пра што ён скажа коратка, сцісла і мнагазначна: «...хай сны юнацтва двойчы не прысняцца — я ўдзячны ім: яны дапамаглі хоць трошкі над самім сабой падняцца, не адрываючыся ад зямлі». Што ж, мала каму ўдаецца, не адрываючыся ад зямлі, высока ўзняцца над ёй, як гэта зрабіў Васіль Гадулька.







# МІХАСЬ МІРАНОВІЧ

## ЖАНЧЫНУ ТРЭБА ЛЮБІЦЬ!

Жанчыну трэба любіць
Заўжды — узімку і ўлетку.
Жанчыну трэба любіць,
Як чмель — палявую кветку.

*Яўген Хвалей*

Жанчыну трэба любіць
У горадзе, вёсцы, мястэчку.
Жанчыну трэба любіць —
Любіць так, як воўк — авечку.
Жанчыну трэба кахаць
Уранку, удзень, сярод ночы.
Жанчыну трэба кахаць,
Калі нават і не захоча!..

## КРУТЫ РАМАН

Вы помніце многіх жанчын, —
Мяне сярод іх не было.
...А Вы пісалі раман
Пра лёс жанчыны круты.

*Святлана Каробкіна*

Няхай бы
Ўвялі мяне ў зман —
Набрыдла даўно
Быць святой.
Але Вы круцілі раман
З паэткаю
Болей крутой.

## ЗАПОЙ

Ты мяне, як віно, палюбіла.

*Віктар Шніп*

Ты мяне,
Як віно, палюбіла.
Я ж з прычыны
Трывожуся той,

Часта думаю:
Божачка мілы,
Што, як скончыцца
Гэты запой?..

## ТАМАШ НАВЭЙЛА

### САКРЭТ

Хто прайшоў гэтак рана па снезе
белым полем да чорнай шашы?
*Віктар Ярац*

Не лезь з прызнаннямі ты, вецер, да мяне,
Бо чуць я не хачу нікога.
Па некранутай снегу цаліне
Сляды. А воддаль — чорная дарога.

Хоць пазірае неба на зямлю,
За годам год — даўжэюць кіламетры...
Каго любіў на свеце і люблю,
Ніхто не знае, апроч поля з ветрам.

### ПРЫГРЭЛА

Я верш каторы раз сасню...
І дзверы насцеж адчыню
Сваёй душы, каб мог пагрэцца.
*Лідзія Возісава*

Ты ў маю душу прыйшоў пагрэцца:
Верш каторы раз сасніўся мне.
Насцеж расчыніла, нібы дзверцы,
Для цябе душу я ў гэным сне.

Я тады і песню запяяла,
Толькі вось ужо не помню слоў,
Ды табе таго было замала:
Ты пагрэўся і далей пайшоў.



# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2004 ГОД



## НАДЗЁННАЕ



## ПРОЗА



## ПАЭЗІЯ

ВЕЧНЫ АГОНЬ ПЕРАМОГІ



НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ



СПАДЧЫНА



ПЕРАКЛАДЫ



ПУБЛІЦЫСТЫКА



ПОСТАЦІ



ДАТЫ



КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## СЯРОД КНІГ



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ



***Падрыхтавала М. Гусева.***

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства, грамадскага жыцця і культуры — 284-80-12.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Сяргейчык.

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 29.11.04 г. Фармат 70x108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 17,97. Тыраж 2843 экз. Зак. 3114.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

Нашы індэксы:
індывідуальны – 74985
ведамасны – 00141

**Чытайце ў наступным нумары:**

**Уладзімір Гніламёдаў**
**УСХОД**
***Раман***

**Мікола Мятліцкі**
***Вершы***

**Анатоль Дзялендзік**
**ЛЕГЕНДА ПРА АНАСТАСІЮ СЛУЦКУЮ**
***Літаратурны сцэнарый***

**Янка Сіпакоў**
***Апавяданне***

**Пятро Нікіценка**
**НААСФЕРНАЯ ЭКАНОМІКА — НАВУКА І ПРАКТЫКА**

**Таіса Бондар**
**ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС ДВАДЦАЦЬ ДВА**
**З "Дзённікаў"**

ISSN 0130–8068